версія, што яго атруцілі паслугачы III Аддзялення таёмнай Яго Вялікасці канцылярыі расійскага імператара.

5

Дыяменты пачуццяў і думак Адама Міцкевіча непадуладныя забыццю. Ззяюць яны не толькі ў мастацкіх творах — і ў яго лістах. Хачу звярнуць увагу зацікаўленага чытача на тры лісты маладога, сталага і, калі можна так сказаць, пажылога паэта. Вось якое, да прыкладу, шчырае прызнанне адрасаваў 22-гадовы Адам сябру Яну Чачоту: «Кавальская не рабіла на мяне аніякага ўржання да таго часу, пакуль я не заглядзеўся на яе, калі яна дзьмухала на жар пад кававым чайнікам! Адкуль жа гэта? Румянец, а хутчэй нагрэты жарам твар, які іншаму воку не здаўся б нечым сентыментальным, прывабным, мяне ж прымусіў убачыць у яе асобе анёла, Венеру...» А хіба можа не ўразіць досціп 40-гадовага паэта на адрас знакамітай Жорж Санд, чые заўвагі на ягоным рукапісе называе «…ганаровымі слядамі чароўных пазногцяў!» Нарэшце, ліст 55-гадовага генія не можа не ўзрушыць зместам вешчага сну. У верасні 1855 года Адам Міцкевіч прызнаваўся Тамашу Зану, які дажываў апошнія месяцы ў глухім Кахачыне на Аршаншчыне, як вестка пра смерць Яна Чачота яго «наскрозь працяла». І далей: «Якраз у тыя часы, калі яго не стала, вельмі часта ён сніўся мне і ўсё аднолькава: заўсёды здавалася мне, што ён прыехаў у мястэчка, дзе цяпер я асеў, і шукае мяне; я ізноў, здавалася, забыўся, як адшукаць яго жыллё і сам сябе дакараў за такое нядбальства. Сон гэты паўтараўся некалькі дзясяткаў разоў, аж тут прыйшла вестка пра яго смерць, і ў астатні раз мне здалося, што ён нібы запрашае мяне да сябе». Пра гэта слынны творца паведамляў з Парыжа сябру менш чым за тры месяцы да сваёй смерці.

І наступны штрых. Яшчэ ў росквіце творчых сіл Міцкевіч у санеце «Пахавальня Патоцкай» прарочыў, што яго магілу ўба-

чаць блізка ад пахавальні памерлай у Бахчысараі паланянкі («...мая спачне паблізу ліра»). Прадказанне ўласнага лёсу збылося. Паэт памёр у Канстанцінопалі, на чужыне, як і яго зямлячка Патоцкая, паланянка хана Гірэя.

Пра выключную прарочасць мысляра-паэта засведчыў у 1829 годзе і Антоні Эдвард Адынец: «Апошні час ён быў заняты працай над найарыгінальнай «Гісторыяй будучыні». Ён піша па-французску, і ў яго ўжо напісана больш за трыццаць старонак... Апавяданне пачынаецца з 2000 года і павінна ахапіць два стагоддзі... Уся гэтая гісторыя, як мне казаў Адам, закончыцца ўстанаўленнем сувязі паміж Зямлёй і іншымі планетамі...»

Нас, беларусаў, павінны асабліва ўражваць выказванні Адама Міцкевіча, вернага і самотнага песняра роднай зямлі, пра духоўную спадчыну беларусаў, нашу мову. Ён пісаў, што ў нашых казках і песнях «ёсць усё». Заўважыў тое, што «Літоўскі Статут» напісаны нашай моваю, самай гарманічнаю і з усіх славянскіх моваў найменш змененай». І яшчэ не менш красамоўныя словы пра нашу галоўную нацыянальную святыню: «На беларускай мове, якую называюць русінскай альбо літоўска-русінскай, ...размаўляе каля дзесяці мільёнаў чалавек; гэта самая багатая і самая чыстая гаворка, якая ўзнікла даўно і выдатна распрацавана. У перыяд незалежнасці Літвы вялікія князі карысталіся ёю для сваёй дыпламатычнай перапіскі».

Не дзіва, што такія рэалістычна-ўзважаныя ацэнкі нарадзіліся ў душы паэта і вучонага, які ўсё жыццё служыў праўдзе, ісціне, гармоніі, ідэалам дабра. Гэта натуральна. Але, пэўна, чуйнае сэрца найперш падказвала яму прамовіць і пакінуць свету такія прачулыя і ўзвышаныя словы, бо, валодаючы дарам яснабачання, прадчуваў: становішча бяспраўнай мовы ліцвінаў будзе яшчэ доўга працягвацца, ды гістарычная справядлівасць непазбежная. Прынамсі і сёння Адам Міцкевіч дадае нам веры і аптымізму.

6

Згодна з глухой у асяродку літаратуразнаўцаў легендай, Міцкевіч меў два сшыткі ўласных вершаў на беларускай мове. Такая пагалоска не пярэчыць праўдзе: парадаксальнага ў ёй нічога няма. Думаю, творца, які ўзгадаваўся на беларускім фальклёры, душой увабраў яго маральную моц і мастацкую прыгажосць, творца, які ведаў і так высока цаніў беларускую мову, а сябе называў ліцвінам, проста не мог не выказваць хоць зрэдку свае думкі і пачуцці на мове роднага краю, хоць яна і не была тады афіцыйна прызнанаю. Да таго ж і яго блізкі і аўтарытэтны сябра Ян Чачот пісаў не толькі па-польску, а і па-беларуску, што павінна было паслужыць добрым прыкладам Міцкевічу. Але ж, будучы неапублікаванымі, такія творы хутчэй за ўсё проста не захаваліся ці, магчыма, былі знішчаны, трапіўшы ў нядобрыя рукі.

У эпілогу свайго паэтычнага шэдэўра «Пан Тадэвуш» слынны аўтар выказаў запаветную мару: «О мне дажыць бы да такое ўцехі, // Каб кнігі гэтыя прыйшлі пад стрэхі!..» Пад стрэхі сялянскіх хатаў. Што азначае: паэт марыў пра тое, каб чытаў яго народ, сярод якога ён рос, жыў, а гэта магло і можа адбыцца толькі праз нашу родную мову. Шкада, у нас так мала перакладзеных твораў Міцкевіча. Частка вершаў, баладаў, асобныя паэмы ці фрагменты з паэмаў, санеты; і ў шэрагу перакладаў, на жаль, зашмат грахоў, самы цяжкі з якіх — скажэнне зместу. Ну, вядома, ёсць і вынятак з правіла — некалькі варыянтаў збеларушанага «Пана Тадэвуша». Першым у ліку перакладчыкаў належыць назваць Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча — класіка новай беларускай літаратуры XIX стагоддзя, чый пераклад быў забаронены імперскай драконавай цэнзурай, з полымя якой ўратавалася ўсяго некалькі пааасобнікаў дзвюх першых «быліц» паэмы (Вільня, 1859). Як заўважыў Я.Янушкевіч у кнізе «За архіўным парогам» (Мінск, 2002), «аб'ектыўнай заканамернасцю бачацца і імкненні наступных пакаленняў перакладчыкаў прычасціць сваіх сучаснікаў да крыніц хараства, што бруяць з кожнай ста-

ронкі эпапеі Міцкевіча. Таму і паўсталі, абапіраючыся на вопыт і магчымыя ўдачы Дуніна-Марцінкевіча, новыя нацыянальныя пераклады «Пана Тадэвуша», зробленыя ў канцы XIX стагоддзя Аляксандрам Ельскім, у 1931—1932 гадах Браніславам Тарашкевічам». Вельмі прыстойны пераклад Пятра Бітэля, пакутніка сталінскіх лагераў, чыя тытанічная перакладчыцкая праца ў жахлівых умовах на нялюдскай зямлі ў першай палове 1950-х гадоў роўная не толькі творчаму, але і грамадзянскаму подзвігу. А напачатку 1980-х гадоў беларуская міцкевічыяна папоўнілася мастацкім перакладам Язэпа Семяжона. Шырэе кола перакладчыкаў Міцкевічавай паэзіі. Але прыкра зазначаць, што і дасюль беларусы не маюць на паліцах дзяржаўных бібліятэк, у тым ліку школьных, і сваіх хатніх кнігазбораў тамоў з творчай спадчынай нашага слыннага земляка.

2003

## ЗМАГАР ЗА ВОЛЬНАСЦЬ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

Выйшаў і карыстаецца добрым попытам восьмы том «Беларускага кнігазбору» — «Кастусь Каліноўскі. За нашую вольнасць». Ён у традыцыйна зялёным пераплёце, бо працягвае другую серыю — «Гісторыка-літаратурныя помнікі».

Кастусь Каліноўскі (1838–1864), адзін з самых любімых народных герояў, не толькі выдатны арганізатар паўстання 1863 года, мужны, самаахвярны змагар. Гэта быў яшчэ і выдатны публіцыст, рэдактар падпольных выданняў, дальнабачны палітык. Рыцарам свабоды назваў яго ў сваёй прадмове Генадзь Кісялёў (ён жа і ўкладальнік, аўтар прадмовы, пасляслоўя, перакладаў і каментароў). Каліноўскі паспрабаваў таксама складаць вершы, ды не паспеў разгарнуць свой паэтычны дар. Гераічнаму сэрцу не чужое было пачуццё пяшчоты. «Марыська чарнабрэва, галубка мая» — так ласкава, пранікнёна звяртаўся ён да каханае дзяўчыны. Напэўна, у Кастуся была б цудоўная сям'я і жыла б яна ў дастатку: займеўшы адукацыю юрыста, малады чалавек быў добра забяспечаны матэрыяльна. Але шчаслівы шлюб не быў наканаваны. Больш за ўсё на свеце Кастусь Каліноўскі любіў сваю Бацькаўшчыну і найбольш ненавідзеў яе няволю і ворагаў, што злачынныя парадкі ўводзілі ў нашым краі, абдзіралі і глумілі народ наш. І таму ён рашуча пачаў гуртаваць сілы народныя і накіроўваць іх супраць рэгулярных царскіх войскаў. І перамагаў іх у шэрагу рэгіёнаў акупаванай краіны. Сам час абраў яго арганізатарам і кіраўніком паўстання супраць маскальскага прыгнёту. У выніку ён стаўся легендарнай постаццю ў беларускай нацыянальнай гісторыі.

У кнігу Каліноўскага і пра Каліноўскага ўвайшлі «Мужыцкая праўда», «Пісьмы з-пад шыбеніцы», публіцыстыка ў польскамоўнай падпольнай прэсе, нешматлікія Кастусёвы лісты, лісты яго брата Віктара, творы, шматлікія дакументы паўстання.

***

— Каго любіш?

— Люблю Беларусь.

— Так узаемна!

Гэта — пароль паўстанцаў 1863 года. З яго і пачынаецца доўгачаканы том. А завяршаецца ён прасторным, ажно на цэлую сотню старонак, каментарам і паказальнікам імёнаў, там зацікаўлены чытач знойдзе асноўныя даты жыцця і дзейнасці Каліноўскага і слоўнік паланізмаў, дыялектызмаў, адметных слоў, ужытых у беларускіх тэкстах самавітага і самабытнага правадыра паўстання, чым зроблена неацэнная ласка школьнікам і студэнтам, якія будуць карыстацца ўдала складзенай і сумленна дагледжанай кнігай. Яе навуковы рэдактар — шматвопытны літаратуразнавец Язэп Янушкевіч. Вядома, том, які выйшаў у серыі, распрацаванай Інстытутам літаратуры імя Янкі Купалы НАН, разлічаны на самае шырокае чытацкае кола. Увогуле гэтае каштоўнае выданне павінна было б зрабіцца настольнаю кнігаю беларускае сям'і, але пакуль не робіцца. Не таму што бракуе колькасці асобнікаў (наклад – 5500)... Беларус, якога цягам стагоддзяў чужыя варожыя рэжымы нявolілі, катавалі і абалваньвалі, усё яшчэ не ўсведамляе, якая гэта з'ява — КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ, яго пакладзенае на алтар свабоды зусім маладое жыццё, усё яшчэ напоўніцу не цяміць, якая гэта ні з чым не параўнальная каштоўнасць, які запаветны скарб — незалежнасць і на грунце незалежнасці — паўнакроўнае, годнае жыццё!

***

Кніга living рознабакова асвятляе постаць кіраўніка адчайна-гераічнага паўстання 1863 года на землях Беларусі і Літвы супраць нацыянальнага і сацыяльнага прыгнёту, ролю яго публіцыстычнай дзейнасці, дапамагае разабрацца, чаму даводзілася яму выступаць не пад сваім імём, а пад іншымі імёнамі: Хамуціус, Вітажэнец, Чарноцкі... Прачытае дапытлівы чытач і пра тое, чаму такі ўмелы, выдатны канспіратар не змог уратавацца, уведае таксама імя здрадніка. А хіба можна не пацікавіцца пра тое, хто такая Марыська, якой Кастусь прысвяціў свой верш. Пра яе, Марыю Ямант, яго нявесту, пра лёс яе распавядаецца ў гэтым выданні. Ёсць тут што прачытаць і пра найбольш вядомых і каларытных паўстанцаў, паплечнікаў Кастуся Каліноўскага.

Канешне, самыя каштоўныя матэрыялы кнігі — публіцыстыка волата духу, гранічна адкрытая і выразная, жывая, эмацыйная, у якой так поўнакроўна пульсуе вялікае сэрца героя! Вось толькі адзін абзац, узяты з польскамоўнае падпольнае прэсы — з газеты «Глос з Літвы»: «Маскоўскі бізун, што завіс над намі, доўгі час душыў кожную праяву нацыянальнага жыцця, сціскаў таксама дзеянне літаратуры. Не хапіла бізуна, увяла Масква шыбеніцы, але няхай убачаць вешальнікі, наколькі яны слабыя, бо што ж значыць сёння бізун і шыбеніца? Калі б да д'ябальскіх сваіх розумаў яны заклікалі на дапамогу ўсё пекла і прыдумалі якую-небудзь пякельную машыну, гэтага духу вольнасці і свабоды яна пагасіць ужо не здолее. Колькі б разоў наша газета ні з'явілася, памятай, дрыжы, Мураўёў, бо кожны раз гэта новы доказ слабасці прынцыпаў, на якіх ты грунтуешся».

Пераканаўча ён звяртаўся і да польскага народа, такога ж паднявольнага, як і народ беларускі. Але асабліва пранікнёна размаўляў таленавіты аўтар неўміручых сямі нумароў «Мужыцкае праўды», а пазней і «Пісьмаў з-пад шыбеніцы» — з суайчыннікамі, настойліва тлумачыў прычыны жахлівага становішча беларуса і паказваў выйсце з трагічнага становішча. І шчыміць сэрца, калі чытаеш, як асуджаны на смерць патрыёт нашай зямлі занатаваў пранікլівы голас душы, звернуты на

беларускай роднай мове да паднявольнага люду: «Браты мае, мужыкі родныя. З-пад шыбеніцы маскоўскай прыходзіць мне да вас пісаці, і можа, раз астатні. Горка пакінуць зямельку родную і цябе, дарагі мой народзе. Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, — но не жаль загінуць за тваю праўду». А яшчэ ніжэй ён заклікае «ухапіўшы за што зможаш, за касу, сякеру, цэлай грамадой ідзі ваяваці за сваё чалавечае і народнае права, за сваю зямлю родную». Яму ж, свайму народу, людзям працы, адрасаваў і развітальныя, такія зычлівыя, паэтычныя словы: «Жыві здаровы, мужыцкі народзе, // Жыві ў шчасці, жыві ў свабодзе».

Паўстанні супраць няволі ворагі беларушчыны называлі бунтамі, а нашых нацыянальных герояў — мяцежнікамі, бандытамі. Захопнікі жорстка распраўляліся з паўстанцамі, барацьбітамі за незалежнасць. Мураўёў-вешальнік і яго зграі расстрэльвалі з гарматаў бунтоўныя вёскі, 128 паўстанцаў пакаралі смерцю, многіх замучылі, амаль дванаццаць з паловаю тысячаў саслалі ў Сібір на катаргу. У Вільні, ля вядомых Лукішак, публічна павесілі Кастуся Каліноўскага. Мураўёў загадаў узвысіць праваслаўе: «что недоделал штык, то должен доделать поп». Каліноўскі, вернік-уніят, няйнакш, гэта прадчуваў, калі катэгарычна выступаў супраць праваслаўя і заклікаў суайчыннікаў пераходзіць «на праўдзівую веру дзядоў і прадзедаў». Дарэчы, вернік ён быў шчыры, на змаганне за лепшую долю свайго люду ішоў з Богам у сэрцы.

***

Прайшло нямала гадоў пасля таго як для нашае краіны разгортвалася перспектыва стацца суверэннаю дзяржаваю, і мы, сыны і дочкі Беларусі, пералічвалі грошы ў Фонд культуры на ўзвядзенне помніка Кастусю Каліноўскаму (асабіста я хадзіў у банк, стаяў там у чарзе, каб аддаць ганарар, атрыманы за публікацыю ў «Полымі»).

Дагэтуль можна было ўзвесці не адзін помнік самаахвярнаму нацыянальнаму герою, для якога свабода Бацькаўшчыны была святою справаю, чаму й пайшоў ён у няроўны бой, вы-

ступіў і супраць Мураўёвых-вешальнікаў, і памешчыкаў-крывапіўцаў, і супраць цара. Але немаведама, у якую прорву канулі нашыя ахвяраванні, пра якія ўжо ніхто ніколі не згадвае... Пра гэта думалася, калі пазнаёміўся з набытым свежым кнігазбораўскім выданнем. Цудоўнае выданне. Выдатны помнік гісторыка-літаратурны.

Зноў жа спатрэбіліся грошы, як некалі на помнік у бронзе ці ў граніце. Яны з'явіліся і гэтым разам не распыліліся, не раствearыліся, а матэрыялізаваліся, бо трапілі ў добрыя рукі. Дзякуй Богу. І шчыры дзякуй А.Фядуту, прадпрыемству «Рытм» (генеральны дырэктар М.Віткоўскі), ЗАТ «Сотвар» (кіраўнік А.Гуркоў), фундацыі імя П.Крэчэўскага, спадарам М.Грэбню, А.Данільчыку, М.Прускаму за чынны ўдзел у выданні ўнікальнае кнігі. Пасля ўсякай дбайнае сяўбы можна чакаць: прыйдзе час радаснага жніва...

1999

**І горка, і сумна**

Мяне часам запрашаюць у навучальныя ўстановы, найчасцей у школы: як-ніяк, мае творы ёсць у школьных падручніках. На сустрэчах з вучнямі размаўляю пераважна моваю паэзіі, дэкламую вершы розныя, у тым ліку патрыятычныя, калі мяне слухаюць старшакласнікі. Пасля верша пра маладога, прыгожага беларускага хлопца, што ўзняў паўстанне, ды, прададзены ворагу адным нягоднікам-здраднікам, быў павешаны ў Вільні, я пытаюся ў юнакоў і дзяўчат: «Пра каго йдзе гамонка?». Ды яны, бы вады ў рот набралі, маўчаць. Я падказку даю: пра Марыську-нявесту кажу я, пра тую «чарнаброву галубку» яго... Паўза... Гадаюць. Хтосьці кажа: «Максім Багдановіч»... Называюць яшчэ і Скарыну... Смешна! Але мне не да смеху: мне і горка, і сумна. Падобнае паўтараецца ў многіх школах. Ці надта вінаватыя нашыя шкаляры? Думаецца, тут віна Міністэрства адукацыі і

дзяржавы, пад чыім кантролем патрыятычнае выхаванне сямтам і сяк-так прышчапляецца вучням пераважна на матэрыялах нядаўняга гістарычнага перыяду, хоць на занятках па гісторыі Беларусі і на ўроках літаратуры ёсць неабмежаваныя магчымасці выхоўваць нацыянальна свядомых дзяцей, скарыстоўваючы яркія факты з больш даўніх і старажытных часоў.

А чаму хоць бы ў Менску так і не з'явіўся помнік Каліноўскаму? Добра, што ёсць вуліца, якой нададзена яго імя. Ды гэтага мала.

***

Тое, што Кастусь Каліноўскі змагаўся найперш за волю Беларусі і за яе ахвяраваў сваім маладым жыццём (быў пакараны смерцю у дваццаць шэсць гадоў), павінна быць шырокавядомым фактам, добра засвоеным юнымі школьнікамі. На беларускіх землях дзейнічала каля 220 паўстанцкіх атрадаў (68 000 касінераў — мясцовых людзей), якія пераважна з косамі, сякерамі і віламі ў руках сакрушалі рэгулярныя расійскія войскі ў шэрагу рэгіёнаў нашай забранае краіны. Гуртаваць раз'яднаныя сілы і накіроўваць іх супраць акупантаў умеў выдатны кіраўнік паўстання.

***

Да подзвігу Каліноўскага, да самога імя героя неабыякавыя нашчадкі звяртаюцца як да святыні. «У вяках нашай нацыянальнай славы ўзвышаецца Кастусь Каліноўскі» — гэтыя словы належаць класіку Кузьму Чорнаму. «Кастусь Каліноўскі і сёння здольны аб'яднаць свой народ. Ён застаецца там, дзе беларусы адваёўваюць сваё права на Зямлю і Волю, на вартае цывілізаванага грамадства жыццё» — такую думку выказаў наш сучаснік, знакаміты пісьменнік  Віктар Карамазаў.

Расце, увесь час папаўняецца Каліноўскіяна. Пашчыравалі паэты розных пакаленняў. Вершы, балады, маналогі, паэмы — яшчэ няпоўны пералік жанраў, у якіх апяваецца незабыўны Змагар. Аркадзь Куляшоў, Максім Танк, Генадзь Бураўкін ды

іншыя паэты стварылі пра яго паэмы, а Уладзімір Караткевіч — трагедыю «Кастусь Каліноўскі: Смерць і неўміручасць», апроч праніклівага верша «Нявесце Каліноўскага». Неаднаразова калектыўныя зборнікі твораў, прысвечаных народнаму герою, выдаваў руплівы пісьменнік і даследчык літаратуры Язэп Янушкевіч. У 2014 годзе выйшла ў свет ёмістая кніга пра Каліноўскага і Касінераў Свабоды «Я адзавуся!» (укладанне С. С. Панізьніка, прадмова Г.В. Кісялёва). Каліноўскіяна, відаць, доўга яшчэ не замкнецца ў сваіх межах, бо вобраз адважнага сына Беларусі, для якога свабода народа была даражэйшая за ўласнае жыццё, хвалюе і натхняе новыя і новыя таленты. Пра гэта падумалася, калі прачытаў у кнізе Міхася Скоблы «Саркафагі страху» (2016) яго палымяны твор «Праўда з-пад шыбеніцы».

Я не гісторык, але гераічныя і драматычныя старонкі гісторыі Бацькаўшчыны засвойваю і нярэдка паэтызую мужнасць герояў, што засведчыла, напрыклад, кніжка «Замова ад рабства» (2017), дзе ёсць такі цыкл вершаў: «Непісімістычная трагедыя», «Роздум над лёсам Кастуся Каліноўскага», «Пятлю здымаючы з паўстання», «Праўда Кастуся Каліноўскага», «Мроя пра Кастуся-героя», «Трагічны лёс паўстання Каліноўскага», «Тыповая карціна школьная». Усяго дзевяць радкоў у «Непесімістычнай трагедыі» (1985):

Кат на шыю накінуў пятлю
І з-пад ног тваіх выбіў зямлю,
Па якой ты ішоў гэтак годна...
А душу не задушаць пятлёй,
А душа над зямлёй, над зямлёй,
А душа над зямлёй сваёй роднай
Узыходзіць змагання зарой,
Сонцам праўды ўзыходзіць свабодна,
Незабыўны народны герой!

2018

## «ЛЯВОН БУШМАР» КУЗЬМЫ ЧОРНАГА, АБО ЗАГАДКА КЛАСІКА

Перачытваючы названы ў загалоўку твор, я заўважыў парадаксальную рэч. «Звераватую панурасць Лявону Бушмару перадаў бацька — княжацкі дробны арандатар» — вось першы сказ гэтай неардынарнай аповесці. Але ніякай звераватай бацькавай панурасцю ў творы і не пахне: «Гэта быў стары моцны, як дуб. Пражыў ён на свеце год, мусіць, з дзевяноста і рабіў усё да самых апошніх дзён сваіх. ...Доктара пры ім не было ніколі... Не любіў ён доктарскіх лекаў... Не верачы ў дактароў, ён гаварыў, што чалавек павінен як мае быць працаваць, колькі трэба выспацца, у меру, смачна з'есці — і тады будзе здароў». Самавітая постаць, ці не так? Пабольш бы такой «панурасці» перадавалі генетычна бацькі сваім дзецям! Праўда, бацька не служыў у салдатах. Вось як шчыра ён прызнаваўся сыну: «Я сам не служыў, грашыма адкупіўся, і нябожчык дзед твой ад рэкрутаў захаваўся: некалькі год засаб стуляўся, часамі, расказваў, цэлы тыдзень пралежыць, бывала, у хляве пад гноем...» І Лявону радзіў «як-небудзь выкруціцца», не ісці «служыць ліха ведае за што чорту лысаму». Але ж чорту лысаму служыць ліха ведае за што хіба варта?.. Тым не менш адбіцца ад службы хлопцу не ўдалося, «не лішне ён і клопату ўжываў, каб не ісці». У прозе Кузьмы Чорнага просценькіх паваротаў не бывае.

Бацька перадаў сыну цвёрды характар, фізічную моц, любоў да працы і да свабоды. Калі трапіў Лявон у войска, ён пакутаваў: «...Чорт ведае, чым займайся тут. Хіба гэта работа!» Сказана трапна, бо выверана самой псіхалогіяй цягавітага селяніна, якому брыдкая марная трата часу, а яшчэ на кожным кроку падпарадкоўванне.

У сваю апошнюю восень, 10 верасня 1944 года, Кузьма Чорны зрабіў такі дзённікавы запіс: «Кожная тая кніга добрая, калі яна ўзбівае чалавека на сталыя і важныя думкі». Якраз на такія думкі ўзбівае «Лявон Бушмар», аповесць, якая даўно магла стаць загадкаю для крытыкаў і даследнікаў літаратуры. Чаму адмоўны герой з'яўляецца ў творы галоўным? І, што асабліва цікава, ад пачатку і да канца расповеду ён не мяняецца ніколечкі, савецкі астрог яго не перавыхаваў. Тады чаму аповесць названая яго імём?

Дарэчы, у свой час, у прадмове да збору твораў Кузьмы Чорнага ў васьмі тамах «Класік беларускай прозы» зоркі Алесь Адамовіч трапна заўважыў: «Ёсць у Кузьмы Чорнага 20-х г.г. твор, у якім асабліва выразна і паспяхова праявілася імкненне беларускага празаіка стварыць буйны характар, тып». Адамовіч гэта сказаў пра «Лявона Бушмара» — аповесць, з якой «і пачынаецца галерэя «чорнаўскіх» характараў-тыпаў».

Ілюструючы думку, бліскучы літаратуразнаўца (ён жа і выдатны празаік) прыводзіць такі яскравы прыклад: «Успомнім, як гэты пануры і, здавалася б, зусім бяздушны чалавек дзіка раўнуе Амілю, а потым і другую жонку, Галену, да ўсяго свету. Як ён «раённага начальніка», што «нешта прыглядацца пачаў на Галену», схапіў за пояс, «перамчаў упоперак цераз двор і кінуў на той бок плота». Тут хочацца выгукнуць: «Гэта што! А як абышоўся ў парыве рэўнасці Лявон з паручнікам!» Нягледзячы на тое, што вайяка быў узброены рэвальверам, Бушмар, праявіўшы спрыт, лёгка яго перамог. Ды з такім вынікам, што, пэўна, і сам не чакаў. Ён усяго толькі груkнуў кулакамі паручніку ў грудзі. А той «адно звіўся Бушмару пад ногі і духу не ўказаў». Не лішне сказаць, што і сама тая рэўнасць Лявона да Амілі (а яна непеспадстаўная) пісьменнікам паказана захапляльна і пераканаўча!

Алесь Адамовіч, робячы ў вядомай прадмове агляд усёй творчасці класіка беларускай прозы, не збіраўся надта падрабязна разглядаць асобную аповесць. Каштоўна тое, што ён адзначыў з'яўленне ў пісьменніка буйнога характару-тыпу і што пасля «Лявона Бушмара» К. Чорны-мастак мысліць ужо ты-

памі, гісторыяй, раманам і нават цыклам раманаў. І падкрэсліў ягоную мастацкую задачу: малюючы пэўны чалавечы характар, убачыць і паказаць, адкуль ён, на чым вырастае, куды развіваецца ў тых абставінах, якія склаліся ў канцы 20-х гадоў. Даследнікам Адамовічам не закранаецца пытанне, для чаго канкрэтна спатрэбіўся такі моцны новы тып Кузьму Чорнаму менавіта ў разглядаемай аповесці і чаму ён, яе галоўны герой Лявон Бушмар, павінен на крутых хвалях гісторыі быць асуджаным на крах.

А, відаць, справа ў тым, што Кузьма Чорны не бегла, не наскокам закранае і паказвае праблему калектывізацыі ці, больш дакладна, яе наступствы. Гэты вераломны паварот у жыцці беларускае вёскі ён асэнсоўвае з асабліва заглыбленым пранікненнем у свет чалавечых перажыванняў. У творы ніякія высновы не ляжаць на паверхні, бо ён глыбока псіхалагічны, у пэўным сэнсе філасофскі. Зусім не выключана, што ўдумлівы пісьменнік сваю пазіцыю, свой погляд на калектывізацыю праводзіў праз погляд Лявона Бушмара, няхай сабе ён і «звер», і «воўк», і забойца, і падпальшчык, і далёка не ідэальны сем'янін. Якраз т а к і творцу спатрэбіўся тып, відаць жа, невыпадкова, бо толькі за такім тыпам літаратурнага героя можна было надзейна прыхаваць сваю галоўную думку, сваю сапраўдную чалавечую пазіцыю. Паспрабуй у тыя гады (1929–1930), час стварэння і апублікавання аповесці, вымалюй станоўчага героя, які хоць бы неласкавы кінуў позірк на новыя парадкі... Нашчадкі не ведалі б, дзе косці замардаванага ці расстралянага аўтара — на Калыме ці ў Курапатах. У тагачасных умовах распальвання класавай барацьбы можна было толькі так, выключна асцярожна выяўляць грамадзянскую пазіцыю, выказваць хоць нейкую нязгоду з тым, што спускаецца зверху.

Калектывізацыя на Беларусі сталася насіллем над асобаю селяніна, яна разрывала даўнія традыцыі, адвечную прывязанасць вяскоўца да зямлі, наносіла страшэнны ўдар па сям'і селяніна, па традыцыях народа, па народных песнях, па нашай мове, яна пацвярджала фальшывасць, крывадушнасць адной з галоўных дэкларацый савецкае ўлады: «Зямля — сялянам!» (З

падтэкстам прыхаваным: калі ласка, шчыруйце на калгаснай, хоць задушыцеся!). І хіба мог вялікі мастак слова абысці такі гвалт?! Тым больш — не мог яго адобрыць і, значыць, падтрымаць. Мог толькі асудзіць, вядома ж, у завуаляванай форме.

Дзіва дзіўнае: галоўны герой аповесці — «звер», «воўк», а за яго лёсам, чытаючы твор, уважліва сочыш, яму не зычыш ліха, за яго нават перажываеш (дарэчы, падобнае здараецца, калі чытаеш Фёдара Дастаеўскага). Лявона Бушмара шкада, ён варты спачування, бо ў яго бедах вінаваты не столькі ён сам, колькі ўлада, дзяржаўны рэкет, які ўчыняе гвалт, вераломна парушае генетычны код чалавека. Чуйны аўтар гэтай аповесці прадказаў сталінскі генацыд ці, кажучы больш дакладна, адлюстраваў яго пачатак. Прарока агульнанацыянальнае трагедыі не абышла і асабістая драма. У дзённікавых запісах пісьменніка гаворыцца пра гэта адкрыта: «У яжоўскай турме ў Менску мяне саджалі на кол, білі вялікім жалезным ключом па галаве, палівалі збітае месца халоднай вадой, паднімалі і кідалі на рэйку, білі паленам па голым жываце, устаўлялі ў вушы папяровыя трубы і раўлі ў іх на ўсё горла, уганялі ў камеру з пацукамі...» («Дзённік», 3 кастрычніка 1944). Увесь гэты набор садысцкіх прыёмаў таталітарнага рэжыму пісьменнік зведаў на сабе ў 1938 годзе, праз восем гадоў пасля апублікавання «Лявона Бушмара».

Кузьма Чорны даверыў дзённіку свае найбольш горкія думкі і высновы чалавека, які зведаў на сабе рэпрэсіўную машыну сталіншчыны: «Беларускай інтэлігенцыі бадай што ўжо няма, а гэтыя носяць яе імя і сціраюць з нашага жыцця беларускі характар... Прыжывальшчыкі і хлебаеды». Тут ён называе найперш сумнавядомага Бэндэ і да яго падобных, якія лезлі скрозь — «у беларускую крытыку», «у беларускую літаратуру», «у культуру і грамадскую дзейнасць», «у мастацтва і цэнзуру» («Дзённік», 5 кастрычніка 1944 г.). Там жа гаворыцца пра ўмовы, у якіх не жыў, а толькі існаваў слынны творца: «Нічога не пісаў. Няма дзе падзецца і прыткнуцца з пяром. ...Я жыву на голай падлозе...». Пісьменьніку, які ў камуналцы дажывае жыццё, улады ўсё абяцаюць асобную кватэру. Апошні дзённікавы запіс (22 лістапада

1944 г.) засведчыў сумныя перамены: «Бадай што ўжо месяц як у «кватэры», дадзенай мне Саўнаркомам. Але ж якраз як тая камера ў турме, дзе я сядзеў у 1938 годзе. Можна сказаць, што я ўжо дайшоў да апошняе мяжы. Бруд, цемень — вокны глядзяць у чорны трохкутнік з высозных муроў. Пісаць няма як і жыць няма як. А тут жа, па адным калідоры, рамантуюць кватэру Рыжыкаву. Там светла і добра».

Задумаемся: вось гэтая апошняя (тупіковая) мяжа пісьменніка ці не нагадвае чымсьці страчаную жыццёвую дарогу Лявона Бушмара і ці няма тут асацыяцыі з жахлівым бездарожжам нацыі ў сумнавядомую эпоху, тым бездарожжам, якое, нават сыходзячы ў нябыт, імкнулася называцца шляхам?

Вернемся ж да самой аповесці.

Кузьма Чорны свайго героя называе «звер», «воўк»... І міжволі падумалася пра ваўка, якога з усіх бакоў абкладваюць чырвонымі сцяжкамі, каб яго знішчыць. Вось чымсьці якраз такога ваўка нагадвае хутаранін Бушмар, моцны, цэльны, працаздольны і працаюбівы чалавек, які мае душу самастойную і вольную. Сёння, мусіць, гэта быў бы  паспяховы фермер!

Відавочна, не без сімпатыі да Бушмара (магчыма, міжвольнае) Кузьма Чорны «малюе» яго на прыродзе, за лесам: «Ён доўга сядзеў так на сваім хутарскім дэрашу, трапаў яму грыву і стаў, як дзіцё, — радасны... Ён чуў, як вецер ідзе над лесам, трашчыць і гудзе ў верхавінах спрадвечных дрэў, падае на зямлю і вялікаю свежасцю абдымае ўсё. Ён убачыў над лесам буйнага коршака і не зводзіў з яго вачэй. Ён, здавалася яму самому, чуў нават пах пер'я гэтай птушкі... Ён пусціў каня і сеў на зямлю. На траве, на хвойных шыпулях сядзеў ён доўга, так як бы тут было яго ўсё». На здзіўленне часта, як часам дазваляе сабе сам Леў Талстой, Кузьма Чорны паўтарае адно слова; тут у яго бясконца паўтараецца адзін  і той жа займеннік. Больш за тое: гэты займеннік не раз ужыты аўтарам аповесці і на наступнай старонцы, чым падкрэсліваецца, на маю думку, увага да ягонае асобы: «...ён сядзеў там усё, каля свайго каня. Вечар пачаў агортваць яго, а ён як бы і не думаў рушыць адсюль. Ён як бы першы раз цяпер на

жыцці сваім адчуў моц водару лясной зямлі, вялікую цішыню гэтай адзіноты тут, гарачую імклівасць конскіх вачэй каля яго, пераможныя гукі вялікай птушкі над лесам». Пра чалавека, які па ўсёй аповесці называецца то панурым і ўпартым, то дзікім і звераватым, то не калектыўным і нялюдскім, з прыемным здзіўленнем чытаюцца менавіта такія паэтычныя словы. Яны хіба не сведчаць, што душа Бушмара жывая, вольналюбівая!

Калі «вёска адціснула яго да самага лесу і ўрэзалася ў яго паплавы», ён даволі стрымана (!) пры ўсіх адмоўных яго якасцях, разважліва, але рашуча абураецца. Пісьменнік дае дужа цікавы дыялог, у якім адчуваецца, што ён тут на баку, так сказаць, адмоўнага героя:

— Чаму гэта залезлі і сюды? — сыпаў ён злоснаю гаворкаю і паказваў рукой на лес.

— А як жа? На тое абрэзка, — адказвалі яму.

— Чаму гэта? — перапытваў ён.

— Чаму гэта? Што, у мяне лішняе ёсць, ці што? Можа, вы і на той бок палезеце.

— Можа, і палезем.

— Хто арэнду плаціў, а хто палезе! Чаму гэта?

У кароценькім урыўку ажно чатыры разы: «Чаму гэта?». І сапраўды: **чаму ўчынялася г э т а?** Такое пытанне напэўна ўзнікала ў мільёнаў людзей, ні за што асуджаных на смерць ці пасаджаных у астрог, сасланых на Калыму. Ёсць у аповесці проста неацэнныя словы: «Чалавеку цяжка перарабіцца адразу. Можна думаць і гаварыць інакш, а сам чалавек доўга будзе ранейшым. Так, як ляцяць кожны год, абы толькі замакрэе веснавы снег, гусі над Бушмаравай сялібай, так, як адлятаюць яны гэтымі ж лясамі назад, абы толькі пацямнее ад старасці на ржышчы белае павуцінне, — гэтак сваімі дарогамі будзе хадзіць чалавек, пакуль увесь узыдзе на дарогі іншыя». Ажно міжволі ўзгадваецца геній Скарына: «...тако ж и люди, игде зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають».

У паэтычна-светлых і па-філасофску глыбокіх, мудрых радках знакамітага празаіка пра гусей над Бушмаравай сялібай, пра чалавека, яго дарогі ізноў жа адчуваецца пазіцыя мастака-гуманіста. Гусі ляцяць сюды кожны год. А вось Лявон Бушмар «больш у гэтую мясціну не вярнуўся, знік». А шкада. Чалавечая драма мае свой пачатак, сваю гісторыю, сваю кульмінацыю. Чамусьці помніцца сказ: «Дарога з лесу, што з Бушмаравай сялібы падалася ўбок, закруцілася пад самую рэчку — новы перароблены вясковы палетак адапхнуў яе». Так згубілася жыццёвая дарога, адна з многіх жыццёвых дарог.

У спадчыне Кузьмы Чорнага ёсць публіцыстычна завостранае апавяданне «Справа Віктара Лукашэвіча», у якім Лукашэвіч адкрыта выступае супраць падхаліма і агрэсіўнага паклёпніка-ананімшчыка Марынковіча, які імкнецца, «падфарбаваўшыся ў чырвоны колер, прыкрыўшыся рэвалюцыйнымі лозунгамі, сесці сваім шырокім задам на ўсялякую жывую справу». Таму ў канцы твора намечана параза паклёпніка.

Але як селянін-аднаасобнік, працалюб церпіць паразу ад калектывізацыі ў аповесці «Лявон БУШМАР», так і ў суровай жыццёвай рэчаіснасці Кузьмы Чорнага сумленне і талент бяссільныя перад шматаблічнай поскуддзю «азіятчыны»: «Падхалімства, хабарніцтва, чыноўніцтва, паклёпніцтва — за апошнія гады паднялося на вялікую вышыню. Колькі нашай інтэлігенцыі без дай прычыны гніе ў турмах і на высылцы! Апарат НКГБ і тысячы чыноўнікаў займаюць увесь горад — яны ўмеюць і любяць рваць адзін аднаго і ўсіх за горла, а я гэтага не ўмею рабіць, дык не магу нават дастаць хоць тоненькі праменьчык дзённага святла ў вакно і мучуся ў пограбе. Божа, напішы за мяне раманы. Хіба так маліцца, ці што?» («Дзённік», 22 лістапада 1944 г.). Такі стан грамадства — хіба не знак вялікай бяды, назва якой — нацыянальная драма?!

2002, 2018

## «АБ ШЫРАЦЕ ДУХОЎНАЙ ДБАЙ»

143 пісьмовыя творчыя працы адрасавалі школьнікі краіны сталічнаму музею Максіма Багдановіча — на рэспубліканскі конкурс, прымеркаваны да 115-х угодкаў з дня нараджэння знакамітага творцы. Я быў у складзе журы і, думаю, сваімі ўражаннямі аб творчасці юнакоў і дзяўчат, улюбёных у вобраз Максіма Багдановіча і яго сардэчную і мудрую спадчыну, варта падзяліцца з чытачамі.

Уражвае, радуе, узрушае тое, што да Максіма Багдановіча, яго пранікнёнага мастацкага слова, ягоных незабыўных запаветаў канкурсанты, якія выявілі свае бясспрэчныя літаратурныя і навуковыя здольнасці, паставіліся як да нашай нацыянальнай святыні. Не толькі па змесце, часта глыбокім і заўсёды эмацыйным, а й па маляўнічым афармленні дасланых твораў відаць, што ён — любімы паэт. Пра гэта і заяўляюць яны, дзеці розных узростаў — ад дзесяці да сямнаццаці гадоў. Як добра яны разумеюць перамогу творцы-чарадзея над горкім, драматычным лёсам і яго непараўнальны подзвіг! Адзінаццацікласніца СШ №22 г. Брэста Святлана з захапленнем піша ў сваім эсэ «Пад вернай зоркай Венерай»: «Мяне заўсёды здзіўляе, як мог гэты хваравіты малады чалавек, адарваны ад жывой беларускай гаворкі, авалодаць роднай моваю, адчуць усе яе адценні, каб пранікнуць у душу народа, і на яе высокі лад настроіць сваё маладое сэрца. Мажліва, гэтаму спрыяла геніяльнае чуццё мастака, якім шчодра надзяліла яго прырода, яго выключнай сілы паэтычны дар, тонкі, праніклівы розум...»

Так, тое, што змог здзейсніць Максім Багдановіч за кароткае жыццё, прыемна здзіўляе многіх-многіх чытачоў, паэтаў, даследчыкаў літаратуры. Але не магу пагадзіцца з эмацыйнаю

берасцейскаю школьніцай, што ён адчуў усе адценні мовы беларускай. Юнаму генію якраз бракавала моўных скарбаў.

Многія выказванні школьнікаў поўныя болю за такое кароткае зямное жыццё Максіма (менш чым дваццаць пяць з паловаю гадкоў), а ў той жа час — радасці і гонару, што ён не пусціў на вецер свае маладыя гады, а выхаваў у сабе вялікага нацыянальнага паэта.

«Максім Багдановіч... Гонар нашай літаратуры і яе ж боль. Ён так многа здзейсніў! І яшчэ больш не паспеў здзейсніць: няўмольная хвароба...» — так выказвае сваю думку вучаніца 9 «Б» класа СШ № 78 Менска Алена. «Ніколі не стане банальным добры ўчынак» — падумалася, калі прачытаў, што Алена, пад час адпачынку ў крымскім санаторыі «Беларусь», ускладвала кветкі на магілу любімага паэта.

Міжволі ўзгадалася і мая першая юнацкая паездка ў Ялту, і тое, як разам з нявестай спякотлівым летнім днём шукалі мы з васількамі ў руках «куток, дзе Ён у сне глыбокім», і тое, як нас уразіла не столькі ганаровая варта кіпарысаў ля помніка, колькі ўжо ўскладзеныя чыёйсьці чуйнаю рукою васількі. Нявеста неўзабаве стала маёй жонкаю. Немалую ролю ў нашым лёсе адыграла цудадзейная энергія зорнай паэзіі Максіма і той дзень у Ялце.

З якой жа прыемнасцю прачыталася цяпер у лірычнай споведзі «Імкнуцца да зор» шаснаццацігадовай Вікторыі з Старобіна, што яна звяртаецца да паэтычнага свету Максіма Багдановіча і ў шчаслівыя хвіліны свайго жыцця, і ў часіны смутку і роздуму! Дзяўчына піша: «Я знаходжу тут адказы на ўсе пытанні: як жыць, як кахаць, як сябраваць...»

Юнакі і дзяўчаты ( асабліва дзяўчаты!) трапяткімі сэрцамі адчуваюць у паэзіі генія і эстэтычную вышыню, і маральную чысціню, і духоўную глыбіню, і грамадзянскую мужнасць, і, вядома ж, палымяную любоў ды непахісную вернасць Бацькаўшчыне. «Дайсці да Беларусі» — так назвала сваё арыгінальнае і смелае па задуме эсэ шаснаццацігадовая Ірына (СШ № 37 г. Менска). Яна, як і многія вучні, прызнаецца ў тым, які дзейсны

ўплыў робіць творца на яе жыццё: «Поруч са мной — Максім Багдановіч. З нядаўняга часу ён стаў маім спадарожнікам і натхняльнікам. Без яго мне не адолець беларускі шлях, бо сцяжынка наша затаптана людзьмі і закідана камянямі... Але мы справімся, бо мы разам — я і Максім, бо з намі мае маладыя сілы і яго звонкая песня...» Не разгубілася школьніца, калі пачула, што ў соннай краіне і крыніца знікла, і зерне засохла, і народ згубіў мову сваю, а гаспадары вырываюць з каранямі васількі. Маці-Зямля сказала: «...У вас ёсць сіла Коласа, агонь Купалы і песня Максіма. Біце ў званы — і прачнецца тады народ, успомніць мову сваю, гаспадары будуць дбаць аб васільках, запульсуюць крыніцы, а засохлае зерне прарасце». А самае галоўнае — у фінале: «І мы званілі. З апошніх сіл — Максім. Гучна і працягла — Колас, настойліва і палымяна — Купала. Трошкі няўпэўнена, але радасна — я. І пачаў прачынацца народ. Не адразу, не разам, а па адным, бо для кожнага з нас, нават тутэйшых, шлях да роднай зямлі пачынаецца па-свойму. Для мяне ён пачаўся з твораў Максіма Багдановіча. Як той васілёк, ён упрыгожыў нашу зямлю, даў нам «спажытак для душы». Не згубіць сваю душу, сваю мову, жыць у свабоднай краіне, быць васільком для іншых — у гэтым бачу я сваё прызначэнне. «Бо нашто каласы, калі няма васількоў?» — як лозунг гучаць для мяне цяпер заўсёды словы Максіма Багдановіча».

Як бачым, запаветныя мроі моладзь звязвае з юным прарокам.

Жыццядайны ўплыў Максімавага «Апокрыфа», як і ягонай лірыкі, на трапяткія душы відавочны. Васьмікласнік Дзмітры не выпадкова сваё эсэ назваў якраз вядомым сказам: «Нашто каласы, калі няма васількоў?..» Яго хвалююць праблемы духу чалавека. Ягоны твор таксама арыгінальны па сваёй ідэі. Юнак распавядае, як восеньскім вечарам утульна прымасціўся ў крэсле і павольна гартае старонкі зборніка з творамі Максіма Багдановіча. Называюцца асабліва блізкія сэрцу вершы, сярод якіх: «Мая душа», «Жывеш не вечна, чалавек...», «Беларусь, твой народ дачакаецца...», «Даўно ўжо целам я хварэю...», «Пагоня».

Ён разважае пра светлы след на зямлі, прагу самаўдасканалення, каб штосьці каштоўнае пакінуць людзям. Радкі паэта ў яго душы выклікаюць багата пачуццяў і думак. Хлопец задумваецца і пра шчасце сваё і аднагодкаў: «Жыві і цэльнасці шукай, // Аб шыраце духоўнай дбай»... Можа, у гэтым шчасце?» Школьнік задае сабе пытанне: «У якой галіне жыцця буду я найбольш карысны роднай зямлі, каб спраўдзіліся словы Максіма Багдановіча «Беларусь, твой народ дачакаецца // Залацістага, яснага дня...» Паступова ён трапляе ў магутнае магнітнае поле «Апокрыфа»: «Добра быць коласам; але шчаслівы той, каму дадзена быць васільком...» «Так, колас — гэта хлеб, дабрабыт, а васілёк — родная песня, спажыва для душы, — разважае юнак. — Сапраўды, не хлебам адзіным...»

Тэлефонны званок адарваў яго ад развааг.

— Gracia! Зусім не маю часу, таму адразу — да справы: у нядзелю, а 12-й, аэрапорт «Мінск-1. Сустракайце! Грошай зарабіла на дзесяць гадоў, а мо і больш. Толькі гэтыя два гады па ўсіх вас, па радзіме сумавала...

— Дык навошта каласы, калі няма васількоў? — спытаўся ён словамі Максіма Багдановіча.

Але суразмоўніца гэтага не пачула: у слухаўцы гучалі адрывістыя гудкі...

Далей, як бы ў эпілогу, Дзмітры працягвае: «Ідзе час, а я ўсё спрабую знайсці адказ на пытанне з «Апокрыфа»: «Нашто каласы, калі няма васількоў?». І зусім не лішняя тут развага пра часовае і вечнае, пра матэрыяльнае і духоўнае... Модна стала выязджаць на заробкі за межы нашай краіны, туды, дзе плацяць больш. «Багатая чужына, там шукаюць дабрабыту, а губляюць душу...» — піша аўтар эсэ. — Апынуўшыся ў тым грамадстве, табе патрэбна на нешта або некага абаперціся. Але ты не можаш знайсці гэтай апоры. Бо ўсё засталося на радзіме... І толькі родны край можа суцішыць любы боль. Бо там «ёсць крыніца жывой вады...» Няхай сабе і занадта катэгарычны хлапчына, які яшчэ мала сутыкаўся з сур'ёзнымі жыццёвымі праблемамі, але яго патрыятызм зразумелы.

У заключных радках сваёй працы Дзмітры слушна гаворыць пра гармонію думкі, пачуцця, пластыкі і музыкі ў творах Багдановіча. Пра неўміручую красу і сілу яго паэзіі: «Хто адкрые для сябе Максіма Багдановіча, той назаўсёды застанецца ў палоне неразгаданых чараў яго радкоў, будзе зноў і зноў вяртацца да іх і спыняцца перад імі, нямеючы, як перад цудам».

Уражваюць дзве навуковыя працы Марыны, вучаніцы 9 «Б» класа СШ №87 г.Менска. Яны засведчылі, што школьніца мае сваю думку і смела бярэцца за даследаванне мала распрацаваных і новых тэмаў у літаратуразнаўстве, і вельмі дарэчы, што яна не толькі добра арыентуецца ў творчасці Максіма Багдановіча, а й умее працаваць з неабходнай літаратурай па-за рамкамі школьнае праграмы. Так, для працы «Імпрэсіяністычныя тэндэнцыі творчасці Максіма Багдановіча» яна скарыстала, апроч трохтомніка паэта, выданні: Г. Каханоўскага «А сэрца ўсё імкне да бацькаўскага краю...» (1991), Алега Лойкі «Максім Багдановіч» (1966), Я. Дубянецкага «Сусветная культура. Ад старажытнасці да нашых дзён» (2001),  а яшчэ — зборнікі дакладаў літаратурнага музея Максіма Багдановіча. Таму й праца ў яе атрымалася даволі абгрунтаваная і цікавая. Адчуваецца кампетэнтнасць навуковага кіраўніка — настаўніцы беларускай мовы і літаратуры В.В. Галоўкінай.

Можна не сумнявацца, што за кожнай удалай творчаю працаю школьнікаў стаіць як мінімум асоба выдатнага настаўніка. Даволі часта поспех вучня залежыць ад таго, у якой сям’і гадуецца ён, наколькі там у пашане родная мова, культура, творчасць, духоўнасць. Што да Ганны, адзінаццацікласніцы з Менска, то ёй, напэўна, пашанцавала і з бацькамі, і з настаўнікамі, бо яе сачыненне «Сузор’е Максіма Багдановіча» вылучаецца належным узроўнем культуры, прыгажосцю, багаццем, шчырасцю і глыбінёй пачуццяў. Аднойчы ў рукі ёй трапілася паштоўка з партрэтам паэта і ягоным вершам «Пагоня». З паштоўкі глядзеў прыгожы юнак, такога Максіма яна яшчэ не бачыла. Неяк асабліва ў той момант уразіў дзяўчыну і партрэт, і верш, і лёс Максіма. «Мне не так даўно споўнілася сямнаццаць. Лічу, што толькі пачынаю жыць,

што ў мяне яшчэ ўсё наперадзе: вучоба, праца, каханне, — разважае яна. — А ён у свае сямнаццаць так не думаў, бо ўжо даўно выбраў свой шлях у жыцці. Юнак спяшаўся жыць, тварыць, змагацца, вучыцца, кахаць. І чым больш разважаю над яго лёсам, тым больш расце ўпэўненасць, што гэта не звычайны, а прысланы Богам чалавек... Інакш як можа звычайны чалавек ва ўзросце юнака столькі зрабіць для Бацькаўшчыны?..»

Не можа Ганначка змірыцца з тым, што паэт быццам бы адну долю мае з няяркаю маленькаю вясёлкай — «зіяць ледзь бачна ў сіняй вышыне». Цяжка ёй стрымаць эмоцыі: «Хочацца крычаць: не, ты не вясёлка, ты нават не зорка-знічка, ты — цэлае сузор'е!..» Далей яна ўвагу канцэнтруе на лірыцы кахання і прызнаецца: «Гляджу на Максіма-кніжніка, а зайздрошчу тым дзяўчатам, што сустрэліся на яго шляху. Для мяне найвялікшым шчасцем было б спаткаць у жыцці Паэта, для якога вышэйшым ідэалам была дзявочая краса». Называе ўсіх дзяўчат, якіх творца-чарадзей адорваў сваёй увагаю, цытуе вершы, прысвечаныя ім. Згадвае пра далёкую Аню, Анну Рафаэлаўну, сястру сябра-гімназіста, з якой звязваў паэт самае глыбіннае пачуццё, самае запаветнае і, на жаль, нязбытнае:

Больш за ўсё на свеце жадаю я,
Каб у мяне быў свой дзіцёнак —
Маленькая дачушка-немаўлятка,
Аня Максімаўна...

Рэспубліканскі конкурс на лепшы дзіцячы твор, прысвечаны Максіму Багдановічу, паказаў: дапытлівыя вучні добра ведаюць і творчасць слыннага паэта, і яго біяграфію. «Калі думаеш пра Максіма, шчыміць сэрца, — піша вучаніца Прывольненскай СШ Менскага раёна Галіна. — Так склалася жыццё, што ў яго з маленства не стала матулі. Не мог ён чэрпаць душэўную моц з роднай беларускай зямлі. Не было поўнага ўзаемапаразумення з бацькам. Не было нават узаемнага кахання. І толькі зорка Венера заўсёды разам з Максімам...»

Цікавым аналітычным назіраннем дзеліцца Раман, дзесяцікласнік з Вілейскага раёна: «Любоў да роднага краю была настолькі магутнай, што, правёўшы дзяцінства і юнацтва ў Ніжнім Ноўгарадзе, паэт ні аднаго радка не прысвяціў краявідам Паволжа, прыўральскаму стэпу... Ён цалкам быў аддадзены сваёй Беларусі».

Алеся, навучэнка ПТВ №208, стварыла эсэ «Мой Багдановіч». Яна зачараваная духоўным вобразам паэта: «Для яго самае страшнае — пражыць жыццё пуста, бессэнсоўна... У маладога Багдановіча такі філасофскі роздум, якога не знойдзеш больш ні ў аднаго паэта». Яна адзначае «моцную сталасць яго думкі»; цытуючы верш «Жывеш не вечна, чалавек...», заўважае: «Было б не дзіва прачытаць такія вершы ў сталага чалавека...» Алесю хвалюе жыццёвы лёс Багдановіча: «І так моцна сціскаецца ў мяне сэрца ад невыноснага болю, што паэту наканавана памерці ў 25 гадоў у адзіноце, быць пахаваным чужымі людзьмі ў далёкай Ялце». Нібы дапаўняючы і падагульняючы сказанае Алесяй, піша Таня, старшакласніца Драчкаўскай СШ Смалявіцкага раёна: «Якую трэба было мець духоўную сілу і мужнасць паэту, каб незадоўга да смерці ў сваім апошнім вершы так несамотна і светла сказаць пра здзейсненае ім:

Ў краіне светлай, дзе я ўміраю,
У белым доме ля сіняй бухты,
Я не самотны, я кнігу маю
З друкарні пана Марціна Кухты.

Многія дзеці прысвяцілі вершы і нават акравершы любімаму паэту, а некаторыя выказалі да яго пашану радкамі знакамітага Уладзіміра Караткевіча:

Мы табой ганарымся — і плачам,
Мы нясём цябе ў сэрцы праз дым.
Нізка голаў схіляю, юнача,
Перад вечным глаголам тваім.

……………………………….
Бо як ёсць у народзе такія —
Не загіне давеку народ.

А згаданая вышэй Ганна з Менска сваё сачыненне-разважанне завяршыла радкамі з верша Я. Янішчыц, гэтаксама ахвяраванага Максіму Багдановічу:

Смерці ў Паэта няма —
Ёсць Нараджэнне!

2006

## АДЗІНОКІ НАРОДНЫ ПАЭТ І ДОМ У ЛЕСЕ

Тое, што створана Якубам Коласам, геніяльным мастаком слова, ведаюць многія, бо ён, народны паэт Беларусі, — хрэстаматыйны. Па яго літаратурнай спадчыне, дзе ўзвышаюцца яскравыя вяршыні нацыянальнага духу — паэмы «Новая зямля» і «Сымон-музыка», школьнікі пішуць сачыненні, студэнты — дыпломныя, аспіранты і навукоўцы — дысертацыі, манаграфіі. А вось пра тое, як жыў, як працаваў, з кім сябраваў, дзе бываў, як пачуваўся народны паэт Беларусі ў пэўных акалічнасцях, ведаюць абмежаваныя колы чытачоў. Між тым існуе эпісталярная спадчына песняра. І дзякуючы ёй шмат можна ўведаць, як кажуць, з першых вуснаў.

Чытаючы і перачытваючы шматлікія лісты класіка да вядомых людзей, сваякоў, сяброў і землякоў, я не мог не заўважыць, што ён, Якуб Колас, актыўны творца, акадэмік, заслужаны дзеяч навукі Беларусі, народны дэпутат, словам, чалавек дужа заняты не толькі творчай, а й грамадскай дзейнасцю, чалавек, які знаходзіўся ў гушчы культурнага і асветнага жыцця, пачуваўся адзінокім. У лісце да П. Ф. Глебкі, датаваным 05.02.1940 г., ён злёгку папракае яго, свайго даўнейшага вучня, што той не здагадаўся пазваніць, быццам забыўся, што *«ёсць на свеце адзінокі дзядзька Якуб...»*.

Варта сказаць, што ў той час яшчэ жывая была паэтава жонка — Марыя Дзмітрыеўна, якую, кахаючы, шануючы, ён называў: «Мой самы лепшы ў свеце друг». А калі ёсць такі друг, то, здавалася б, адчуваць сябе адзінокім проста немагчыма. Падкрэслю, здавалася б. Тут жа і дадам: з пазіцыі абываценя... Бо сапраўдны творца непазбежна адзінокі хоць бы ўжо таму, што часцей за ўсё знаходзіцца сам-насам (адзін на адзін) з пачуц-

цямі і думкамі сваімі. Падумалася, невыпадкова адзін з мноства псеўданімаў нашага знакамітага творцы — К. А д з і н о к і.

Ды зразумелая адзінота не толькі паэта-генія, а й адзінота паэта-чалавека, асабліва пасля таго як ён страціў жонку (Марыя Дзмітрыеўна памерла 11.05. 1946 г.) і калі ўсё больш пачалі дапякаць яму хваробы. У лісце да П.У. Броўкі 12.07. 1950 г. ён піша: *«Я страціў сон, хоць яго ў мяне ніколі і не было. Я ледзь-ледзь поўзаю па зямлі, як той клешч, што напіўся з сабачага вуха»*. Яму ж, Петрусю Броўку, у лістападзе таго ж года не менш вобразна «малюе» стан свайго здароўя: *«Мае лёгкія — гнілая торба, на якой то там, то сям сяды-тады загараюцца вандроўныя балотныя агні... Спіна мая так зрэзана банкамі, усё роўна як бы мяне ссеклі бізунамі польскія гайдукі»*. Якуб Колас усё часцей трапляе ў санаторый «Барвіха», што пад Масквой, і ў крамлёўку (крамлёўскую больніцу), яго скаргі на старасць ды благое здароўе пачашчаюцца. Так, у лісце да Н.І. Загурскай-Паддубнай 23.02. 1951 г. ён прызнаецца: *«...зараз я — старычына, пазнаўшы ўсю гарэчу старасці, часта занепадаю, хварэю. З 1946 г. я пачаў хварэць на запаленне лёгкіх. Хварэў разоў 15»*. А ў сакавіку таго ж года, звяртаючыся да яе ж, Ніны Загурскай-Паддубнай, як бы апраўдваецца: *«Я калісь быў здаровы і крэпкі. У мяне быў на дзіва моцны арганізм, а вось стаптаўся...»* І з уласцівай яму далікатнасцю просіць: *«Даруйце, што пішу пра невясёлыя рэчы»*. У адным з лістоў да П.Ф. Глебкі Колас жаліцца: *«Кепска... з нагамі: не хочуць хадзіць»*. А ў лісце да А.М. Лойка пра стан свайго здароўя піша больш падрабязна: *«У нагах звузіліся крывяносныя сасуды, адгэтуль і ногі баляць пры хадзьбе, усё роўна як калёсы на непамазанай восі. Апроч таго, у мяне так званая гіпертанія — павышаны ціск крыві. Прыходзіцца сяды-тады ставіць п'яўкі»*. *«Удивительно тоскливо болеть: так скучно, так одиноко!»* — гэта словы, адрасаваныя Сяргею Гарадзецкаму, рускаму паэту, у адным з многіх пісьмаў да яго.

Патрыёт Беларусі, чалавек сардэчны і эмацыйны, Якуб Колас перажываў тугу па родных мясцінах і людзях. Пасылаючы з

падмаскоўнай «Барвіхі» 19 студзеня 1951 года ліст да П.Ф. Глебкі, ён прызнаецца ў любові да людзей: *«Занудзіўся я па сваіх Петрусях, па Міхалу, Кандрату* (гэта значыць, па Глебку, Броўку, па Лынькову і Крапіве. — В. Ж.) *і па ўсіх добрых чалавеках, не кажу ўжо аб чалавечыцах».*

Вялікі творца і ў эпісталярным жанры, як бачым, застаецца арыгінальны і ў той жа час даступны, зразумелы і заўсёды чалавечны. Пра што б ні апавядаў адметны майстра слова, якую б сур'ёзную праблему ні закранаў, ён пакідаў і месцейка для ўсмешкі. Адзін з лістоў да М.Ц. Лынькова, датаваны 22.02. 1953 г., пачынаецца так: *«Дарагім маім прыяцелям Міхалу і Зосі Лыньковым пісьмо ад старога шматпакутнага Якуба».* Смутак па родных мясцінах і людзях падмацоўваецца лячэннем, якое так надакучае! Паэт шчыра дзеліцца сваім пачуццём: *«Жывучы ў «Барвісе», я ўспамінаю караліўчавіцкую тундру, і яна мне цяпер мілей за «Барвіху», бо там чалавеку жыць вальней: там няма дактароў. Мне ж тут дактары не даюць спакойна дыхаць».* Пасля кароткага апісання санаторных пакутаў прыводзіцца выснова: *«Пасля адпачынку ў санаторыі, як відаць, прыйдзецца паехаць у «тундру» адпачыць ад адпачынку».*

Што да Каралішчавіцкага лесу, дзе знаходзіўся Дом адпачынку пісьменнікаў, то пра яго класік адзываўся заўсёды ў негатыўным плане, называючы тундрай, дзікім лесам, дзе шмат гадзюк ды камароў. Калі ў адным з пісьмаў ён паведамляў Сяргею Гарадзецкаму, што другі дзень знаходзіцца ў Каралішчавічах, то заўважыў: *«Вернее было бы назвать «Комарыщевичи».* Больш за тое, у ліпені 1955 года ў пісьме да Я.С. Мазалькова паэт выказаўся катэгарычна: *«Место здесь плохое. Пожалуй, худшего не найдешь в Белоруссии».* Тым не менш Якуб Колас даволі часта там бываў — працаваў і адпачываў. У ліпені 1954 года менавіта ў Каралішчавічах была завершана трэцяя кніга палескіх аповесцяў. Ён любіў цішыню і спакой, што і знаходзіў у гэтай мясціне. Яшчэ памянёны лес, дзе пераважаюць яліны, быў багаты на баравікі, а іх народны песняр надта любіў збіраць. Адсюль Колас не раз браў накіраванне на возера Нарач,

якое дужа яму падабалася. *«Изумительно красиво это озеро! Пленительно-красивы его берега: могучие сосны, песчаные пляжи, отмели»,* — пісаў ён Сяргею Гарадзецкаму 21 ліпеня 1954 года. А крыху раней, 10 ліпеня, у пісьме да таго ж Гарадзецкага як бы скардзіўся: *«Отдыха у меня нет. Каждый день засыпают письмами-жалобами — все, кому только не лень».*

У вечных клопатахператамляўся геній. Тут жа, у Каралішчавічах, ён у свае няпоўныя 70 гадоў у пісьме да М.М. Прозаравай не ўтойваў: *«Я уж дряхлею. Чувствую всемирный закон тяготения к земле».*

2002

## ПАКУТНІК XX СТАГОДДЗЯ

Калі называецца прозвішча *Новік-Пяюн,* у памяцці паўстае постаць хударлявага, жвавага чалавека, яго светлае аблічча з дабрэннымі вачыма, шчыраю, прыязнаю ўсмешкаю, мілагучным голасам. Сялянскі сын, ён выхаваў у сабе лепшыя рысы нацыянальнага інтэлігента, не застаўся інертным заходнікам, халодным назіральнікам за тым, як мяняюцца на радзіме ўлады — польская, нямецкая, савецкая, — а стаўся змагаром за Бацькаўшчыну. Народжаны на пачатку XX стагоддзя — 14(27).08.1906, — ён мог бы дажыць да свайго цудоўнага юбілею. Не дажыў, пакінуў белы свет у 1994 годзе. Працяглая няволя, якою каралі яго пры ўсіх уладах, не магла не падарваць здароўе і ўрэшце падкараціць жыццё. Але гены ўнаследаваў моцныя дый Бог, няйнакш, бярог, не даў загінуць ад холаду, голаду, пакутаў душы і цела. За свае пражытыя гады — амаль 88 (для параўнання скажу: Купала жыў 60, Багдановіч — 25,5) — ён мог на ўвесь свет праславіць Беларусь як творца, бо ствараў вершы і песні, нарысы і артыкулы, быў здатным перакладчыкам, маляваў карціны, граў на скрыпцы, меў фенаменальную памяць: многія свае вершы склаў без паперы і алоўка, будучы вязнем; а ў сяброўскіх колах выконваў песні не толькі на славянскіх мовах — польскай, рускай, украінскай, — а й на літоўскай, нямецкай, французскай, а яшчэ — на мове міжнародных узаемінаў — эсперанта, якою валодаў ці не найбольш дасканала... «Таленавіты — значыць небяспечны» — узгадаўся дарэчы радок з верша Жэні Янішчыц. Менавіта небяспечным бачыўся Сяргей Новік-Пяюн як белапольскаму і нямецка-фашысцкаму, так і савецка-сталінскаму рэжымам, якія надоўга вырывалі з рук творцы пяро і пэндзлік, скрыпку і ноты, пазбаўлялі самага

дарагога — свабоды, адрывалі ад роднай старонкі, перарывалі сувязь з выдаўцамі і чытачамі, са школаю і сцэнаю, з усім беларускім асяроддзем, з крыніцамі духоўнасці, не давалі на ўсю моц разгарнуцца шматграннаму таленту, стараліся зламаць маральна, знішчыць фізічна. Гады ягоных зняволенняў склалі больш чым усё жыццё Максіма Багдановіча. Ды, як гаворыцца, пра ўсё па парадку. Запрашаю чуйнага і дапытлівага чытача ў экскурс жыццёвага і творчага шляху Сяргея Новіка-Пяюна, змагара і пакутніка, носьбіта незлічоных скарбаў і бяссрэбраніка, не прэтэндуючы на больш-менш поўнае асвятленне лёсу ўнікальнае асобы адраджэнца.

Засталося дзівоснае ўражанне, быццам ведаў дзядзьку Сяргея ўсё жыццё, хоць як след пазнаёміліся мы перад ягоным 80-годдзем. І пасябравалі. Аднапакаёўка ў доме №9 па вуліцы Купрыянава ў Менску, дзе ён пражываў, была сведкай нашых даволі частых сустрэч. «Родненькі мой!», «Васілёчак!», — так звяртаўся ён да мяне на парозе свайго жытла. Добры дзень, родненькі!» — вітаўся па тэлефоне. Гэтак жа ласкава і развітваўся, пры тым кожны раз перадаваў прывітанне маім сямейнікам, называючы іх паймення. На развітанне ніколі не забываўся сказаць запаветнае: «Жыве Беларусь!» Між іншым, па тым, як чалавек вітаецца і развітваецца, можна меркаваць, які ў яго характар. Скажам, ёсць людзі, якія, падаючы руку знаёмаму, не толькі не глядзяць яму ў вочы, а нават адварочваюць убок галаву. Падобных звычак не меў Сяргей Міхайлавіч. Інтэлігентнасць — адна з яго найпрыкметных якасцяў. Хтосьці з гэтага мог дзівіцца: вясковае паходжанне, за душой — ніякіх універсітэтаў і раптам — інтэлігентнасць. На самай справе ніякай загадкі тут няма, бо інтэлігентнасць не прышчапляецца чалавеку так проста, як дзіцяці правілы паводзінаў, — яна шмат ад чаго залежыць, паходзячы ад унутранай культуры людзей, а не ад узроўню адукацыі ці становішча ў грамадстве. Культура можа быць высокая ў медсястры, кухаркі ці санітаркі і нізкая ў міністра, прэзідэнта і караля.

Для каго-небудзь магла існаваць і загадка творчага лёсу Сяргея Новіка-Пяюна: ён быў даволі вядомы, хоць не меў ніводнага томіка выбраных твораў, бо і створана ім няшмат; больш за тое: не ўсё створанае ім — дасканалае ў мастацкіх адносінах. Ды й тут няма загадкі. Яго ўнікальная асоба вынікае з яго чалавечай сутнасці: па сваіх перакананнях ён — патрыёт-адраджэнец, па жыццёвых выпрабаваннях — шматпакутнік за Бацькаўшчыну.

Калыска яго маленства, першых мрояў і надзей — Лявонавічы, прыгожая і вялікая вёска ў маляўнічым Нясвіжскім раёне. Тут уражлівы хлопчык сустрэўся з нябёснаю госцяй — паэзіяй класікаў. І сам спрабуе выказваць вершамі пачуцці і думкі. Цешыць яму слых і зрок «жаўручок над полем жытнім». Пазней і на чужыне будуць яму родныя вобразы саграваць душу, прыносіць палёгку. А пакуль школьнік можа дбаць пра выбар жыццёвае дарогі. Сяргей Новік (Новікам-Пяюном стане пазней, калі ўсвядоміць сябе літаратарам) падаецца ў Нясвіж, у настаўніцкую гімназію (1918–1924), пасля яе заканчэння — на беларускія настаўніцкія метадычна-педагагічныя курсы ў Вільню (1925–1926).

З бацькоўскае хаты на вучобу выпраўляўся падлетак, вярнуўся на радзіму юнак. Якая ж радасць — пачынаць асветніцкую дзейнасць там, дзе ты ўсіх ведаеш і ўсе ведаюць цябе! За кароткі час юны настаўнік стварае ў Лявонавічах беларускі народны хор, тэатральны гурток, арганізуе ў сваёй і ў суседніх вёсках тайныя беларускія школы, гурток ТБШ, — усё тое, што пры любых уладах паднімае і сілкуе нацыянальны дух. Але такое абуджэнне, такі рух не ўсякай уладзе даспадобы. Тут варта пакарыстацца словамі С. Новіка-Пяюна з яго артыкула «Дзядзька Гальяш («Наша слова» №4 за 27 студзеня 1993 г.): «*За арганізацыю тайных беларускіх школ, за арганізацыю і кіраўніцтва Лявонавіцкім народным хорам і тэатральным гуртком я быў асуджаны белапольскай уладай на пяць гадоў высылкі з Беларусі ўглыб Польшчы, на мора'е, куды мяне накіравалі 1 верасня 1926 года».* Вось яна, уся яго віна, азначэнне якой — нацыянальная свядомасць, любоў да Бацькаўшыны, ейнае мовы і

песні, любоў, якая ніколі не здрадзіла. Калі прадстаўнік акупацыйнае ўлады параіў Сяргею запісацца палякам, юнак адказаў: «Я нацыянальнасцю не гандлюю». Як ні гучнае слова патрыёт, але тут яно дарэчы... Чужынцы, што пачуваліся ў нас гаспадарамі, адмовілі хлопцу ў праве называцца беларусам і ў графе нацыянальнасць зрабілі прочырк. Але ад гэтага ён не адчуў тут сябе чужым.

Высылка не зламала дух маладога асветніка. Ён разгортвае сваю творчасць, распачатую ў Вільні вершам «Не бядуй» («Студэнцкая думка» №4 за 1925 год). Актыўна друкуе вершы, апавяданні, п’есы — арыгінальныя і перакладныя, — артыкулы і допісы ў такіх вядомых віленскіх выданнях: «Заранка», «Беларуская крыніца», «Хрысціянская думка», «Шлях моладзі», «Маланка» ды іншых. Асабліва жаданым госцем ён быў у газеце «Беларуская думка», якую рэдагаваў Ян Пазьняк, і ў часопісе «Заранка», які ўзначальвала Зоська Верас. Выступаў у друку пад псеўданімамі: *С. Пяюн, Сяргей Пяюн, Малады Дзядок* і шмат яшчэ якімі. У польскіх часопісах часта карыстаўся псеўданімамі *Dziecko Pomorza,* творы для дзяцей падпісваў: *Krasnoludek* альбо *Krasnoludek z Borów Tuchalskich, Stary Dziadek...*

Неўзабаве, у 1927 годзе, у Вільні асобным выданнем друкуецца чароўная п’еса-казка «Ёлка Дзеда Мароза», якую аўтар сціпла назваў калядным абразком для дзіцячага тэатра, а таксама выдаюцца перакладныя п’есы «Пакой у наймы» А. Паплаўскага і А. Галянскага (з польскай) і «Цудоўная ноч» П. Салаўёвай (з рускай).

На чужыне, у горадзе Свеце над Віслай, Сяргей Новік-Пяюн стварыў песню «На выгнанні». Надрукаваная ў «Беларускай крыніцы» (№33 за 1930 год), яна засведчыла, што ў Беларусі ёсць талент, здатны на праніклівыя вершы і мелодыі. Гэтая шырокавядомая песня пад назваю «Зорачкі» была перакладзена на шэсць моваў свету; на мове арыгіналу яе прачула спявае славуты Данчык. Дый хіба можна яе выконваць холадна, калі тут ёсць такія ласкавыя, пяшчотныя словы:

Ўночы зорачкі прыветліва мігцяць,
Быццам з неба на мяне яны глядзяць...
Што чуваць, скажэце, зорачкі, вы мне,
Ў маёй роднай — ды далёкай старане?
Ці татулька мой і матанька ўжо спяць?
Ці таксама на іх зорачкі глядзяць?..
Мо й яны пытаюць зорак аба мне,
Што раблю цяпер у дальняй чужыне?

Сын-вязень просіць, каб зоркі перадалі яго родным вітанне і просьбу  не плакаць з той прычыны, што ён мусіць мучыцца ў выгнанні:

Прыйдзе, прыйдзе да нас хутка ясны май,
Прыляту тады, як птушка, ў родны край.

Па сутнасці песня сталася шчымлівым гімнам сардэчнай тугі па Радзіме і найраднейшых людзях, гімнам памкнення да волі. Цікава, што Рыгор Шырма, збіраючы ў народзе фальклёр, запісаў гэтую песню як народную.

Прырода не скупілася — шчодра надзяліла С. Новіка-Пяюна здольнасцямі паэта, драматурга і апавядальніка, а яшчэ — музыкі, кампазітара і мастака. Дзясяткі яго карцін захоўваліся ў Слонімскім краязнаўчым музеі. Але падчас вайны былі разрабаваныя. І толькі «Краявіды» (1919), партрэт Адама Міцкевіча (1926) і «Першы снег» (1927) змагла сястра Маруся зберагчы. Шмат акварэльных малюнкаў  захоўваецца ў музеі ў Нясвіжы.

Граць на скрыпцы ў юныя гады ён навучыўся ў прафесара Тадэвуша Тадроўскага, яшчэ спасцігаў таямніцы музыкі ў прафесаркі Віленскай кансерваторыі пані Катажыны Плішка-Банасевіч. Ды яго скрыпка, як і пэндзлікі з фарбамі, рана пайшла на спачын. Часы былі суровыя. Чужыя таталітарныя рэжымы каралі найперш нацыянальна свядомых людзей. У няволі, якая доўжылася каля трыццаці гадоў, творцу заставалася толькі, карыстаючыся сваёй унікальнай памяццю, складаць вершы,

пакідаць на скрыжалях сэрца ўсё тое, што найбольш яго ўзрушала.

Аднаго разу я запытаўся ў Сяргея Міхайлавіча, што памагала выжыць яму, вязню польскага астрога, нямецкага лагера смерці і сталінскай катаргі. Адказ быў кароткі: «Вера ў Бога». У вершы «Малітва» паэт, звяртаючыся да Усявышняга, дбае не столькі пра сваё вызваленне, колькі пра свабоду ўсяе краіны:

О, Божа мой мілы, о, Божа мой правы,
Пашлі светлай волі хутчэй нам зару!
О, вызваль з страшлівай няволі крывавай
Народ мой і маці маю — Беларусь!

На жаль, я не маю даты напісання гэтага верша. Думаецца, яго стварыў аўтар у вайну, у якой сам перажыў смяротную небяспеку і гора, бо называе няволю крывавай. Вялікая Айчынная бяда яго заспела ў Слоніме, дзе ён, вызвалены Чырвонай Арміяй ад паўторнай польскай турмы (гэтым разам у Баранавічах), працаваў дырэктарам Слонімскага раённага краязнаўчага музея. Разам з заснавальнікам музея археолагам Іосіфам Стаброўскім вынес каштоўныя экспанаты на ўскраіну горада і схаваў у падвале. Дапамагаў падпольшчыкам распаўсюджваць лістоўкі, перапраўляў у партызанскі атрад медыкаменты. Знайшоўся здраднік — выдаў. Схапілі гестапаўцы ў лістападзе сорак трэцяга, кінулі ў турму, у камеру смяротнікаў, потым, хворага на тыф, загналі ў калдычэўскі лагер пад Баранавічы. Там расстралялі яго жонку і маленькага сына. У ліпені сорак чацвёртага з групай вязняў і яго павезлі на расстрэл. У напрамку Зэльвы. На дзявятым кіламетры, у лесе, ён, як і ўсе вязні, быў асуджаны на смерць. Але адбыўся цуд, калі з часткай смяротнікаў ён паспрабаваў уратавацца: застаўся жывы, хоць і быў паранены.

У драматычным 1944 годзе С. Новік-Пяюн стварыў «Астрожскую лірыку» — цыкл вершаў і рамансаў, сярод якіх ёсць два адметныя трыялеты: «Кажы заўсёды праўду смела» і

«Шчаслівым будзе той заўсёды». У другім з іх уражваюць аптымістычныя радкі:

Хоць іней голаў асыпае,
Хоць стрэнуць мо жыцця нягоды,
Шчаслівым будзе той заўсёды,
Вясну хто ў сэрцы захавае.

Ён жыў надзеямі на мірнае, стваральнае жыццё. Але новыя беды навалiлiся яшчэ больш нечакана і жорстка, чым папярэднія: на яго паступае чарговы данос, гэты раз — чыста паклёпніцкі. Арышт. Ваенны трыбунал. Ніякага следства. З 1945 года па 1958-ы Новік Сяргей Міхайлавіч — «вораг народа» нумар 417393. Горкі лёс яго кідае на Калыму, у Якуцію — на лесапавалы, у шахты, у руднікі. Сялянскі сын па паходжанні, настаўнік па адукацыі, творца па прызванні, ён становіцца лесарубам, шахцёрам, драбільшчыкам руды.

Але вясну ў сэрцы зняволены стараўся захоўваць і там, так далёка ад радзімы, яе разняволеных вёснаў, ціхай музыкі лясоў і рэчак. Рэабілітаваны ў 1958 годзе, вярнуўся на Беларусь.

Гэта быў, бясспрэчна, жыццялюб і чалавекалюб. Зведаў так многа зла, ды не зрабіўся помслівы, злосны, нелюдзімы — ён дараваў паклёпнікам і заставаўся добразычлівы, чулы, шчыры, ветлівы, заставаўся рыцарам. Яго сталічная кватэра-аднапакаёўка, якая ўмяшчала процьму рэдкасных выданняў, папак з успамінамі, нататкамі, лістамі, карцін і партрэтаў вядомых людзей, была і своеасаблівым музеем, і культурным асяродкам, дзе нярэдка бывалі сёй-той з пісьменнікаў, музыкаў, мастакоў, журналістаў, настаўнікаў, студэнтаў, школьнікаў. Некаторыя прыходзілі з дзецьмі, з унукамі. Мая жонка, настаўніца, аднойчы завітала да яго з цэлым класам вучняў, пасля з захапленнем распавядала, як гаспадар змог усіх размясціць у пакоі і зацікавіць, трымаць кожнае дзіця ў полі зроку. Атрымаўся выключны творчы кантакт: вучні дэкламавалі вершы, спявалі, інсцэніра-

валі казку, уважліва ў сваю чаргу слухалі цікавыя расповеды, гутаркі і песні гасціннага гаспадара.

На прыязнасць і любоў людзі яму адказвалі тым жа. Сяргею Новіку-Пяюну прысвячала вершы юная Валярына Кустава, свае малюнкі даравалі дашкольнікі: Вераніка Шніп, Алесь Фаменка, Ганулька Бабкова; яму спявалі пад гітару Лана Медзіч і Аксана Забаштанская, чыталі свае вершы Віктар Шніп, Людміла Рублеўская, Наталля Кучмель; яго малявалі вядомыя мастакі: А. Марачкін, М. Купава, Я. Кулік, В. Барабанцаў, У. Хадаровіч, К. Дзягілева. Скульптар С. Кляшчук стварыў бюст, пісьменнік Яраслаў Пархута напісаў «Адысею Маладога Дзядка». Ён бачыўся з Янкам Купалам. З ім ліставаўся Міхась Забэйда-Суміцкі. З ім сябравалі Зоська Верас, Рыгор Шырма, Генадзь Цітовіч. Ён гатовы быў сябраваць з цэлым светам людзей.

Дзядзьку Сяргея, які любіў жартаваць, цікава было слухаць. Па просьбе таго ці іншага госця выконваў свае песні і рамансы. Дарэчы, яго спеўныя творы ў канцы 80-х–пачатку 90-х гадоў усё часцей гучалі ў канцэртных праграмах. Постаць змагара і пакутніка ўсё больш вабіла людзей. Перыёдыка і радыё апавядалі пра яго, нярэдка друкаваліся вершы, песні, успаміны. Ён дачакаўся выхаду ў свет кнігі «Песні з-за кратаў». «Тэатральная Беларусь» надрукавала ягоны пераклад пушкінскай «Русалкі». Праявы людской увагі і падтрымкі жывілі збалелае сэрца. Сілкавалі душу і тады, калі нітачка жыцця ўсё больш танчэла. Сяргей Міхайлавіч, як дзіця, радаваўся кожным выступленнем у прэсе, кожным лістом, тэлефанаваннем, сустрэчамі з сябрамі і добрымі людзьмі. Пры сустрэчы пра ўсё распавядаў, зачытваў, да прыкладу, водгукі на яго зборнік і прачулыя лісты М. Танка, Н. Гілевіча, П. Пруднікава, М. Дуксы.

Помніцца творчая вечарына С. Новіка-Пяюна, якую ў сталічным Доме літаратара арганізавала клапатлівая Ірына Марачкіна і якую правяла абаяльная Галіна Дзягілева. Быў аншлаг. Гучала жыццярадасная музыка, спяваліся песні, рамансы, гімны.

Пазней тут праходзіла грамадзянская паніхіда. З удзелам дэпутата Зянона Пазьняка. Гучала жалобная музыка. За труною стаяў бел-чырвона-белы сцяг.

Цела шматпакутніка вярнулася ў Лявонавічы — да роднае зямлі. А душа песняра працягвае служыць Бацькаўшчыне. Сучаснікам і нашчадкам засталіся творы паэта, самадзейнага кампазітара, мастака — скарбы яго сэрца і памяці.

* *

Наведваючы Сяргея Міхайлавіча дома і размаўляючы з ім, я дзівіўся: чаму ён пазбягае размоў пра перажытае ім? Мяне ледзь не абурала тое, што ён амаль за 30 гадоў пасля трэцяга зняволення не даверыў чыстым аркушам паперы свае роздумы пра пекла зямнога жыцця. «Дзе раман, альбо аповесць, альбо хоць бы цыкл апавяданняў пакутніка? — задаваў я сабе пытанне. — Сам не можа, то няхай бы распавёў камусьці з вядомых пісьменнікаў!» Карцела дайсці да ісціны: няўжо ён настолькі зламаны ўдарамі лёсу, несправядлівасцю, людской жорсткасцю?..

Толькі пасля смерці Сяргея Міхайлавіча я даведаўся, што «чужымі» выраслі дзве ягоныя дачкі; адна, старэйшая, жыве ў Польшчы, другая — у Санкт-Пецярбургу. Раслі яны з бабуляй, якая ва ўсіх бедах сям'і, кажуць, вінавaціла якраз яго: маўляў, дзеля палітыкі ахвяраваў усім... І выхавала ў сэрцах дзяўчынак калі не варожасць, то абыякавасць у адносінах да бацькі. Значыць, трагедыя, звязаная з гібеллю жонкі і сына, паглыбілася, і вырвацца з яе не мог ён да скону, заставаўся сам-насам. А няхай бы расказаў пра гэта чытачам ці проста добрым людзям — і цяжар хоць крыху палягчэў бы.

1996, травень, 2006, ліпень

## НАСТАЎНІК

Ён часта паўстае ў маёй памяці, інтэлектуальна абаяльны, Уладзімір Андрэевіч Калеснік, рэдкасна-цэльная асоба, аўтарытэтны педагог-прафесар, чый гарманічны талент амаль 40 гадоў нёс нязменную вахту на кафедры беларускае літаратуры ў Брэсцкім пединстытуце (цяпер універсітэт), мой незабыўны інстытуцкі і літаратурны настаўнік. Крытык, класік нацыянальнага літаратуразнаўства, празаік, чые творы — эсэ, літаратурныя партрэты, эцюды, успаміны, прадмовы да выданняў — надзвычай цікавыя і карысныя як студэнту, так і навукоўцу, і краязнаўцу, проста інтэлігентнаму чалавеку, прагнаму пазнання і хараства. Вядома ж, гэта быў шчодры дарунак лёсу — адчуць гарачае няўрымслівае сэрца выкладчыка, улюбёнага ў Беларусь, яе прыроду, народ, мову, наблізіцца да яго магутнага філасофска-філалагічнага поля, цудадзейнае эрудыцыі, інтэлекту. Уладзімір Андрэевіч... Уладзімір Калеснік... Строгасць і лагода чуліся мне (яшчэ да сустрэчы і знаёмства з ім) у гукапісе імя і прозвішча, нетаропкасць і разважнасць у іх рытмічнай мелодыцы. А прозвішча падказвала, што род ягоны пайшоў ад майстравітага вяскоўца... І калі цёплаю верасnёўскаю раніцай (ішоў 1959 год) перад намі, шчаслівымі першакурснікамі, з'явілася ладная і самавітая постаць выкладчыка ў светлым касцюме, у чыстай выпрасаванай кашулі, каўнер якой быў аптымістычна-разняволена і акуратна выкладзены на пінжак, у мяне ў грудзях пагарачэла: гэта — ЁН! Мы ўсе ведалі: Калеснік будзе нашым куратарам, што азначае ў перакладзе з лацінскае мовы — апекуном.

Пачалося знаёмства. Уладзімір Андрэевіч у кожнага з нас распытваў, адкуль родам, з якой сям'і, чаму абралі педагагічную

сцяжыну. Быў ён дужа ўважлівы, карыя пранікнёныя вочы, здавалася, бачылі ўсё, што ў тваім сэрцы, голас гучаў прыцішана ва ўнісон з цішынёю ў аўдыторыі і адметна-меладычна, як бы апраўдваючы рытміку імя і прозвішча. Ва ўдумлівым настаўніку адчувалася вялікая інтэлектуальная прастора, духоўная вышыня, запас трываласці. Першыя ўражанні не падманулі. Тое, чым была прасякнута яго педагагічная дзейнасць і чым магічна ён уздзейнічаў на моладзь, называлася нацыянальнай ідэяй; ён з'яўляўся яе непахісным носьбітам і самаадданым праваднікам. Дасканала ім прамаўляліся лекцыі і праводзіліся заняткі па старажытнай беларускай літаратуры, фальклёры, гісторыі эстэтычных вучэнняў і нарматыўнай эстэтыкі. Але не толькі чытаючы названыя курсы, асветнік-гуманіст абуджаў у нас пачуццё годнасці, любоў да літаратурна-мастацкай спадчыны Бацькаўшчыны, да яе мудрых і мужных сыноў і дачок, дэманстраваў сваю грамадзянскую пазіцыю і свой здаровы эстэтычны густ — ён усяго гэтага бліскуча дасягаў і на занятках па выразным чытанні. Была добрая дэмакратычная завядзёнка: нам даваліся заданні выбіраць самастойна і завучваць упадабаныя вершы. Ды ў паэзіі мы арыентаваліся слабавата. Яна пасля развенчанага культу Сталіна набывала зусім іншы, якасна новы характар, а студэнты натраплялі ў старых выданнях на творы ідэйна прычасаныя, гладкія, нізкапробныя. Выкладчык ім ацэнкі даваў адпаведныя: «Тарабаршчына!», «Безгустоўшчына!». Знянацку пачуць такое — што зняць тону гразі з душы. Нарэшце ў ход пайшлі шэдэўры Багдановіча, класічныя творы Коласа і Купалы, вершы нашых сучаснікаў — Караткевіча, Вярцінскага, Барадуліна...Настойліва і эфектыўна Уладзімір Андрэевіч дамагаўся ад будучых педагогаў выразнага вымаўлення. Заўвагі ягоныя былі дасціпныя, звычайна калючыя і заўсёды вобразныя. Студэнту Ц., паслухаўшы яго надта ціхае і запаволенае, няўпэўненае дэкламаванне, ён казаў: «Ну што ты воз, поўны сена, цягнеш па калдобінах!..» А студэнту Н., калі той сябе моцна біў у грудзі вершаванымі словамі «Советская Отчизна, родная наша мать...» заўвага адрасавалася сціслая і абсалютна зразумелая:

«На паўтона ніжэй!». На занятках па выразным чытанні мы пачулі пра такія смешныя недахопы ў вымаўленні, як «поўны рот кашы», «гундосіць, як панамар», ды іншыя. Педагог высокага прафесійнага рангу добра ведаў красу мастацкага слова, не прамямленага, а прамоўленага хораша, з пачуццём меры. Але галоўны ў яго быў клопат пра нацыянальную свядомасць будучых педагогаў і педагагіняў (іх, дарэчы, у групе была абсалютная бальшыня). Аднойчы, на чарговых занятках, высветлілася: мала хто ведае пра паэта Валянціна Таўлая, і куратар звярнуўся да дзяўчат: «О, галубіцы іарданскія, калі б такога паэта займелі грузіны, альбо ўзбекі, альбо яўрэі, як бы яны яго шанавалі!..» Абуджаліся юныя душы ад сну, спакваля фармавалася ў іх беларуская свядомасць, — прысутнасць Калесніка азначала ўплыў. Нездарма за ім і за літаратарамі, якіх кожны тыдзень ён склікаў у рэдакцыі абласной газеты для чытання і абмеркавання новых твораў, сачылі надта пільныя органы, падсылалі на паседжанні літаб'яднання завербаванага «шпіка» ў ролі пачынаючага паэта... Уладзімір Калеснік нястомна сілкаваў душы людзей, уздымаў іх, як сонца ўздымае ўсё жывое, даваў магчымасць адрываць вочы ад жыцейскіх клопатаў і пераносіцца ў высокі свет духоўнасці, мудрасці, хараства. І да студэнтаў, і да маладых і пачынаючых пісьменнікаў на сустрэчу запрашаў са сталіцы знакамітых творцаў: Васіля Быкава, Янку Брыля, Максіма Танка, Уладзіміра Караткевіча ды іншых, ладзіў дыспуты па іх новых творах.

Яго заклапочанасці і дабрыні не было мяжы. Не магу абмінуць вядомы ў колах творчай інтэлігенцыі факт: калі Алесь Разанаў за збор подпісаў ў абарону роднай мовы быў выключаны з Белдзяржуніверсітэта, ён паратунак знайшоў у Берасці, а менавіта — у КАЛЕСНІКА, з чыёй думкай лічылася ўплывовае начальства. Дзякуючы Уладзіміру Андрэевічу Алесь прадоўжыў вучобу ў Берасці. Як ён сам кажа, «літаральна на наступны дзень я ўжо меў месца ў студэнцкім інтэрнаце, а яшчэ праз нейкі час, пэўна, пасля ўзаемаўзгаднення інстанцый, і ў самім інстытуце». Любіў куратар сваіх студэнтаў, клапаціўся, каб мы зараблялі стыпендыі, і неяк па-бацькоўску аберагаў нас.

Калі я быў апынуўся ў абласной больніцы, на другі ж дзень мой аднагрупнік Сярожа Сайко прынёс ад Уладзіміра Андрэевіча крыху грошай, каб я мог у буфеце што-небудзь прыкупляць. Забягаючы наперад, скажу і пра такі факт: аднойчы, будучы ўжо жыхаром сталіцы (было гэта ў 1991 годзе), я нечакана сустрэў у цэнтры горада Уладзіміра Калесніка і пасля нашай цёплай кароткай гамонкі сказаў, што еду праведаць Міхася Рудкоўскага ў шпіталь, дзе ён ляжаў пасля анкалагічнае аперацыі). Уладзімір Андрэевіч даў мне 25 рублёў — на каларыйныя прадукты Міхасю. Я накупляў за тыя грошы розных прысмакаў, у тым ліку і чорнай ікры, і завёз нашаму сябру. Ён быў у цяжкім стане, але высакароднасць Калесніка яго парадавала і падбадзёрыла... Можна прыводзіць безліч прыкладаў, якія сведчаць пра неад’емную рысу характару Калесніка — чалавекалюбства.

Я развітваўся з Берасцем у 1972 годзе. На развітальным вечары, які адбыўся па ініцыятыве Уладзіміра Андрэевіча і сябрыны найбольш актыўных тады літаратараў, ён, кіраўнік літаб’яднання, адчуў маё хваляванне, калі наблізіўся час майго ад’езду, падышоў да мяне, абняў рукою за плячо і пастараўся лагодна-жартаўлівым голасам супакоіць: «Ну, што ты, не хвалюйся. Будзеш у Мінску тузом, а мы будзем прыязджаць да цябе...» У сталіцы ўтварылася выдавецтва «Мастацкая літаратура», куды я (пасля пасады літкансультанта ў «Знамени юности») быў прыняты М.Г. Ткачовым у аддзел, якім кіравала А.С. Васілевіч. З Берасцейшчынай сувязі не парываліся. Ездзіў на радзіму, праведваў берасцейскіх літаратараў, і ў Менску сустракаў паэтаў-землякоў. Ліставаліся. Уладзіміра Андрэевіча стараўся залішне не турбаваць, але раз-два на год пасылаў лісток ці паштоўку разам з новымі вершамі. Ад яго атрымліваў лісты, поўныя ўвагі і цеплыні. Не ведаю, дзе бралася цярпенне, каб дэталёва разглядаць кожны верш. Лепшае з дасланага ён друкаваў у абласной «Зары». Са мной настаўнік дзяліўся сваімі клопатамі, планамі. Радкі з ліста (20.12.73): «Выслаў я нарэшце рукапіс кніжкі артыкулаў, набралася 470 стар. машынкі, прыкладна трэцяя частка гэтага матэрыялу — яшчэ сырэц. Над ім

думаю працаваць, пачынаючы з другой палавіны студзеня і аж да завяршэння справы. Цяпер сяджу над раздзелам да нашай агульнай кнігі (гаворка — пра кнігу «Я з вогненнай вёскі...» — В.Ж.). Трэба яшчэ будзе парабіць здымкі. Работы — процьма, а з сіл ужо выбіўся. Дажыць бы да Новага года, а там, можа, лягчэй пойдуць справы». Перарываю таропкія радкі ліста, якія мне нагадалі лінію высокага напружання, каб звярнуць увагу чытача: у лісце гаворыць творца, але маўчыць выкладчык установы, дзе яму штодня быў забяспечаны фронт асноўных абавязкаў. Тут была перадавая, дзе ішло змаганне за годнасць новых і новых пакаленняў настаўнікаў. Пры гэтым прывычна цягнуўся воз грамадскіх нагрузак, такіх, як кіраванне літаб'яднаннем Берасцейшчыны. Далейшыя радкі з ліста акурат і выяўляюць яго жывую заклапочанасць лёсамі літаратараў. Найперш — горкай долечкай Ніны Мацяш (пасля катастрофы, у якой загінула сястра Люба, яна, пакалечаная, трапіла ў шпіталь у Бярозе): «Ніна папраўляецца, але канчатковае выздараўленне яшчэ не скора, праляжыць некалькі месяцаў. Цяпер, натуральна, яна сябе вельмі блага адчувае маральна, хочацца нейкіх звестак са знешняга свету, ад людзей. І не ведаю, як туды выбрацца, столькі тут работы. Трэба напісаць хоць ліста, як казаў нябожчык Засім». Далей — пра новую аповесць С. Курылёвай, а яшчэ — добры водгук на публікацыю маіх і М. Рудкоўскага вершаў у «Полымі». А ў канцы — «прывет усім сябрам і знаёмым, а тваёй шэфіні і Палтаран — персанальна». Ён заўсёды быў гатовы сустракацца, сябраваць сем'ямі, пра што красамоўна сведчаць такія канцоўкі лістоў: «Прывітанне тваёй гаспадыні. Будзеце ў Брэсце — заходзьце як дахаты»; «Рады будзем бачыць Цябе і Тваіх у нашай хаце»; «Бывай, не забывай, заходзь...» І асобна, і разам з жонкаю, і з сябрамі заходзіў у яго гасцінную кватэру. Пабываў мой Настаўнік і ў мяне — разам з Алесем Каско і Уладзімірам Ягоўдзікам: дарагія мне пісьменнікі віншавалі мяне з першым юбілеем.

Уладзімір Калеснік да апошніх дзён сваіх заставаўся па-грамадзянску актыўнаю асобаю. Як змагар за нацыянальнае

адраджэнне Беларусі ён не мог не радавацца дэмакратызацыі і яе вынікам (хоць бы адменай цэнзуры, ідэалагічнага нагляду). У той жа час абурала дэградацыя высокіх кіраўнікоў, партыйных функцыянераў. Яго не пакідала мудрая разважлівасць. Напачатку складаных дзевяностых з'явілася яго смелае выказванне пра выбары: «Не камуністаў, не дэмакратаў трэба выбіраць, а свядомых, тых, хто за Беларусь».

Пры ўдумліва-крытычным паглядзе на рэчаіснасць яму, нястомнаму духоўнаму лідару, карцела бачыць станоўчае і нават нешта ідэальнае ў суайчынніках, у сем'ях, найперш — у сваіх былых вучнях. І ён знаходзіў элемент ідэальнага, словам педагога падтрымліваў і заахвочваў яго. У адным з віншавальных лістоў на мой адрас ён заўважыў: «Прыемна ўспамінаюць студэнты сустрэчу з Табою, Твае вершы і запаветы. Я рады, што табе ўдалося не толькі захаваць творчы плацдарм у сталіцы, але стварыць у сваёй хаце культ беларускага слова, звычаю, духоўнай культуры... Шчасця Тваёй хаце. Ул. Калеснік». Над усім тэкстам датаванне: 31.12.1987, Брэст.

Шаную памяць, берагу лісты і кнігі з аўтографамі непараўнальнага Настаўніка. У аўтографах нямала завышаных эпітэтаў, азначэнняў. А на тытульнай старонцы «Зорнага спеву» —так коратка, светла і ахоўна: «Васілю Жуковічу —паэту ў жыцці і ў слове. Будзь сабою!»

Уладзімір Калеснік плённа працаваў у літаратуры. Яго творчасць клікала і кліча сёння ў свет мудрасці і хараства прадвесніка беларускага рэнесансу Францішка Скарыны і легендарнага аўтара «Песні пра зубра» Міколы Гусоўскага, у свет паэта-змагара, «духоўнага важака народа, вартавога спадчыны» — Янкі Купалы, казачніка Рэдкага, іскрыстай і ўдумлівай прозы Янкі Брыля, у свет паэзіі рамантычнага Уладзіміра Жылкі, вольналюбівага Уладзіміра Караткевіча, ворага ўсякай артадоксіі, усякай руціны, у свет цудоўнай, размаітай паэзіі Ніны Мацяш, Міхася Рудкоўскага, Алеся Разанава, Алеся Каско...

Валодаючы вялікім дарам мастака-мысляра, ён быў тытанічна працаздольны. Так, перш чым стварыць духоўную постаць Францішка Скарыны, ён прачытаў усю Біблію.

Некалькі апошніх гадоў пісьменнік цяжка хварэў, але працаваў над галоўнай кнігаю свайго жыцця — «Доўг памяці». Яна — яркая і праўдзівая. Скажам, яе галоўны герой паўстае супраць групы дэсантнікаў, якія разлагаліся маральна і былі на мяжы злачынства, адкрыта выступае з суровай крытыкай подлага кар'ерыста камбрыга Ключко. У кнізе У.А. Калеснік пашанотна сплачвае доўг бацькам, сваім настаўнікам, сялянам-працаўнікам, каханай дзяўчыне, юнакам і дзяўчатам, якія ў пекле вайны баранілі Бацькаўшчыну і гінулі за яе.

Уладзімір Андрэевіч да апошняга дня заставаўся Чалавекам з вялікай літары, вельмі ўважлівым да блізкіх, чулым, чалавечным. Як успамінала яго ўдава Зося Міхайлаўна, «жыццё з ім было цікавым і насычаным, да таго ж ён быў вельмі апякунчы...» Яна «за яго плячыма адчувала сябе бяспечнай і шчаслівай». Ужо і безнадзейна хворы, ён хваляваўся за жонку, пытаўся: «Зося, як ты будзеш жыць адна?» Яшчэ распавядала яна пра яго развітальна-суцяшальную запіску, знойдзеную сярод занатовак, зробленых на шпітальным ложку: «Мілая Зося! Дажывай спакойна. Я люблю Цябе. І буду любіць, трапіўшы ў пекла, буду радавацца, што Ты недзе ў раю, па заслугах, і няма Табе роўных». Што чулася з вуснаў Зосі Міхайлаўны, з добрым хваляваннем прачыталася ў яе ўспамінах. Да вышэйсказанага хораша дапасуецца яе сказ, узяты быццам з фіналу лірычнага рамана: «Я яго вельмі кахала і, думаю, ён мяне таксама, таму, можа, добры Бог дазволіць нам сустрэцца ў лепшым свеце і быць назаўсёды разам».

2006

## УЛАДЗІМІР КАЛЕСНІК: «ДОЎГ ПАМЯЦІ»

Тое, што Уладзімір Калеснік — выдатны педагог, прафесар, відны пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, аўтар глыбокіх літаратуразнаўчых кніг, адметнай мастацка-дакументальнай прозы, яркай і часта вострай крытыкі і публіцыстыкі, і мужны абаронца Бацькаўшчыны (ён быў актыўны ўдзельнік партызанскай вайны супраць гітлераўцаў у 1941–1944 гадах, уганараваны высокімі ўрадавымі ўзнагародамі) — факт даволі вядомы, прынамсі ў літаратурных колах. Але мала хто ведаў, з чым сутыкнулася ўражлівая душа яго, юнага інтэлігента, у ваенным пекле, якія страты зведаў малады патрыёт, якую драму з ваеннага ліхалецця пранёс ён праз усё жыццё і якой субстанцыяй маральнай чысціні валодаў. Цяпер пра ўсё гэта і шмат што іншае могуць уведаць многія, бо ў Берасці, дзе відны прафесар і пісьменнік працаваў каля сарака год, выйшла з друку яго кніга «Доўг памяці», якая праляжала 11 гадоў пасля таго як з зямнога жыцця пайшоў яе няўрымслівы аўтар.

Яе, кнігу ўспамінаў, апантаны аўтар назваў шчырай, сумнай і балючай аповесцю. Так, гэтая проза, па-першае, не проста шчырая, а гранічна шчырая, яна — спавядальная. Па-другое, такое ж дакладнае тут вобразнае азначэнне — балючая, я сказаў бы, шчымлівая. Толькі сумнай назваць яе не магу, бо яна яскравая, жывая, у многіх эпізодах дасціпная. Гэтая аповесць мудрая. Многіх, згодна з іх маральным і духоўным узроўнем і ўчынкамі, узносіць на п’едэстал... Нездарма «Доўг памяці» знаны Янка Брыль у сваёй прадмове назваў таленавіта-змястоўнай кнігай-помнікам.

Аўтар вядзе свой расповед з бязмежнай любоўю да жыцця, да праўды, да прыроды, да хараства, і памяць яго на здзіўлен-

не чэпкая і светлая. *«Нашу вёску Сіняўскую Слабаду ўтварылі, як гаварыла паданне, выселеныя князем Радзівілам буяныя, непакорныя мужыкі, на якіх не было ніякай управы»* — такі пачатак аповесці. Адзін сказ, а як інтрыгуе! І ўжо адарвацца ад кнігі немагчыма. Сярод мноства створаных вобразаў родзічаў, вяскоўцаў, настаўнікаў, партызанаў асабліва вылучаецца самавіты, гаспадарлівы і майстравіты, а яшчэ й востры на язык бацька, патомны нёманскі плытагон. Ён выкапаў ля самай хаты свой калодзеж, для маці сам зрабіў кросны, церніцу, прасніцу, сабе — сані, барану, іншыя прылады, аднойчы нават калёсы. І вось — жывы малюнак. *«Калі бацька майстраваў, усе сямейнікі павінны былі стаяць напагатове: меншы брат Жэня трымаў лучыну, слухаў каманду куды свяціць, я падаваў у бацькаву ляўшу то цвік, то малаток, то долата, то сякеру, як хірургічная сястра».* Які ўдалы малюнак! І далей: *«Наш спартыўны азарт заключаўся ў тым, каб зарабіць як мага менш мянушак».* І зноўку — моўная смаката!

Такі ж таленавіты быў вясковы сусед Ладымер Пазняк, які *«змайстраваў сабе скрыпку адным нажом».* То ж не дзіва, што й падлетак Валодзя ад бацькі і суседа *«пераняў спрыт да майстравання»,* рабіў сабе канькі, лыжы, санкі, пеналы, а яшчэ і скрыпку.

У кнізе багата адметных эпізодаў маленства ў цудоўным Наднямонні — з гульнямі, свавольствам, з першымі страхамі, з павер’ямі, забабонамі старэйшых, з матулінымі казкамі і яе малітвамі, якія хлопчыку здаваліся «калекамі» (былі незразумелыя на стараславянскай мове), з ідэальным ласункам — мёдам дзікіх пчолаў, з сестрыною (старэйшай сястры Марусі) забаўлянкаю:

*Кую, кую пятку,*
*Мы паедзем к татку.*
*А ў нашага татка*
*Новая хатка,*
*І садок, і мядок,*
*І цыбулькі градка.*

Маленства — гэта і захапленне маляваннем ды паэтычным словам Якуба Коласа, гэта і цэлы свет гульняў, забаў і свет абавязкаў. Цяплеюць вочы ад усмешкі, калі ў яркім дыване аповеду сустрэнеш празрыстыя нітачкі-радкі такога кшталту: *«...Маёй зморай былі гусі... Пасвіць гусей мне не хацелася: вельмі ўжо непрэстыжная жыўнасць».*

А якое маленства абыходзіцца без хлапчуковых прыгодаў? Вось і тут ці мала іх было! Рукі дабіраліся да патронаў, пасеяных «мікалаеўскай» вайной. Дзеці здабывалі порах, ссыпалі ў кучку і падпальвалі, «*дзівячыся на феерверк»,* часам *«кідалі абоймы проста ў агонь»...* Як на споведзі перад святаром, у «Доўгу памяці» адбываюцца прызнанні ва ўсіх грахах. Аднаго разу Валодзька навёў сябрукоў на зялёны, смачны гарох, які дарэшты быў златошаны. А на Марусіным вяселлі ён, калі «поезд» паехаў у царкву ў Ярэмічы, а маці на кухні шыкавала з жанчынамі стравы, *«ціхачом пазваў сябрукоў у святліцу і добра падпаіў іх гарэлкай, што засталася на сталах ад ранішняга стрыманага прысяду вясельнай дружыны. Маці проста аслупянела, убачыўшы застолле падшыванцаў...* Уражлівая, эмацыйная маці ўшчувала: *«Ну вот, як ікону за сястрою ў царкву павезці, то цябе не ўпросіш, саромеецца ён, бачыце, малы. А як да гарэлкі дарвацца, то не малы, каб ты напіўся смалы! Даруй, Божа, — грэх гэто ж на сваё дзіцятко гаварыць так...».*

*«Да гарэлкі,* — прызнаецца лірычны герой аповесці, — *я больш не дакрануўся... Не ўжываў я хмяльнога ажно да цяжкіх партызанскіх стрэсаў...»*

Працэс навучання і выхавання ў пачатковай школе ў Ярэмічах аздабляў прапаведнік «Закону Божага», арыгінальны і дабрадушны святар Віталій, чый вобраз добра запамінаецца. Западае ў душу настаўніца гімназіі пані Марыя Яфімка, што чытала ў класе творы беларускіх класікаў. Там, у Наваградскай польскай гімназіі, хлопчык з Сіняўскае Слабады станавіўся свядомым беларускім юнаком, акрылены марай настаўнічаць. Новай прыступкаю ведаў сталася беларускае педвучылішча ў Наваградку. Ды радасць мірнага жыцця, вучобы, сяброўства абарвалася

вайною. Пачалася арганізацыя падполля, а там і партызанскае змаганне з ворагам. Юны інтэлігент прайшоў суровую школу кулямётчыка, мінёра-падрыўніка, камандзіра ўзвода і начальніка штаба атрада, зведаў жахі блакады і страты баявых сяброў. Быў двойчы паранены.

Аповесць цікавая і моцная не фабулай (строгае фабулы тут якраз і няма) — яна ўзрушае глыбокімі пачуццямі і думкамі аўтара, багатая развагамі (часта філасофскага характару) пра жыццё і смерць, пра сусвет і рэлігію, пра чалавечую годнасць, пра кнігі, карціны, пра хараство і каханне. Як рыба ў вадзе, пісьменнік пачуваецца ў фальклёры, міфалогіі, біблії, у тым цудоўным космасе, з нетраў якога нярэдка бярэ зорныя перлы, якімі ўмела аздабляе свой шматпланавы твор.

Абсалютная бальшыня старонак кнігі прысвечана партызанскай вайне, расповеду пра ўдзел у ёй маладых патрыётаў, іх мужнасць і самаахвярнасць. Але адораная душа і тут, у хвіліны часовага зацішша, не можа не думаць пра хараство, не захапляцца ім. Услухаемся ў такую рэдкасную мелодыю: *«Не траплялася мне чытаць пра паэзію ціхай язды ў зімовую ноч, калі здаецца, што не сані едуць па аснежанай зямлі, а конь цягне чарадзейны смык па струнах вялізнай скрыпкі, выводзіць смутныя гукі, і табе чуюцца жураўліныя вырај ў небе пад зорамі...».*

Як бы па спіралі ідзе, развіваецца думка пра хараство прыроды: *«Палюбілася, бясконца палюбілася хараство ранішніх і вячэрніх зораў. Хацелася запомніць дзіўныя рамантычна-таямнічыя карціны Наднямоння»; «Любаванне хараством, здольнасць адчуваць, выпрацаваную даўно, яшчэ ў гімназіі, браць асалоду ад жывых колераў, нюансаў, адценняў і ад жывых пейзажаў, хараства травы, кветак, люстраных азёр, бруістых водаў Нёмана — усё гэта ў партызанах успрымалася як адпушчэнне віны...»; «Адкуль бярэцца ў прыродзе, у гэтым ціхім пейзажы такая магічная сіла?»; «Я любаваўся няўлоўнымі пераходамі колераў на небе і на зямлі, сачыў за містэрыяй усходу, хацелася запамятаць самы дзівосны момант, калі белы, як малако, туман румяніцца, ружавее, наліваецца святлом і коле-*

*рам, становіцца паўпразрыстым і пачынае прыадкрываць таямнічыя сілуэты дрэў... Сціплыя прастакаватыя вольхі цяпер стаялі, як прынцэсы, прыбраныя на вяселле...»; «...недзе ў глыбінях душы зараджаўся шчымлівы страх, боль і горыч, што ўсё гэта пройдзе, і нельга, не ўдасца схапіць яго і запамятаць да драбніц. Імгненні хараства няўлоўныя, недасяжныя, хімерныя, як хвалі — набягаюць і прабягаюць...»; «Дзіўнае спалучэнне чырвані, золата і густой цёмнай зеляніны, што пераходзіла ў фіялет, было такім несамавіта прыгожым, што хацелася выкрыкам спыніць яго рух, пакінуць, каб наглядзецца, насаладзіць душу і быць гатовым памерці».*

Цяпер зразумела, чаму пры ўсёй перагружанасці педагагічнай, навуковай і літаратурнай творчасцю Уладзімір Калеснік не мог абысціся без мастакоўскага пэндзля, разца і фотаапарата.

Кнігу «Доўг памяці», як сведчыць надпіс на тытульнай старонцы, аўтар прысвяціў Зіне Маслоўскай. Хто яна? Адным словам не адкажаш. Зіна Маслоўская — яго ні з чым непараўнанае Сяброўства, бо яно перарасло ў светлае і чыстае, святое пачуццё, яго Каханне. Яна ж — і горкая, пякучая страта, сардэчны боль, драма юнацтва і ўсяго жыцця: Зіна загінула, трапіўшы ў рукі ворагаў. Натуральна, самыя трапяткія старонкі аповесці — пра яе, не выключэнне — і дзве апошнія. *«Усе амаль пяцьдзесят гадоў, што прайшлі ад майго знаёмства з Зінай Маслоўскай,* — не ўтойвае аўтар, — *былі пазначаны яе прысутнасцю... Зіна часта была маральным сторажам маіх паводзін, без якога я не здолеў бы так многа працаваць, не адчуваў бы сябе чалавекам, якому трэба многа, многа пазнаць, каб унесці хоць крупінку ў сусветную дзею. І калі тое, што я напісаў, здолее выклікаць у чытача адчуванне горкай яснасці, абудзіць захопленасць Зінай, яе духоўным хараством, для мяне гэта будзе знакам адпушчэння».*

І яшчэ просяцца да чытача радкі з эпілогу: *«Чым вастрэй было адчуванне пагрозы жыццю, адчуванне небяспекі, тым бліжэй я адчуваў сябе да Зіны, і спакайней станавілася ў мяне на душы, суцішалася маё сумленне, я быў нават шчаслівы, што*

*магу гаварыць у думках з ёю як роўны з роўнай, з маёй бясконца роднаю Зінай.*

*І колькі я ні гаварыў з ёю, ніколі не чуў ад яе такога натуральнага ў тыя гады закліку ці наказу адпомсціць за яе пакуты. Яна з'яўлялася мне такою, якою я ўбачыў яе ў сне тады, 31 ліпеня 1942-га на лясным прывале: у белай сукенцы з крыллямі вэлюма, з таямнічай усмешкай на вуснах. ...Мая свядомасць ніколі не магла згадзіцца з тым, што Зіны няма і не будзе. Як можа не быць яе душы ў гэтым мірным свеце? ...Свет, які пачынаўся за рысаю вайны і перамогі, мне цяжка было бачыць без Зіны. У гэтым жаданым свеце яна была б святлом, цяплом, маім збавеннем.*

*Не ведаю, ці можна жыць за сябе і за тых, хто загінуў. Толькі ясна, што без іх мы, ацалелыя, жывём і павінны жыць інакш, чым жылі б з імі, — не так вольна, не так бяспечна і самаўпэўнена. Мы жывём пад двайным позіркам уласнага і іхняга сумлення, жывём з адчуваннем доўгу, якога не ў сілах, не ў стане да смерці сплаціць, бо доўг гэты — іх жыццё. Нават самым узорным уласным жыццём іхніх жыццяў на гэтым свеце не заменіш. Не ўквеціш гэтага свету так, як бы ўквецілі і ўзбагацілі яны».*

Разумею, чаму ў сваіх снах працягваю здаваць экзамен свайму незабыўнаму Настаўніку, інстытуцкаму і літаратурнаму. Яго духоўная вышыня і маральная чысціня застаюцца ці не асноўным арыенцірам. Прынамсі часта адчуваю позірк Яго сумлення.

2005

## У ВЯНОК ПАМЯЦІ

На світанні 19 снежня супынілася сэрца знакамітай Ніны Мацяш, асветніцы, паэткі, чые глыбока чалавечныя, пранікнёныя творы сталі праграмнымі. Белаазёрск, дзе жыла і стварала сябе Ніна Язэпаўна, а з ім разам уся Берасцейшчына, сталіца, — планета людзей, улюбёных у творчасць чарадзейкі слова, правялі яе 20 снежня ў апошні шлях.

Ніна-Ніначка! Звяртаюся да Цябе як да жывой. Не толькі таму што ў маёй памяці Ты напэўна самая жывая з усіх жывых (і не таму што зусім нядаўна, 17 снежня, мы сустрэліся, выступалі ў Белаазёрску ў каледжы, дзе было так утульна; развіталіся ж увечары, здавалася, ненадоўга), а й таму што душа несмяротная, неўміручае тое, што здзейснена магутным талентам, красою паэзіі. Дар гармоніі, пра які так дасканала сцвярджаў Уладзімір Калеснік, быў дадзены Табе Усявышнім. Успамінаецца пушкінскае: «Душа в заветной лире...».

На зямлі ж ніхто не вечны. Чалавек нарадзіўся — над ім існуе пагроза смерці. Вось і Ты, Ніначка, адчула яе ледзяное дыханне яшчэ 35 гадоў таму, калі апынулася ў аўтааварыі, дзе загінула сястра Люба. Ты з цяжкай траўмай доўга ляжала ў шпіталі: косць зрасталася марудна. Тое выпрабаванне лёсу, як і ўсе далейшыя яго ўдары, перажывала з уласцівай мужнасцю і годнасцю.

Цяпер падумалася: які ні суровы, жорсткі лёс Твой, але тады, у галалёд, калі загінула сястра Люба, ён збярог Цябе, маладую, для прыгожага пісьменства, для Бацькаўшчыны, каб напоўніцу разгарнула шматабяцальны свой талент. І 35 гадоў-імгненняў скарыстаны найлепшым чынам: нішто не пушчана на ве-

цер. Яскравы прыродны талент і сялянская працавітасць далі каласальны плён — амаль 40 кніжак. За вячэрай памінальнай Твая верная сяброўка, навукоўца і выкладчыца Марыя Новік назвала Цябе, амаль усё жыццё прыкутую да вазка інваліднага, самай рухомай, самай рухавай, трапна заўважыла, што Твае слабенькія ручкі тварылі цуды. А збалелае сэрца клапацілася не пра сябе — пра людзей. Так, Ніначка, так яно і было. У бліжэйшыя дні збіралася паспачуваць паслу Украіны ў Беларусі Ігару Ліхавому, у якога заўчасна памёр брат, даперакласці вершы валынянкі Ніны Горык, а 19 снежня павіншаваць з юбілеем Валерыя Стралко. Але святочнай раніцай не прачнулася. Ты любіла людзей самаахвярна. Адну з кніжак так і назвала: «Я вас люблю». Твая любоў — узаемная. Я не раз у Белаазёрску быў сведкам людскога паломніцтва: Ты сталася нацыянальнаю Меккай. Вось і на апошнюю сустрэчу-развітанне з Тваім абаяльным чалавечым вобразам з’ехаліся і сышліся з Берасцейшчыны і сталіцы, высыпалі з кватэр белаазёрцы. Людзі запоўнілі Палац культуры, засыпаючы Цябе ружамі, гваздзікамі, хрызантэмамі, пасля — царкву, дзе атулялі Цябе сэрцамі агеньчыкаў запаленых свечак, слухалі малітвы неардынарнага святара Ігара, яго мудрыя і праніклівыя словы пра Цябе, потым абкружылі труну на новых могілках, дзе Ты адышла ў свае цёмныя ночы, каб вярнуцца ў вечнае святло...

Прафесар з Берасця Генадзь Праневіч за той горкаю вячэрай, дзе таксама было людна, назваў Цябе святою, роўнаапостальнаю Нінай за Тваю падобную на апостальскую дзейнасць на зямлі. Ты ўвайшла ў кагорту Багдановіча, Арсеневай, Генію ш. Пра Тваю непараўнальна высокую постаць і цудадзейна-гаючы ўплыў на душы людзей красамоўна выказваліся У. Някляеў і А. Вярцінскі, Г. Скарына і С. Варонік, А. Хатэнка і М. Скобла, М. Пракаповіч і В. Стралко, М. Жуковіч і У. Васілевіч і яшчэ многія-многія-многія. Кампазітар з Янава В. Перапёлкін, Твой і мой сябра, рускі па нацыянальнасці, прызнаўся, што дзякуючы Табе сталася для яго любімаю беларуская мова, з якою ніколі не расстаецца.

Верыцца ў тое, што Тваё імя атрымаюць вуліца, бібліятэка, музей. Будуць і помнікі. А найперш Ты сама стварыла помнік сваёй высокамастацкай, высокамаральнай, высокадухоўнай спадчынай.

Любая Ніначка! Слёзы развітання не замінаюць сардэчна падзякаваць Табе, што так шчодра адарыла мяне не адным дзясяткам гадоў блізкага сяброўства, яго вышэйшай ступенню. Я ніадкуль і ні ад кога не адчуў столькі святла, цеплыні, шчырае ласкі. Успамінаю, мы пазнаёміліся ў Доме творчасці Каралішчавічы ў 1967 годзе на семінары, арганізаваным Анатолем Вярцінскім. Там жа спатакаліся і пазней. Аднаго разу ад сталоўкі да асноўнага корпуса Цябе нёс на руках па заснежаным асфальце Анатоль Ільіч. Я прапанаваў падмогу, і ён даверыў мне святую жывую ношу. А я ступіў на лёд, прыцярушаны снегам, спатыкнуўся, добра, што не ўпаў, а стаў на калена і мякка прызямліў Цябе. Магла ж быць бяда! Прашу даравацьмне, калі што яшчэ было не так з майго боку за 41 год нашых узаемінаў. Так будзе бракаваць на Зямлі Твайго ласкавага голасу, позірку, Тваёй усмешкі!

Хай жа лёгкаю будзе родная зямля Твайму збалеламу целу і дарога ў царства на нябёсах — чыстай душы.

21. 12. 200 .

## ЖЫЦЬ — ЛЮБІЦЬ, ХВАЛЯВАЦЦА

1

У цэнтры беларускае сталіцы, дзе з сівое даўніны да параўнальна нядаўняга часу пульсавала рэчка Няміга, у доме, адно з вокнаў якога глядзіць на ўзноўленае Траецкае прадмесце, адвечную раку Свіслач і на адзін з праспектаў незалежнае Беларусі, жыве знакамітая пісьменніца Алена Сямёнаўна Васілевіч. Ёй, лаўрэатцы дзяржаўнай прэміі нашае краіны (1976, за кнігу аповесцяў «Пачакай, затрымайся...», заслужанай работніцы культуры (1977), 22 снежня спаўняецца 95 гадоў.

Шчодрае на гады, гадкі, гадочкі жыццё не песціла асобу, якой было наканавана праслаўляць краіну яскравым талентам. Народжаная на Случчыне, вясковая дзяўчынка напоўніцу зведала горкі хлеб сіроцтва, сказаць больш дакладна — бясхлебіцу: у сем гадоў страціла бацьку і матулю, выхоўвалася ў сваякоў — тры гады ў матчынага брата, а калі ягоную сям’ю рэпрэсавалі, дзяўчынку апекавала стрыечная сястра Аляксандра. Здатная да вучобы, Алена імкліва і настойліва спасцігала навукі. Пасля сямігодкі ў 1937 годзе паступіла ў педвучэльню ў Слуцку. Зведала і радасць студэнцтва ў ВНУ — у Рагачоўскім настаўніцкім інстытуце. Скончыла яго ў 1941 годзе. А тут грымнула вялікая вайна, прыйшоў суровы час крушэння светлых планаў, перспектыў, шчасця кахання, час непараўнальных выпрабаванняў.

У гады цяжкага ваеннага ліхалецця, апынуўшыся ў бежанстве ў Расіі, не цуралася сялянскае працы, пасля ў адным з татарскіх райцэнтраў служыла ў бібліятэцы эвакашпіталя — чытала раненым кнігі, памагала пісаць і адпраўляць

лісты. Як вольнанаёмная была старшым пісарам вайсковай часці (1942), а яшчэ — загадчыцай бібліятэкі ў шпіталі (1943, Харкаў). Усё гэта дало багаты досвед для стварэння ў будучым узрушальных высокамастацкіх твораў.

У паваенным Менску паступіла на трэці курс філфака БДУ. У беларускую літаратуру ўвайшла ў 1947 годзе: тады часопіс «Беларусь» апублікаваў аповесць «У прасторах жыцця». Яшчэ лёс яе закінуў у Курск, і толькі ў 1950 годзе яна, ужо з мужам і дачкою Наташай, вяртаецца ў Беларусь, пасяляецца ў сталіцы. Тут нараджае сына Валодзю, сямейныя клопаты сумяшчае з працаю загадчыцы аддзела культуры ў рэдакцыі «Работніцы і сялянкі» (1950–72), у выдавецтвах «Мастацкая літаратура» (1972–80) і «Юнацтва» (1980–83) ды з інтэнсіўнаю творчасцю.

2

Люблю чытаць і перачытваць Алену Васілевіч — элегічную, узнёслую, дасціпна-іранічную, — кожны раз новую і ўсё тую ж самую: трапяткую, удумлівую, духоўна багатую. Мастацкае слова яна надзяляе надзвычайнаю ўладай — яно палоніць і доўга не адпускае. Творца піша такой жывою праменнаю моваю, так шчодра насычае жыццядайнаю энергіяй свае аповесці, апавяданні, эсэ, эцюды, мастацка-крытычныя і публіцыстычныя творы, што іх заўсёды цікава чытаць, якія ні дамінавалі б у тым ці іншым творы пачуцці — мажорныя ці мінорныя — і на што б ні была настроена твая душа: на светлую ўсмешку, каларытны жарт ці на глыбокі роздум.

Чары яе мастацкага слова пачынаюцца з таго, можна сказаць, бездакорнага эстэтычнага густу, які ўсякі раз адбіваецца і праяўляецца на ўсім і ва ўсім. Здаровы густ бачыцца і ў свежасці зместу, і ў арыгінальнасці падачы жыццёвых рэалій — гісторый, характараў, канфліктаў, — і ў мастакоўскім пачуцці меры, а найперш — у саміх найменнях, якія адразу вабяць,

заварожваюць, інтрыгуюць. Вось толькі некаторыя з іх: «Пачакай, затрымайся» (тэтралогія), «Адно імгненне» і «Горкі ліпавы мёд» (кнігі выбраных апавяданняў), «Элегія» (зборнік апавяданняў, эцюдаў, эсэ), «Люблю, хвалююся — жыву» — выданне, якое склалі нататкі, эсэ, роздум; «Шолах лебядзінага крыла» — адзін з раздзелаў памянёнага выдання...» «Ты пайшоў насустрач вайне», «Марыула», «Галгофа», «Прыношу запозненыя кветкі», «Позні званок», «Рысь», «Вазіў Герынга», «Як я быў доктарам», «Бабуліны кватаранты», «Дзедаў партрэт» — гэта ўжо назвы саміх твораў, як шчымлівых, так і вясёлых. Чытаеш, учытваешся, зачытваешся — ты шчаслівы, бо вабныя найменні асобных твораў і цэлых зборнікаў не падманулі цябе, не расчаравалі, яны адарылі хваляваннем за чужыя лёсы, драмы, няўдачы, узбагацілі цудоўным дарам суперажывання, далі бліскучыя ўрокі чалавечнасці і зарад стваральнае энергіі.

Ведаю і не дзіўлюся, што да Алены Сямёнаўны імкнуліся карэспандэнты. Неяк патэлефанавалі ёй з аднаго маскоўскага часопіса: «Напішыце пра вашу творчую лабараторыю». І вось знаходжу такую залацінку: **«...у сваёй творчай «лабараторыі» я вылучыла б такі высокакаштоўны элемент, як любоў».** Арыгінальна сказана, вобразна, мудра! І натуральна, калі ўлічыць, што творы пісьменніцы народжаны менавіта ад яе вялікасці ЛЮБОВІ, пра што б яна ні распавядала свету — пра любага, які пайшоў насустрач вайне, ці пра цыганскую дзяўчынку Марыулу, якой нідзе няма належнага прытулку.

3

Любоў, чуйнасць, пачуццё справядлівасці, здольнасць хвалявацца, захапляцца (і абурацца — таксама) — якасці, без якіх не ўяўляю Алену Сямёнаўну Васілевіч ні ў літаратуры, ні ў жыцці. У ёй бачыцца мне цэльнасць асобы, гарманічнае адзінства пранікнёнай творцы і памяткой, абаяльнай, інтэлі-

гентнай жанчыны. Калі ў кароткім апавяданні «Вазіў Герынга» я натрапіў на сказ: «Вера такі чалавек, што ў яе сэрца хапае на цэлы свет...», то міжвольна падумаў, што гэтая мімалётная характарыстыка стасуецца з сутнасцю самой пісьменніцы, бо якраз такім — гранічна шчырым і шчодрым — сэрцам яе надзяліла матухна прырода. У кнізе «Люблю, хвалююся — жыву» нераўнадушная да цэлага свету аўтарка ўспамінае аднаго разу, як усхвалявана і захоплена чытаў паэтычную падборку тады яшчэ маладой, пачынаючай Еўдакіі Лось — толькі з газетнае паласы! — Рыгор Бярозкін. «Гэта было шчасце назіраць і чуць, як адзін талент радуецца і цешыцца другім талентам», — піша яна. А мы, чытачы, лёгка пераконваемся ў тым, што і сама яна здольная захапляцца поспехамі іншых. Створанае застаецца. Цікава, што творца, чыя асноўная стыхія — проза, ніколі не цуралася высокае паэзіі. З любоўю распавядала пра Ніну Мацяш, яе першы зборнічак вершаў, параўноўваючы яе паэтычны дэбют з першаю вясноваю песняй жаўранка. Яна высока цаніла талент Веры Вярбы, вітала прыход у літаратуру Леаніда Галубовіча, з цеплынёю гаварыла пра яго кніжку «Таемнасць агню» і з клопатам пра далейшы лёс. Яе дужа ўзрадавала ў свой час з'яўленне паэзіі Міхася Стральцова, раней вядомага на ніве прозы ды эсэістыкі. З уласцівай ёй спавядальнасцю сказала пра часіны, калі ўзнікае «неадольная патрэба акрапіць уласную сасмяглую душу жывой вадою чужога радка». І вось яны, чужыя, але ж такія зразумелыя, такія блізкія радкі:

Цень, цень, сініца! Добры дзень!
Жывеш? Сваім званочкам чыстым
Зімовым ранкам прамяністым
І абудзі, і абнадзей!

«Мне таксама неабходна гэта, — піша Алена Васілевіч, — каб сініца Міхася Стральцова зімовым ранкам з паэтычнымі радкамі прынесла абуджэнне і надзею. Мне неабходна гэта паэзія». Яе акрыляе музыка слова, краса мастацтва. У ліку яе

любімых была і засталася Жэня Янішчыц, і калі жыццё паэтэсы трагічна абарвалася, на гэтую цяжкую страту сама адказала вершам.

У вышэйназванай кнізе памяткая Алена Васілевіч надрукавала гранічна шчырыя ўспаміны пра Якуба Коласа, Янку Маўра, Івана Мележа, Яна Скрыгана, іншых вядомых пісьменнікаў. Тут жа ёсць і такія палярныя сваім зместам дзве рэчы: «Тварыць словам» і «Разбурэнне словам», асабліва карысныя пачынаючым і маладым літаратарам. У першым выпадку, гаворачы пра аповесць малавядомага Міхася Клебановіча «Іван Аляксеевіч», аўтарка любуецца «феерыяй адценняў у моўным запасе», дынамікай і пластычнай зграбнасцю, а ў другім — вымушана казаць пра непераборлівы густ і эстэтычную глухату, калі вядомы рэцэнзент ці часопісны рэдактар блаславўляе ў друк слабыя творы вядомых літаратараў... Такая Алена Сямёнаўна — добразычлівая і бескампрамісная, непадкупная.

Пашанцавала мне не адзін год папрацаваць акурат у той рэдакцыі выдавецтва «Мастацкая літаратура», дзе яна была загадчыцай. Тую даволі клопатную працу я называю святам. Сёння грэюць душу ўспаміны, іх багата. Нярэдка прыгадваецца, да прыкладу, як ёй удалося пераканаць начальства, што паэту Міхасю Рудкоўскаму, які жыў на перыферыі, трэба падняць мінімальную стаўку аўтарскага ганарару (да ўзроўню «сталічных аўтараў»). Учынак загадчыцы быў справядлівы і чалавечны: вершы М. Рудкоўскага, якія мы выдалі асобнаю кніжкай, адпавядаюць высокай мастацкай якасці. Выданне зборніка, адрасаванага юнацтву, прынесла аўтару добрую маральную і фінансавую падтрымку ў цяжкі для яго час, калі пасля складанае аперацыі ён страціў здароўе і працу. Дорачы той зборнік з аўтографам, Міхась парываўся мне пацалаваць руку. «Што ты, Міхаська! — сказаў я. — Не я ставіў цябе ў выдавецкі план і не я за цябе змагаўся!..»

Вядома ж, не магу забыць вялікую ласку Алены Сямёнаўны да мяне, грэшнага: як настойліва яна хадайнічала ў Саюзе пісьменнікаў, каб дапамаглі з жыллём (тады я доўгі час пражываў з

сям'ёю ў аднапакаёўцы). У выніку ў 1980 годзе я атрымаў новую кватэру, «...пасяліўся ў мікрараёне сталіцы, каля жаўранкаў і васількоў». Успамінаецца, вядома ж, цудоўны мікраклімат, які заўсёды панаваў у рэдакцыі, а разам з тым — адухоўленае аблічча мілай начальніцы, прыязны позірк яе вачэй, заўсёды маладых, бо яны — люстэрка душы.

4

Жыццё чалавека — як знічкі палёт, якое яно ні было б працяглае. Гэта мной не забываецца ніколі. Мо таму я не вельмі рэдкі госць у Васілевічаў — у Алены Сямёнаўны і Уладзіміра Аляксандравіча, вядомага фалькларыста, этнографа, перакладчыка, выдатнага складальніка многіх зборнікаў, акадэмічных выданняў, шэрагу прэстыжных кнігазбораўскіх тамоў, нядаўняга ўніверсітэцкага выкладчыка, які шмат гадоў аддаў навуцы як педагог. Аляксандравіч — так афіцыйна. Для мяне ён — Валодзя, Валодзечка, сябра з юнацкіх гадоў, якому ў свой час прысвячаў і верш, і апавяданне. У гэтай інтэлігентнай і гасціннай кампаніі заўсёды ўтульна і цёпла, ёсць пра што пагаманіць.

...22 снежня 2016 года. У разгары кароткі зімовы дзень. Кіруюся да знаёмай кватэры знаёмага дома віншаваць Алену Сямёнаўну з дзевяноста чацвёртымі ўгодкамі. Прыязна сустрэў мяне Валодзя. У вітальні двухпакаёўкі «прытуліў» маё паліто, прапанаваў цёплыя, з аўчынкі, тапачкі, а неўзабаве нёс вазу з вадою пад мае ружы. Я прайшоў у святліцу, дзе ўсё — і падлога, і стол, і кніжныя паліцы — святочна ззяла і дзе каля стала сядзела ў калясцы гаспадыня. Павіншаваў яе, мы пацалаваліся. Была яна ў цёмназялёнай аксамітавай кофце, з-пад якой выглядваў акуратна раскрылены белы каўнерык, аздоблены фабрычнымі ружовымі кветачкамі. Валодзя, як бы просячы прабачэння, сказаў, што адлучыцца хвілінаў на 20 у краму. Мы з Аленай Сямёнаўнай сядзелі поруч, гаманілі. Яна даволі жыва цікавілася маімі справамі, пыталася ў мяне пра жонку, сына, дачку, пра

ўнукаў. Я адказваў і стараўся пераводзіць гаворку на іншую хвалю. Пытаўся пра нашых агульных сяброў. Аказалася, перад маім прыходам тэлефанавала Наталля, дачка Івана Антонавіча Брыля, з якой мы працавалі ў адной рэдакцыі. Пра Наташыны навіны я пачуў: — **Разбрыліся Брылі** па свеце. Наташын брат Андрэй працуе ў Японіі. А Галін (другой Брылёвай дачкі) сын з жонкай пераехаў у Польшчу.

Я пытаўся пра ўнукаў і праўнукаў Алены Сямёнаўны. У яе тры ўнукі і пяць праўнукаў. Амаль усе яны гэтаксама ў замежжы. Праўнук Дзіма ажно ў Кітаі, выкладае англійскую мову ў інстытуце. У свой час у Бельгіі хлопец авалодаў яшчэ і кітайскаю!.. Паехаў на стажыроўку, там яго ўпадабалі і запрасілі на працу. А я ўспомніў, як некалі ён у дзіцячым садку ў Менску дэкламаваў мой верш. Такім родзічам можна ганарыцца. Шкада, яго не бачыць, не чуе Наталля, ягоная бабуля, яна так рана, так раптоўна памерла!

Нашая гамонка з Аленай Сямёнаўнай раз-пораз перарывалася тэлефоннымі віншаваннямі. Камусьці яна адказвала: «Дзякуй за добрую памяць!», камусьці: «Скажыце што-небудзь іншае...» (мабыць, ёй жадалі даўгалецця). Чарговую сумоўцу назвала: «Марыя Іосіфаўна...» Было зразумела — гэта Карпенка, колішняя кіраўніца калектыву рэдакцыі часопіса «Работніца і сялянка». На пытанне пра яе «былая» скардзілася на высокі ціск. Алена Сямёнаўна ўсміхнулася: «О, ціск — гэта фамільная з’ява!».

Пасля размовы звярнулася да мяне: «Калі я пераходзіла ў «Мастацкую літаратуру», яна паабяцала, што ў любы час магу вярнуцца».

Адбыўся яшчэ кантакт — з В. Кастручыным. «Беларускі Прышвін!» — так шчодра быў ахарактызаваны сябра нашага СБП.

Тым часам вярнуўся з крамы Валодзя, пачаў ставіць на стол пітво, стравы. У кватэру Васілевічаў завітала з кветкамі Зінаіда Пятроўна Зубкова, народная артыстка Беларусі (працуе ў Купалаўскім тэатры), чуйная суседка Васілевічаў. Атрымалася невялічкае застолле.

Дадому вяртаўся я шчаслівы, калі адкінуць класічнае: «На свете счастья нет...».

* *

Сёлета працягваліся нашыя сустрэчы і тэлефонныя размовы. І вясной, і ўлетку, і дажджліваю восенню. Мяне заўсёды прыемна здзіўляла і здзіўляе бязмежжа памяці Алены Васілевіч. Яна не толькі дэкламуе (пры нагодзе) класічныя вершы, а й памятае ўсялякія гісторыі, розныя (у тым ліку і даўнія) размовы, цікавіцца тым адметным, што адбываецца на культурным полі і што з'яўляецца ў часопісе «Дзеяслоў» ды ў газетах «Новы час» і «Народная воля». Памятаю, калі ў «Дзеяслове» надрукавалі мае пераклады вершаў В. Сасюры з прадмоваю, яна ўхваліла публікацыю. Чытаў сын. Яна слухала і, як сказала, «крыху сама поўзала вачыма па радках». На вялікі жаль, вельмі пагоршыўся зрок. З гэтым цяжка зміріцца. І дагэтуль можна знайсці чытво на «угалоўнай» (блізка ля галавы) тумбачцы, каля ложка, на якім яна начуе і пераважна днюе.

* *

Дваццаць другога верасня я вяртаўся з Аксакаўшчыны, куды адвёз жонку на рэабілітацыю пасля інсульту. Па дарозе дамоў заехаў да Васілевічаў, каб уручыць сябру новы зборнік вершаў «Замова ад рабства». Калі мы павіталіся з Валодзем, ён павіншаваў мяне з выхадам кніжкі, але не ўзяў яе, а паказаў рукою на дзверы пакоя, дзе адпачывала маці. Як заўсёды, я прыязна быў сустрэты. Гэтым разам размаўлялі пераважна пра здароўе, а больш дакладна — пра нездароўе. Спачатку я адказваў на пытанні пра самаадчуванне жонкі. Пасля Алена Сямёнаўна распавядала пра аперацыю ў 88 гадоў, перажытую пасля цяжкае траўмы шыйкі бядра. Хваліла хірурга. Падпісала яму сваё кнігазбораўскае выданне выбраных твораў. Праз пяць гадоў здарылася новая бяда. Ішла падрыхтоўка да аперацыі, але яе ўжо не адважыліся рабіць.

Я паказаў Алене Сямёнаўне сваю кніжку і, перш чым уручыць ёй, прачытаў тры вершы: «Класік Гарэцкі», «Душа мастака» і «Да залатога юбілею».

Пасля трэцяга, інтымнага верша яна сказала: «Мне ніхто нічога падобнага ніколі не казаў...»

Перад развітаннем я ў сваіх далонях трымаў яе запаволеныя рукі, глядзеў у вочы за нейкімі тоўстымі шкельцамі акуляраў, услухоўваўся ў павольны голас. А ў памяці маёй паўставалі хуткія рухі яе руплівых рук, у светлакарых вачах свяціўся нерастрачаны агонь, чуўся жвавы, з вясёла-жыццядайнымі ноткамі голас... Не змяніўся толькі акцэнт слыннае пісьменніцы, колішняе случчанкі: «Усяго добрага!», «Усяго найлепшага!».

2017

## РОДНАМУ СЛОВУ АДДАНАСЦЬ

Калі на зямлі ёсць людзі-паходні, якія асвятляюць шлях вельмі многім наступнікам, то, безумоўна, з такіх людзей — Фёдар Міхайлавіч Янкоўскі (1918–1989), вучоны-лінгвіст, доктар філалагічных навук, прафесар (1970), заслужаны дзеяч навукі Беларусі (1972), пісьменнік, фалькларыст.

Нарадзіўся ён у беларускай сялянскай сям'і ў вёсцы Клетнае Глускага раёна (Магілёўшчына). У 1936 годзе скончыў Рагачоўскі педтэхнікум. Настаўнічаў у Менскім раёне і завочна вучыўся ў Менскім настаўніцкім інстытуце. Удзельнік савецка-фінскай і Вялікай Айчыннай войнаў. Не раз быў паранены. Пасля вызвалення Беларусі працаваў адказным сакратаром рэдакцыі глускай раённай газеты «Сацыялістычная вёска», настаўнічаў у Глускай СШ. У 1948 годзе скончыў філфак Гродзенскага педінстытута і тры гады вучыў дзяцей у Радашковіцкай сярэдняй школе, у 1954-м закончыў аспірантуру пры Менскім педінстытуце, працаваў выкладчыкам, узначальваў кафедру беларускага мовазнаўства. Усё свядомае жыццё займаўся праблемамі фразеалогіі, стылістыкі, культуры мовы. Заснавальнік школы беларускай фразеалогіі. Аўтар больш як дваццаці навукова-лінгвістычных выданняў, сярод якіх «Беларускія народныя прыказкі і прымаўкі», «Гістарычная граматыка беларускай мовы», «Роднае слова», «Само слова гаворыць», «Беларускае літаратурнае вымаўленне», «Беларуская фразеалогія. Фразеалагізмы, іх значэнне, ужыванне», «Крылатыя словы і афарызмы», «Беларускія народныя параўнанні», «Пытанні культуры мовы», «Дыялектны слоўнік». Пяру Фёдара Янкоўскага належаць кнігі мастацкай прозы: «Абразкі» (1975), «Прыпыніся на часінку» (1979), «І за гарою пакланюся» (1982), «Радасць і боль» (1984), «З нялёгкіх дарог» (1988).

1

Я добра ведаў Фёдара Міхайлавіча Янкоўскага. Першы раз мы сустрэліся ў Берасці, калі ён завітаў да Уладзіміра Калесніка, свайго сябра і майго настаўніка. Бліжэй пазнаёміліся пасля майго пераезду ў Менск. Нярэдка сустракаліся ў горадзе, гаманілі. Адзін аднаму дарылі свае кнігі з аўтографамі, пасылалі віншавальныя паштоўкі. Некалькі разоў быў я запрошаны да яго ў госці, ведаў жонку Сірафіму Андрэеўну, настаўніцу, не менш прыязную, чым гаспадар. Гэта была яго другая жонка, першую разам з дзіцем знішчылі гітлераўцы. Трагедыю юны воін перажываў цяжка і мужна. Ён і сам мог загінуць, бо ніхто на вайне не застрахаваны ад смерці. І раней, у 1939-м, ледзьве ацалеў, кінуты сталёвай рукою савецкай таталітарнай сістэмы пад Выбарг — ваяваць з фінамі. Бачыў процьму забітых, маладзенькіх, такіх, як і сам, байцоў. Гінулі яны не толькі ад куляў і асколкаў — забойцам часта аказваўся пасярод глыбокіх снягоў суровы паўночны мароз, якому іх выдаваў здраднік  сон... Там Фёдару неяк пашанцавала, ён выйшаў з снежна-ледзяной труны, хоць і вярнуўся з той вайны цяжкапаранены і з абмарожанай пятою.

Пасля шчырых расповедаў Фёдара Міхайлавіча я прысвячаў яму вершы. Адзін з іх называецца проста — «Прафесар Ф. Янкоўскі». Ён змешчаны ў зборніку «Цана цішыні» (1985). Мяркую, тут дарэчы працытаваць яго.

У дзве вайны вяла дарога
Ад родных соснаў і бяроз,
З адной — зімой саракавога —
Асколкі ў целе ён прынёс.
Не суцяшаў армейскі доктар,
Гаркотнай праўды не хаваў,
Рука, — сказаў той доктар-дока, —
Ўжо толькі дзеля рукава,
Ні мілай ёю не абняці,
Ні коней браць за павады,

А што да войска — ведай, браце, —
Белабілетнік назаўжды...
Калі ж прынесла разбурэнне
Арда праклятая ў наш край,
Сказала мужнае сумленне:
Паўстань і ворага карай
За ўсё, што люта зруйнавана,
За смерць матуль і немаўлят!
Знайшоў сцяжыну ў партызаны
Ён, абстраляны ўжо салдат.

Фёдар Янкоўскі не проста партызаніў, ён стаў начальнікам баявой і агентурнай разведкі атрада «Грозны», што дзейнічаў супраць акупантаў на Меншчыне. Адважны разведчык рызыкаваў не раз жыццём сваім і баявых сяброў.

Сустракацца яму даводзілася з мноствам людзей. Траплялiся і гаваркія, прыхільнікі вострага слова, і ён нястомна занатоўваў трапныя і дасціпныя словы, словазлучэнні, прыказкі і прымаўкі, дыялогі, цікавыя гісторыі і зберагаў іх. У руплівага збіральніка народных скарбаў паступова назапашвалася багата каштоўных матэрыялаў, занатовак. Аднаго разу прафесар расказаў мне, як на Лагойшчыне, ідучы ў разведку ў час блакады ўвесну 1944 года, ён закапаў на палянцы між хвоек старонкі дзённіка і першы агульны сшытак народных выслоўяў і як мірным часам не раз ездзіў у тую мясціну, шукаў схаваны скарб, ды адшукаць не ўдалося. Пазней пра той выпадак я прачытаў у адной з кніжак Фёдара Янкоўскага. Там, натуральна, ён распавядае больш падрабязна, дакладнае называе месца: «Каля дарогі з Лагойска ў Плешчаніцы, недалёка ад Гарбатага маста на Дзвінасе».

**Калісьці ў маладосці Фёдар Янкоўскі вызначыў свой жыццёвы арыенцір: «А ці ж акрэсліў, як далей ісці? Акрэсліў. *Цвёрда і назаўсёды:* на світанні ці на змярканні, золкаю ці ведранаю ноччу, хмурым ці сонечным днём — заўсёды і ўсюды жыццё маё будзе не дзеля кавалка хлеба; *найгалоўнейшае, ад чаго не адступлюся,* хоць апынуся ці ў акопах, ці ў шпіталі, хоць буду**

**халодны і галодны, *— маё роднае слова, родная натура вялікага краю, родная Беларусь. Вы — мая радасць і ўцеха, вы — мая скруха і боль, вы — маё шчасце, жыццё».***

Як бачым, не адступіўся Янкоўскі ад галоўнай жыццёвай лініі, хоць зведаў пекла дзвюх войнаў, холад і голад, раненні і шпіталі, балючыя страты родных ды блізкіх. Беларускі характар выстаяў. Рукі ў чалавека не апусціліся, любоў да жыцця, да людзей і прага тварыць не зменшыліся. Сэрцам аддааны роднаму слову не здрадзіў яму. Яго аддданасць любімай справе, шчыраванне на грунце высокай адукацыі і культуры аказалася магутным рухавіком плённай навукова-творчай дзейнасці. Трыадзінства вучонага, пісьменніка і педагога сталася гарманічным і паспрыяла стварэнню жыццядайнае навуковай і літаратурнай спадчыны.

Як па адукацыі, так і па прызванні ён быў, канешне, Педагог з вялікае літары. Улюбёны ў родную мову, вучыў, настаўляў і натхняў сваімі глыбокімі ведамі і асабістым прыкладам: спачатку — вучняў у школах, а пасля — будучых настаўнікаў і навукоўцаў — адпаведна — у інстытуце.

2

Я з прыемнасцю даведаўся выпадкова ў рэдакцыі «Народнае волі», што ласкавая гаспадыня рэдакцыйнае прыёмнай Ніна Міхайлаўна Лявончык (дзявочае прозвішча Пакладок) была студэнткаю Фёдара Янкоўскага. У Менскім педінстытуце ён выкладаў даволі складаную навуку — гістарычную граматыку беларускае мовы, і студэнтка Ніна Пакладок слухала яго лекцыі. Я запытаўся, якое было ў яе ўражанне ад неардынарнага выкладчыка, яго лекцыяў, ад першае сустрэчы з ім. Ясныя вочы Ніны Міхайлаўны, здавалася, яшчэ больш пасвятлелі, засвяціліся душэўным святлом. Адчувалася — гэта быў любімы выкладчык. Субяседніца пачала з таго, як ён выглядаў вонкава: невысокага росту, з чорнымі, як смоль, валасамі, густымі чор-

нымі бровамі. І з ямачкай на бародцы (карціна ці, лепш сказаць, фатаграфія памяці выдатная). З гладка зачасанага валосся адна пасмачка ў яго непакорна выбівалася наперад, і ён двума пальцамі левай рукі закідаў гэтую сярэдзінку чуба дагары; пад правай рукою, калі ішоў на заняткі ды з заняткаў, звычайна трымаў папачку з патрэбнымі матэрыяламі. Хадзіў павольна, трошкі нахілены ўперад. Натуральна, Ніна Міхайлаўна ўспомніла першую, пачутую ад знанага Янкоўскага лекцыю.

— Гэта была не столькі лекцыя, як задушэўная гутарка з намі, трыма групамі філфакаўцаў, у актавай зале, — сказала яна. — Гаворку пра беларускую мову, яе карані і развіццё выкладчык пачынаў здаля, з пытання пра вытокі нашага народа і пра тое, як з’явілася найменне беларусы. «Адна з версій верагодных, казаў ён, — светлыя, як лянок, валасы ў нашых далёкіх суродзічаў». І далей: «Прыедзеш, бывала, на вёску з фальклёрнай экспедыцыяй, а там высыпае з хат гурма дзетак розных узростаў — са светлымі валасамі, блакітнымі вачыма, як у Пакладок», — гаворыць Фёдар Міхайлавіч і паказвае рукою на мяне (я сядзела за другім сталом).

Я не мог не пацікавіцца, як чытаў Янкоўскі лекцыі і які ён быў экзаменатар.

— Не чытаў ён, а прамаўляў, — сказала Ніна Міхайлаўна. — І такая стаяла цішыня, што, калі б муха праляцела, было б чутно. Гэта быў чарадзей слова, майстар, умеў выкласці тое, чым дасканала валодаў. Студэнты вельмі паважалі і любілі Фёдара Міхайлавіча. І пабойваліся. Быў ён патрабавальны, любіў дакладнасць, дысцыпліну, парадак.

Ніна Міхайлаўна распавяла пра цікавы выпадак. Група здавала дыферэнцаваны залік... да першага правалу. А тады нейкі страх напаў на маладых людзей, усе адхінуліся далей ад дзвярэй. «Паклічце, хай заходзяць», — казаў экзаменатар. Ніхто не зайшоў і пасля таго як ён выйшаў на калідор і паклікаў: «Заходзьце». Усе — як паглухлі. Ён ціха сабраўся і сышоў. Пазней ад імя тых, што не здалі залік, на перамовы з Фёдарам Міхайлавічам

пайшла студэнтка В. Макеева. Пытанне было адно: калі можна будзе здаць залік? Адказ быў нечаканы:

— Учора, Макеева, учора!.. (У патрэбную хвіліну так мабілізоўваўся яго элегантны досціп).

Студэнтам-свавольнікам давялося яшчэ і яшчэ грызці навуку, каяцца і прасіць прабачэння ў строгага выкладчыка, каб ён палагаднеў і прызначыў час паўторнага іспыту. Умеў чалавек правучыць баязліўцаў і неслухаў.

3

«Слова яго, шчырасць яго, вернасць яго можна браць у дарогу, як спрадвеку бярэцца хлеб». Так пранікнёна сказаў народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль пра вучонага-мовазнаўцу і празаіка Фёдара Янкоўскага.

У кнізе «Моўныя адзінкі і кантэкст» (1992), прысвечанай светлай памяці Настаўніка — прафесара Ф. М. Янкоўскага, ёсць артыкул Г.М. Малажай «Руплівы даследчык і выдатны педагог» з такімі радкамі: «Ф.М. Янкоўскі не быў кабінетным вучоным. Ён кожны дзень быў на людзях, з людзьмі, нават тады, калі дактары настойліва рэкамендавалі яму адпачыць ад «усяго». Але гэтае «ўсё» для Фёдара Міхайлавіча было яго жыццём, а ад яго «адпачыць» нельга».

Вось якраз тая акалічнасць, што ён быў на людзях, з людзьмі, давала яму і безліч нявыдуманых герояў ды непрыдуманых сюжэтаў для мастацкіх твораў. У ягоных апавяданнях-мініяцюрах, абразках, эсэ, нарысах, эцюдах так шмат рэальнага жыцця, народнага характару, захапленняў і расчараванняў, радасці і болю. І скрозь аўтар выглядае арыгінальным, абсалютна непаўторным творцам, з яго бясконцымі моўнымі залацінкамі, адкрыццямі, а галоўнае — з яго ўменнем падачы хвалюючых падзеяў, здарэнняў, фактаў. Побач з людзьмі, прыгожымі душою, ён паказвае пустадомкаў, гнюсату, паўтаткаў, нелюдзяў. У кожным такім выразе чытаецца трапная ха-

рактарыстыка. А з безлічы змястоўных прыказак і прымавак, ім сабраных у народзе,  назаву хоць бы дзве, якія ніколі не страцяць актуальнасці: «Для халуя і ката адна падрыхтавана плата», «Адною рукою дае, а дзвюма адбірае». Збіральнік прыказак-скарбаў знаходзіў іх і ў творах вядомых аўтараў, да прыкладу, у Ларысы Геніюш: «Не можа звонкі салавей свістаць па воўчых нотах», «Няма без працы на ўмалот надзеі».

Не магу не падкрэсліць істотную рысу Янкоўскага — яго чалавекалюбства. Некалі ён занатаваў у сваім Глускім раёне пачутае: «Без людзей ні нараджацца, ні будавацца, ні паміраць». Гэтак проста і праўдзіва! Адзін з раздзелаў кнігі «Радасць і боль» (1995), перавыдадзенай ягонымі жонкай і дачкой, называецца: «Дарагія мае простыя людзі. Добра з вамі». Чытаю-перачытваю абразок «І за гарою пакланюся», перанесены з аднайменнае кнігі ў гэтае новае выданне. Цёпла на душы ад чалавечае дабрыні, увагі і людской удзячнасці. Гісторыя як бы вельмі простая. Ад Карэліч пад Нёман на легкавічку ехалі мужчыны — аўтар і яго сябра. Спыніла іх нечаканае: «На траве пры дарозе хлопчык. Ці то сядзіць, згорбіўшыся, ці то ляжыць. Каля дзіцяці — не ў ручках — вудка, побач — торбачка. Спыніліся, паглядзелі. Хворае, стагнала. Ручка на жывоціку. Калі неслі ў машыну, толькі нібы паказала, куды везці». І далей: «Сустрэла нас маці. Узяла з рук дзесяцігодачка. Стрымліваючы слёзы, сказала: — Я й за гарою вам пакланюся. Які вам дзякуй! Вялікі вам дзякуй, людцы».

Вярталіся мужчыны з нёманскіх берагоў праз чатыры дні. Завіталі ў двор, куды прывезлі таго рыбачка. Маці пазнала іх і клікнула з хаты Алеська, паказаць яго... Запрашала ў хату, у сад. А калі сядалі ў машыну, сказала зноў тое матчынае, шчырае, тое народнае, незабыўнае:

— Я й за гарою вам пакланюся.

Дадала:

— Гладкае вам дарогі. Хай будзе гладкая ваша дарога.

А першая кніга мастацкай прозы Янкоўскага пачынаецца апавяданнем «Цёзка» — пра былога панскага парабка, кала-

рытнага вусатага вясковага чалавека, з якім аўтар знаўся ў час ваеннага ліхалецця і які аднойчы памог разведцы. Дарэчы, калі ён даведаўся, што камандзір яшчэ і настаўнік, з таго дня ні разу не сказаў яму «ты». Фёдар Міхайлавіч сустракаўся з ім і пасля вайны. А ў снежні 1950-га аднаго разу, калі выкладчык выйшаў з аўдыторыі, яму сказалі: «Вас каля прафесарскай чакаюць». Так, там каля натоўпу студэнтаў стаяў стары чалавек у доўгім кажусе, падпяразаным шырокім саматканым поясам, з шапкаю пад пахаю і з доўгім ядлоўцавым пугаўём, на якім вісела чорная і на вузельчыках пуга. Барада была ўжо не рыжаватая — пабялела, вусы, як звычайна ўзімку, прыкметна пасекліся, парадзелі і паменшалі. Гэта быў пастарэлы цёзка Янкоўскага. Парукаўся ён, палез за пазуху і працягнуў капшук махоркі... Зазвінеў званок на лекцыю, і выкладчык папрасіў, каб дзед пачакаў толькі 50 хвілінак, а тады пагасцюе ў яго дома. А ён падвёў да вакна і паказаў: на двары інстытута, пад высокім гмахам, стаяла фурманка, чакаў нераспрэжаны конь.

— Не. Пабачыў во, што ў паны берацёся і чалавекам астаяцёся, дый патрухаю сабе на ноч гледзячы. Пакуль даехаў, пакуль знайшоў, пакуль дачакаўся — во і сцямнела. Ехаць.

Любіў гэтую гісторыю распавесці вольнаю часінкаю сваім студэнтам выкладчык, што, дарэчы, засведчыла мая сумоўца Ніна Міхайлаўна Лявончык.

Сустракаюцца ў творах Фёдара Янкоўскага і людзі знакамітыя. Не можа не ўразіць ягонае бачанне легендарнага Рыгора Шырмы. Ужо самы пачатак апавядання палоніць і не адпускае, хоць карыстаецца аўтар звычайнаю моваю. За моўнаю прастатою бачыцца незвычайная ашчаднасць слова:

«Жалобны — на ўсёй Беларусі — дзень: не стала Якуба Коласа.

Я сустрэў Рыгора Шырму. Былі толькі два Шырмавы словы:

— Мы — асірацелі...

Сказаў, і сцяліся вусны. Ні слоў, ні пытання, ні ўздыхання.

Дарагі наш голубе Рыгор Шырма двума слоўцамі, толькі двума, усё сказаў: і хто нам Якуб Колас, і што ўсім нам, самому

Рыгору Шырму, Коласава творчасць, Коласава дбайнасць, Коласава сіла.

Вялікі — пра вялікага».

Далей — самае істотнае. Пра Шырму, бліскучага прамоўцу ў паўнюткай інстытуцкай зале: яблыку няма куды ўпасці, пра каго б ці пра што б ні ішла гаворка — пра акадэміка Браніслава Тарашкевіча ці пра беларускую народную песню: «Аднолькава наструнена слухалі Рыгора Шырму і студэнты, і пяць дзясяткаў выкладчыкаў...» І яшчэ — пра тое, які непаўторны ўрок роднага слова праводзіў славуты народны артыст, як браў у рукі розныя кніжкі і зачытваў перад мноствам слухачоў недарэчныя выразы ў апрацаваных народных казках...

У 1977 годзе Фёдар Янкоўскі прывітаў народнага пісьменніка Янку Брыля публікацыяй: «Ідзе хораша, сумленна, смела». Ён, Фёдар Міхайлавіч, так умее нязмушана, натуральна, так хораша распавесці пра асобу творцы, заўважыць тое, чаго не заўважае ніхто. Калі мовазнаўца гаворыць пра ўзоры сучаснай беларускай літаратурнае мовы празаіка — гэта і не дзіва, але калі ён паказвае напоўніцу, што за чалавек гэты народны пісьменнік, які ён надзейны сябра і чым яшчэ валодае, апроч таленту празаіка, — гэта прыемна здзіўляе. Аказваецца, Брыль меў фенаменальную памяць. «Я не раз чуў, слухаў Брылёва чытанне — без тэксту ў руцэ — Л.Талстога, А.Чэхава, М.Горкага, «Бібліі», А.Міцкевіча, М.Прышвіна... — піша Ф.Янкоўскі. — Веданне моў? Выдатна — рускую, польскую, украінскую, някепска — нямецкую, латынь, стараславянскую...» І, пэўна, мала хто ведае, як хораша спяваў Іван Антонавіч беларускія, украінскія, польскія, рускія, іншыя славянскія народныя песні. Янкоўскі гаворыць чытачам, што, калі б запісалі іх у выкананні Івана Антонавіча, «атрымалася б цікавая і аб'ёмная анталогія народнай *славянскай* песні. Анталогія з брылёўскім адчуваннем гумару і сатыры, лірызму і рашучасці, пашаны да чалавечага і пагарды да нялюдскага».

А як прыгожа Фёдар Янкоўскі віншаваў юбіляра ў згаданай вышэй публікацыі: «Янку Брылю шэсцьдзесят. Якраз у жніўні.

Няхай яму, дарагому Янку Брылю, будзе яшчэ многа жніва. Няхай яго будучыя жніўні будуць нажонныя і ўмалотныя.

А жнівень — і сяўба. І не чаго-небудзь, а самога Хлеба». Мудра. Глыбока. І непаўторна.

У свой час у маёй свядомасці дзейнасць Фёдара Янкоўскага асацыявалася гэтаксама з сяўбою і жнівом. Тады і з’явіўся такі верш.

**Будуць будні і святы ЖНІВА**

Светлай памяці Ф.Янкоўскага

Гаспадар быў цудоўны — і справу вяршыў:
Шчыраваў на палетках багатай душы.
Быў ён сейбіт, які забываў пра сябе,
Так аддадзены ўвесь запаветнай сяўбе!
Пра сваю Беларусь, мову родную дбаў,
Ліст апошні пакуль на зямлю не апаў.
Заклапочаны, і не заўважыў, калі
Ўдалячынь праплылі чарадой жураўлі.
Спрацаваны, збалелы, пайшоў на спачын...
К сэрцу вобраз яго прыхінем, памаўчым.
А наперадзе — будні і святы ЖНІВА,
З адчуваннем прасторы яго, хараства.
І наперадзе — сейбіту нізкі паклон
За натхнёную працу, за дзейнасці плён.

2018, верасень

## МАЙСТАР ФІЛІГРАННАЙ ПРОЗЫ

Прыхільнікам прыгожага пісьменства знаны творца Янка Брыль пакінуў высокадухоўную, інтэлектуальна багатую літаратурную спадчыну. Пяру філіграннага майстра мастацкага слова належыць шмат пранікнёных апавяданняў, сярод якіх — хрэстаматыйныя: «Маці», «Галя», «Memento mori», раман «Птушкі і гнёзды» (1963), адметныя аповесці «Ніжнія Байдуны» (1975), «Золак, убачаны здалёк» (1978), Дзяржаўная прэмія Беларусі імя Якуба Коласа, 1982), «Муштук і папка» (1990), яскравыя зборнікі лірыка-філасофскіх мініяцюр, псіхалагічных абразкоў: «Жменя сонечных промняў» (1965), «Вітраж» (1972), «На сцежцы — дзеці» (1988), «Вячэрняе» (1994) ды іншыя, цудоўныя кнігі для дзяцей «Ліпа і клёнік» (1949), «Пачатак сталасці» (1957), «Жыў-быў вожык» (1976), зборнікі крытыкі «Роздум і слова» (1963) і «Трохі пра вечнае» (1978). Ён і адзін з аўтараў дакументальнай трагедыі «Я з вогненнай вёскі» (1975, з Алесем Адамовічам і Уладзімірам Калеснікам).

Здзейсненае Янкам Брылём у літаратуры ўзнімае яго ў сузор'е самых арыгінальных і знакамітых нашых празаікаў — Максіма Гарэцкага, Кузьмы Чорнага, Васіля Быкава, універсальнага творцы Уладзіміра Караткевіча.

Прозу Янкі Брыля хто-ніхто называў лірычнай, а яго самога — паэтам у прозе. «Сам жа аўтар успрымае азначэнне «паэт у прозе» як пасведчанне аб беднасці» — заўважыў Уладзімір Калеснік у сваёй кнізе «Усё чалавечае» (1993). Але таленавіты даследчык і знаўца творчасці Янкі Брыля У. А. Калеснік тут жа гаворыць і пра тое, як выдатны беларускі пісьменнік падхоплівае, як апраўданне сабе, словы японца Акутагавы Руноске: «Проза займае месца ў літаратуры толькі дзякуючы паэзіі,

якая ў ёй змяшчаецца». Што датычыць лірызму ў прозе, то, як сцвярджае вядомы крытык, — гэта не толькі манера весці апавяданне ад першай асобы, лірызм азначае перадусім інтэнсіўны ўдзел аўтара ў рэалізацыі і выяўленні характараў дзеючых асоб, ва ўстанаўленні і асэнсаванні адносін чалавека да свету прыроды і да грамадства, пры гэтым пісьменніку-лірыку больш, чым эпіку, патрэбна пачуццё меры, унутранага такту, каб не засціць вобразаў дзеючых асоб сваёю персонай...

Пачуццём меры, такту Янка Брыль валодаў спаўна, бо меў дасканалы эстэтычны густ, якому спрыяла і яго начытанасць (гэта быў адзін з самых дасведчаных пісьменнікаў у космасе сусветнай літаратуры), і яго высокая культура мовы. Нібы адмысловы скульптар, ён умее адсекчы ўсё лішняе дзеля прывабнага вобраза; бы геніяльны мастак, адчувае найтанчэйшыя адценні фарбаў; як кампазітар-чарадзей, чуе мілагучнасць і сугучча адных словаў, грубасць і несумяшчальнасць другіх. І, як валадар вобразнай мовы, знаходзіць нечакана раскошную метафару там, дзе ніхто да яго не ўбачыў. У зборніку «На сцежцы — дзеці», на старонцы 95-й, прачыталася: «Зноў ластаўка моліцца на драціне за маім акном». Які гаючы сказ! І якая ў ім жыве прастора! Міжволі ўзгадваецца ўнікальны мастак і кампазітар Чурлёніс, якому аднойчы ластаўкі на лінейках правадоў напомнілі нотныя знакі ці, наадварот, нотныя знакі — ластавак, у выніку атрымалася светлая, як сапраўднае адкрыццё, карціна.

Слова ўражлівага і ўдумлівага творцы заўсёды жывое, гаваркое, трапнае. Ужо ў адным з першых яго апавяданняў «Марыля» (1937–1940) зацікаўлены чытач знойдзе нямала адкрыццяў у характарыстыцы таго ці іншага героя дзякуючы яскравай, вобразнай мове: — Свякроў была вельмі ж **драпежная ў працы** (выдзелена мной. — В. Ж.), ...хадзіла згорбіўшыся і ўсё подбегам, трушком, быццам ёй горш, як усяму свету, часу не хапала. На кірмаш сядзе ехаць і то, здаецца, бегла б на возе, каб хутчэй справіцца». Чытаеш твор — душою адчуваеш: пакрыўджанай лёсам сіраце Марылі тут ніякай літасці не будзе... Незацяганыя прымаўкі, прыказкі, прыпеўкі, праклёны, мянушкі, што азда-

бляюць і без таго эмацыйную мову, у вуснах герояў пісьменніка гучаць адпаведна іхнім характарам, ствараюць патрэбны нацыянальны каларыт і адпаведную маральную атмасферу. Апісанне прыроды, яе з'яваў у творах мастака не грувасткае, не назойлівае, а сціслае і далікатнае, яно ўмелымі штрыхамі малюе ці дамалёўвае карціну. Вось як, напрыклад, у апавяданні «Сцежка-дарожка» гаворыцца пра снег: «Сляды... зацярушвала дрыгатлівая густая мякката, што безупынна і ласкава асядала на зямлю».

Алесь Адамовіч у прадмове да яго Збору твораў у пяці тамах (1979) зазначыў: «Чытаючы апавяданні, аповесці, раманы Янкі Брыля, яго дарожныя нататкі і артыкулы, зноў і зноў аглядаючы вечна маладыя, вясёлыя падлескі яго мініяцюр, думаеш пра багацце, якое прынёс гэты пісьменнік у нашу літаратуру. Багацце народных тыпаў, сапраўднай беларускай мовы, шчырасці, любві». Ён жа, Алесь Адамовіч, услед за Уладзімірам Калеснікам, які звярнуў увагу на маральную ўражлівасць знанага творцы, у сваю чаргу заўважыў «маральнасць таленту Брыля». Думаецца, якраз маральная чысціня поліфанічнай душы неардынарнага празаіка з'явілася найпершай перадумовай напісання шэдэўральнага апавядання «Memento mori», у якім выдатны пячнік, якому зондэрфюрэр абяцае, што ён не будзе спалены з аднавяскоўцамі ў адрыне, дабраахвотна пайшоў на смерць, але не страціў сваёй чалавечай годнасці. Такі ж пераканаўчы атрымаўся яшчэ адзін трагедыйны вобраз — вобраз маці ў аднайменным апавяданні, якая не пабаялася пагрозаў гітлераўскіх захопнікаў і адважылася накарміць акружэнцаў...

Ці трэба здзіўляцца, што Янка Брыль, такі ранімы і мужны, аказаўся адным з аўтараў самай маштабнай антываеннай кнігі, гэтай самай балючай народнай, агульнанацыянальнай трагедыі «Я з вогненнай вёскі...», на старонках якой у поўны рост паўсталі і жахлівыя ды ўзрушальныя гісторыі ваеннага часу, і рэквіем па незлічоных ахвярах, па людзях, знішчаных азвярэлымі варварамі, і гімн мужнасці нашага народа, які не скарыўся тупой, жорсткай, крывавай сіле, і, вядома ж, прысуд фашызму?!

І не дзіва, што пісьменнік-гуманіст, які прайшоў праз нямецкі палон, а пасля ўцёкаў спазнаў ваеннае ліхалецце на радзіме, быў адважным партызанам, у сваім рамане «Птушкі і гнёзды» з такой мастакоўскай сілаю выкрыў знутры таталітарны рэжым. Не дзіва і тое, з якім шчымлівым болем Янка Брыль расказаў свету ў аповесці «Муштук і папка» пра яшчэ адну праяву зверства — трагедыю ўкраінскае Быкаўні і закатаванага роднага брата. «Праклён і ўсім катам, і кожнаму ладу, які на гэтым трымаецца!» — чытаем напрыканцы аповесці. Падумалася: як вытрымлівала чалавечае сэрца столькі гора?!

Нямала хвалюючых старонак знайшоў я ў апошняй прыжыццёвай кнізе Янкі Брыля «Парастак» (2006). Але, відаць, найбольш уразіў мяне расказ пра сына Бормана, таго самага сумнавядомага «нацыста № 2», памагатага фюрэра, вядома ж, бязбожніка. Аказваецца, «Марцін Борман-малодшы... шчыра паверыў у Бога, стаў святаром і кожны дзень, усё жыццё маліўся за грахі свайго, усё ж такі роднага». Аднойчы расійскаму журналісту ён распавёў пра спавяданне былога салдата вермахта, які ў дні Варшаўскага паўстання «зачышчаў» бункеры ад паўстанцаў. «З аднаго такога сховішча раптоўна выскачыла і кінулася наўцёкі шасцігадовая дзяўчынка, але спатыкнулася і ўпала перад ім. «Пырні гэтую поскудзь штыком!» — сказаў обер-лейтэнант, і салдат забіў дзяўчынку. Яе карыя вочы, звернутыя да яго з жахам і просьбай-умольваннем, ён памятаў дваццаць пяць гадоў. Не займеў сваіх дзяцей, не мог бачыць чужых і глядзець ім у вочы. Ён быў у мяне на споведзі і сказаў: «Бог не даруе мне. І адзінае, чаго я хачу: як мага больш пакутаваць у пекле за тое, што зрабіў». Я не ведаў, што яму сказаць. Праз тыдзень гэты чалавек павесіўся». Вось якая непрадбачаная бывае боская кара! — гэта ўжо чытаецца ў падтэксце.

У гэтым жа зборніку «Парастак» з хваляваннем прачыталася: «Прачнуўся ў дзве гадзіны і толькі пад раніцу прыдрамнуў. І — такі сон. Пада мною калодзеж, не надта глыбокі, але з мяне хапіла б... Слабымі рукамі, развёўшы іх, трымаюся неяк з краю,

нібы ў кутку (сон жа!), намагаюся правую нагу перакінуць цераз край зруба навонкі. Раз за разам. Нага слабее... І прачынаюся.

Папярэджанне нейкае? А то й ад роздуму ўвечары?..»

Можна не сумнявацца, што мастак магутнай інтуіцыі адчуў журботную сімволіку таго, што прыснілася. (У свой час, калі хварэла мая маці, зусім падобны сон убачыў я: «Быццам іду да калодзежа, каб вады набраць. Аж бачу — божа! — маці мая ўся ў калодзежы, толькі яшчэ пальцамі рук трымаецца за верхні круг. Я кідаю вядро на зямлю, бягу да яе, каб хутчэй ратаваць, але — як гэта ў снах бывае — ногі не слухаюцца мяне: я апынаюся не ля калодзежа, а за варотамі. Крычу: «Мама», але голасу майго не чутно, тады крычу штосілы, нібы ў лесе: Ма-а-ма-а-а!» — і прачынаюся... Чую, як моцна калоціцца сэрца... Успамінаю, маці прысніў. Хоць бы нічога з ёй не здарылася...» Гэта — эпізод з маёй аповесці «Як адна вясна...»).

Напрыканцы леташняга ліпеня здарылася журботнае: неза-доўга пасля Васіля Быкава завяршыў сваё зямное жыццё яшчэ адзін волат літаратуры. Засталася яго каласальная духоўная спадчына, у якой б’ецца мужнае і пяшчотнае сэрца, жыве шчырая і шчодрая душа, спадчына, так патрэбная людзям для маральнага самакантролю ды інтэлектуальнага росту.

2007

## ПІЛІГРЫМ БЕЛАРУШЧЫНЫ

1

Яраслаў Пархута — з ліку маіх найбольш любімых нашых пісьменнікаў. Ды не таму што ён быў уганараваны Дзяржаўнай прэміяй імя Кастуся Каліноўскага, а таму што быў вельмі чуйны да людскіх боляў, да народных бедаў і ўмеў мабілізаваць Богам дадзены талент нягледзячы на самыя складаныя абставіны. Наканаванай справе служыў самаахвярна. Мала хто з чытачоў ведае, што ён перажыў клінічную смерць, калі яму споўнілася крыху больш за шэсцьдзесят. Пра тое выпрабаванне гаворыць нам ягоны цяжкі сон, апісаны класічна. «Мяне вялі на расстрэл. Хто вёў — не ведаю. Усе яны былі ў масках», — такі пачатак сну. Яго на хаду абвінавачвалі тыя трое, што былі ў масках: «Ты аднойчы здрадзіў каханай! Ты аднойчы пакрыўдзіў дзіця! Ты аднойчы не падаў жабраку!». Ён, спадзеючыся на літасць, апраўдваўся: «Каханая ж пакінула мяне! Дзецям уласціва памыляцца. А кавалка хлеба і сам, бывала, не меў». Яму сказалі: «Усё адно грэх твой вялікі». І загадалі: «Спыніся і павярніся!» Ён спыніўся і павярнуўся. «Ударыла ў сэрца, і яно зайшлося ад болю». Ён закрычаў. Але голасу не пачуў свайго. Затое пачуў іншы — знаёмы і блізкі: «З вяртаннем, дружа!» Ён расплюшчыў вочы. Ля ложка ў белым халаце стаяў ягоны доктар. У правай руцэ трымаў шпрыц, а левай марлевым тампонам з яго ілба здымаў халодны пот.

Яраслава да гэтага крызісу часта білі маланкі інсультаў ды інфарктаў (іх было ажно паўтузіна), а ён, падымаючыся пасля чарговага ўдару, яшчэ з большым азартам браўся за справу

ці, больш дакладна, працягваў яе — ішоў да новых сваіх твораў-гімнаў Беларусі, твораў-дакументаў роднай гісторыі, твораў-услаўленняў мужных герояў, твораў-споведзяў растрывожанага сэрца і нялёгкага роздуму, твораў-абвінавачанняў зла, што нявечыць людскія душы, і працягваў у часе бізнесу і камерцыі  шчодра раздаваць сваё адзінае багацце — дарыў людзям свае пранікнёныя кнігі пра свой народ. Намаляваны ім працавіты, майстравіты і таленавіты гусляр дзед Максім (у творы «Апошні гусляр») чымсьці добра нагадвае і яго самога. Пісьменніку, чалавеку з роду плугароў, баліць душа не толькі за знявечаную зямлю, а за ўсё, што зводзіцца, — за стан роднай мовы, за нашую духоўнасць, за народныя святыні, паламаныя лёсы і забраныя жыцці сыноў і дачок шматпакутнае Бацькаўшчыны. Сярод шматлікіх  герояў твораў Ярослава Пархуты — яго славуты зямляк, кіраўнік паўстання 1794 года Тадэвуш Касцюшка, павешаны Мураўёвым у Вільні народны герой Кастусь Каліноўскі, знішчаны злачынным сталінскім рэжымам легендарны пісьменнік, актор, рэжысёр, мастак Уладзіслаў Галубок і знакаміты вучоны-мовазнаўца, публіцыст, акадэмік НАН Беларусі Браніслаў Тарашкевіч, пакутнік XX стагоддзя Сяргей Новік-Пяюн, які спазнаў шмат гадоў няволі як пры паляках, так і пры немцах і маскалях, «палескі рабінзон» Іван Бушыла, які, ратуючыся ад сталінскага генацыду, сорак два гады (!) пражыў у глухім лесе. Заўважу, проза Ярослава Пархуты, як правіла, паэтычная, у ёй многа сонца, азону, прастору. І фантазіі, і філасофіі. Як літаратар ён майстар на ўсе рукі. Пачынаў сваю творчасць з цудоўных вершаў і казак.

Аднойчы сваю пісьменніцкую ўвагу Яраслаў Пархута засяродзіў на школьным літаратурна-краязнаўчым музеі. Але на якім? На ўнікальным! На Гудзевіцкім літаратурна-краязнаўчым музеі ( Мастоўскі раён), створаным вялікім энтузіястам, настаўнікам беларускай мовы, заслужаным дзеячам культуры Беларусі Алесем Мікалаевічам Белакозам і яго вучнямі. Я ведаў таго выдатнага настаўніка, быў у ягоным музеі,

Гілевіча, ёмістыя манаграфіі, жыццяпіс народнага паэта, вучонага, фалькларыста, асветніка, грамадскага і дзяржаўнага дзеяча.

3

У Ніла Гілевіча ўнушальная колькасць (больш за сто) выдадзеных кніг. Паспяхова пайшла і справа з выданнем 23-х тамоў выбраных твораў. Выбранае — гэта, вядома, частка ўсяго, што падараваў апостал духу свайму народу амаль за 60 гадоў актыўнай творчасці. Але не ў колькасці здзейсненага сапраўдная заслуга аўтара, а ў красе і сіле яго мастацкага слова, у тым, наколькі дзейсна служыць ягонае слова чалавеку, Бацькаўшчыне. Кнігі Ніла Гілевіча маюць невычэрпныя выхаваўчыя магчымасці, трывалы патэнцыял. Відаць, яны будуць цікавыя і карысныя і з цягам часу — для новых і новых генерацый.

Найбольш відавочная выхаваўчая роля вершаў для дзяцей. Здымаю з палічкі адзін з дзіцячых зборнікаў паэта — «Калі рана ўстанеш», разгортваю. На 13-й старонцы чытаю пра шпака:

Ён цяжкі шлях пераадолеў,
Пакуль вярнуўся ў родны край.
……………………………….
Смяецца сонца. Дзень прыгожы.
А шпак ля доміка свайго
Сядзіць і кліча ўсіх прахожых
Паслухаць песеньку яго.

Шпак спяваў у родным раздоллі, на волі. А вось злоўлены хлопчыкам конік (верш «Конік у палоне») спяваць не захацеў, і, шкрабаючы па дне шклянкі, ён нібы з крыўдаю кажа:

Сумна мне тут без сяброў
Аднаму ў палоне.
Адпусці мяне дамоў —
У прастор зялёны.
І прыходзь тады гуляць
На лужок мурожны:
Буду я табе спяваць
Дзень і вечар кожны.

І яшчэ адзін верш не магу не працытаваць:

Бацька ўзяў вялікі кош,
Сын — маленькі кошык.
У кішэні ў бацькі — нож,
А ў Сяргейкі — ножык.
Бо Сяргейка знае ўжо:
Рваць грыбы няможна —
Трэба нізенька нажом
Рэзаць асцярожна.

Вось вам і выхаванне дзяцей: і патрыятычнае, і маральнае, і працоўнае, і экалагічнае, а найперш — эстэтычнае. 2011

Калі не стала Ніла Гілевіча, у памяць хлынулі ўспаміны. Пра сустрэчы з ім і сумесныя паездкі. У снежні 1994 г. у Берасці праводзілі ў апошні шлях У. Калесніка, у верасні 2003-га ў Белаазёрску віншавалі з юбілеем Н. Мацяш. Ляцеў час, і падкрадваліся хваробы. Народны паэт у апошнія гады рухаўся толькі у межах кватэры. Калі ж я ўведаў, што ён пабываў у Бараўлянах, то не без трывогі набраў нумар яго телефона. Калі запытаўся, чаго давялося быць у Бараўлянах, ён сказаў, што туды трапляюць не проста так. Адчуўшы мой неспакой, працягваў: "Васіль Аляксеевіч, я гляджу на гэта па-філасофску: мне амаль 85. І я збыўся!.." Ён ужо ведаў прысуд: анкалогія! І так па-багдановічаўску светла заявіў нібыта ў працяг свайго вершаванага радка: "Я марна не згінуў, бясследна не знік".

2020

## СВЯТЛО КАХАННЯ Й ПАМЯЦІ

У паэтычнай кнізе Ніла Гілевіча «...І плямы на табе няма» (Менск «Тэхналогія» 2003) усяго 26 старонак. Але ж якія гэта старонкі! У прыгожым пісьменстве якраз такія называюць залатымі, пра іх, зрэшты, гаворка наперадзе. Паслухаем найперш знакамітага творцу: *Гэтую кніжку я прысвячаю Жанчыне, з якою іду поруч — праз нягоды і радасці жыцця — ужо амаль паўстагоддзя. Прысвячаю з пачуццём любові і ўдзячнасці. Калі б не яна, я не зрабіў бы і палавіны таго, што зрабіў — і ў літаратуры, і ў навуцы, і ў грамадскай чыннасці. У кнізе Святога Пісьма «Песня песняў Саламонавых» калісьці, яшчэ ў студэнцкія гады, вычытаў: «Ты ўся прыўкрасная, абранніца мая, і плямы няма на табе». Менавіта гэтыя словы прыйшлі мне на памяць, калі думаў, як назваць свой маленькі «лірычны раман».*

Такая міні-прадмова да зборніка, кажучы іншымі словамі — пралог маленькага «лірычнага рамана».

* *

Лірычны раман у вершах (а тых вершаў — усяго каля шасці дзясяткаў) «...І плямы на табе няма» — з'ява ў літаратуры ўнікальная. І, відаць, не толькі ў айчыннай.

Няхай сабе дасведчаны чытач ведае нямала закаханых паэтаў свету. Няхай сабе славуты Франчэска Пятрарка быў безнадзейна закаханы ў замужнюю жанчыну. Тое каханне падаравала літаратуры дзве кнігі санетаў: «На жыццё мадонны Лауры» і «На смерць мадонны Лауры». Узбек Алішэр Наваі, сучаснік нашага Францішка Скарыны, таксама зведаў неўзаемнае каханне, што засведчылі многія яго газэлі. Туркмен Махтумкулі ў вершах распавёў пра свае пакуты, бо навек быў разлучаны з каханай

Мянглі. Наш польскамоўны геній Адам Міцкевіч пажыццёва быў паранены таксама драмай кахання: яго любая Марыля Верашчака, якую называў ён у сваіх творах Лаўрай, была аддадзена бацькамі за графа Ваўжынца Путкамера. Усё гэта — гісторыі тых каханняў, якія не прынеслі шчасця знакамітым паэтам, але ўзбагацілі паэзію выбітнымі інтымнымі творамі. Я ўжо ніяк не акцэнтую на мімалётных захапленнях найвыдатных лірыкаў, у выніку чаго з'явіліся сусветна вядомыя творы...

Чыёсьці дапамагае лепш разгледзець нашае. Акажыся чалавечы лёс Максіма Багдановіча не такі бязлітасны — век не настолькі кароткі, наш любімы паэт, пэўна, стварыў бы кнігу пра шчаслівае каханне. Ды гэта здзейсніць было наканавана нашаму знанаму сучасніку Нілу Гілевічу.

Чаму ж прафесійная крытыка па сутнасці замоўчвае ўнікальную з'яву? Таму што няма ўжо з намі Уладзіміра Калесніка, Тамары Чабан, Варлена Бечыка, Міхася Стральцова?..

* *

Маленькі лірычны раман «...І плямы на табе няма» моцны вялікім каханнем творцы, асветленым узаемным пачуццём чараўніцы. І разгортваецца панарама іх адносінаў, па сутнасці, як і ў класічным рамане, толькі непараўнальна больш дынамічна, паколькі гэты раман памерам маленькі, і, натуральна, расповед ідзе ў ім ад першае асобы, таму што ён лірычны:

Я ні з кім да цябе так не гутарыў шчыра,
І акрылены гэткі не быў я ні з кім.

Гэта стартавыя радкі кніжкі. У першым вершы бачацца канкрэтныя мясціны — рака Свіслач, шырокі праспект сталіцы, дзе завязваюцца шчырыя інтымныя адносіны.

Мы ішлі, а калі нашы рукі спляліся
У гарачы замок — не заўважылі мы.

Магутная шматзначная метафара! Маладыя рукі спляліся ў гарачы замок! Хараство гэтага паэтычнага вобраза непаўторна-натуральнае, асабліва пасля радка: «І чамусьці адкрыліся сэрцы для слоў». Напачатку было слова...

У вершы «У бацькоўскім кутку...», які даўно стаўся вядомаю песняю, узгадваецца не толькі цяпло «мілых рук»:

Ціхі ветрыка лёт,
Што галубіць зямлю,
Як дыханне тваё,
Пераймаю, лаўлю.

Тут жа — і сардэчная просьба, і наказ, і гатоўнасць прайсці поруч жыццёвую дарогу:

Прыйдзе зорная ноч,
Цішай дол ахіне —
Сваіх воч, карых воч
Не адводзь ад мяне.
І праз далечаў даль,
І скрозь морак начны
Я змагу разгадаць,
Што мне скажуць яны.

Песенная легкакрыласць пададзеных радкоў, паэтычных вобразаў празрыста высвецілі глыбіню пачуцця; лёгкасць формы спаўна перадала прыгажосць зместу.

...Вясна! А хлопцава любая не з ім — адна. Там гаі, зацвітае чаромха, там пяюць салаўі, а гэта — падстава для пакутаў закаханага:

І не сплюшчыць мне воч,
І трывога мая не рассеецца:
Хіба жарты — ўсю ноч,
Усю ноч салаўі за аселіцай!

Натуральнае, шчырае і зразумелае пачуццё, як мудрая і зразумелая развага-выснова:

І што тысяча стрэч
За гады не зрабіла —
Зробіць ростань адна
Пасля тысячы стрэч.

Выбар здзейснены, што засведчыў падтэкст наступнага верша:

Мой сіні бор, мой родны бор зялёны!
Ён ёсць у кожнага — свой бор, што вабіць,
Свой мілы кут, свае бярозы й клёны,
І ёсць свая лясная тайна, мабыць...

Дык будзь жа ты навек багаслаўлёны!
Адзін ты знаеш, дружа мой маўклівы,
Які быў я ў цябе ў гасцях шчаслівы,
Мой сіні бор, мой родны бор зялёны!..

Перавага лірыкі над эпасам бясспрэчная ў тым сэнсе, што яна спрыяе дынаміцы; з іншага боку — ёй нішто не замінае разгортваць, як і ў эпічным творы, свой сюжэт:

Не гаманіце, вербы, не будзіце,
Не грайце, ветры, у зялёным веццi:
Яна ўсю ноч прачуйнавала дзіцем
І задрамала толькі на дасвецці.

Няхай прысніцца ёй лясная казка:
Палянка ў пушчы, ціхі гуд чмяліны,
Бяжыць хлапчук, а ў кулачках — маліны...
Не гаманіце ж, вербы, калі ласка.

Баюся, не ўсе зразумелі і нават не ўсе заўважылі неалагізм «прачуйнавала дзіцем». Абсалютна новы выраз (не даводзілася сустрэць больш ні ў кога) асабліва стасуецца да чуйнае жанчыны-маці; кажу гэта з задавальненнем, хоць у негрунтоўным водгуку засяроджвацца на лакальных адкрыццях як бы няма часу і неабходнасці.

Кніга «...І плямы на табе няма» уражвае найперш тым, што ў ёй закаханасць паэта, духоўна багатай асобы, ідзе скразной лініяй, вабячы нас  чалавечай замілаванасцю, надзвычай вытанчаным успрыманнем свету:

Бомы жаўранкаў у звечарэлым полі,
Там, дзе студзіць цёплы дол раса,
Дзе з жытнёвых каласоў паволі
Выплывае божая краса.
Для няпрагных — гэтага даволі:
У вар’ята-века вырваць міг
І паслухаць моўчкі, удваіх,
Бомы жаўранкаў у звечарэлым полі.

О, гэтае суладдзе зачараваных сэрцаў! Каханне набывае асаблівую прыгажосць, калі яго носьбіты не цураюцца эстэтычнай асалоды, якую дораць, да прыкладу, родныя мясціны, з прывычнымі, змалку знаёмымі вобразамі, такімі, як «бомы жаўранкаў» у толькі што пададзеным вершы.

У часовай разлуцы з любай, «за тысячу вёрстаў ад дому, ад роднага краю», паэт ласкава і пяшчотна прамаўляе ў час вячэрні:

Пра цябе і радзіму — адна ў мяне дума і думачка,
Хоць малітвы маёй ты за даллю далёкай не чуеш
І не знаеш, як горача, як апантана шапчу я:
«Спі, мая лугавая, мая залатая мядуначка!»

Раз-пораз вяртаецца творца ў мінулае, зноў і зноў узнаўляе ў сэрцы самае чыстае і трапяткое пачуццё:

Пасля гэтых, як і многіх іншых, радкоў Ніла Гілевіча думаецца пра далікатнасць, адну з істотных рысаў характару яго, пра культуру слова, яго адчуванне, меру. Паступова, спакваля, асобнымі штрыхамі ствараецца партрэт і постаць любай: карыя (і праменныя) вочы, ценькі стан...

Пад вершамі няма датаў іх стварэння, але можна здагадвацца, што ў шчаслівай маладосці з'явілася жаданне, каб неба багаславіла яго і каханую «Душэўнай згодай аж да дзён апошніх»... Верш «Той цёмны-цёмны вераснёвы вечар!» вырас з успамінаў студэнцкай ранняй восені, калі вучобу падмянялі капаннем бульбы на калгасным полі. Галоўнае тут не тое, што хлопец «у цямрэчы непрагляднай» ідзе па гразкай вясковай вуліцы і нават не тое, што ў цёплай хаце менскіх кватарантак сустрэне каханую, «ад шчасця неразумны...» (!!!), — галоўнае ў фінале твора:

Яна выходзіць, каб мяне правесці.
У пінжачку, на халадок вячэрні.
І каля весніц... Ах, той міг ля весніц!
Той пацалунак — як маланка ў цемры!..

І хай сабе вуліца «утопла непралазна», хлопец усклікае:

Ды мне ўжо што! Мне відна ад маланкі.
Ад той, што ўспыхнула і не пагасла.

У гэтым — непаўторнасць юнацтва. «Маладыя гады, // Маладыя жадання!», як сказаў калісьці юны геній Максім...

Можна не сумнявацца, што й наступны верш — плод юначага ўражання:

Сваю паэму, першую ў жыцці,
Чытаю першай у жыцці слухачцы,
І раптам — збіўся на радку, запнуўся
І паўтарыў яго, і на наступным
Таксама збіўся, і на трэцім зноў...
Не дачытаў бы, каб не збеглі прэч
Гарэзы пальчыкі з маёй чупрыны.

Ёсць у кнізе і верш, у якім арыгінальна і дасціпна гаворыцца пра творчыя пакуты:

Мілая мая! Той верш, якога
Ты чакаеш цягам доўгіх дзён:
Ну калі ж, калі ўжо бліснe ён? —
Не складу я: страціў ласку ў Бога.
Перш, нібы і ў згодзе з творчым крэда,
Радасць хлынула — каб прагучаць.
Атрымалася ж — не прачытаць:
Як па белай кахлі белай крэйдай.
Потым, волю зацугляўшы цуглямі,
Выйсце смутку даў, якім прасяк...
Зноўку выйшла невыразна так,
Як па чорнай дошцы чорным вугалем.

Без творчых мукаў не абышоўся ні адзін вялікі паэт. Да гонару Ніла Гілевіча, у яго й пакуты грамадзяніна дужа выразныя, акрэсленыя:

Свет — шырокі?
Так!
Але ж і вельмі вузкі!
Задыхаюся ад цеснаты,
Калі свет наўкол небеларускі
І калі са мной не поруч ты.

Ды і ў гэтай даволі драматычнай сітуацыі не задыхнуцца ад вострых праблемаў грамадскага жыцця памагае ўсведамленне таго, што здзейснена ім, творцам, дзякуючы Каханай-паплечніцы:

Ніякі рахунак, ніякі разлік
Ужо мне не страшны: я збыўся, Айчына.
Я марна не згінуў, бясследна не знік.
Мяне для цябе ўратавала Жанчына.

Жанчына, пра якую ў іншым вершы паэт сказаў так недвухсэнсоўна:

А мяне супакоіць
Толькі тая адна,
Што душу маю калісь
Азарыла да дна.

Толькі тая, што ўрэшце,
Расквітнеўшы, як квет,
У шчаслівай усмешцы
Мне адкрыла сусвет.

Так, паэт спаўна выказаў пачуцці захаплення, кахання, любові, удзячнасці:

Той, што слухала сэрца, прыпаўшы шчакой да грудзей,
І трывожна пытала, чаму так стукоча яно,
І з слязьмі дакарала, што жыць не вучуся ў людзей,
І ўнушала, што трэба падбаць пра здароўе даўно...

Хвалявалася за яго, відаць, да самазабыцця. Баялася, каб адно з ім не здарылася бяда. А бяда прыйшла да яго: лёс паднёс выпрабаванне найцяжкою стратаю.

Голас пазнала і дотык рукі.
А воч не адплюшчыла — сілы няма.
«Мусіць усё... Адслужыла я вам...» —
Ледзь прашапталі бяскроўныя вусны.
«Не» — закрычаў я ад роспачы нема. —
Толькі не гэта! Не! Толькі не гэта!

Эмацыйна, узрушальна. Але ж далей у вершы пайшло шкадаванне не яе, а самога сябе (выказваю адзіную заўвагу на адрас аўтара). Было б непараўнальна прыгажэй, каб высакароднай жанчыне, якая служыла не толькі асвеце, а й сям'і (найперш менавіта сям'і, свайму адзінаму) сказаліся словы пра яе, каб муж і сам не заўважыў, як упаў на калені — цалаваць яшчэ жывыя вусны, рукі.

Красе мастацтва далёка не заўсёды адпавядае і не заўсёды спрыяе жыццёвая праўда і шчырасць творцы. «Глянь, як, пачуўшы тваё «адслужыла», // Страшна злякаўся, спалохаўся я...// Так, што магу і цябе апярэдзіць — // Грымнуцца тут жа...».

Рэаліст Ніл Гілевіч тут з талентам драматурга-псіхолага паказаў чытачу страх мужа за самога сябе перад немінучаю стратаю любай Жанчыны. Яго як бы й апраўдвае тое, што ён высмейвае сябе, такога разгубленага, уяўленнем расчараванага доктара і ягонай іроніі:

«Дзіўна! Паэт, а зваліўся ад страху,
Што застанецца адзін, без яе.
Божа, які слабачына! А ў вершах
Ледзь не героем сябе выдае...»

Аднак любое засяроджанне (тым больш крытычнае) на сваім пачуцці ўжо ўспрымаецца як недарэчнае, бо ён знаходзіцца не на якой-небудзь (прасторавай ці часавай) адлегласці ад цяжкахворай Каханай, а непасрэдна перад Ёй, ля Яе. У творы адбылося сумяшчэнне несумяшчальнага.

Свой водгук на незвычайнае выданне я не магу скончыць на такой ноце, тым больш што і кніга на гэтым творы не канча-

ецца. Тут яшчэ нямала вершаў, вартых чытацкага захаплення. Адзін з іх завяршае перадапошнюю, дваццаць пятую старонку:

Тонка-п’янлівы
Водар тваіх валасоў
Перагукнуўся
З водарам верасу — тым,
Што нас п’яніў на ўзлеску.

Паэтычнаю дасканаласцю хачу назваць і такі нешматслоўны твор:

Ну, вядома ж, я не мог праспаць
Гэту поўню над прасторам сонным,
Што даспелай збажыной прапах,
Гэты цвыркуновы найгрыш сольны,
Гэты першы ветрык, што гуляць
Выбег з логу, чуючы дасвецце...
І вачэй тваіх чароўны бляск,
І твой голас, найпяшчотны ў свеце...

У актаве — і рыфмы нечаканыя, і метафары яскравыя, і, галоўнае, чароўная карціна роднай прыроды, на фоне якой адбылося шчаслівае спатканне з каханаю.

Уражвае і тое, што вершы, якія прачытваеш на адным дыханні, ствараліся, каб стаць кнігаю, ажно цягам паўстагоддзя (1953-2003).

2004

# «НАД КОЖНЫМ ЛІСТАПАДАМ ПЛЫВЕ МАЯ ЖУРБА»

1

Яе натхнёна-дзейсная і трагічная постаць, высокамастацкая спадчына не могуць не вабіць людзей, якія адчуваюць магію слова і ўзлёты чалавечага духу. Жэня Янішчыц... Ясяльдзянка (ад найменне роднай ракі Ясельда), як сама называлася, падпісваючы ў юнацтве свае лісты і паштоўкі сябрам. Палесся мілае дзіця, як прачула і пяшчотна назваў Ніл Гілевіч яе, па-дзіцячы адкрытую, даверлівую і чуйную, калі яна па-ластаўчынаму імкліва ўлятала ў літаратуру.

Навукоўцы ў сваіх дысертацыях і манаграфіях, а літаратары ва ўспамінах, эсэ называюць паэтку непрыручанаю птушкаю, шчырай летуценніцай, самотнай (усе гэтыя азначэнні ёсць у яе вершах). Але ж яна — непараўнальная, бо колькі ні давай азначэнняў — ніводнае не вычарпае сутнаснага, самаснага.

Творца незвычайнай лірычнай пранікнёнасці, красы. Яе паэзія — залатая старонка прыгожага пісьменства.

З яе імём паядналіся багаты паэтычны дар, шчаслівы творчы лёс і, на вялікі жаль, глыбокая драма асабістага жыцця, трагічны зыход. Паміж днём нарадзінаў і журліваю датаю — сорак гадоў. Толькі сорак!

Яна — гонар нацыянальнай літаратуры і невымоўная наша страта, незагойная рана, шчымлівы боль. Месяц яе з'яўлення — лістапад. І месяц завяршэння зямнога шляху — таксама лістапад.

Надмагільны помнік на Усходніх могілках у Менску — прыгожая постаць з крыламі за спінаю. Крылы яе натхнёнасці

бачыў зрокам мастака таленавіты скульптар Леў Гумілеўскі ці ён іх чуў у рухах узрушанай душы? А ці адчуў «вечную прагу крыла» у асобе ўзнёслае паэтэсы? Як бы ні было, крылы — уласцівы яе паэзіі вобраз, які ўжываўся ёю ў самых розных і самых нечаканых кантэкстах. Вось адзін з іх:

Але гудзе любові крылле,
Шчаслівы славячы прыгнёт.
Жыццё маё, і там, на схіле,
Ты ўсё — загадкавы палёт.

Чаму ж яны, Богам дадзеныя крылы, не ўтрымалі яе аднойчы над халоднаю скамянелай зямлёю? Чаму так рана яна іх склала? Здарылася непапраўнае: у сівой матулі не стала любімай дачкі, якая дагледзела б маміну старасць, — асірацела маці, «сойка скрухі, перапёлка жалю», кнігаўка Жэніных шчымлівых кніг; у сына-школьніка не стала матулі, якая яго «ахоўнай арліцай была»; у паэзіі не стала самаадданае майстрыхі, што ўмела «з нябачных промняў вобраз ткаць»; у народа не стала сардэчнай і памяткой дачкі-патрыёткі, якая падаравала яму зорную сваю паэзію. Трагедыя здарылася 25 лістапада 1988 года — творца падала на зямлю з восьмага паверха сваёй кватэры, з балкона. Смерць яе сталася адной з самых цяжкіх заўчасных стратаў беларускай культуры ў XX стагоддзі.

Усім, хто любіў яе і ўсё яшчэ журыцца па ёй, застаецца суцяшэнне: духоўна-эстэтычная энергія, што засталася ў творах паэтэсы, непадуладная нябыту.

Смерці ў паэта няма —
Ёсць Нараджэнне!

Сказанае гэта ёю пра Максіма Багдановіча ў поўнай меры адносіцца і да яе самой.

На працягу лістапада звычайна ў школах, бібліятэках, у літаратурных і краязнаўчых музеях адбываюцца і маюць пра-

даўжэнне дні паэзіі легендарна-слыннай творцы з ушанаваннем яе памяці. У арбіце высакароднага чыну — паэты, навукоўцы, настаўнікі, бібліятэкары, прыхільнікі мастацкага слова. Не так і мала тых, у кім, насуперак разгулу амаральнасці ў грамадстве, жыве трапяткая і цудадзейна-мілагучная, высокадухоўная, чалавечная паэзія Яўгеніі Янішчыц, абуджаючы ў душах людзей пачуцці любові і жалю...

2

Мяне заўсёды ўражваў вобраз Жэні Янішчыц. Гэта быў шчаслівы той выпадак, калі вобраз творцы і яе лірычнай гераіні, вобраз чалавечы і паэтычны — у гарманічным спалучэнні, у двухадзінстве. Яна была аднолькава шчырая ў жыцці і ў паэзіі, аднолькава захопленая, зачараваная, а пазней і аднолькава расчараваная.

У імклівым, хуткаплынным часе захаваліся лісты Жэні-школьніцы, юнай паэтэсы. Мне яна адрасавала пяць лістоў. Гэта быў поціск цёплай сяброўскай рукі ўвесну 1966 года. Тыя пісьмовыя вітанні цяпер успрымаю як пялёсткі незавядальнай кветкі — чысціні. Тройчы ставіла яна пад сваімі лістамі подпіс: Ясяльдзянка. У такім мілагучным слове чулася і чуецца мне паэзія яе любімых мясцінаў, іх пяшчотнае хараство, яно, тое слова, дыхала і дыхае на мяне рачною ды лугавою свежасцю. Радкі з ліста: *«...была на Ясельдзе. Далёка-далёка заплыла на лодцы. А навокал такая прыгажосць! Стала крыху сумна ад дзівоснае цішыні і белых рачных лілеяў. Напісала некалькі вершаў».*

Рака пачынаецца з крыніцы. Там, на родных прасторах, з крыніцы народнага жыцця пачыналася чыстая і смелая рака яе вершаў і паэмаў, адтуль пракладвала яна рэчышча да мора-акіяна паэзіі.

Як дарагую рэліквію берагу яе прыжыццёвы, ужо выніковы томік паэзіі «У шуме жытняга святла»: ён — з аўтографам. Дата — 28.10.1988 г. За няпоўныя 23 гады почырк не змяніўся.

Змяніўся талент — разгарнуўся, расквітнеў. На небе паэзіі расцвіла вельмі яскравая і таму дужа прыкметная зорка.

Ідуць вёсны і восені. У прыродзе паўтараецца цвіценне і завяданне. Зноў і зноў я ўспамінаю эпізоды з Жэнінае юнацкае вясны і яе апошняй восені. Думаю, ці выпадкова мне было наканавана сустрэцца з ёю ў тую вясну і ў тую восень.

3

Уперш — пра вясну. Жэня вясною 1966 года завітала ў Берасце. Юная дзяўчына, усмешлівая, з ямачкай на шчацэ і з аптымістычна прыўзнятымі куточкамі вуснаў, уражвала абсалютнай бясхмарнасцю і натуральнаю любоўю да жыцця, да свету. І ў вачах была вясна, і ад слоў ішоў водар — як ад маёвых красак.

Словы з ліста: *«Што ў мяне навенькага? Мабыць, вясна, што светлым промнем уварвалася ў маё сэрца і вершы. Разумееш, не магу не пісаць. Дзіўна неяк нават, што вершы пішуцца так лёгка... Няўжо ўсім так лёгка пішацца?!».*

Разам з лістамі прыходзілі і лірычныя радкі.

Ці дагараць, ці сціхнуць васількі
Каля жытнёвых заараных пожняў?
Іх, здзіўленых, бяру з тваёй рукі
І вуснамі схіляюся над кожным...

Вядома, гэта было яшчэ толькі прадчуванне высокай паэзіі, якая, аднак, неўзабаве прыйдзе да яе і ўладна возьме ў пажыццёвы палон.

Ужо тады, на самым пачатку творчасці, Жэня была патрабавальная да сябе як да творцы. *«Мне неяк няёмка нават, што ў Мінску мяне лічаць сапраўднай паэтэсай,* — пісала яна з усёй уласцівай ёй шчырасцю. — *Часам смешна. А я пакуль што настойліва шукаю сябе ў сваіх вершах».* Гэта былі плённыя пошукі.

Столькі думак самых шчырых!
Светлы шлях мне пажадай.
Заўтра будзе сіні вырай
І бясконцы небакрай,
Будзе лета з навальніцай
І вясёлкай над ракой.
Толькі мне не паўтарыцца
А ні летам, ні зімой.

Дзіўна, што і ў самыя раннія лірычныя споведзі закрадваліся мінорныяноткі, хоць і панавалі ў сэрцы добрыя ўражанні і адпаведны настрой.

У траўні 1966 года Жэня Янішчыц, выпускніца сельскай школы, прыслала мне свой фотаздымак: пад раскошна квітнеючай яблыняй — светлая, з праменна-загадкавай усмешкаю, чыстым позіркам і шырока раскрыленымі бровамі дзяўчына. Фотааб'ектыў схапіў цудоўнае імгненне, у якім засталося суцэльнае цвіценне — вясновай яблыні і дзявочай вясны, дзявочае красы. На адвароце здымка — васьмірадкоўе. Пачынаецца яно словамі: «Я жыву ў старане чаромхавай, // Там, дзе Ясельда з ціхай Пінаю...», а завяршаецца так: «Я па свеце птушкаю лётаю, // Я уся такая шчаслівая!». У гэтым яшчэ вучнёўскім вершы-прызнанні, відаць, найкаштоўны апошні радок. Менавіта — у с я такая шчаслівая! Пра тое сведчылі і шчырыя вочы, і абаяльная ўсмешка, і вясёлая ямачка на шчацэ.

Яе пакуль яшчэ не біла жыццё, і ёй здавалася, што паўсюдна свет хараства, даверу, узаемаразумення, што няма ў ім пошасці, вераломства, хамства, здрады, зайздрасці...

Даверлівае дзіця Палесся глядзела на свет зачараванымі вачыма, адсюль, пэўна, і ацэнкі высокія. *«Самаму цудоўнаму...»* — пачынаўся надпіс пад вершам на адвароце фотаздымка, — так па-сяброўску шчодра ўзнагароджвала яна мяне адмысловымі словамі.

Сэрца юнай паэткі было расчынена насцеж насустрач жыццю, наперадзе быў выбар жыццёвае дарогі. Радкі з ліста: *«Бог*

*ведае, куды мяне занясе першы юнацкі вырай. Але хочацца верыць, што ён будзе светлы, як мае палескія крыніцы, звонкі, як мае беларускія бары».*

Горад мне думкі скоўвае,
Горад мяне не цягне.
Пэўна, зямля вясковая
Стане жыцця працягам.

*Ды і не заўсёды так пра горад. Напрыклад, Брэст, Пінск, Мінск — гэтыя назвы дарагія для мяне і самыя родныя на ўсё жыццё».* Падобна ўсё ж на тое, што яна прадчувала, куды яе занясе першы юнацкі вырай. Радкі з ліста: *«...учора атрымала ліст з Саюза пісьменнікаў ад Русецкага... Нехта паведаміў яму, што я збіраюся паступаць у Маскоўскі літаратурны інстытут імя Горкага (хоць я і блізка не падыходзіла да гэтай мары!)... Думаю.., што мне, зусім яшчэ маладой дзяўчыне, рана туды...»* Пытаецца, як я мяркую на гэты конт, піша пра тое, што падзялілася сваімі думкамі з Нілам Гілевічам. І дадае: *«...у Маскве ўсё-ўсё выкладаецца на рускай мове. А пісаць для Беларусі і жыць у Маскве — не вялікая прыемнасць...»* Вось як мудра разважала наша мілая юная паляшучка. У літаратуру ішла («пісаць для Беларусі»!) асоба з імём сваёй Бацькаўшчыны, якой ніколі не магла яна здрадзіць.

4

Калі ў Берасце завітала Жэня Янішчыц, прыехаў і Алесь Разанаў з Бярозаўшчыны. І мы разам хадзілі ў адну сям'ю — да былых настаўніц, сёстраў Ніны і Зоі Усціновічаў. Ніна Львоўна Усціновіч была з вайны прыкутая да ложка цяжкаю хваробаю. Яна таксама пісала вершы. І мы ўсе былі то ў ролі дэкламатараў, то ў ролі слухачоў.

*«Доўга не забываўся Брэст,* — пісала мне Жэня, вярнуўшыся дамоў. — *Ды і ці калі-небудзь забудзеш тыя слаўныя два вечары, што правялі ўсёй паэтычнай кагортай!»* Заўважу, у кожным сваім лісце яна разам з прывітаннем маёй сям'і перадавала прывітанне Усціновічам. Памяткою, далікатнаю запомнілася мне яна ў той далёкай і такой блізкай вясне. Увага да людзей, зродненасць з імі, разуменне іх — гэтыя якасці характару пазней спаўна выявіліся ў кніжках. Зборнікі яе паэзіі, асабліва «На беразе пляча», дзе сярод вершаў змешчана каларытная паэма «Ягадны хутар», і наступныя — «Пара любові і жалю», «Каліна зімы» шчытна заселеныя духоўнымі вобразамі людзей, сардэчнай раднёй, самавітымі вобразамі землякоў, «інтэлігентаў ад зямлі» *(«А што галоўнае ў жыцці? // Сцяпан іграў у новым клубе, // Інтэлігентна хлеб расціў, // Інтэлігентна дом галубіў»),* вобразамі сэрцу дарагіх інтэлектуалаў, паэтаў *(«Песняй абвостраны слых — // Чуеш, Максім? — не ўмірае! // Гэта з табой. І для ўсіх // Зорка Венера світае»);* кнігі яе заселеныя асабліва пяшчотнаю любоўю дачкі да маці, да бацькі, пра што сведчаць, да прыкладу, вершы: «Ля ложка хворай маці», «Бацькава дарога», «Мама», «Ты вучыла мяне сеяць жыта і лён», «Мама падрэзала косы», «Бацькава музыка», «Бацькавы дровы», «Мама і птушкі», «Тата»; а яшчэ яны густа і густоўна заселеныя вобразамі драматычнага кахання *(«Страшна ноччу мне быць // З гаркатой апантанай. // Ты сказаў: «Адшчыміць, // Заставайся каханай». // Ах, нуда – не бяда // Ў цішыні расстралянай. // На праломе ільда // Застаюся каханай.).*

5

Вясна, калі я ўпершыню сустрэўся з Жэняй Янішчыц, была ў маім жыцці помнаю, тады споўніўся год майму сыну. Яна яго і не бачыла, але не прамінала выпадку, каб выказаць сваю пяшчоту і ласку. Пісала ў лістах: *«Пацалуйце за мяне вашага*

*маленькага... Хай расце вялікі-вялікі!»; «...а Руслану абавязкова сыграйце маю любімую песню «Калыбельная» з кінафільма «Гусарская балада».* (У яе шмат было любімых песняў, найперш беларускіх народных. Але тады якраз прайшоў на экранах памянёны фільм)...

Цяпер міжвольна падумалася: як добра, што (пасля шлюбу з Сяргеем Панізьнікам) зведала яна мацярынства, яго высокі сэнс, святое прызначэнне. Пад сэрцам вынасіла новае жыццё. У пакутах яго нарадзіла, ахоўвала і выхоўвала дзіцё, удыхнула ў яго сваю любоў і пяшчоту. Гэта ўзбагаціла яе пачуцці, а праз іх — паэзію. Якім хараством, якой маральнай чысцінёю, якой самаахвярнаю любоўю, мацярынскай мужнасцю і гордасцю напоўнены крышталь прачулых радкоў пра сына:

Каб не глядзелася ў вочы ажына
І каб ваўчыннік рук не калоў, —
Тваю калысачку
з лёну, і жыта,
І з наймацнейшых пляла каранёў.
Зорка сачу, каб не збіўся з дарогі,
Змоладу каб не запляміў жыццё,
Востры каменьчык – пад мае ногі!
Пад мае рукі — шыпы і асцё.

Гордае шчасцейка, мая сямейка,
Ты па слядах маіх слёз не рассей,
Сыне мой першы,
наіўны Андрэйка,
І сын мой апошні,
мужны Андрэй!

## 6

Здавалася, найлепшым чынам складваўся Жэнін лёс.

Шчасце яе імкліва расло, бо рана прыйшлі поспехі, хутка разгортваўся паэтычны дар, у які найперш паверыў любімы школьны настаўнік Фёдар Фёдаравіч Цудзіла. Неўзабаве пайшлі шматлікія публікацыі ў рэспубліканскай прэсе; вядомыя паэты Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін, Алег Лойка з захапленнем віталі юны талент. Жэня паступае ў БДУ, у сталіцы з галавой акунаецца ў сусветную літаратуру, у творчае асяроддзе, плённа працуе, расце як творца, шырока друкуецца ў газетах і часопісах. Будучы студэнткай, выдае свой першы зборнік вершаў «Снежныя грамніцы» (1970). Рэзананс — неверагодны: дзесяць рэцэнзій, дзесяць водгукаў-захапленняў. Сярод рэцэнзентаў паэты Ніл Гілевіч, Анатоль Грачанікаў, Валянціна Коўтун, крытыкі — Дзмітрый Бугаёў, Рыгор Бярозкін, празаік Алесь Асіпенка.

Жэня Янішчыц станавілася фаварыткай публікі, яна здзіўляла інтэлектуалаў багаццем душы, арганічнасцю таленту, смеласцю вобразаў, метафар. У «Снежных грамніцах» аўтарка нечакана па-філасофску абвясціла: «Пачынаецца ўсё з любві». Люба-дарага тое, што яе паэзія пачалася з любові. З любові сардэчнай да свайго краю, дзе сонца «Акрапіла мёдам верасы», да роднага сяла, што «Для песні падарыла словы», да мовы, якую «І заворвалі і закопвалі» і ў якую, нібы ручай, уліваецца «Палескі нетаропкі галасок», да людзей, да землячак, такіх як цётка Клава, што засталася «На чатыры пакоі адна», як бабуля Паланея, у якой было пяць сыноў, а засталося пяць магіл. Ці не ў спагадзе канкрэтным людзям выток глыбокачалавечнай паэзіі Янішчыц? Тут, у першым зборніку, праявілася і яе метафарычная мова. Дзяўчына называе сябе «непрыручанаю птушкай», яна адчувае «калючую адзіноту», «крыгалом бяды», вось яна «Распусціла жнівень валасоў // Над вачыма, поўнымі адчаю». А ля ложка хворай матулі ёй, дачушцы, моцна баляць маміны рукі, ногі і сама доля, шчыміць сэрца. І вось яна прачынаецца вяснова, «Нібы загон перад сяўбой...»

Побач з бліскучым паэтычным дэбютам Янішчыц адбылося замужжа. Нарадзіўся сын. Друкаваліся новыя вершы ў нас і за межамі Беларусі ў перакладах на англійскую, балгарскую, іспанскую, нямецкую, польскую, рускую, украінскую ды іншыя мовы. Выходзілі новыя кнігі. Яе талент стаў агульнапрызнаны. Яна была навідавоку, у эпіцэнтры культурнага і грамадскага жыцця. І тут як бы хто яе сурочыў. Пайшла паласа цяжкіх бедаў: развод, дарожнае здарэнне, працяглае пасля наезду машыны лячэнне, нечаканая трагічная смерць бацькі, стрэс ад цяжкага захворвання малога сына. Шчырая душа не ўтойвала ад чытача таго, што адбывалася з ёю і ў ёй, з роднымі людзьмі. У адным з вершаў трэцяга зборніка «Ясельда» чытаем, напрыклад, што бацькава дарога, якую ён узвальваў сам на плечы і якая «Засынала ў дванаццаць, прачыналася ў пяць», упала на яго «жоўтым балючым пяском...» За сына, за яго здароўе малілася малітвамі-радкамі. З ліста да Алены Васілевіч: «Павінна ж вымаліць, калі ёсць хто сардэчны на небе... Праўда, ён п’е ўжо морсік, булён, можна кефір. Шчырую, як умею! І стомы мне няма пакуль што, хоць сутак колькі і не ела і не спала. Можа, потым хіба адчуецца. Але гэта не так страшна, абы Андрэйка хутчэй акрыяў. Цяпер у мяне толькі адно — падняць малога саколіка, выстаяць, выжыць! Дасць Бог, і неўзабаве пасвеціць сонейка і ў нашу хату. Ці ж я настолькі правінілася перад Богам?»

Дзіця яна гадавала адна, замуж другі раз не выходзіла.

Удары яе лёсу, пра якія гаварылася вышэй, магчыма, ішлі не ў такой паслядоўнасці. Пісьмаў мне Жэня больш не пісала. Пасля майго пераезду з сям’ёю ў Менск мы з ёю сустракаліся вельмі рэдка. Бачыліся звычайна ў Доме літаратара на сходах, часам на вечарынах. Зрэдку абменьваліся тэлефоннымі званкамі.

Неяк аднаго разу пры сустрэчы яна раптам прапанавала мне як-небудзь з’ездзіць з ёю і з Нінай Загорскай на Ганцаўшчыну — да Міколы Купрэева.

У канцы кастрычніка 1988 года мне, складальніку «Дня паэзіі–89», трэ’ было перагаварыць з яго галоўным рэдактарам Янкам Сіпаковым, і я зайшоў у рэдакцыю «Маладосці», дзе ён

загадваў аддзелам. У амаль квадратным пакоі стаялі чатыры сталы, за адным з якіх супрацоўнікі часопіса рэзаліся ў шахматы. Пасля кароткай гамонкі з Сіпаковым я падышоў да Жэні, яна працавала за сваім рабочым столікам, што стаяў пры акне. Нагадаў ёй, што мы меркавалі з'ездзіць да Купрэева, а між тым праляцела лета, хутка, маўляў, скончыцца і восень... Пацікавіўся, як яна пажывае.

— Ай, Васіль, не пытайся... Зайшоў бы калі...

Я сказаў, што не ведаю яе новага адрасу (ёй далі новую кватэру). Яна вырвала з настольнага календара лісток і напісала на ім нязменна прыгожым почыркам свой новы адрас. Дастала кнігу вершаў і паэм «У шуме жытняга святла» і надпісала: «Дарагім Васілю і Веры з самымі светлымі пачуццямі, з удзячнасцю за блізкае святло і цеплыню. Поспехаў у паэзіі, моцнага здароўя, шчасця ўсёй сям'і! Шчыра і па-зямляцку

Жэня Янішчыц
28. X. 1988 г.»

Хто мог падумаць, што менш як праз месяц яе не стане.

Ішоў апошні Жэнін лістапад. Запрошаны ў госці, я завітаў да яе. Была гаспадыня гасцінная. Але ад любові да жыцця, якая калісьці ў ёй літаральна буйнела, ад жыццерадаснасці не засталося і следу — ад Жэні не адступала хандра; мабыць, такі стан называецца дэпрэсіяй.

Апошні раз бачыў яе за два дні да трагедыі. Па дарозе ў выдавецтва зайшоў, каб запытацца, калі яна напіша для «Дня паэзіі–89» артыкул пра М.Ю. Лермантава да 175-годдзя з дня яго нараджэння.

— Ой, Васіль, ты ведаеш, калі мне цяжка, — сказала яна, як толькі я пераступіў парог кватэры.

Наконт артыкула сказала, што ёй трэба яшчэ трошкі часу...

Між тым, як я зразумеў, яна пачынала збірацца на працу, і мы развіталіся.

7

У зборніку паэзіі «Ясельда» (1978) ёсць такі нетрадыцыйны верш:

Вунь першая хмара навісла бянтэжна
Над краем.
Легальна зусім і зусім незалежна
Знікаю.
Вось  першая кропля апала над борам,
Над гаем...
З гасцінных канапаў і з пышных убораў —
Знікаю.
Знікаю з усмешак на тварах ліслівых,
Няверных.
Знікаю. Хай будзе на момант шчаслівы
Той бераг,
Дзе мроя збылася, дзе кветка ўзнялася,
А явы не стала...
Знікаю, пакуль я сама у сабе не знайшлася
Цвяроза і стала.
Вунь нечая зорка, начная ільдзінка,
Плыве па-над гаем.
З люстэркаў усіх і з усіх фотаздымкаў —
Знікаю,
Знікаю...

Уражанне такое, што адбыўся канфлікт асобы, душа якой перапоўнілася расчараваннямі ў фальшывым свеце, з ім самім, з гэтым светам. Але канфлікт здарыўся і з самой сабою — з сабой былою. З унутранага бунту пачыналася перабудова духоўных сіл, нараджаліся новыя надзея і вера: «Знікаю, пакуль я сама у сабе не знайшлася...» І што ж далей? Далей ішла мабілізацыя духоўных сіл:

Над смутным днём, раптоўнай катастрофай
Маіх празрыстых вобразаў і сноў,
Паўстану я...

І яна паўстала. І акрыяла. Сама ў сабе знайшлася «цвяроза і стала». Наперадзе быў яе лірычны подзвіг і былі заслужаныя лаўры.

З ударамі лёсу змагалася з усёй уласцівай ёй годнасцю.

Радкі з верша «Было. Былі. Была?..»:

Як град шалёна б'е,
Нібыта травы косіць.
...Я тая, што ў цябе
Палёгкі не папросіць.

Па-ранейшаму, усё, што адбывалася ў яе душы і з яе душою, спаўна адлюстроўвалася ў творах, у лірыцы, нікім непераўзыдзенай. Цяпер у паэткі выразна акрэсліўся новы віток канфлікту з светам, кажучы мякка, недалікатным і ліслівым, канфлікту, які пацвердзіў: тое адступленне: «Знікаю, знікаю...» не азначала капітуляцыю — яна вярнулася, каб выступіць супраць яго сам-насам. Але змаганне асобы з цэлым натоўпам заганаў свету хутка спаліць яе душэўную энергію і давядзе да роспачы, бо саму рэчаіснасць цяпер успрымала яна з хваравітай увагаю, на ўсё хваравіта рэагавала. Строфы з верша «Я выдыхну і сэрцам, і слязьмі...»:

Я цераблю ў задуме горкі лоб,
Я думаю пра невясёлы вопыт:
Мне задае пытанні хітры сноб,
Дзе кожнае пытанне, быццам допыт.

Дапытвайся, стратэгу, бог з табой!
(Ты ўжо мяне дапытваеш не першы).

Я ведаю даўно, якой цаной,
Якой любоўю выдыхнуты вершы.

Зрэшты, складана аналізаваць пачуцці вытанчанай натуры, бо яна і павінна рэагаваць на ўсё неардынарна. Многім людзям асаблівае значэнне мае тое, як да іх дасягненняў ставяцца іншыя, асабліва прызнаныя аўтарытэты. Помніцца, з якою радасцю Жэня казала мне па тэлефоне, што на публікацыю ў «ЛіМе» яе «Зорнай паэмы» адгукнуліся нават Максім Танк і Пімен Панчанка. Помніцца і такое: калі я павіншаваў яе  па тэлефоне з дзяржаўнай прэміяй за кнігу «Пара любові і жалю», яна заплакала, бо ў яе аказаліся зайздроснікі, нядобразычліўцы, якіх яна, праўда, не назвала: яе душылі слёзы. Як некалі, у юнацтве, зачароўвалася белым светам, людзьмі, так цяпер ці не ва ўсім расчароўвалася, нарастала падазрэнне ў няшчырасці людзей. Радкі з верша «Любоў?»:

Была мішэнню ў цэнтры круга,
Лічыла дні балючых страт...
Што ж мне рабіць з любоўю друга,
Які не друг мне і не брат.

Тым часам пашыралася і паглыблялася трэшчына ў лёсе, рос адчай, набліжаўся неспасцігальны крызіс. Радкі з верша «Ад слёз адвыклае, расчуліцца»:

Усё — за росамі, за вёснамі,
За шлейфам грознае грады.
І як дарога пад калёсамі —
Мае збалелыя гады.

Радкі з верша «І сапраўды: нібы казённы дом...»:

І вось іду — уся глуханямая.
І вось іду... але куды, куды,

Па што цяпер акрылена спяшацца...
Заплакаць ці шалёна засмяяцца
На грані чорна-аспіднай жуды?!

Міжволі даляцела рэха палярных слоў, палярнага прызнання — з яе зачараванае вясны: **«Я уся такая шчаслівая!»,** даляцела, ды разбілася аб гэтае ледзяное: «І вось іду — **уся глуханямая».** Ад неабсяжнага шчасця ўсяго дваццаць два гады ішла яна да свайго няшчасця. Шмат пра што гавораць радкі яе апошніх інтымных вершаў. Напрыклад, вось гэтыя: «Кахаем так, як на вайне — // Па самай кроўнай міласці. // Я зразумела: болей мне // Разлук з табой не вынесці». Відавочная драма кахання і ў вершы «Жораў ты, а я — сініца...»: «Што ж за вогненнае шчасце: // Скошан лёс, як сенакос. // Да цябе мне не прыпасці — // Прыпадаю да нябёс».

Драма перарастала ў трагедыю. З верша «Наіўныя, ўлюбёныя гады...»:

Апошні дар, апошні ўдар жыцця?
Гракамі перакрэслена світанне.
Да забыцця жыву, да знебыцця
Таго, што называлася каханнем.

Гэта былі пякельныя іскры інтымнага пажару душы ці, магчыма, град, выкліканы нейкім цяжкім зямным цыклонам? З бедамі сваімі заставалася яна часта адна: маці жыла ў вёсцы, сынок хадзіў у школу, брат ездзіў у камандзіроўкі, сябры, сяброўкі час ад часу прыходзілі і сыходзілі. Шкадую: не прыдаў значэння знячэўку пачутым словам, што да яе прыйшоў **глабальны** спакой...

Згадваецца і яшчэ адзін невясёлы верш, асабліва — яго канцоўка:

Блаславёна стажэчак завершым,
І прамовіць матуля ў жальбе:

«Як цябе ўратаваць мне ад вершаў,
Ад самоты, што з’ела цябе!»

Ад такой самоты лекаў не знайшлося.

Што ж да ратавання ад вершаў, то, напэўна, і вершы, натхнёны занятак імі, ратавлі яе да пары, хаця мы ведаем, што такое — заўсёднае знаходжанне, кажучы словамі С. Ясеніна, «на каторге чувств» (дарэчы тут згадаць і Жэніны радкі з верша «Паэтэса»: «Дзяўчынцы хочацца ў паэты, // Што ў катаржанкі, — дзе ж ёй знаць?!»). Ратунку не знайшлося ад самоты не толькі чыста асабістай, а й народнай, агульнанацыянальнай, якая звышуражлівай творцай успрымалася як глыбока асабістая. Вострым болем адгукаліся ў ранімай душы грамадскія праблемы і беды, а найперш горкія перамены і няўдачы сучаснай ёй палескай вёскі, якая з’яўлялася перадумовай ды асновай яе маральнай чысціні, духоўнага росту і магутнага творчага ўзлёту. Усё часцей з-пад пяра летуценніцы выходзілі абсалютна рэалістычныя, пранізліва-праблемныя творы, да прыкладу — «Зорная паэма» ды цэлы шэраг вершаў, у адным з якіх («Наконт гарадскога мыслення») пастаўлена публіцыстычнае пытанне: «А хто ж яе, вёску, ўдавою пакінуў, // Хто школы паціху ды клубы закрыў?» Падобныя матывы і раней хвалявалі знаную дачку Палесся, што засведчыў «Зажураны ліст да школьнага настаўніка»: Матвей Іванавіч, няўжо // На знос і наша школа?» Сярод вершаў, якія паэтэса не паспела ўключыць у апошні свой зборнік, звяртае на сябе ўвагу «Чаша». Страшны аварыйны выбух на Чарнобыльскай АС у красавіку 1886 года смяротную нёс небяспеку ў трох стыхіях і, натуральна, адмоўна дзейнічаў на чалавечую псіхіку, сеяў паніку ў народзе, што якраз выразна адлюстравала «Чаша»:

Горка на чарнобыльскім Палессі,
Хоць збірай майно на Калыму.
……………………………………
Журавы гуртуюцца журліва,
І чарнее корань у сасны.

Бачу, як хістаецца жахліва,
Як трымціць на вагах шар зямны...

«Верш, напісаны ў цырульні», данёс трывогу творцы, жанчыны, маці за чужых юнакоў, за прызыўнікоў:

Радзімыя, шчымлівыя жаўронкі,
Дай Бог сустрэць мне вас праз два гады!
………………………………………
Шчаслівае дарогі вам і пошты,
Хай вас цяпло радзімы саграе!
...Ад першай кулі гінуць. Ад апошняй.
Не па-мі-рай-це!.. хлопчыкі мае.

Янішчыц ведала, што ў далёкім Афганістане ні за што гінуць нашы беларускія хлопцы, ды асудзіць савецкі таталітарызм, відаць, яшчэ не была гатовая, але забароненую тэму ўсё ж па-свойму закранула, бо мела вялікае сэрца. А што да прысуду, то яго вынесла яна сталінскай рэпрэсіўнай сістэме, якая пладзіла даносчыкаў-паклёпнікаў і ўкараняла дэспатызм. З верша «Над хронікай 30-х гадоў»:

Які разгул шалёным капытам,
А здзекаў жах, нібы ў сярэднявеччы!
І Д'ябал у Суддзі перапытаў:
Таленавіты? Значыць, небяспечны!

Не магу не згадаць і прозы Яўгеніі Янішчыц. У апавяданні «Кошык бульбы» яна паказала бяду вясковае кабеты, матулі трох дзяцей, якую пасадзілі за кош калгаснае бульбы. Цалкам падзяляю думку Дзмітрыя Бугаёва, выказаную ў прадмове да бліскучай кнігі паэтэсы «Выбранае» (2000-ы год): «...апавяданні Янішчыц агульным пафасам сугучныя з яе вершаванымі творамі пра народнае жыццё і таксама шмат гавораць пра яго складанасць і цяжар». Я, грэшны, спатыкнуўшыся ў свой час на

прозе С.Ясеніна (хіба можна яе параўнаць з яго ж, непераўзыдзенага лірыка Расіі, паэзіяй?!), скептычна думаў пра апавяданні Янішчыц, не чытаючы іх. О, тут ёсць што прачытаць! Дзіву даешся, як Жэня валодала гумарам, іроніяй, як дасканала ведала народную лексіку і як умела слухаць нашых беларускіх палешукоў! Пераказваць яе аповеды проста немагчыма, іх карысна чытаць, абавязкова — «Чобаты...», «Бомбачку», «Адно толькі ліха, што вароны каркаюць». Зрэшты, тут кожны знойдзе нешта на свой густ.

8

Нам засталася спадчына, скарбы сэрца і розуму выбітнай творцы — задушэўна-пяшчотная і рамантычна-ўзнёслая, праніклівая паэзія, часта не пазбаўленая праблемаў сучаснасці. Так, найперш паэзія (проза, хоць яна таксама арыгінальная, таленавітая, займала ў яе творчасці не такое значнае месца). Валодаючы магутным талентам, чарамі мастацкага слова, Янішчыц выказвала і паказвала самы складаны стан чалавечай душы, які ўвесь час змяняецца, як святло і морак, захапленне і расчараванне, радасць і туга, надзея і адчай. Усё ў яе творах глыбока ўражвае. Яе інтымная лірыка — у шэрагу найвышэйшых дасягненняў беларускай паэзіі. Гарачае трапяткое сэрца і збалелая душа шчодра ўкладзены ў паэмы. Арыгінальна гучаць матывы сэнсу жыцця і сутыкнення з «ледзяным» мяшчанствам у лірычна-іранічнай паэме «Акно ў дождж». Арганічнае спалучэнне верша і вершаванай прозы ў форме лістоў да маці, дзядзькі Арцёма, стрыечнага брата ўмела выкарыстана ў паэме «Ягадны хутар», поўнай пяшчоты і любові да родных ды блізкіх людзей, іх адвечных клопатаў. А ў «Зорнай паэме» Жэня Янішчыц лірычна-публіцыстычныя радкі напаўняе трывогаю перад стратаю грамадствам маральных і духоўных арыенціраў, трывогаю за чалавечнасць у хаосе прыстасавальніцтва і раўнадушша, а яшчэ — глыбінnай любоўю да «белабярозавага кута»,

краю, багатага на ўмельцаў, болем за іх цяжкія лёсы і амаль бязвыхаднае становішча.

* * *

Усякая зорка, згараючы, пасылае сусвету святло. Яна, Жэня Янішчыц, гарэла і згарала вельмі інтэнсіўна. У сардэчнай і мужнай паэзіі Жэні Янішчыц нямала афарыстычнага. Варта запамятаць:

Тады магутная дзяржава,
Калі вялікі ў ёй народ.

Вялікі духам і гістарычнай памяццю — чытайма ў падтэксце.

У сардэчнай і мужнай паэзіі Жэні Янішчыц ёсць запаветнае. Як наказ грамадству прачытваюцца яе многія вершы. Яны могуць служыць эпіграфамі. Адзін з яскравых запаветаў я знайшоў у вершы «Адносна культа»:

Узвядзём жа культуру ў культ,
Ачышчэнне душы — непазбежна!

Душа чалавека — тая найтанчэйшая субстанцыя, якая найбольш хвалявала знакамітую творцу, хоць яна добра адчувала і душу прыроды, яе таямнічасць. Вось пацверджанне, а заадно і нечаканае мастацкае адкрыццё:

Адкрыць, сказаць сваё мне нешта хоча
Энергія апалага лістка.

Трэба мець выключна чуйнае сэрца і вытанчаны талент, каб адчуць энергію апалага лістка. Калі ж такая няўлоўная энергія ўспрынята душою, тады што сказаць пра энергію самой паэтычнай душы-зоркі, энергію, якую яна пасылае? Ёй не існуе пе-

рашкод, не існуе адлегласці. Высокае прызначэнне мае энергія святла зоркі. Яна не ведае небыцця.

У адным з інтымных вершаў Янішчыц ёсць радкі: «Над кожным лістападам // Плыве мая журба». У слыннае творцы гэтыя словы нарадзіліся, падобна, ад самоты-адзіноты. Цяпер, калі яе няма з намі, кожны, хто адчуваў святло ад сустрэчы з ёю, можа — як свае — паўтарыць іх, радкі, у якіх жыве жураўлінае і лебядзінае пачуццё разлукі. Так, нашая журба плыве над кожным яе лістападам, над яе трагічным лёсам.

1998, 2008

## ЯК ШАНУЕМ І ЎВЕКАВЕЧВАЕМ ПАМЯЦЬ?

Маштабнае пазнаецца й на адлегласці. Чым больш мы аддаляемся ад зямнога шляху Жэні Янішчыц, тым больш упэўніваемся: здзейсненае ёю на зямлі прадыктавана НЕБАМ. Яе літаратурная спадчына — не што іншае як шчодры дарунак высокага святла грэшнай зямлі. У зорных вершах і паэмах пранікліва гучыць узрушаны голас трывогі за наш белы свет, пацямнелы ад зла, прачулы голас трывогі за будучыню, за чалавека, у гранічна шчырых творах прачытваецца стан збалелай, такой чуйнай і таму такой ранімай душы! Як мілагучную мелодыю нярэдка глушыць какафонія, так яе, гарманічную і жыццядайную, да стану глуханямой («І вось іду — уся глуханямая») даводзілі перыпетыі жыцця, у якім, на вялікі жаль, не апошняе месца займаюць зайздрасць, грубасць, недухоўнасць, вераломства. Свет у вачах даверлівай і ўражлівай душы аказаўся не такі гожы, як уяўляўся. Скруха — крушэнне. Прычына і вынік. Мяркую, тыя, што абыходзіліся недалікатна з Жэняй, а тым больш — з яе памяццю, не раз пакаяліся. Хто не паспеў — лепш позна, чым ніколі. Не каяўся толькі Каін, а нармальным людзям уласцівыя пачуцці сораму, віны, пакаяння.

Жэня Янішчыц ужо не прысутнічае ў свеце, але толькі фізічна, бо духоўная яе прысутнасць яшчэ ярчэй выяўляецца, пра што сведчаць хоць бы выданні яе паэзіі напрыканцы XX стагоддзя ў Балгарыі і ва Украіне. Пашырэнне межаў яе гаючага ўздзеяння на чалавека непазбежная і ў новым стагоддзі. Вось загучала Жэніна паэзія ў іншых краінах, на іншых мовах. Хай жа будзе сорамна тым, хто дагэтуль не выдаў яе спадчыны ў найбольш поўным аб'ёме ў Менску. Планавалі трохтомнік да 50-х угодкаў знакамітае творцы, але добры намер так і застаў-

ся ў плане. Як гэта разумець? Адназначна: на тую, што ўжо не пастаіць за сябе, не стае сродкаў... Выдаць неабходна яе паэзію, уключаючы ўсе паэмы, апавяданні, пераклады, публіцыстыку, крытыку, выбраныя лісты і прысвечаныя ёй творы.

Вершы паэткі, як правіла, меладычныя, спеўныя, што даўно заўважана кампазітарамі. Трэба паклапаціцца пра выданне дыска з яе песнямі і з вершамі, якія яна чытала лепш за артыстак і якія, на радасць усім нам, захаваліся ў фондах радыё.

Ушанаванне і ўвекавечанне памяці Янішчыц — не толькі святы клопат пісьменніцкай суполкі, гэта і святы абавязак адпаведных уладных структураў.

Музей у роднай школе, бібліятэка і вуліца яе імя ў Пінску — гэта цудоўна! Ушанаванне памяці слаўнай дачкі Бацькаўшчыны на яе радзіме, на Піншчыне, выклікае радасць і гордасць за яе землякоў-рыцараў. Але Я н і ш ч ы ц — з’ява не рэгіянальная, а з’ява агульнанацыянальная. Ёю ганарыцца Піншчына, ганарылася найперш маці Марыя Андрэеўна (яе, на жаль, няма ўжо з намі), а павінна ганарыцца маці Беларусь. Дык хай жа будзе сорам усім тым, хто мае дачыненне да захавання недарэчных у нас назваў вуліц: Ангарская, Байкальская, Енісейская, Вялікаморская, Волжская, Аўрораўская і да ім падобных усёй сваёй бязглуздасцю. Чаму ў сталіцы незалежнай Рэспублікі Беларусь няма вуліцы імя выдатнае творцы Янішчыц?! Скажаце: а Міцкевіча? А Багушэвіча? А Караткевіча? А Геніюш?.. Так, вядома, і ўсіх названых, і шмат каго з неназваных. Адно ж другому не замінае.

Дарэчы, у звязку з гэтым падумалася, што беларуская нашая нацыя — нацыя не толькі духоўна багатых постацяў, герояў, рупліўцаў — гэта яшчэ і нацыя тугадумаў: спатрэбілася ажно 143 гады пасля смерці Адама Міцкевіча, каб на дэфармаваную свядомасць беларусаў спакваля находзіла азарэнне, што ён, паводле акадэміка і літаратара-прарока Вацлава Ластоўскага, — «цела ад цела і кроў ад крыві» — наш. Пушкін, каму інтарэсы «Літвы» былі, вядома, чужыя, разумеў, аднак, што Міцкевіч — «певец Литвы», што азначае — Беларусі, а ўсе нашыя псеўдаву-

чоныя ды іхнія даведнікі тлумачаць, што ён — польскі, выключна польскі паэт.

І няўжо нацыя хоць бы ў XXI стагоддзі не разбярэцца, што Жэня Янішчыц – кроў ад крыві народная паэтка Беларусі?! Нарадзіся яна ў іншай краіне — даўно была б народнаю. Скажаце: а Багушэвіч? А Багдановіч? А Караткевіч? А Арсеньнева? А Геніюш? Так, вядома ж, і ім, і шмат каму яшчэ трэба надаць званне народных, калі такое існуе. Стаўленне да памяці знакамітых — ці не першы паказчык узроўню культуры. Узвядзём жа культуру ў культ!..

1998

## ТАМАРА ЧАБАН

1

Усяго толькі сорак няпоўных гадоў жыцця ёй было наканавана суровым лёсам, апошнія пятнаццаць з іх яна аддала творчасці. Тамара Чабан яшчэ ў школе адчула любоў да паэзіі, сама спрабавала складаць вершы. Але пасля зразумела: яе стыхія — крытыка і літаратуразнаўства. У рэспубліканскім друку ўпершыню выступіла ў 1977 годзе: апублікавала ў «ЛіМе» рэцэнзію «Пачуццё меры» на кнігу Вольгі Іпатавай «Парасткі». Датуль ішло інтэнсіўнае назапашванне ведаў на філфаку БДУ. Там, ва ўніверсітэце, яна прадоўжыла вучобу ў завочнай аспірантуры пасля двух гадоў працы выкладчыцай роднай мовы і літаратуры ў Ветрынскай школе (Полаччына). А папрацаваўшы год у Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН Беларусі, у 1982 годзе абараніла кандыдацкую дысертацыю «Рамантычныя тэндэнцыі ў сучаснай беларускай паэзіі». І гэта ўжо быў прыкметны ўнёсак у айчынную філалогію. З той пары Тамара Чабан пачала рэгулярна друкавацца ў галоўных літаратурных перыядычных выданнях. У яе асобе інтэлектуальная Беларусь убачыла высокапрафесійнага крытыка, з чым меркаваннем лічыліся не толькі прыхільнікі відавочнага таленту, але і апаненты.

Уражвае дыяпазон крытычных жанраў, чым яна валодала дасканала. Творчы партрэт, гутарка, рэцэнзія, праблемны і дыскусійны артыкулы, літаратурны агляд — усё, за што бралася, рабіла з нязменным поспехам.

У полі зроку Тамары Чабан была ўся наша паэтычная планета, а найперш — маладыя таленты і майстры яе пакалення —

Ніна Мацяш, Жэня Янішчыц, Алесь Разанаў, Уладзімір Някляеў ды шмат хто яшчэ. Чытачы любілі яе гадавыя агляды маладой беларускай паэзіі і артыкулы пра вядомых і знакамітых. Яна заўсёды заўважала сутнаснае ў зборніках тых аўтараў, хто захапляў яе ўвагу. Пра гэта сведчаць, да прыкладу, рэцэнзіі: «Рух слова» — на кнігу У. Някляева «Вынаходцы вятроў» (1979), «Навука глыбіні» — на кнігу П. Макаля «Смак яблыка» (1981), «Светлая элегія быцця» — на зборнік М. Рудкоўскага «Трыгор'е» (1981). Высокую адзнаку Тамара Чабан давала паэзіі Ніны Мацяш, яе пяшчотнай лірыцы, што засведчыў лімаўскі артыкул «Пад знакам васілька». З асаблівым настроем ставілася яна да творчасці Алеся Разанава, заўважыла глыбінную філасофію яго твораў, а на кнігу «Вастрыё стралы» (1988) азвалася рэцэнзіяй «На мяжы невымоўнага». Валадарка праніклівага крытычнага слова, яна бачыла маштабнасць Разанава-мысляра, непаўторнасць яго стылю, разумела, што ён у паэзіі — лідар, і таму не мог не адбыцца іх дыялог. Ён адбыўся «на роўных», хоць і назваўся па-разанаўску: «Паэзія — у спасціжэнні паэзіі».

Тамара Чабан была добра падкаваная тэарэтычна. Мне імпануюць яе развагі пра нацыянальны (гераічны) эпас. «Нацыянальны эпас — гэта тое духоўнае ядро, вакол якога фармуецца і ўтрымліваецца нацыя, народ, — сцвярджала яна падчас дыскусіі. — У ім закадзіраваны... мінулае народа і яго будучыня, тыя духоўныя каштоўнасці, якія вызначаюць яго непаўторнасць, адметнасць гістарычнага шляху. А далей: «Некаторыя пісьменнікі, гісторыкі, фалькларысты лічаць, што беларускі нацыянальны эпас быў калісьці мацерыком — цэласнай, арыгінальнай з'явай, але з-за неспрыяльных варункаў гістарычнага развіцця народа, немагчымасці запісу эпас распаўся на асобныя астраўкі, захаваўся ў казках, легендах, паданнях, у старых летапісах... У беларускай літаратуры жыве мара пра ўзнаўленне нацыянальнага эпасу». Пэўна, такія думкі і затоеныя спадзяванні будуць стымуляваць у асяроддзі майстроў мастацкага слова жаданне ажыццявіць запаветную мару.

2

Але вяршыняю творчасці Тамары Чабан і яе лебядзінаю песняй з'явіўся «Космас «Вянка» — літаратурны каментар да кнігі «Вянок» Максіма Багдановіча. Каментар — фармальна, а па сутнасці — натхнёнае даследаванне паэзіі, змешчанай у адзіным прыжыццёвым выданні паэта, якое, паводле ацэнкі даследчыцы, стала «легендай, узорам гармоніі, цэласнасці, мастацкай дасканаласці». Радуе найперш аўтарскае захапленне: «Адкуль такая духоўная глыбіня, такая высокая краса?» Сапраўды, на «Вянок» і праз вялікі прамежак часу ад яго з'яўлення глядзіш як на дзіва: кнігу стварыў жа сямнаццаці-дваццацігадовы юнак. І ягонае прызнанне: «Я не самотны, я кнігу маю...» успрымаецца як раўназначнае класічнаму: «Нет, весь я не умру...»

У навуковай працы Тамары Чабан нямала пазнавальнага. Думаю, чытачу цікава даведацца нават пра паходжанне назвы. Аказваецца, гэтак удала кнігу назваў не сам аўтар. «Хросным бацькам» запаветнага выдання паэта быў Вацлаў Ластоўскі, і назву, па яго ўспамінах, падказала мастацкае афармленне вокладкі — малюнак вучня Шпігаліцкай школы, які нагадваў вянок. Адчуваецца, што літаратуразнаўца грунтоўна рыхтавалася да разгляду ўнікальнае кнігі. Уважлівае прачытанне арыгіналу — гэта, як кажуць, справа адна, хоць яна і першапачатковая. Важна добра арыентавацца ў акіяне айчыннай і сусветнае літаратуры, літаратуразнаўства, каб не збіцца на пратаптаныя сцежкі-дарожкі, будуючы канцэпцыю свайго даследавання. Яркі талент Тамары Чабан, эрудыцыя, дапытлівасць дазволілі глянуць на паэзію Багдановіча як на з'яву сусветнай літаратуры — яна ўгледзелася ў «Вянок» на фоне паэтычных кніг Дантэ і Пятраркі, Міцкевіча і Гайнэ, Брусава, Блока, Ахматавай.

Яна не магла б стварыць нешта вартае на голым месцы, як не магла не заўважыць і не ацаніць папярэднікаў, зачараваных красою багдановічавай паэзіі, — і тых, што аднымі з першых адгукнуліся на выхад «Вянка», як, напрыклад, А. Навіна, на-

шаніўскі крытык і публіцыст, і тых, што аказаліся ля вытокаў багдановічазнаўства: І. Замоціна, Я. Плашчынскага ды іншых. Я. Плашчынскі (псеўданім Язэпа Пушчы) у даследаванні «Кніга лірыкі як мастацкае цэлае» разлядае кнігу Багдановіча як «нешта арганічнае і закончанае», адзначае яе «архітэктанічную стройнасць» і тое, што «сістэма будовы кніжкі адбівае сабою асноўныя моманты ў развіцці творчага шляху самога паэта». Адзначыла Тамара Чабан таксама, што «найбольш глыбока і канцэптуальна «Вянок» як мастацкае цэлае разглядаецца ў кнігах: А. Лойкі «Максім Багдановіч», М. Стральцова «Загадка Багдановіча», Р. Бярозкіна «Чалавек на досвітку», знайшла цікавыя думкі і назіранні гэтаксама ў М. Грынчыка, А.Клышкі, А. Кабаковіч.

У сваім "Космасе «Вянка» Т. Чабан пранікла ў самую сутнасць Максіма Багдановіча — у яго абвостранае адчуванне хуткаплыннасці часу, драматызму чалавечага жыцця, цесна звязанае з асабістым лёсам, з разуменнем асуджанасці перад невылечнаю хваробай. «Упершыню ў беларускай паэзіі, — слушна заўважыла яна, — узнікае настолькі развітае пачуццё асабовасці, унікальнасці свайго лёсу... і як вынік — настолькі моцнае, абвостранае непрыняцце смерці як страшэннай несправядлівасці...». Пратэстам супраць смерці, выклікам няўмольнаму часу назвала крылатыя радкі: «Жывеш не вечна, чалавек, // Перажыві ж у момант век!». Істотная і такая выснова: «Вяршыняй «Вянка», найпаўнейшым і найглыбейшым увасабленнем яго адраджэнскай ідэі стаў  вобраз Мадонны — адвечны, глыбокі і загадкавы вобраз рэлігіі, мастацтва, літаратуры, ідэал высокай красы, спасцігнуць які імкнуліся Рафаэль і Мікельанджэла, Дантэ і Пятрарка, Пушкін і Дастаеўскі...». Стваральніцы «Космасу «Вянка» належыць меркаванне, што ў багдановічаўскія «Мадонны» уваходзяць «не толькі вершаваныя апавяданні «У вёсцы» і «Вераніка», але і цыкл «Каханне і смерць», які насуперак волі аўтара быў зняты пры першым выданні «Вянка». Тамара Чабан убачыла непасрэдную сувязь названых твораў з унікальным цыклам: «Калі ў вобразах вясковай дзяўчынкі і Вераніkі Мадонна

праглядвае толькі на імгненне, як ідэал, надзея, абяцанне, то ў «Каханні і смерці» — спаўненне абяцанага, увасабленне Мадонны». Гэта своеасаблівае «Евангелле ад Мадонны» — унікальнае ў сусветнай літаратуры духоўна-эстэтычнае адкрыццё Максіма Багдановіча. Мадонна, бессмяротная як ідэал у сваёй духоўнай іпастасі, тут не аддае сына на пакуты, а, падобна Хрысту, сама сыходзіць на крыж пакут...»

Літаратуразнаўца дасканала аналізуе цыкл «Каханне і смерць», бачыць у ім своеасаблівы лірычны дзённік — ад прызнання ў каханні да першае шлюбнае ночы, зараджэння новага жыцця, адчуванняў цяжарнай, пакут і шчасця народзінаў і самаахвярнай смерці маці. «Паралельна ідзе ўнутраны, глыбінны, духоўны сюжэт — пераўтварэнне зямной жанчыны ў Маці, Мадонну, яе распяцце на крыжы пакут і смерць у імя жыцця». Цікава даведацца ад Тамары Чабан, што з «Вянка» меліся зарадзіцца асобныя «кветкі» — паэтычныя кнігі «Маладзік», «Красавік», «Шыпшына», «Пярсцёнак», «Палын-трава». Ім не суджана было з'явіцца.

«Вянок» застаўся першай і адзінай кнігаю Багдановіча. Непераўзыдзенай і вечна новай кнігай у беларускай паэзіі. Такой думкаю завяршаецца «Космас «Вянка».

3

Мяне вабіў духоўны вобраз Тамары Чабан. Радавалі яе таленавітыя выданні, актуальныя выступы ў вядучых літаратурных часопісах і газетах, тое, з якой увагай ставілася яна да беларускай класічнай паэзіі, да фальклёру, да творчасці выдатных паэтаў свайго пакалення і маладых аўтараў, яе самаахвярнае служэнне роднай літаратуры.

Пры ўсёй напружанай працы ў інстытуце, дзе даводзіліся строгія планавыя заданні і тэрміны іх выканання, пры яе надзвычайнай творчай актыўнасці яна яшчэ знаходзіла час для складання зборнікаў. Добры мастацкі і эстэтычны густ дазва-

лялі ёй удала скласці кнігі «Зона бяды» і «Вобраз»–86. Напрыканцы 80-х некалькі гадоў запар яна ўваходзіла ў рэдкалегію «Дня паэзіі». Я, складальнік тых выданняў, быў сведкам, як Тамара шчыравала, дапамагала ўключыць у даволі прэстыжныя штогоднікі лепшыя здабыткі вядомых творцаў, асабліва тых, што доўгі час былі забароненыя.

Часам мы з ёю перад здачай рукапісу галоўнаму рэдактару ўзгаднялі пытанні на кватэры, дзе яна пражывала з мужам Яўгенам Гарадніцкім і сынам Паўлікам. Міжволі даводзілася бачыць, якія катаржныя нагрузкі вымушана была браць Тамара. Нават калі яна ўжо была ў дэкрэтным адпачынку, у інстытуце ўсё яшчэ не адпускалі яе, усё загружалі. У той жа час ішлі заказы з розных рэдакцыяў: там ведалі, што яна справіцца, паспее здаць добра дагледжаны артыкул у патрэбны тэрмін. І яна скрозь паспявала, нярэдка даточваючы да сваіх няўрымслівых дзён начныя гадзіны, нават з нованароджанай дачушкай Волечкай на руках. Паспела завяршыць і «Космас «Вянка», каб неадкладна здаць у выдавецтва «Навука і тэхніка», дзе рыхтаваўся да друку поўны збор твораў Максіма Багдановіча да яго векавога юбілею.

Вось і выйшаў у свет гэты жаданы трохтомнік самага маладога беларускага генія, песняра «красы, святла, высокай духоўнасці, душэўнай ласкі, спагаднасці, веры і любові» (словы А. Лойкі). ...Урачыстая вечарына 9 снежня 1991 года ладзіцца ў Оперным тэатры ў Менску. У прасторнай залі — аншлаг. Тут сабраўся цвет інтэлігенцыі — творчай, навуковай. Вядома ж, у гэтым людскім моры знаходзіцца і Тамара Чабан. Яна, радасная, прымае ад сяброў па творчым цэху шчырыя віншаванні з выдатным поспехам — пранікнёнымі старонкамі «Космасу «Вянка» ў поўным зборы твораў любімага паэта. І хіба хто мог тады ўявіць, што ёй, цудоўнай дачцэ, маме, жонцы, паспяховай творцы засталося жыць сто дзён і што семдзесят адзін дзень яна не дажыве нават да сарака...

Тамара ведала — яе чакае вельмі складаная аперацыя: пухліна ў галаве аказалася злаякасная. Але, пакуль білася ў грудзях сэрца і працавала свядомасць, заставалася, апроч трывогі, і

прывідная надзея на паратунак. Таму і не адмовілася ад аперацыі. А рыхтуючыся да яе, сказала мужу: «Калі вярнуся, будзем жыць інакш...» Мне здаецца, гэтым «жыць інакш» гаварылася: не так самаахвярна за ўсё брацца.

Я ведаў пра дзень, калі хірургі зрабілі Тамары аперацыю, і запытаўся ў Яўгена Гарадніцкага, ці можна яе праведаць. Яўген, засмучаны, сядзеў ля ложка, калі я ўвайшоў у палату. Я прынёс Тамары свежую ружу. Ці то яскравая кветка прыемна ўразіла яе, ці то, магчыма, тое, што я ў палату завітаў у вышыванцы, адчувалася па чыстай, як у дзіцяці, усмешцы Тамары і па ззянню вачэй: яна вельмі хацела нешта светлае сказаць. На жаль, яна ўжо не размаўляла. А назаўтра стала непрытомная. Сімвалам згасаючага жыцця схілілася ў вазе завялая за адну ноч ружа, якая яшчэ ўчора ўражвала сваёй свежасцю.

Выпала цэнтральнае звяно сям'і: у бацькоў не стала дачкі, у дзяцей — матулі.

Адданасцю сям'і, дзецям, у той жа час і творчасці, сваёй жыццядайнасцю і заўчасным сконам Тамара Чабан нагадвае мне самаахвярную жанчыну-маці, з такой праніклівай любоўю апетую Максімам Багдановічам.

2018, лістапад–снежань

## ЦУДАДЗЕЙНЫ ТАЛЕНТ

Вазьмі ў мяне поле,
вазьмі ў мяне лес,
І я згіну, як той Ахілес.

Вось як класічна можна прызнацца ў любові, не ўжываючы дзеяслова *люблю*. Такая творчая ўдача і радасць давалася цудадзейнаму паэту, якім стаўся Алесь Пісьмянкоў.

Паэт ад Бога, ён для сваіх твораў заўсёды знаходзіў дыяменты. Да прыкладу, у вершы «Ліпень» ёсць радкі, якія найлепшым чынам характарызуюць пік беларускага лета і таму адразу і надоўга запамінаюцца: «Мёдам на ўсю Еўропу // Пахнуць стагі і копы».

Мне Пісьмянкоў спадабаўся з першага зборніка «БЕЛЫ КАМЕНЬ», названага найменнем вёскі, дзе «самы белы ў свеце снег». Уразіў зімовы сум па чысціні: «Проста сум па белым полі, // Па рабінавым агні...» // «Проста хочацца да болю // Першароднай чысціні».

Глыбокія роздумы ў душы творцы спараджаліся маштабным адчуваннем гераічнай і драматычнай гісторыі. Ён нешматслоўны і нязменна засяроджаны: «Адно ім свяціла сонца! // Адна гадавала хата: // Адзін узяў меч абаронцы, // Другі ўзяў сякеру ката. («Адна іх маці радзіла»).

У высокамастацкай спадчыне А. Пісьмянкова ёсць верш «Мае рэліквіі», дзе сам пералік рэліквій хвалюе: «Сявенька для жыта, // Меч старажытны. // Шолам з Нямігі, // Скарынава кніга. // Ад каня Кастусёва // На шчасце падкова». Так, і хлеб,

і кніга, і, вядама ж, свабода (яна — ў падтэксце) — найпершыя атрыбуты нацыянальнае незалежнасці.

Верш «Кастусь і Марыся» не магу не прывесці цалкам: ён — пра балючую нашую святыню — Кастуся Каліноўскага і яго каханую.

Не сумуй, не сумуй, Беларусь,
Па-над крыўдай сваёй узніміся.
Імя слаўнае ўспомні Кастусь
І адданыя вочы Марысі.
Белавежжа паслухай лясы.
У іх пошуме ратныя былі.
Гэта вояў тваіх галасы.
Іх забілі,
Але не забылі.
Брукаванкаю Вільні іду,
Там,
Дзе нашыя сны не збыліся.
І аб вечным гамонку вяду
З Кастусём і Марысяй,
З Кастусём і Марысяй...

Аднаго разу на трамвайным прыпынку ў Менску, падаючы руку Алесю Пісьмянкову, я, напэўна ад радасці сустрэчы з гэтым прасветлым, таленавітым і дзейным паэтам, сказаў: «Каго любіш?», нагадваючы (пад уражаннем Алесевага верша) пароль Кастуся Каліноўскага. Адказ прагучаў, як і чакалася, адзіна магчымы: «Люблю Беларусь!» Сказана было нязмушана, як выдыхнута. Я, калі пачуў жаданыя і такія натуральныя словы, падумаў, як да іх пасуе пісьмянкоўскі басавіты голас, і пшанічны прыгожы чуб, і яго, самавітага беларуса, вусы, і каржакаватая постаць, а галоўнае — уся ягоная паэтычная ды грамадская дзейнасць.

Пра запаветную любоў Алеся Пісьмянкова да Бацькаўшчыны сведчаць ягоныя кнігі, вершы, поўныя святла, чысціні, да-

брыні і заселеныя людзьмі, трывалымі і трывушчымі землякамі, іх клопатамі, болем, спадзяваннямі, адданасцю роднаму краю, а яшчэ — светлай памяццю тых, каго паэт страціў, скрухай найперш, натуральна, па сваіх родных — па матулі, бацьку. Пасля цяжкае страты ён стварыў простымі мастацкімі сродкамі дакладны партрэт:

Мама заўсёды чакала,
Мама свой час не лічыла,
Мама жывым спачувала —
Мама лячыла.
Мама душою трымцела,
Мама дабра ўсім хацела,
Мама ні ў чым не лаўчыла —
Мама вучыла.
Мама заўсёды трывала,
Мама да скону рабіла,
Мама сябе забывала —
Мама любіла.

Няхай нехта кажа, што дзеяслоўныя рыфмы слабыя і іх трэба пазбягаць. А я скажу: гледзячы якія дзеясловы і рыфмы. У М.Ю. Лермантава ў вершы «Парус» рыфмуюцца дзеясловы, але якую карціну яны «малююць»!.. Што да Алеся Пісьмянкова, то ён у сваім вершы ўдалым падборам менавіта дзеясловаў стварыў трапны партрэт душы роднай матулі, узняўшы яго да агульначалавечай вышыні.

Ён умеў пранікліва выказаць любое пачуццё, асабліва смутак, што пацвярджае хоць бы вось гэтае чатырохрадкоўе:

Не заві, вярста,
У радзінны кут:
Сірата я там,
Сірата і... тут.

Правёўшы ў апошнюю дарогу бацькоў, Алесь сам пайшоў за імі так нечакана і так заўчасна! Ці не таму ягоны ўніверсітэцкі настаўнік Алег Лойка не мог перамагчы гарачых слёз на Кальварыйскіх могілках, прамаўляючы развітальныя словы...

Алесь Пісьмянкоў меў вялікае сэрца, якое, як аказалася, было ў шрамах ад перанесеных інфарктаў: да лекараў хадзіць не любіў, дый часу на тое не ставала. Вялікае сэрца шмат брала на сябе клопатаў. Ён плённа працаваў як творца і як рэдактар. Да Алеся хінулася процьма аўтараў, дзе б ён ні працаваў — у «Полымі», «ЛіМе» ці ў «Вожыку». Я — адзін з многіх, хоць, бачыць Бог, стараўся не назаляць. Напрыканцы 2003 года ён паказваў мне сігнальны асобнік «Вожыка» з маім вершам, а ў сакавіку 2004-га дзяліўся некаторымі планамі на будучыню. 29 красавіка ён, галоўны рэдактар «Вожыка», збіраўся ўручыць прэмію па выніках за мінулы год свайму аўтару Валерыю Стралко. Але перагружанае добрымі клопатамі ягонае сэрца супынілася на некалькі дзён раней. І мала хто заўважыў, што толькі пры ім існавала прэмія, якая заахвочвала аўтараў сатырычна-гумарыстычнага часопіса.

Людзі любілі яго чытаць і слухаць. Ён прыгожа, выразна дэкламаваў вершы, быў выдатным вядоўцам на паэтычных вечарынах і ў Доме літаратара, і ў Доме дружбы ў Менску, і ў многіх іншых установах. Помніцца трапнае і пранікнёнае Алесева слова ў Доме дружбы на прэзентацыі кнігі «Мелодыі журбы і надзеі» Лэсі Украінкі, з чыім днём нарадзінаў супадаў ягоны дзень.

Яго прыязнасць не ведала межаў. Не раз ён пытаўся ў мяне пра сына, які яму спадабаўся, калі вучыўся ў 80-й СШ Менска, дзе Пісьмянкоў-студэнт праходзіў практыку. Сам ён пакінуў двух сыноў. Яны прадоўжаць род. Магчыма, і справу служэння нацыянальнай культуры.

2004, красавік,
2017, верасень

## ВЕРЫЦЬ СВАЙМУ ГУСТУ, ІСЦІ СВАЁЙ ДАРОГАЮ

1

Андрэй Федарэнка — з кагорты маіх найлюбімых творцаў. Ён так арыгінальна мысліць пры тонкім адчуванні, што ўсё ягонае (апавяданні і аповесці, эсэ і раманы, «сечку», а таксама годныя і дасціпныя адказы на пытанні тых сумоўцаў, што ладзяць з ім гутаркі) чытаць прыемна і карысна. Яго чытаюць вучні і настаўнікі (ён ужо ў свае 37 гадоў стаў хрэстаматыйным), чытаюць людзі сталага веку, знаходзячы ў творах непрыхаваную праўду жыцця, чытае ўдумлівая моладзь, бо ён не танна-папулярны, а своеасаблівы, дапытлівы і няўрымсліва-дзейсны. Вядома ж, невыпадкова прадстаўляў нашу краіну ў еўрапейскім «Літэкспрэсе-2000», перакладаўся на замежныя мовы. У адной з гутарак Андрэй Федарэнка сказаў: «Калі ўжо выбраў сваёй дзейнасцю літаратуру — стаў перад сабой самыя высокія мэты» («ЛіМ», 06.09.2002). Сказаць так мог толькі адметны пісьменнік. Ён такім, дарэчы, і стаўся, на той час ужо аўтар цэлага шэрагу яскравых аповесцяў: «Вёска» (1995), «Цугцванг» (1998), «Шчарбаты талер» (1999), «Нічые» (2001), «Афганская шкатулка» (2002). А да гэтага, у свае трыццаць, падараваў свету другую па ліку кнігу «Смута», наклад якой склаў 6000 асобнікаў.

Яна выйшла ў свет у 1994 годзе. Неўзабаве была ўганаравана Літаратурнаю прэміяй імя Івана Мележа. Я, калі прачытаў кнігу, зразумеў: у беларускую нацыянальную літаратуру прыйшоў талент ад Бога. Шмат што перачытваў і радаваўся. Ды і дагэтуль перачытваю. Асабліва моцнае і незабыўнае ўражанне займеў ад апа-

вядання «Пеля», ад якога павеяла азонам высокамастацкае прозы. Ёсць такое шыкоўнае ў нашай мове слова — неруш. Вось майстар слова і паказаў чытачам неруш роднае старонкі.

Я шукаў у памяці твор, з якім можна параўнаць «Пелю». У беларускай літаратуры не знайшоў. Затое, перабіраючы скарбы замежнае літаратуры, хутка прыйшоў да высновы: Федарэнкаў твор глыбінёю думак і пачуццяў, пісьменніцкім майстэрствам іх адлюстравання ў слове набліжаецца да шэдэўральнае аповесці Эрнэста Хэмінгуэя «Стары і мора». Я пра гэта заяўляю, ведаючы, што аповесць Хэмінгуэя ўганараваная Нобелеўскай прэміяй (1953), а Федарэнкава апавяданне — першай прэміяй Міжнароднай асацыяцыі фондаў міру (1992). Узнагароды — рознай катэгорыі, ды хто думае пра іх, калі выказвае сябе ў мастацкім слове!

Хай сабе камусьці апавяданне «Пеля» падаецца звычайным. На першы погляд яно такім і выглядае, у ім не адбываюцца маштабныя падзеі, няма варагуючых бакоў, цяжкіх характараў, нейкіх канфліктаў. І фабула нескладаная: хлопец, лепш сказаць — лірычны герой (гаворка ідзе ад першай асобы) пасля сесіі за першы курс інстытута «праз некалькі дзён павінен быў ехаць у сельгасатрад, у Крым, а пакуль сядзеў у сваёй вёсцы і нудзіўся». То чытаў ці ўключаў тэлевізар, то сноўдаўся па двары. Меў намер перасыпаць стары плот, паднавіць паўразвалены куратнік, ды ўсё аказалася спарахнелым, «трэба быў час — месяц, а то і болей, каб хоць трохі давесці ўсё да ладу...» Яго цягнула ў Крым, дзе ніколі не быў, да пальмаў, кіпарысаў, да мора, на магілу Багдановіча... А што ў вёсцы? Бульбоўнік, буракі, лес, які падлез пад самыя соткі...

І толькі калі надышоў дзень ад'езду (цягнік спыняўся на пару хвілінаў на станцыі ля самай вёскі), хлопцу зрабілася неяк настальгічна, сумна. Закарцела прайсціся па знаёмых мясцінах, а калі ўдасца, то і палавіць рыбкі. Ён пераапрануўся ў старое адзенне, «капануў чарвякоў, запіхнуў у кішэню вудку і пайшоў па любімым сваім маршруце — на Ткачовае балота, якое кіламетры за чатыры». Было гадзінаў шэсць вечара. Вярнуц-

ца меркаваў у дзевяць-дзесяць. Часу хапіла б сабрацца, яшчэ і пачытаць да начнога цягніка. Але так не атрымалася. Балота, з яго карасямі, небяспечнымі мясцінамі, туманам, які насунуўся знянацку і надоўга, не адпусціла студэнта амаль да раніцы... Маці дома не ведала, дзе сын і што з ім (калі сышоў з хаты, яна збірала ў лесе ягады). І цягнік на Сімферопаль пайшоў без яго. А пасля выявілася, што ў Крыме аўтобус, у якім на другі дзень па прыездзе адправіліся аднакурснікі на вінаграднік, урэзаўся ў скалу... Магчыма — нічога ці амаль нічога з таго, чаго чакае мноства ці нават большасць сучасных чытачоў. Не выключана, што і аповесць Э. Хэмінгуэя «Стары і мора», прызнаная і высока ацэненая інтэлектуальным светам, многім сучасным чытачам можа падацца нецікавай: маўляў, не рыбак цягне рыбу, а яна цягне яго далёка ў адкрытае мора. І што выйшла ўрэшце рэшт? Падумаеш, пашанцавала старому не загінуць, а яшчэ й вярнуцца з уловам, хоць і пашкуматаным, урваным велізарнаю акулаю!..

Тут я ўжыву такую ўмоўнасць. У нас, на Беларусі, надта малая доля народа сярод насельніцтва. Народа, якому баліць душа за родную мову, культуру, за школу, страшна абруселую. Сярод насельніцтва, якому галоўнае — была б спажыва страўніку. Дык вось чытач-прадстаўнік насельніцтва можа проста ігнараваць беларускі твор, а тым болей — з такім незацяганым найменнем «Пеля». Зразумела, для самабытнага празаіка гэта не страта, што засведчылі яго развагі і пра «Смуту», і пра кнігу ўвогуле, і шмат пра што яшчэ ў звароце «Да магчымага чытача», асабліва — у яго заканчэнні.

Для мяне гэтае апавяданне дарагое, як і аповесць «Стары і мора». Усцешаны, што яно нашае, беларускае. Жыццёвае, праўдзівае (хай сабе аўтар кажа «выдумалася» за дзве гадзіны, гэта тым больш уражвае). У жыцці якраз такое здараецца: плануеш адно — атрымліваеш іншае, непрадказальнае. Яно і аптымістычнае: малады чалавек ацалеў паміж смяротнымі пагрозамі.

Цікава, што, перш чым стварыць аповесць пра незвычайнага старога і незвычайную рыбацкую гісторыю, Эрнэст Хэмінгуэй гутарыў з мноствам рыбакоў. У Андрэя Федарэнкі — свой

рыбацкі досвед, і ў яго даволі ўсяго пазнавальнага, як і ў славутага амерыканскага празаіка.

Як хэмінгуэеўскага героя, бывалага і вопытнага чалавека, выпрабоўвае на трываласць марская стыхія, так рызыкоўнага беларускага юнака выпрабоўвае балота. Яно, федарэнкаўскае, ніколечкі не падобнае да мележаўскага, само паціху высыхае. Але засталася пеля. Хлопец дабраўся да вады і зразумеў: «напароўся на неруш, дзе, можа, некалькі гадоў ніхто не рыбаліў. Карасі амаль не супраціўляліся». Аднак жа азарт ледзь не пагубіў яго: з купіны на ягоны астравок перапаўзала вялізная гадзюка. Выратавала, як ні дзіўна, міжвольнае глупства: ён тупнуў, і край астраўка, які і так ледзь ліпеў, у адзін міг адламаўся, і ён «наўзнач боўтнуўся ў чорную халодную прорву». Мокрымі пальцамі хапіўся за пук травы, за мяккі бераг, які адрываўся, бы гліна, але намацаўся і корань, па якім выкарабкаўся на свой корч. На юнаку вісела жабурынне, карэньчыкі, камякі гразі, з парэзаных пальцаў цякла кроў. А тут — новыя выпрабаванні, звязаныя з густым сівым туманам, які ўладна насунуўся на балота. «Толькі пад нагамі нешта можна было яшчэ разгледзець. Дарыбачыўся!..» Хлопец  схапіў сетку з уловам — кілаграмаў восем — і злосна, рашуча ступіў на свой след, ды ізноў шахнуў па самыя пахі. Пад рукамі захадзіла ўжо знаёмая мяккая кашка... Словам, цэлы каскад цяжкіх прыгодаў паднесла роднае балота. Той ноччу ў яго распух твар ад камароў; ад іхняга звону, ад густога балотнага паху, ад укусаў п'явак і ад нерваў кружылася галава. Чужым, сіпатым голасам ён пачаў гаварыць да балота: — Ты хочаш, каб я тут здох... Але я выжыву... Ты папсуеш матцы здароўя за гэтую ноч, паламаеш мне лета... Называў яго смуродам, гадзючнікам. Ды, як высветлілася, якраз яно, балота, якое хлопец ледзь не праклінаў, яго ўратавала ад магчымай пагібелі ці калецтва, бо ў тым аўтобусе, які, везучы студэнтаў на вінаграднік, урэзаўся ў скалу, адзін чалавек загінуў. Два ў выніку аварыі засталіся калекамі. Студэнт ставіць пытанні: «Мог я сярод іх апынуцца? І калі гэта выпадковасць, дык што ж тады наканаванне?». А далей, напрыканцы апавядання, аўтар вуснамі

лірычнага героя, які распавёў гісторыю сямігадовай даўнасці, прамаўляе: «Радзіма мая — вёска, балота... Няўжо і цяпер я яшчэ нешта значу для цябе, няўжо і цяпер ты абараняеш мяне ад нечага?»

Андрэй Федарэнка не мог не стварыць «Пелю». Вось і цяпер, хоць на яго радзіме не стала матулі і ў роднай хаце жывуць чужыя людзі, ён туды наязджае, каб хоць пастаяць ля калыскі свайго дзяцінства ды пакланіцца апошняму матчынаму прытулку. Так было і тым разам, калі, стомлены доўгай дарогаю ў Гарошкаў (на радзіму Анатоля Сыса), завітаў сюды з сябрамі-пісьменнікамі, не прамінуў незабыўную Бярозаўку.

Апавяданне «Бляха» у «Смуце» знаходзіцца як бы на супрацьлеглым полюсе ў параўнанні з «Пеляй», яны — палярныя. Толькі адно з іх — пра вязучага чалавека. Бляха — чалавек няшчасны. Ён быў рахманы, бяскрыўдлівы, за чарку ішоў на любую работу, але ў вёсцы яго здавён не любілі і асцерагаліся: п’яніца і злодзей. Жыў без бацькі, маці не слухаўся. Вучыўся абы-як. Скраў мапед і адсядзеў за гэта паўтара года. Пакуль сядзеў, маці памерла. «У турме, відаць, гора цяпнуў, папабілі добра, бо вярнуўся адтуль з «групаю». «Толькі пасля Чарнобыля Бляха пазнаў, што і ён чалавек». Нямоглыя старыя, што засталіся на «зоне», клічуць, калі трэба забіць кабанчыка. Нават не па мянушцы называюць — успамінаюць сапраўднае імя. І пляшку ставяць. Аднак тут усё меней застаецца жывых ахвяраў чарнобыльскага ліхалецця: дзейнічае закон адсялення. Далей пісьменнік з уласцівым яму гранічна разняволеным пачуццём праўды разгортвае жахлівыя падзеі. Эйфарыя волі былога «цюрэмшчыка» нядоўгавечная, бо жменьцы людзей, што засталіся дажываць у небяспечнай зоне, не даюць спакою рабаўнікі. Асабліва ім пахне свежына. Далей у апавяданні адбываецца трагедыя; не горш за Кузьму Чорнага Андрэй Федарэнка паказвае ў экстрэмальных умовах сваіх герояў, учынкі якіх цяжка прадказаць нават блізка да фабульнай развязкі.

...Завіруха, сцюжа, завыванне ветру. Цёмная ноч. Не паспелі гаспадары, дзед з бабай, і Бляха, разабраўшы кабана, толкам вы-

піць і смажанінай закусіць, як у двары з'явіліся здзічэлыя сабакі і злодзей. Няпрошаны госць пралазіць у калідор, забірае сцягно, рэбры, сала. Але ўсё неверагодна хутка мяняецца. Вось ужо злодзей з енкам пра дапамогу стукаецца ў хату да старых, ім жа толькі што абрабаваных. На яго напала гайня сабак — «на ім не было жывога месца». Бляха, які спачатку яго ўдарыў, пашкадаваў, што стукнуў хлопца, калі зразумеў, што ён самлеў, і захваляваўся: — Шкода ж, бляха, падлу маладую...

Колішняга зняволенага пагубіла яго спагадлівае сэрца. Ён акунаецца ў халодны змрок, бяжыць па фельчара і, наляцеўшы з гарачкі, з разгону на чорную звяругу, што грызла нешта пад веснічкамі, гіне, разарваны сабакамі насмерць. Я не здзівіўся, што «Бляху» апублікаваў нью-ёркскі «Ікарус», які, як паведаміў аўтару ў сваім лісце перакладчык Р. Завістовіч, увогуле не друкуе неамерыканскіх пісьменнікаў і ўсяго аднойчы зрабіў выключэнне — дзеля такога факта як распад СССР.

Цешыць тое, што ў кнізе няма слабых ці праходных твораў, нават небыліца «Камандзіроўка» цікавая, як і кароткае апавяданне «Рэдактар». А якое натуральнае апавяданне «Начны голас»! І якое маляўнічае «Адзін летні дзень»! Яно ж і сцэнічнае, гэтак жа, як аповесць «Сінія кветкі».

2

Пасля «Смуты» найпершая ў Федарэнкі з'явілася «Вёска», надрукаваная ў «Полымі» (1995), вельмі сімпатычная аповесць, якую і пасля Кузьмы Чорнага, Івана Буніна ды Антона Чэхава цікава чытаць. «Антона Васкевіча выгналі з інстытута...» — такі пачатак. Адлічылі з другога курса сталічнае ВНУ. І вось ён вяртаецца дадому. Маці і старэйшы брат-гараджанін хваравіта перажываюць сумную падзею, асабліва маці. Антон гэта прадбачыў, таму ў лісце да яе быў прыдумаў, што «давядзецца ўзяць акадэмічны на паўгода ці на год». Але па вёсцы пайшла пагалоска, што Антона выгналі за п'янку. Маці хоча ведаць праўду.

Сын тлумачыць: выгналі за тое, што гаварыў па-беларуску... Ён не сказаў «за нацыяналізм»...

Антона Васкевіча мучыла пытанне, як жыць далей. На шчасце, яму пашанцавала і ў сяле, і ў горадзе трапіць да пазітыўнага начальства, найперш да старшыні сельсавета, які прапанаваў яму пасаду загадчыка сельскай бібліятэкі. Пасля моцна ўразіла яго сваёй прыязнасцю дырэктарка цэнтральнай гарадской бібліятэкі. Неўзабаве Антон дзякуючы гэтым добрым людзям уладкаваўся на працу, акрыяў душою. І па яго адносінах да абавязкаў, да людзей і прыроды, да выбару кніжак для чытання, кніжак, у якіх ён «сябе шукае», відаць, які незвычайны гэты малады чалавек. Вось ён «пахадзіў па лесе, нагледзеў урэшце дзве хвойкі, адна каля адной, абтупаў снег каля камлёў, каб ссячы пры самай зямлі, пагаварыў з імі ў думках, папрасіў прабачэння, што сабраўся іх забіваць...» Ён дапускае, што суседнія бярозы будуць па іх сумаваць. Тонкая душа! Антон, шчыры, старанны, сціплы і разважлівы, падабаецца дзяўчатам, у тым ліку школьніцы-сямікласніцы Наташы, з якою цалуецца, аднак не пераступае мяжу, спакусную для яе. У аповесці вельмі ўдала раскрываюцца характары: Антона, яго маці, некаторых вяскоўцаў, шмат помных апісанняў, напрыклад, як хлопец, былы атэіст, упершыню наведвае царкву. А завяршаецца гісторыя Васкевіча, як звычайна добрая казка, аптымістычна: яго ўзнаўляюць у інстытуце...

У сваёй плённай творчасці Андрэй Федарэнка не абышоўся без гістарычнае тэмы. Але сваёй чуйнаю душою дакрануўся ён не да сівой старажытнасці — аповесць «Нічые» вядзе нашых сучаснікаў да трагічных для Беларусі падзеяў позняй восені 1920 года. Пра Слуцкую брыгаду, яе збройны чын, пра тое, што адбывалася цягам некалькіх дзён лістапада 1920 года ў Слуцку, Семежаве, іншых мясцінах Случчыны, пра лакальныя сутычкі беларускіх патрыётаў з чырвонымі, драматычныя лёсы неардынарных асобаў, а заадно і пра лакеяў рэжыму падаўлення распавядае пісьменнік у «Нічыіх».

У адной гамонцы з аўтарам высветлілася, што над аповесцю ён працаваў лічаныя месяцы, але вывучаў архіўныя матэрыялы амаль два гады... І падумалася тады: як добра, што за гэта ўзяўся менавіта ён, празаік з добрым густам і пачуццём меры, не захапіўся выкарыстаннем тагачасных палітычных дакументаў, пратаколаў сумнавядомай Рыжскай канферэнцыі, а, як і яго знакаміты папярэднік Васіль Быкаў, пяру якога належыць апавяданне «На чорных лядах», даў сучаснаму чытачу і, спадзяюся, нашчадкам мастацкі твор з кароткай, як бліск маланкі, і ўдумлівай, як позірк мудраца, назваю «Нічые».

Да не менш балючай тэмы дакрануўся Федарэнка ў аповесці «Афганская шкатулка». Праўдзівы мастак не мог не адлюстраваць вялікай бяды, што прынесла многім нашым армейцам і іх сем'ям афганская бойня, у якую ўцягнула нашыя войскі тадышняя Масква. Але ён планаваў кнігу для сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту ў серыі «Бібліятэка прыгод і фантастыкі», што абавязвала прыдумаць займальную гісторыю. І ён яе прыдумаў. Падзеі, што адбываюцца ў аповесці, звязаны з афганскаю шкатулкай, перапраўленай некалі на тэрыторыю Беларусі і надзейна прыхаваную. Важную ролю адыгрываюць падлеткі, яны высочваюць злачынцаў і дапамагаюць следчым вызваліць з-пад турэмнага арышту галоўнага героя аповесці Барыса Крушынскага, які, у сваю чаргу, дзякуючы каштоўнасцям з чужой краіны, ратуе дзяўчынку, што апынулася ў бядзе, галечы і адчаі. Тут, як і звычайна ў творах Федарэнкі, дзейнічае гуманістычны пачатак, таму спагада і дапамога людзям, якія ў бядзе, — якасць дамінуючая ў характарах розных персанажаў аповесці.

У «Афганскай шкатулцы» ёсць і такі незвычайны твор — «Цугцванг». Такім словам нямецкага паходжання прынята называць становішча ў шахматнай партыі, калі аднаму з гульцоў невыгодна рабіць ход, бо ён вядзе да паражэння. Андрэй Федарэнка — выдатны шахматыст. Дзякуючы яму ў беларускай літаратуры з'явілася гэтая кароткая аповесць, дзе скарыстаны не толькі шахматны тэрмін, а і правілы гульні, больш за тое: задача-двуххадоўка, складзеная адным шахматыстам, дае раз-

гадку другому, дзе схаваны залаты скарб. Праўда, разгадка прыпазнілася, і скарб дастаўся выпадковым людзям.

Школьнікам Федарэнка дагадзіў і прыгодніцкай аповесцю «Шчарбаты талер». Ён безумоўна ведаў, што сучасныя падлеткі перакормленыя Гары Потарамі і фэнтэзі, і здраджваць свайму эстэтычнаму густу, каб ісці за ўкаранёнаю модай, не мог і прыдумаў прыгодніцкую гісторыю пра тое, як дзеці захоплены пошукам скарбу, схаванага французскім афіцэрам у 1812 годзе. І галоўная інтрыга ў тым, што французскі вайсковец выбраў для шыфроўкі скарбу незнаёмую яму беларускую мову. «Гэта мо сотая мая спроба тым ці іншым чынам калі і не зацікавіць беларуса роднай мовай, дык хоць прымусіць звярнуць на яе больш пільную ўвагу», — сказаў у свай час пісьменнік у дыялогу з Вольгай Барабаншчыкавай. Ён умее прывабіць чытачоў цікавымі сюжэтамі ды паказам сучаснага жыцця і ў той жа час захвоціць юных да беларускасці. На старонках прозы Федарэнкі беларускае ўсё: і героі, і прырода, і мясціны, дзе разгортваюцца падзеі.

Як вядома, на грунце гэтай аповесці зняты чатырохсерыйны фільм «Тры талеры». Я так парадаваўся, што родная кінастудыя заўважыла цікавы прыгодніцкі твор! (У фільме, між іншым, займеў ролю і мой унук Алесь!). А пасля засмуціўся, бо даведаўся, што аўтар займальнай аповесці і сцэнара «Трох талераў» ні капеечкі аўтарскага ганарару не атрымаў. «А вы ж вуснамі вашых юрыстаў абяцалі мне з пракату працэнты...» — абураўся Андрэй. Думаю, яго падвяла даверлівасць. Мабыць, падпісаў дамову не чытаючы: не думаў, што так лёгка дзяржаўныя чыноўнікі яго ашукаюць...

***

Напрыканцы 2018 года выйшла новая кніга Федарэнкі «Сузіральнік», папоўніўшы бібліятэчку часопіса «Дзеяслоў» (выпуск 25). Сюды ўвайшлі аповесці «Ксю» і «Сузіральнік», апавяданні «Сахалінка» і «Шчасце», эсэ «Манголія» і «Пташнікаў». Чыста ўся проза дасканалая. Ды пра яе — гаворка асобная.

Першы раз у жыцці выказваю шкадаванне, што я не крытык. Калі б крытыка была маёй стыхіяй, я паказаў бы ўсю красу і сілу прозы Андрэя Федарэнкі, яго бліскучае майстэрства, кампазіцыйную вытанчанасць, разняволеную раскошу яго мовы, тое, як пісьменнік удала сумяшчае сваё моўнае багацце з народнымі залацінкамі, чысціню літаратурнае мовы з размаітасцю палескага дыялекту, элементам трасянкі, і тое, які ён памяткі, як ведае класікаў, і што думае пра неасцярожнае абыходжанне са словам і пра кашчунны гумар... Словам, я распавёў бы пра высокадухоўную асобу творцы, які, дзякуй Богу, верыць свайму густу ды ідзе сваёй дарогаю.

2018

## РОЛЯ МАСТАЦКАГА ПЕРАКЛАДУ

### Засваенне шэдэўраў

Цяжка нават уявіць, як бедна і сумна жылося б шчырым кніжнікам, вернікам мастацкага слова, калі б недаступныя былі шэдэўры замежных літаратур. Засваенне такіх твораў чытачамі адбываецца звычайна праз родную мову, праз пераклад. Дзякуючы пісьменніцкім перакладам беларуская літаратура займела нямала сусветнавядомых скарбаў прыгожага пісьменства, сярод якіх «Фаўст» І. В. Гётэ, «Боская камедыя» А. Дантэ, «Пан Тадэвуш» А. Міцкевіча, выбраныя творы Т. Р. Шаўчэнкі (называю выключна паэтычныя творы, што жыццядайна папоўнілі нашую духоўную скарбніцу ў XX стагоддзі). Пачатак новага стагоддзя паказаў, што і цяпер у галіне мастацкага перакладу ў нас няма застою. Першым падарункам для прыхільнікаў паэзіі сталася выбраная лірыка французскіх паэтаў, прадстаўнікоў знакамітай Плеяды, у перакладзе Ніны Мацяш — «Багаславі сустрэчу мне» (Берасце, «Вежа», 2001). З прыемнасцю называю гэтую паэтку і перакладчыцу. З гонарам за яе, зямлячку і сяброўку, дадам, што ў свой час яна пераклала на мову родную гістарычны раман у вершах Ліны Кастэнкі «Маруся Чурай». І гэта быў па сутнасці яшчэ адзін творчы подзвіг — следам за подзвігам аўтаркі — і каштоўны ўнёсак у справу беларуска-украінскіх літаратурна-асветна-культурных стасункаў (сапраўдная кніга — гэта заўсёды і культура, і асвета). А якраз на гэтых стасунках тут мая ўвага і затрымаецца.

Першыя гады новага стагоддзя даволі пераканаўча засведчылі, наколькі моцныя і непарыўныя застаюцца беларуска-

ўкраінскія сувязі. Яны, дарэчы, заўсёды насілі і носяць двухбаковы характар: Украіна гэтаксама бярэ ў свой духоўны багаж лепшыя творы «сінявокай сястры», як сардэчна некалі назваў Беларусь знаны лірык Валадзімір Сасюра. Да прыкладу, у Львове выйшла ў 2002 годзе вялікая кніга выбраных твораў Максіма Багдановіча «Страцім-лебедзь». Складальнік (ён жа — і перакладчык абсалютнай большасці твораў) — Раман Лубкіўскі. Некалькі асобнікаў трапіла і на Беларусь, адзін з іх з аўтографам Раман Мар'янавіч падараваў музею Максіма Багдановіча ў Менску, калі (напрадвесні 2003 года) разам з яшчэ адным знакамітым паэтам Украіны Дзмітром Паўлычкам завітаў у нашую краіну. Тады ж, падчас сустрэчы ў Доме дружбы, стала вядома, што Раман Лубкіўскі збірае творы беларускіх паэтаў, прысвечаныя славутаму Кабзару, — рыхтуецца новае перакладное выданне.

**Пераклады Валерыя Стралко**

Тым часам у Менску, а неўзабаве і ў Кіеве звярнуў на сябе ўвагу інтэлектуальна-мастацкіх колаў Валерый Стралко выдадзенай у «Энцыклапедыксе» двухмоўнай кнігаю «Непагасны агонь» — «Непогасний вогонь». У адным зборніку ўпершыню сустрэліся найяскравыя класікі Украіны ды Беларусі: Тарас Шаўчэнка і Янка Купала, Іван Франко і Якуб Колас, Лэся Украінка і Максім Багдановіч; беларускія паэты загаварылі тут па-ўкраінску, а ўкраінскія — па-беларуску.

Першыя з захапленнем гэтую падзею прывіталі два тытулаваныя творцы — Васіль Зуёнак і Дзмітро Білаус, якія блаславілі зборнік на выхад у свет. Зборнік адкрываецца іх кампетэнтнымі і зычлівымі прадмовамі. Дзмітро Білаус называе кніжку перакладаў В. Стралко плодам неардынарнай падзвіжніцкай працы. Ён піша: «Паэты-класікі, творы якіх пададзеныя ў кніжцы, — розныя: у кожнага свой стыль, свая манера пісаць, свая мова. А перакладчык — адзін. Якой жа шырокаю палітраю трэ-

ба карыстацца, якімі багатымі моўнымі барвамі павінен валодаць інтэрпрэтатар! Трэба сказаць, што В. Стралко тонка адчувае арыгінал, а яго аўтарскія мажлівасці, руляванне на два крылы, украінскае ды беларускае, з аднолькавымі пранікліва-сцю і ўменнем, — з’ява проста ўнікальная». Васіль Зуёнак заўважае, што В. Стралко выбраў для перакладу «знакавыя творы».

Так, сапраўды, знакавыя. Янкі Купалы паэма «Курган», вершы «А хто там ідзе?», «Свайму народу», «І прыйдзе», Якуба Коласа ўрыўкі з «Новай зямлі» і «Сымона-музыкі», вершы «Беларусам», «Да працы!», «Родныя вобразы», Максіма Багдановіча «Народ, Беларускі Народ!..», «Пагоня», «Слуцкія ткачыхі», «Санет», «Раманс», «Ізноў пабачыў я сялібы...», «Я хацеў бы сустрэцца з вамі...», Тараса Шаўчэнкі «Запавет», «Раве ды стогне Днепр шырокі...», «Доля», урывак з паэмы «Сон»... Але ж пералік задоўжыўся. Ды й галоўнае не ў тым, што, а ў тым, як аўтар пераклаў. Мабыць, ніхто не будзе аспрэчваць, што калі ў арыгінале не знаходзім красы і сілы, то яны і ў перакладзе наўрад ці акажуцца. Але гэта не азначае, што цудоўныя якасці арыгіналу, калі яны ў наяўнасці, нельга страціць альбо знізіць, перакладаючы твор на іншую мову. Небяспека тут ёсць, няўдача падпільноўвае часам нават вопытнага майстра, асабліва калі ён «прыручае» твор, мова якога блізкая да роднай мовы перакладчыка. Сітуацыя Валерыя Стралко — асаблівая, бо для яго, украінца, беларуская мова «стала другою рідною», як заявіў ён у адным з вершаў. Увогуле яго мовалюбства прыемна ўражвае і здзіўляе. Вясною 2003 года ён, чалавек сталага веку, скончыў курсы польскай мовы. Да месца тут будзе сказаць, ім перакладзены не толькі на ўкраінскую мову, а і на рускую наш народны шэдэўр «Тарас на Парнасе». І ўзровень тых перакладаў (асабліва на ўкраінскую мову) высокі. Дарэчы, яго ўкраінскамоўны варыянт «Тараса на Парнасе» увайшоў у трохмоўнае «Вожыкаўскае» выданне паэмы. Яшчэ і вядомы «Сказ пра Лысую гару» гэтаксама перакладзены ім на дзве мовы. Феномен В. Стралко заключаецца ў тым, што ён прыйшоў да пісьменніцкай дзейнасці не будучы філолагам па адукацыі. Ён чалавек шматлікіх тэхнічных

прафесій, дзесяць гадоў пражыў у Новасібірскім Акадэмгарадку, дзе працаваў у інстытутах ядзернай фізікі і гідрадынамікі. Быў запрошаны ў Менск як спецыяліст па аўтаматызаваных сістэмах кіравання і шмат гадоў працаваў у сталічных галіновых праектна-тэхналагічных інстытутах. У літаратуру ўвайшоў позна, але дужа імкліва: меней чым праз два гады пасля першых публікацый быў амаль адначасова прыняты ў Нацыянальны Саюз пісьменнікаў Украіны і ў Саюз беларускіх пісьменнікаў.

Але звернемся да кнігі «Непагасны агонь». Як дзве сястры, тут гаспадараць, ладзяць свята душы роднасныя мовы. Перагукаюцца шэсць геніяў дзвюх вялікіх літаратур. Адно, нібы зачараваныя, украінцы гавораць па-беларуску, а беларусы — па-ўкраінску. Тут мы хутка пераконваемся: чараваць умеюць не толькі паэты-аўтары, а і паэт-перакладчык. Калі ласка, услухайцеся:

Раве ды стагне Днепр шырокі,
Сярдзіты вецер — аж гудзе,
Гне долу вербы, рве аблокі,
Узносіць хвалі на вадзе.

Хіба мы, беларусы, тут не пазнаем адразу вялікага Кабзара ў перастворaных перакладчыкам радках? Вядома, пазнаем, як пазнаем яго і ў іншых вершах, у зусім іншых па танальнасці, настроі радках:

Садок вішнёвы каля хаты,
Хрушчы над вішнямі гудуць,
Аратыя з плугамі йдуць,
Спяваюць ідучы дзяўчаты...

А хто не прызнае абсалютнай адпаведнасці беларускамоўнага запавету яго арыгіналу:

І мяне ў сям’і вялікай,
Сям’і вольнай, новай,
Не забудзьце, памяніце
Не злым ціхім словам.

Скажаце, В. Стралко далёка не першы з тых паэтаў, якія пераклалі крылаты «Заповіт» Т.Р. Шаўчэнкі? Так, не першы, як, пэўна, і не апошні. Хіба ж творца вінаваты, што адзін з праграмных, запаветных твораў генія так прывабіў, заваражыў і яго!

А вось і Лэся Украінка з перакладнога зборніка В. Стралко:

Ні долі, ні волі не стала ў мяне,
І толькі надзея душу ахіне.
......................................................
Слова, мая ты адзіная зброя!
Мы не павінны загінуць абое!
Можа, ў руках невядомага брата
Станеш найлепшым ты мечам на ката.
......................................................
Яназіраю смерць прыроды навакольнай
І лёс малю, — мы ўсё-ткі сваякі, —
Каб атрымаць і мне канец такі,
Каб я была ў апошні час спакойнай.

Мінорны настрой хворай на сухоты Лэсі Украінкі, якой наканавана было заўчасна памерці, міжволі вядзе да паэзіі Максіма Багдановіча:

В країні світлій, де я вмираю
В будинку білім над синню бухти,
Я не самотній, бо книгу маю
З друкарні пана Мартина Кухти.

Ці не праўда, перакладчык умела перадаў аптымістычнае імгненне жыццёвай трагедыі? Краса і сіла Багдановічавай паэзіі

ў тым, што паэт і ў пачуцці шчымлівага болю адорвае чытача мудрасцю, спакоем, прыгажосцю перажыванняў. Ад перакладчыка патрабуецца найперш выключная далікатнасць у абыходжанні з найтанчэйшым матэрыялам. І Валерый Стралко знаходзіць у сабе такую далікатнасць, пра што сведчаць і новыя прыклады:

Так тепло цілий день було,
Що дід — і той спустився з печі,
Край річки сів, де більш пекло,
І грів свої старечі плечі.
Синівся бір, текла вода,
Травою, медом пахло всюди...
А діду навіть не шкода,
Що скоро він землею буде.

Тую ж светлую тугу, што закладзена ў «Рамансе», адчуваем, чытаючы мілагучны і меладычны твор у перакладзе:

Буду в далекім краю я журитись,
В серці любов затаївши свою;
Кожної ночі на зірку дивитись
Буду в далекім краю.

Тая прасветласць пачуцця, якую зведаў юны геній ужо недзе за год-два да смерці, чуючы яе ледзяное дыханне, данесена да ўкраінскага чытача перакладчыкам В. Стралко:

О роки молоді,
Молодії жадання!
Звідки взятись нуді?
Тільки щастя кохання!
Будьте ж, юні літа,
Повні світлими днями!
Хай життя проліта
Золотими вогнями!

А як хораша ў гэтай кнізе гаворыцца пра слуцкіх ткалляў! Вось толькі заключныя радкі верша:

Темніє край зубчастий бору...
І підсвідомо тче рука,
Замість персидського узору,
Рідненьку квітку василька.

Паэзіяй чыстай красы называюць вершы Максіма Багдановіча. Праўдзівасць такога азначэння можна адчуць і на вышэйзгаданых творах. Але зусім іншага характару ягоная «Пагоня». Здатны перакладчык і тут аказаўся на вышыні. Цытую:

Ви мчите в даль неміряну, коні,
Перед вами й позаду — віки.
Ви за ким летіте у погоню?
Де шляхи ваші йдуть, вояки?
Мо' вони, Білорусь, понеслися
Вслід за дітьми твоїми були,
Що забули тебе, відреклися,
Продали і в полон віддали?
Бийте в серце їх — бийте мечами,
Не давайте чужинцями жить!
Хай відчують, як серце ночами
За кохану сторонку болить...

Думаецца, Валерый Стралко даказаў нават закаранелым скептыкам, што ён здольны аднолькава ўдала перакласці вершы самага рознага зместу, рознага характару.

І засумує наш нащадок,
Коли дознається про нас,
Що з нас не гірший перед гадом
Гнув низько спину, і не раз...

Няцяжка пераканацца, што па-ўкраінску гэтак жа шчымліва гучаць чаканныя ліра-публіцыстычныя радкі верша «І прыйдзе» Янкі Купалы, магутнага паэта-змагара, вялікага сваёй чалавечай годнасцю грамадзяніна шматпакутнай Бацькаўшчыны. І гэтак жа пранікнёна і разважліва-мудра, як і ў арыгінале, гучыць ягоны патрыятычны верш «Свайму народу», яго палымяны заклік-запавет на мове братняга народа дзякуючы Валерыю Стралко:

Повстань, народе! Для нащадків щастя
Будуй і дбай, щоб пут не вів сусід;
Не дайся в цей суворий час пропасти, —
Пропащих не наділить щастям світ.

Паэма «Курган» па форме — апавядальная, па змесце — трагічная. Гусляр-чарадзей не прадаўся за грошы лютаму князю, а прылюдна сказаў яму суровую праўду, за што быў жорстка пакараны. Ад перакладчыка спатрэбіліся напружаныя пошукі адпаведных паэтычных сродкаў, каб ва ўсёй красе і велічы перадаць незвычайны подзвіг музыкі з народа. І зноў яго чакала ўдача. Хай сабе да асобных слоў і радкоў варта будзе яшчэ вярнуцца дзеля максімальнай дасканаласці (пра гэта ведае і сам стваральнік «Непагаснага агню»), я кажу пра цудоўнае ўражанне ад агульнай карціны. В. Стралко ярка паказаў дзве сілы: князеву — злую, тупую сілу неабмежаванай улады (З непокірними був він нещадний. Зневажав, катував князь підлеглих щодень. Стража княжа — і вдома, і в полі) і сілу дабра, праўды, красы ў годным вобразе і нязломнай душы бяспраўнага гусляра (І заплакали струни пророчі. Можеш, князю, карать, можеш голову знять, — Дум, однак, не скуєш ланцюгами). Тут вельмі важна яшчэ тое, што перакладчыку, услед за аўтарам паэмы, удалося паказаць маральную і духоўную перамогу гусляра, нягледзячы на яго фізічную смерць, над уладным і помслівым князем. Ягоны ўчынак — подзвіг. А подзвігі жывуць вечна.

Самую аб'ёмную працу Валерый Стралко прарабіў над двума першымі раздзеламі паэмы «Новая зямля» Якуба Коласа. І, што цешыць, тут яго напаткаў найбольшы поспех. Пераклад вершаў класіка (а іх — пятнаццаць), як і ўрыўкаў з паэмы «Сымон-музыка», таксама атрымаўся на славу. Але ж на «Новай зямлі» ён прадэманстраваў проста бліскучае майстэрства. Дарэчы сказаць, што і сама ўкраінская мова выключна здатная як да замілаванага апісання прыроды, гасподы, народных звычаяў, перадачы роздумаў пра жыццё і жыццёвую філасофію, так і для адлюстравання сялянскіх клопатаў, будняў, вясковага побыту, простанароднага досціпу, чым так багатая паэма. Не цытую ні радка, бо нельга абняць неабдымнае... Няма ніякага сумневу, што Валерый Стралко ў якасці перакладчыка разведаў сваю галоўную залатаносную жылу... Не сумняваюся таксама і ў тым, што нашыя краіны-сёстры былі б вельмі ўдзячныя яму, калі б ён ажыццявіў поўны пераклад геніяльнай «Новай зямлі». Дык пажадайма камфортнага самаадчування і натхнення гэтаму няўрымсліваму, апантанаму творцу.

2003, красавік

**Высокі лад перакладу**

У культурным жыцці краіны — адметная падзея: «Новая зямля» Якуба Коласа займела сваю новую літаратурную прастору, яна выдадзена ў Кіеве накладам 5000 асобнікаў у перакладзе на ўкраінскую мову Валерыя Стралко.

Прыхільнікі прыгожага пісьменства і творчасці Якуба Коласа, знаёмыя не толькі з арыгіналам «Новай зямлі», а й з перакладамі яе на польскую мову (Ч. Сэнюха) ды на рускую (С. Гарадзецкага, М. Ісакоўскага, Я. Мазалькова, П. Радзімава, П. Сямыніна), зачакаліся ўкраінскамоўнага выдання славутае паэмы, але дачакаліся. Перакладчык Валерый Стралко — лаўрэат міжнароднае літаратурнае прэміі імя Івана Франка за

двухмоўную кнігу «Непагасны агонь — «Непогасний вогонь» (Мінск, 2003). Майстар ён спрактыкаваны, да таго ж дасканала валодае не толькі роднай моваю, а й беларускаю, мовай арыгіналу (акалічнасць немалаважная), тым не менш браўся за тытанічную працу з пачуццём высокай адказнасці, роўным пачуццю пашаны да класіка беларускай літаратуры і яго неўміручага твора, бо, як нагадвае чытачам у сваёй прадмове паэт, заслужаны дзеяч культуры, лаўрэат Дзяржаўнае прэміі Беларусі Анатоль Вярцінскі, «Новую зямлю» Якуба Коласа называюць у нас і энцыклапедыяй народнага жыцця беларуса і беларускай прыроды, і гімнам сялянскай працы, і песняю-марай паднявольнага чалавека пра волю ды лепшую долю, і нацыянальным літаратурным шэдэўрам, візітоўкаю беларускай паэзіі ХХ стагоддзя. А філосаф Уладзімір Конан яе назваў эпасам, у якім «выяўлены духоўны сэнс беларускага нацыянальнага Космасу». Самае ж ёмістае ды высокае азначэнне гэтага літаратурнага помніка мінулага стагоддзя — шэдэўр. І тое, што перакладчык справіўся з неверагодна складанаю задачаю за рэкордна кароткі тэрмін (за два гады), умацоўвае думку: справа здзейснена боская. Існуе ўстойлівае разуменне — культура мовы. Мне літаратура не ўяўляецца без культуры перакладу. Некаторыя перакладчыкі, нават вядомыя, дазваляюць сабе не толькі мяняць рытм аўтарскага вершаванага твора, а й павялічваюць ці памяншаюць колькасць радкоў у параўнанні з арыгіналам. Такой вольнасці не дапускае Валерый Стралко. І колькасць радкоў у раздзелах паэмы, і колькасць складоў у радках, і рытм, і танальнасць, і, галоўнае, дух Коласавай шэдэўральнае паэмы перададзены перакладчыкам ідэальна.

Мій куте рідний, серцю милий!..
Тебе забуть не маю сили!

Хіба можна больш дасканала перакласці гэты крылаты запеў? З’яўленне слова сэрца ў першым радку натуральнае, яно так апраўдана надзвычайнаю сардэчнаю цеплынёю, ласкаю,

любоўю генія, з якімі ён звяртаецца да бацькаўскай старонкі і няспешна вымалёўвае вобразы роднай прыроды! А як тут дарэчы зваротак *куте* з гэтым мілагучным займеннікам *мій*! Заўсёды прыемна заўважаць чуйнасць перакладчыка, падобна на тое, што ён на слых правярае гучанне слова, інакш бы не пакарыстаўся інверсіяй у другім радку: «Тебе забуть». А калі б не пакарыстаўся, тады чыстаму гучанню замінала б «тэканне» на стыку двух слоў: забуть тебе.

Удалы пачатак абнадзейвае чытача: з перакладам вершаванае эпапеі на братнюю ўкраінскую мову нам і, вядома, украінцам пашанцавала. Варта заўважыць, што ў беларускай перыёдыцы высокі ўзровень Стралковага перакладу першы адзначыў Алег Лойка, член-карэспандэнт НАН Беларусі, ён жа вядомы паэт і перакладчык. У газеце «Новы час» (№ 19) з уласцівым паэту захапленнем вучоны заключыў: «...і змест, і форму Коласавага шэдэўра ўдалося перадаць, можна сказаць, шэдэўральна». Прафесар-філолаг адной з найпершых якасцяў перакладу назваў эквіліярнасць (радок у радок); прыкмеціў ён і тое, што перакладчык выразна «учыняе традыцыю Якуба Коласа ў выкарыстанні маляўніча-экспрэсіўнай дзеяслоўнай палітры».

Калі акідваеш духоўным зрокам каласальную працу, здзейсненую Валерыем Стралко, не перастаеш дзівавацца: які ён старанны, які вынаходлівы! І вельмі рэдка дзе даводзіцца сумнявацца: «Здаецца, перастараўся...», а тым болей — расчароўвацца. Аднак некаторыя словы мне падаюцца выпадковымі. У стартавай страфе паэмы, дзе аўтар ахоплены роздумам пра дарогу жыцця, а найперш — пра мілы родны кут, ёсць радок: «К табе я ў думках залятаю...». В. Стралко пераклаў яго так: «В думках до тебе заплываю». Ці трэба такім чынам як бы ўдасканальваць класіка? Ці лепшы знойдзены дзеяслоў у дачыненні да чалавечае думкі? Яна ж, як бліскавіца, імгненна з'яўляецца і гэтак жа імгненна ляціць, можна сказаць, прызямляецца. Залятае. А каб яна заплывала, трэба яе наўмысля моцна прытарможваць. У родны куток, сапраўды мілы сэрцу, чалавек у думках менавіта залятае. У мове ўкраінскай, вядома ж, ёсць дзеяслоў залітати

(залітаю). Для чаго спатрэбіўся вопытнаму перакладчыку больш вялы дзеяслоў *заплываю*? Няўжо дзеля крыху больш гучнае рыфмы?.. Дарэчы, і Ч. Сэнюх, і С. Гарадзецкі захавалі Коласаў дзеяслоў: «К тебе я в думках улетаю» — у расіяніна, «Do ciebie w myślach ulatuję,» — у паляка; яны не спатыкнуліся на гладкай дарозе, як В. Стралко.

А ён жа ўмее знаходзіць удалае выйсце нават з няпростых становішчаў, калі ў стыхіі багатай украінскай мовы не знаходзіцца такога слова, якое сустракаецца ў паэме «Новая зямля». У раздзеле XIII «Падгляд пчол» ідзе гаворка напачатку пра паноў:

Ім цёмна, нема кніга лёсу,
Яны не бачаць далей носу
І рубяжоў свае пасады...
А ну іх к ліху! ну іх к ляду!

Вось якраз той самы выпадак: у мове ўкраінскай няма ні «лёсу», ні «носу», а яны патрэбныя, хоць плач! Там усё сваё — «доля» і «ніс». У рускай мове таксама няма слова «лёс». Хто ведае, можа, таму расіянін-перакладчык С. Гарадзецкі ўвогуле апусціў у сваім перакладзе першыя шаснаццаць радкоў памянёнага раздзела. У В. Стралко — не той характар! Ён — у нялёгкім пошуку:

Їм темно, їхня мовкне доля,
Їм недосяжний світ роздолля,
Їх, низькооких, лащить пиха...
Такі пани. Та хай їм лихо!

Непазбежна страчанаму ў перакладзе афарыстычнаму выразу «Яны не бачаць далей носу // І рубяжоў свае пасады» знайшлася ўдалая замена, і думка выказана, як і ў аўтара, двума радкамі. Шкада толькі, што самы пачатак чатырохрадкоўя не ўдаўся. Узнікае пытанне: чаму панам цёмна і чаму іх доля моўкне? Аказваецца, думка, што ў арыгінале, змазваецца пера-

кладчыкам, бо ён не ўлавіў адзін нюанс: у Якуба Коласа ўжытая кароткая форма прыметнікаў «цёмная» і «нямая» — «цёмна» і «нема», гаворка ідзе толькі пра кнігу лёсу, якая ім недаступная... Гэту філасофію Якуба Коласа раскусіў Ч. Сэнюх:

Dla nich zamknięta księga losów,
Bo patrsą tylko swego nosa.

На шчасце, агрэхаў у Стралковым перакладзе маштабнай паэмы вельмі мала. Не выпадкова ў загалоўку рэцэнзіі ўжыта слова «лад». Высокі лад перакладу адчуваецца ў кожным раздзеле, на кожнай старонцы кнігі. Дарэчы тут заўважыць, што ўкраінская мова, роднасная нашай, беларускай, дужа прыдатная, зручная як для перадачы глыбокіх і моцных пачуццяў — любові, замілавання, трывогі, болю, радасці, так і для побытавых сцэнаў, эпізодаў, апісанняў, асабліва тых, дзе ў рэчышчы Коласавай народнасці пераліваецца рознымі колерамі і адценнямі вольная плынь цудоўнага, жыццядайнага гумару. Гэтак жа натуральна, як і па-беларуску, чытаюцца па-ўкраінску, да прыкладу, старонкі сёмага раздзела паэмы «Дядько-кухар» (нагадаю: дзядзька Антось варыць клёцкі ў бярозавіку. Што ж атрымалася з гэтага — вядома...)

— Ну, дядьку, як на смак, признайся?
— Паскудство, брат, і не питайся!

Узоры перадачы простай мовы, жывой гаворкі перакладчыкам-майстрам знайсці можна паўсюль. Добрым прыкладам можа паслужыць і пачатак XXIX раздзела «На замковій горі»:

— Ну, що? — питае дядько в Гришки. —
Хіба десь випити потрішки
Та підкріпитись мало-мало?
Я з дому взяв шматину сала,
Окраєць хліба є зо мною...

Каб упэўніцца ў бліскучым поспеху перакладчыка, звернемся да аўтарскага тэксту:

— Ну, што ж? — пытае дзядзька Грышку: —
Хіба дзе выпіць па кілішку
Ды падкрапіцца б мала-мала?
Я з дому ўзяў кавалак сала,
І хлеба ёсць крышан са мною...

Па-першае, які цудоўны знойдзены эквівалент «потрішки»! Як гэтае слова адпавядае (і ў гучанні, і ў сваёй меры) аўтарскаму выразу «па кілішку»! (У П. Сямыніна падобнай знаходкі няма, у яго іншая, зусім «цвярозая» прапанова: «Пора нам сделать передышку...»). Па-другое, як удала ўжытыя назоўнікі «шматина» і «окраєць», што адпавядаюць назоўнікам «кавалак» і «крышан». Іншыя перакладчыкі не дасягнулі ў гэтай мясціне такога суладдзя. Хоць, у прынцыпе, нельга тут папракнуць нікога з іх.

Падводзячы рысу пад сказаным, хачу падкрэсліць галоўнае: перакладчык В. Стралко, наш менскі ўкраінец, данёс да свайго асноўнага чытача красу паэмы «Новая зямля» Якуба Коласа і прагу яе галоўнага героя — свабоды, незалежнасці: «Придбати землю, власний кут, // Щоб з панських виборсатись пут...» Нездарма ў вядомым беларускім народным паданні зямлю называюць бяздонным багаццем. Гэтую думку, як і мноства іншых, па-майстэрску сцвердзіў сваім таленавітым перакладам Валерый Стралко:

Земля дасть волі, дасть і сили,
Земля послужить до могили,
Земля дітей твоїх не кіне,
Земля — підмур’я батьківщини.

2006

## ПАМІРАЛА НЯВЕСТА,
## АБО ДРАМА ТВАЯ, БЕЛАРУСЬ

1

На Беларусі нямала, калі можна так сказаць, балючых мастацкіх твораў. Называю сёе-тое з таго, што адразу ідзе ў памяць: «Memento mori» Янкі Брыля, усе кнігі Васіля Быкава, «Дажынкі» Анатоля Вярцінскага, «Споведзь» Ларысы Геніюш, вядома ж — «Я з вогненнай вёскі» Алеся Адамовіча, Янкі Брыля, Уладзіміра Калесніка, «Цынкавыя хлопчыкі» Святланы Алексіевіч, «Чорная быль» Сяргея Законнікава.

А цяжкі іх змест вынікае з трагічных сітуацый, абумоўленых вайною, сталінскім генацыдам, іншымі злачынствамі, учыненымі чужымі рэжымамі над нашым народам.

На маім стале — кніжка Валянціны Куксы «І верыла ў цуд...» Тут гаворка — пра аднайменную аповесць. Вось і яна ў ліку шчымлівых твораў. Тройчы браўся чытаць — і не мог: балела сэрца. Потым была ноч, калі прага да слова і ўлада слова сталі ўжо неадольныя, і я разам з лірычнаю гераіняю (аповед, а больш дакладна — крык душы ідзе ад першае асобы) рушыў доўгім шляхам яе выпрабаванняў, пакутаў, ілюзорнай надзеі, скрухі і роспачы. З першых радкоў гэтае аповесці можна зразумець, што ў ёй па сутнасці нічога не прыдумана, апроч імёнаў і прозвішчаў галоўных герояў. Вядома, што пісьменніца сама перажыла трагедыю — смерць маладзенькай дачкі Святланы. Мяне ўзрушыла гора пісьменніцы-зямлячкі, якая шмат гадоў працавала выхавальніцай у дзіцячым садзе ў Берасці, верай і праўдай служыла высакароднай справе, выхоўвала-ахоўвала

новыя і новыя групы дзетак абласнога цэнтра і ніколі не думала, што каварная хвароба падкрадзецца да яе дачушкі. У аповесці дачка — Ганначка Светлая. Прозвішча для беларускае дзяўчыны знойдзена пісьменніцай удалае — у нашай краіне нярэдка сустракаюцца прозвішчы такога тыпу (гаваркія): Чыстая, Прыгожая, Ласкавая...

Кніга пачынаецца з трывожнага. Вярнуўшыся з вучэльні, дачка прызнаецца матулі, што ледзь паднялася на чацвёрты паверх: «Так коле з правага боку. Ужо трэці дзень. Дзяўчаты кажуць, што гэта апендыцыт». Між мамай і дачкою ўзнікае гаворка, натуральна, пра больніцу (даруйце мне за гэтую свядомую «памылку»: у слове *бальніца* чуецца **не боль,** а недарэчнае — баль; не верыце мне — паверце Кузьму Чорнаму, у прозе якога ўжываецца якраз слова *больніца.* А не верыце і яму — паверце Беларуска-расійскаму слоўніку М. Байкова і С. Некрашэвіча). Пасля нядаўніх заняткаў дачка ўпершыню паскардзілася маме на выкладчыцу музычнае вучэльні, тая сказала, што, хоць і голас ёсць, і талент ад прыроды, але экзамен не здасць. «Не можа даўмецца, чаму я не ўтрымліваю дыханне, чаму не працуе дыяфрагма, — каму як не найраднейшаму чалавеку дзіця раскажа пра ўсе свае трывогі. — Мама, паглядзі, што ў мяне тут цвёрдае?» — папрасіла, калі памацала жывот, лёгшы на падлогу. «Дзікі холад кальнуў у пальцы, калі яны спыніліся на нечым цвёрдым як камень... — гаворыць маці. — Я ведала, што там. Але імгненна адганяла страшную здагадку. Не! Не! Не! — моўчкі крычала душа».

2

Ішла вясна, быў у разгары сакавік, калі дачушку Тамары Пятроўны паклалі ў шпіталь з падазрэннем на апендыцыт. Дактары там глядзелі яе, дапытваліся: ці не цяжарная? Моцна ціснулі на тое халоднае і каменнае: ці не баліць? «Не! Не баліць. Не, не цяжарная», — сарамліва і з усмешкаю адказвала яна. Маці хацелася спадзявацца на цуд: можа, усё-такі і насамрэч у да-

чушкі апендыцыт, а гэта не так страшна. Неўзабаве яна ўзяла ў бібліятэцы гару кніг для дысертацыі, а на аўтобусным прыпынку сустрэла прыяцельку Людмілу Белых. Тая навіну сказала: «У дэпутаты цябе вылучылі! Прыйдзі...» Але не паспела выказацца, як заўважыла ці адчула штосьці нядобрае: «Што з табой?!» Апавядальніца не ўтрымліваецца ад эмацыйнага: «Як кажуць у нас на Палессі: мая людынко! З цябе пачаўся адлік дабрыні, спагады, спачування людского». Заўважу: яна нідзе асобна не гаворыць пра сябе, сваю працу, пра горад, у якім жыве, ды ўжо з першых старонак аповесці чытач уведвае, што жанчына-апавядальніца — паляшучка, і што яе стыхія — творчасць, і што яна, Тамара Пятроўна, па-грамадзянску актыўная асоба. Але перш-наперш яна — клапатлівая і сардэчная маці. « — Ганначка мая ў больніцы... Які з мяне дэпутат?» — фраза, адрасаваная той жа Людміле Белых шмат пра што гаворыць.

Напружанне ў творы не спадае, наадварот, яно хутка нарастае.

«— Не, не апендыцыт. Я хачу вас бачыць», — лаканічна сказаў па тэлефоне хірург. Ашчадная ў слове пісьменніца дае прастору думкам чытача, яна стварае праўдзівыя малюнкі, ярка паказвае фізічны і псіхалагічны стан надзвычай чулай, мужнай і ранімай маці, у жыццё якой так знянацку ўварвалася бяда: «Не, я не страціла прытомнасць. У мяне... раптоўна схалолі ў каленях ногі». Неўзабаве яна прыехала да дактароў. Іх было, можа, пяцёра. З ёю гутарыў прыгожы маладжавы чалавек. Распытваў пра ўсе болькі пацыенткі з самага яе маленства. «Відаць, ёсць у няспешным дыялогу доктара з маці хворае дачкі праява чалавечае мудрасці і чалавечнасці (магчыма, нават няўцямная) — даць разрадку, выхад негатыўнае энергіі і, галоўнае, — не забіваць надзею» — разважае аўтарка ўзрушальнага твора.

Болькі дзіцяці... Хто ж іх лепш ведае за маці. Яна ўспамінала цэлы шэраг эпізодаў, вяртаючыся ў маленства дачкі. Распавядала пра ўсё адкрыта, нібы верніца на споведзі, якая цалкам страціла над сабою кантроль, і яе ніхто не перапыняў. Сумоўца ўважліва слухаў, а поруч з ім сталы мужчына нешта занатоўваў,

няйначай гісторыю захворвання. Яна ўзгадвала выпадкі, калі па сваёй жа віне даводзілася ратаваць дзіцятка. Яшчэ немаўлём дачушка была захлынулася яе малаком. А ўжо большанькая ўпала ў неглыбокую ямку. Дух заняло, штучнае дыханне рабілі. А ў бабулі ў вёсцы была распухла ад алергіі... Давялося папракнуць і сваіх медыкаў. Выявілі ў свой час у Ганначкі ўнутраны зоб, вузлаваты, трэцяй ступені, прапісалі таблеткі, ад якіх не лепшала, а горшала. Тады эндакрынолаг прызначыла мацнейшыя лекі, але ад іх пачалося нездароўе страўніка. Месяц мінае, а ёй горшае. Пайшлі да ўрача, а тая пачала крычаць: «Што вы панікуеце?! Функцыя нармальная, паталогіі няма!» — «А функцыю правяралі?» Яшчэ больш раскрычалася: «Вы што, мне не верыце?!» Дачка не цярпела грубасці, асабліва, калі хтось крычаў на маці. А тую функцыю ў яе ніхто не правяраў. А то была з'явілася на калене рожа. Ад хірургічнага ўмяшання хворая траціла прытомнасць, між тым хвароба ўкаранялася, пагражаючы больш складанымі формамі. А бабка-знахарка за тры дні спаліла тую бяду-рожу.

Тамара Пятроўна размаўляла з незнаёмымі медыкамі, як проста з даўно знаёмымі людзьмі. Яна не прамінула распавесці нават і пра тое, што аднойчы раптам гітара Ганульчына растрэснулася. Грыф са струнамі адскочыў, і каробка распалася. Падумалася: «З чаго б яна так?» Гітара, якая прывыкла да пяшчотных дзявочых рук, быццам адчула трагедыю музыканткі. Пісьменніца добра дасведчаная ў сіле сімвалічнага вобраза. Гітара ў творы — як увасабленне мары не толькі здольнай навучэнкі, а яшчэ і юнай кампазітаркі. Невылечная хвароба рушыць запаветныя мары дзяўчыны.

Драма абцяжарваецца і тым, што маці Ганначкі разумее: за жыццё дачкі давядзецца змагацца без мужа свайго, бо ён, кволы душою, будзе блытацца каля іх, слязліва і п'яна, груба і бяздушна будзе рваць іх апошнія сілы.

У аповесці шырокім рэчышчам ідзе жорсткая рэчаіснасць. У вучэльні двойкамі размахваюць, бы шаблямі. Ганначка на занятках усё адказвала пра Маякоўскага, але «русаня» паставіла

двойку, бо шчырая вучаніца не ўтаіла, што не любіць яго, а на яе даведкі аб хваробе (часта тэмпературыла і прапускала заняткі) падазрона глядзеў куратар: — Нешта ты хваравекаю стала, Ганна... Вучыцца не хочаш? І выкладчыца па спецыяльнасці зневажала: «Што ты скруціла свае губы, як курыца!» Словам, здзекаваліся і рвалі нервы як і колькі хацелі.

Гэтая проза Валянціны Куксы па-сапраўднаму мастацкая, хоць створана на дакументальнай аснове. Аўтарка нідзе не прышпільвае штучна да сюжэту паказ праблемаў адукацыйных, сямейных, сацыяльных — усё арганічна адлюстравана ў канве мастацкага палатна; удала пераплецены ў жыцці Тамары Пятроўны, ахоўніцы сямейнага агменю, клопаты асабістага і грамадскага характару. Аднаго разу, калі яна спяшалася ў лялечны тэатр на вечарыну, у якой бралі ўдзел яе выхаванцы (яна працуе выхавальніцай у дзіцячым садзе), у шафе не знайшла сукенкі, што шмат гадоў ёй служыла «як дзяжурны швейцар». Аказваецца, гэтым разам сукенка паслужыла Ганульцы на экзамене: у сям'і ўвесь час не ставала грошай на пакупкі. Не ратавалі і адчайныя Тамарыны вылазкі на польскія рынкі...

3

У аповесці В. Куксы безліч яскравых эпізодаў пра Ганульку-дачку, Ганульку-навучэнку, Ганульку-музыку, Ганульку-каханую-закаханую, яны ствараюць прывабны, пяшчотны і светлы дзявочы вобраз. Самыя хвалюючыя, прачулыя старонкі твора — тыя, дзе распавядаецца пра першае — апошняе каханне, такое кароткае і чыстае! Аднойчы ўзімку парог кватэры Светлых пераступіў сціплы хлопец Генка. «Пасінелы тварык, голая шыйка, уцягнутая ў каўнерык лёгкай куртачкі, на нагах кеды». Сэрца ў гаспадыні сціснулася ад жалю. Дзеці прайшлі ў пакой, яна — на кухню. Накрыла на стол, паклікала іх. Дачка тут сказала маме, што Гену забіраюць у войска, а ён папрасіў, каб Ганначку пусцілі да яго на праводзіны. Ганначка, хоць і

была пасля тэмпературы, дазвол атрымала, паабяцаўшы цёпла апрануцца. Каханне ўпрыгожвае, узбагачае душу эмоцыямі, абуджае творчую энергію. Толькі правяла любага ў войска, а ён ужо тэлеграмай паклікаў на тэлеграф. Вярнулася з перагавораў — уся свеціцца ад радасці, адно боты скінула ля парога, прайшла да піяніна: — «Я трошкі пайграю...» А гукі поўнілі і поўнілі кватэру. «Палюбі мяне...» — такімі словамі пачыналася яе новая песня. Каханне выклікае прагу дасканаласці. Вось папрасіла масажор: «Дзяўчыне трэба, каб стройная была». Так было напачатку трывогі...

І раптам — жудасная бяда. Наканаваная дарога ў Бараўляны. Па дарозе ў Менск яна маўчала, задуменна глядзела ў акно і выстуквала пальчыкамі такты на калене або падлакотніку. З ёю па-ранейшаму была музыка. Магчыма, новая песня нараджалася ў сэрцы дзявочым пра самае трапяткое пачуццё... Едучы, не маглі абмінуць вёску, мясціны, дзе Ганулька дыхала водарам і прасторaю, што поўнілі душу музыкай. Тут нарадзілася каханне. Вось і лаўка пад вяргінямі, густа пахне мята. Маці міжволі ўспамінае, як пабачыла іх тут разам: «Ганначка і Гена глядзелі на мяне добрымі, амаль аднолькавымі вачыма, сарамліва пасміхаліся... Гэтулькі непадкупнай чысціні ў позірках!». Яны пабеглі да возера, узяўшыся за рукі. Цёпла і трывожна было на душы, радасна: вырасла дачушка. Пара збіраць на пасаг... Гэта было некалькі месяцаў таму. Зараз Ганначка ледзь выйшла з машыны.

Прысуд бараўлянскіх багоў-медыкаў быў канчатковы: «Макрома! Адна з прагрэсіўных формаў. Мы ўжо нічога не можам зрабіць...»

Ганначка па-дзіцячы ўзрадавалася, што паедзе дадому. Доктар, які абвясціў жахлівы прысуд, стаяў на парозе кабінета і... плакаў. Мо яшчэ не прывык да смерці?

Дні пасля Бараўлянаў абцяжарваліся тым, што хвароба ўсё хутчэй праяўляла сябе. Дзяўчына часта ўставала, а сіл не было, магла ўпасці. Таму маці перанесла сваю пасцель на падлогу ля канапы. Хворай увесь час патрэбны сумоўца. «Мама, а дзе будзе маё вяселле?» — раптам яна задае нечаканае пытанне. Маці

трэба паверыць, што вяселле будзе, і яна адказвае так, бы даўно ўсё вырашана: — «У бабы...» — «І я хачу, каб у бабы. Там так добра. Горад я не люблю. Тут неба мала». Маці адказвае, што і яна больш любіць вёску. Успамінае, як, цяжарная, прыехала на радзіму: — «Якраз дождж прайшоў. Жыта толькі-толькі ў калоссе ўбіраецца. Мокрае, цёплае, я не ўтрывала, а разам з табою ў гэтую росна-дажджавую зеляніну пабегла... І ты варухнулася. Я так любіла, калі ты заварушышся... Я табе ўсё-ўсё расказвала. Яшчэ тады...» (Божа мой! Я ўсё перачытваю гэтыя радкі, дзіўлюся: якая паэзія прозы!) Ганначка пытаецца, ці пра музыку расказвала, і просіць завесці яе да піяніна. Яна зайграла. Раптам апусціла рукі на клавішы: — «Мама, я... Я хачу, каб у мяне было многа дзяцей!..»

Маці пачала цалаваць яе кволыя рукі. Дачка прыбрала рукі, паклала маме на плечы. «Я ўсё ведаю», — гаварылі вочы.

Той вясною ў вачах Тамары чорна цвілі сады. Памірала яе крывінка, яе цудоўная надзея — дачка, з ёю разам часткова памірала і яна сама. Яна як бы забылася на сваю меншанькую — Жэньку, не памятала, хто яе адпраўляў у школу, хто сустракаў і як яна вучыла ўрокі, хто і чым яе карміў. Ведала, што прыязджалі сёстры і што яе мама бясконца нітавала дарогу: з вёскі — у горад, з горада — у вёску.

Тамара ўсё яшчэ кідалася па дапамогу. Лекі, зёлкі не памагалі. Яшчэ былі рэйсы на самалётах у горад на Няве, была апошняя надзея — экстрасэнс Ламсадзэ. Усё яшчэ верыла жанчына ў цуд, чакала цуду... А дачушка працягвала трызніць вяселлем: «Мамка, вось думаю і думаю пра сваё вяселле. Людзей многа сюды ідзе. І сон я сасніла: узбіраюся па такой высокай лесвіцы, такой прыгожай, у самае неба. І неба прыгожае... Здаецца, вось-вось узлезу, а ты не пускаеш...»

Яна, Ганначка Светлая, пакідала белы свет у вясельным убранні. Высока неслі яе на руках дарогай, усцеленай валошкамі і рамонкамі. І лунаў белым матылёчкам вэлюм, на пальцы быў тонкі залаты пярсцёнак. Атрыбуты вясельнага ўбору — адзінае, што яна папрасіла ў бацькоў за свае васямнаццаць гадкоў.

4

У творах нашай літаратуры ёсць нямала герояў, якія гінуць у экстрэмальных сітуацыях. Паміраюць і дзеці. Так здараецца, напрыклад, у апавяданні Кузьмы Чорнага «Дарагуся». Там смерць адзінаццацігадовае дзяўчынкі — вынік страшэннай беднасці сям'і, якой бракуе не толькі ежы, але ўжо і солі няма, каб пасаліць хоць якую страву для хворай, што страціла ўсякі апетыт. У аповесці Валянціны Куксы прычына смерці іншая. У Бараўлянах Тамары сказалі, што яе дачка атруцілася радыенуклідамі. Калі і дзе гэта здарылася, яна дакладна ведала, — увосень 1987-га, у калгасе, куды яе, першакурсніцу вакальнага аддзялення, паслалі капаць бульбу. Тамара Светлая розумам сваім даходзіць, што трагедыя вынікае з Чарнобыля, а значыць, перадусім — і з Чарнобыля духоўнага. Пра гэта ёсць тут і прыватныя развагі, і з абагульненым сэнсам, як, да прыкладу, напрыканцы аповесці: «З такіх, як я, складаецца Беларусь. Мы сірацеем без дзяцей. Чарнобыль святкуе касавіцу. І летась, і сёлета, і шмат гадоў уперад людзі будуць гаварыць пра яго ўгодкі. Адны будуць падлічваць кюры і нукліды, іншыя — выгаду з АЭС, трэція зневажаць і сённяшняе і тагачаснае кіраўніцтва, а тутэйшыя будуць думаць-гадаць, дзе іх напаткае смерць... За што Ты так разгневаўся на нас, Госпадзе?»

Тамара-маці схільная меркаваць, што прычына вялікіх бедаў зямных — у парушэнні запаветаў Божых. Невыпадкова ў самым апошнім акордзе гучыць наказ цікаўнаму хлопчыку, з якім сустракаемся ў пачатку твора: «Ах, мой міленькі, помніш, ты ў мяне запытаў: «Ці можа чалавек з другой рэспублікі стаць беларусам?» Тады я не здолела адказаць табе. А сёння я ведаю: будзь тым, кім цябе стварыў Бог. Шануй тое месца, дзе Ён цябе пасяліў. Прамаўляй тою моваю, якую Ён табе даў. Калі ж ты прыехаў на чужыну — шануй тое, чужое. І грэх на чужыне перайначваць Божае...» Кажучы іншымі словамі: не папраўляй свечкі ў чужым храме. А ў нашым нацыянальным доме-храме не толькі папраўлялі і тушылі свечкі, а й разводзілі свінства...

У аповесці В. Куксы паміpае чуйная, мілая дачка, юная нявеста, адораная музыка. Яе смерць — трагедыя не толькі адной сям'і. Дачытваючы твор, міжволі думаеш пра Беларусь: атручаная радыяцыяй Ганначка Светлая, — гэта не толькі яе часцінка, адмерлая тканка яе складанага арганізма, а ў нейкім сэнсе — і сімвал Беларусі. Над ёй, краінай з каласальнай духоўнаю спадчынай, гарманічнай і развітай моваю, навісае пагроза духоўнае смерці — праз парадаксальную моўную сітуацыю — і смерці фізічнай: існуе ўсё яшчэ небяспека новага чарнобыльскага выбуху. Але верыш у цуд: гэта не павінна здарыцца!

5

Кніжка «І верыла ў цуд...» выдадзена накладам 1000 асобнікаў. Але ў яе будзе нашмат больш чытачоў, бо кожны, хто яе прачытае, параіць прачытаць іншым. У кагосьці балючая аповесць выкліча слёзы. Няхай! Гэта будуць слёзы спагады людзям у горы і абурэння чэрствасцю зашкурэлых жыхароў да чужога болю, чужых пакутаў. Яе асабліва карысна прачытаць ныцікам, што прывыклі рабіць драму з нічога: з недасоленай стравы, з уключанага ці, наадварот, выключанага тэлевізара, з невясёлага слова ці нават позірку жонкі... Хацелася б, каб у твора было як мага больш чытачоў-мужчынаў. Пакідаць у бядзе нават чужую жанчыну — грэх, але тую, з якою ты стаяў пад вянцом, пашлюбіўся, заснаваў сям'ю і якая ад цябе нарадзіла дзяцей, пакінуць у бядзе такую жанчыну — грэх недаравальны. А якраз такі цяжкі грэх адбываецца ў аповесці Валянціны Куксы — маці паміраючай дачкі ўсюды без мужчынскае падтрымкі, тады як пад адным дахам быў ён, мужчына, муж, бацька.

Завяршаючы гаворку пра шчымлівую аповесць, выкажу спадзяванне: яна, створаная вялікім сэрцам, дойдзе да сэрцаў людскіх.

2000

P. S. У верасні 2014 года, прыехаўшы ў свай горад над Бугам на спатканне з аднакурснікамі, я зайшоў у педагагічны ўніверсітэт — месца сустрэчы. А там, на ўваходзе, стаяў Леанід Філатаў, сябра нашага СБП, з вянком у руках, з чорнае стужкі якога ў самае сэрца ўдарыў надпіс: Валянціне Кукса... Маці памерлае дачкі — праз дваццаць гадоў — дагнаў Чарнобыль...

2018

## З ПАЭМЫ ЛЁСУ

1

Калі ўважліва чытаць паэзію Ніны Мацяш, заўважыш міжволі, што творца ўсё жыццё піша як бы адну паэму — паэму свайго лёсу, многія фрагменты якой уяўляюць сабой, натуральна, не толькі лірычныя споведзі, а і пранікненні ў іншыя лёсы, паэтцы блізкія і родныя, што адцяняюць набыткі і страты, захапленні і расчараванні ўражлівай душы, радасці і засмучэнні на непаўторна-адметнай планеце жаночага сэрца, паўней раскрываюць тое, што дзеецца «паміж усмешкай і слязой». Сказанае могуць пацвердзіць і дзве кніжкі, выдадзеныя ў Берасці ў 1998 годзе, — «Я вас люблю...» і «Палёт над жытам».

Здаецца, у кнігавыдавецкай практыцы такое здзейснена ўпершыню: вокладкі паэтычнага зборніка аздоблены фотаздымкамі «пёркаграфічных» малюнкаў самой аўтаркі — менавіта такія фантастычныя, падобныя да нерукатворных, узоры ўпрыгожылі зборнік «Я вас люблю...» У чытацкіх колах мала хто ведае, што Ніна, здавён займаючыся фларыстыкай, неяк адкрыла для сябе і такі далікатны выяўленчы матэрыял — птушыныя пярынкі... Дый зборнік вершаў-прысвячэнняў — з’ява ў нас новая. Добра памятаецца час, калі дзяржаўны камітэт па друку да прысвячэнняў увогуле ставіўся насцярожана.

Кніжку «Я вас люблю...» склалі прысвячэнні родным і радні па духу; пачынаецца выданне «Калыханкаю маме», творам, які, дзякуючы праніклівай музыцы Інэсы Вінаградавай, стаўся арыгінальнаю песняю, якая цягам дзесяцігоддзяў гучыць у

канцэртных праграмах. Побач з паэзіяй у жыцці Мацяшоўны ідзе песня. Гэты незвычайны твор з такімі сардэчнымі словамі: «Задрэмлюць веі над вачыма карымі — // Не дам упасці й парушынцы я» яшчэ ў 1975 годзе засведчыў, што ў нашай літаратуры шчыруе паэтка з надзвычай пяшчотным сэрцам і вытанчаным эстэтычным густам. Цяжкі лёс не даў Ніне стаць матуляю, і жаночая любоў нарадзіла адметны варыянт калыханкі, якую дачка спявае сваёй маме, натомленай бясконцаю сялянскаю працаю... Вельмі шкада, што ейная мама ўжо ніколі на зямлі не пачуе гэтае песні. У зборніку «Жнівень» (1985) была шчымлівая «Паэма жніва» — пра немінучае: «Стала горкай цямніцай былая святліца...» Ды гэта здарылася пазней, у «Калыханцы...» мама — жывая.

«Даражэнькі бацечку наш родны!» — такі першы радок наступнага прысвячэння ў кніжцы «Я вас люблю...» Нінінаму бацьку з другога снежня 1998 года пайшоў 97-ы год. Як тут не зразумець пачуцці адоранай дачкі:

У адну каб склаў усе дарогі,
Па якіх ТВАЕ хадзілі ногі,
Дык аперазаў бы ўсю планету,
Мабыць, пратаптаным шляхам гэтым!

На жаль, стаміліся бацькавы ногі, падводзяць ужо: даводзілася на мыліцах бачыць дзядзьку Язэпа мінулым ліпенем, калі мне пашчасціла з Анатолем Вярцінскім і Уладзімірам Васілевічам, спыніўшыся ў Ніны, завітаць у хату, дзе яна гадавалася і якую назвала ў вершы «гняздом усіх мацяшанятаў», у гасцінную хату, дзе Нініна сястра Гэля і Гэлін муж Коля частавалі нас свежаю рыбаю, духмяным мёдам, садавіною, іншымі прысмакамі. Бацька за абедзенным сталом падтрымаў кампанію. А ў двары ўсіх нас уразіла гара дроў, якія накалоў у свае — блізкія да 100 — гады Нінін бацечка.

У кнізе знайшлося месца шэрагу прысвячэнняў — да пэўных падзеяў: брату і адной з пляменніц (з нагоды юбілейных датаў), пляменніку і яго абранніцы (з нагоды шлюбу); аднаму маладому родзічу адрасаванае прысвячэнне «на адыход у войска». Адно прысвячэнне носіць назву «Навагодні тост». Ёсць нават выпадак, калі аўтарка дорыць сваю рыфмаванку ад імя выпускнікоў адной з белаазёрскіх школаў — настаўніцы («На развітанне»). У такіх вершах выказваюцца добрыя зычэнні, найчасцей з традыцыйнымі часціцамі «хай», «няхай», якіх, напрыклад, у «Навасельным тосце» ажно восем.

Да ліку звыклых — альбомных ці паштовачных — на шчасце, не аднясеш вершы, якія паэтка выдала «залпам» 27–28 снежня 1981 года, адпачываючы ў санаторыі «Беларусь», у Друскеніках, і ўручыла ў якасці навагодніх падарункаў тэрапеўту А.М. Цэлікаву, метадыстцы па ЛФК Л.І. Малюкявічэне і афіцыянткам санаторнае сталоўкі. Тут прысутнічае жыццёвая мудрасць, якая шчырым і добрым пачуццям надае глыбіню і пранікнёнасць. Як ілюстрацыя — радкі з верша «У кожнага ў жыцці ёсць галалёды...»:

Хай будзе вам і хораша, і ўтульна,
Няхай цвіце вясна сярод зімы,
Бо праўда:
Шчасце дадзена датуль нам,
Пакуль нас любяць,
Покуль любім мы».

Праўда, у беларускай мове слова *хораша* павінна ўжывацца ў сэнсе — *прыгожа,* а не ў сэнсе *добра* (па-руску *хорошо*), пра што не раз пісалі выдатныя моваведы Фёдар Янкоўскі і Ян Скрыган, дый у Беларуска-расійскім слоўніку М. Байкова і С. Некрашэвіча слова *хораша* перакладаецца: *красиво, великолепно.* Але што датычыцца паэтычнага ладу, то ён тут пануе, распаўсюджваецца нават на рыфму, такую свежую, дакладную, дасканалую: «утульна — датуль нам».

«Я вас люблю...» — такі зборнік у Ніны Мацяш невыпадковы. Яе прызнанне ў любові — не дэкларатаванне, а стан душы, яе любоў — квінтэсенцыя маральных запаветаў. Матыў добразычлівасці і любові да людзей у яе творчасці па сутнасці скразны, такія пачуцці ёй уласцівыя, яны неад'емныя, як жыццё, як дыханне. Ужо ў першым зборніку паэткі «Агонь» (1970) ёсць праграмны верш «Агонь уначы» (такую яна давала назву й кніжцы, але выдаўцы вырашылі «ўдасканаліць» аўтарку...). «Няма святла. Відаць, абрыў на лініі...» І тут дзяўчына цёмначы шукае вобмацкам «асмалак свечкі леташняй», запальвае агеньчык, думаючы не толькі пра сябе, а і пра магчымага падарожніка, якога ў дарозе заспела непагадзь. Цяпер свеціцца акно!

Шыбуй сюды, зняверaны і стомлены!
Тут рук сяброўскіх шчырае цяпло.
І падалося мне: сам шквал надломлены
Быў гэтым кволым, прызыўным святлом.
Калі ў сваёй дарозе, часам здрадлівай,
Згублю з-пад ног збалелых цвёрды грунт.
Я так хацела б, каб і мне здагадліва
Агеньчык нечае душы спагадлівай
Выратавальна ў вочы зазірнуў.

Агеньчык уначы, святло ў акне падаюцца як сімвал чуйнасці, дабрыні. Мы ўлоўліваем два полюсы чалавечага пачуцця: той, хто знаходзіць праявы гуманізму ў сваёй душы, хоча знаходзіць іх у душах іншых людзей. У вершы «Маё шчасце» сустракаем такі абагульняючы вобраз: «Усё глыбей сярод людзей // Маё жывучае карэнне». Мой лёс і жыццё, я і свет, я і людзі — праз такія паралелі і ўзаемапранікненні ідуць роздумы ўражлівай, ранімай, разважлівай натуры. «Людзі, людзі! Прад вамі // Нізка, нізка хілюся, // Бо адна я — нішто» — гэта словы з верша, змешчанага на другой старонцы другога зборніка паэткі «Удзячнасць» (1973). А на процілеглым полюсе пачуцця: «...Кагосьці абагрэць любоўю, // Усмешкай, словам у пару // Або спагадлівым маўчаннем...» («Я проста ўведала даўно»).

У адным з вершаў зборніка «Агонь» маладая летуценніца перабірае ў памяці сяброў, якіх спагадна доля ёй надбала, «на ліха не скупая й на дабро». На сяброў яна глядзіць праз прызму маральнага хараства:

За кожным імем — сэрца мне наросхрыст,
Мой міласэрны вір жывой вады.
Я знаю, мець сяброў адданых проста:
Умеў бы толькі сам быць шчодрым ты.

Такія празрыстыя думкі нараджаліся ў душы даверлівай, можна сказаць, ідэалісткі. Душа творцы, якой бы тонкай субстанцыяй ні была, расце і развіваецца, удасканальваецца, багацее досведам. Зусім іншыя якасці знаходзім у вершы «Сябрыне», уключаным у кніжку «Я вас люблю...»:

Не знадзейвайся. Пеpажыві.
Хоць якая, ды ёсць патоля:
Намарозіць радня па крыві —
Адагрэе радня па долі.

Скруха — зашмаргай... Перарві.
Ёсць лагода на боль, на скруху:
Адрачэцца радня па крыві —
Паратуе радня па духу.
Праўду гэту — як ёсць — прыві
Да сцяжыны далейшага руху.
Будзь здарова, радня па крыві.
Будзь бяссмертна, радня па духу!

Тут не грэх не стрымаць захаплення: класічна!

У паэме лёсу, якая складаецца з усяго творчага набытку выдатнае паэткі, нямала мужных і прыгожых постацяў, якімі ганарыцца Беларусь, да прыкладу: Кастусь Каліноўскі, яго каханая Марыська, Каміла Марцінкевіч, Мацей Бурачок, Максім

Багдановіч... З тых, каго ў нас не стала і каго добра ведала, любіла і шанавала Ніна Мацяш, у кніжку «Я вас люблю...» трапіў У.А. Калеснік — тут змешчаныя два вершы, якія ў свой час былі прысвечаны яму.

Радні па духу ў Ніны Мацяш многа, пра што сведчаць прысвячэнні творцам: Янку Брылю, Анатолю Вярцінскаму, Уладзіміру Васілевічу, Алесю Разанаву, Алесю Каско, Сяргею Панізьніку, Ніне Загорскай, шмат каму яшчэ як з Беларусі, так і з замежжа.

У жыцці Ніны шмат спатканняў і развітанняў. Так бывае ў Берасці, у Менску, іншых гарадах, куды яна прыязджае, гэтак і ў Белаазёрску, куды прыязджаюць да яе ў госці зблізку і здаля і прыходзяць свае, з кім, як правіла, найперш яна дзеліць і радасці свае, і засмучэнні. Чытач сустрэне ў зборніку не адно прысвячэнне Галіне і Валеру Скарынам (гэта сям'я мясцовых інтэлігентаў), «мілыя Галіна і Валера», узаемна ласкавыя з Нінаю, Валера — выдатны баяніст, Галіна — самаадданая настаўніца (выкладае беларускую літаратуру і мову), яна дапамагае Мацяшоўне ў яе побыце. Не памятаю такога ў Ніны застолля, якое не дапамагала б ладзіць Галіна. Звычайна якраз яна прыязджае з паэткаю і ў абласны цэнтр, і ў Менск, зноў жа дорачы сваю падмогу. А калі да знакамітае творцы прыязджаюць госці, Галіна і Валера клапоцяцца і пра іх размяшчэнне. Так і мы з Анатолем Вярцінскім не раз начавалі ў іх утульнай кватэры. Былі і ў школе, дзе шчыруе Галіна, адчулі радасць на класічным уроку, які дала яна для старшакласнікаў. Галіне Скарыне ахвяраваны верш «Купальскае» (нарадзілася яна на Купалле). Шмат яшчэ прыўкрасных людзей жыве ў гарадку з прыгожым найменнем Белаазёрск. Тут і Тамара Кузняцова, і Марыя Кожух, І. У. Баярчук і В.А., І.І. Барычэўскія. Не абышла іх сваёй увагаю шчодрая Ніна Мацяш, як не абышла яна і яшчэ блізкую сяброўку — Марыю Новік, выкладчыцу Брэсцкага педагагічнага ўніверсітэта, ёй паэтка прысвяціла самы вясёлы твор — «Рандо...», што лёгка зразумець і з аднаго чатырохрадкоўя:

Зацёхкаў конік, як салоўка...
І села Мар’я ў халадочку,
Схіліла гожую галоўку
У Ярашэўскага* садочку.

Сяброў багата, якія так ці інакш спрычыніліся да лёсу слаўнае паэткі. Няўдзячны занятак — пераказваць змест кніжкі. Таму, перш чым перайсці да «Палёту над жытам», з асаблівай прыемнасцю назаву тыя высокамастацкія творы зборніка «Я вас люблю...», якія проста просяцца быць названымі, бо выказваюць душу кніжкі, з’яўляюцца ключавымі. У другім невялічкім раздзеле ідуць яны па сутнасці адзіным блокам, перагукаючыся з вышэйзгаданаю «Сябрынаю». Гэта — «Твая ўсмешка» (А.Зм. Кушчынай), «Студня» (Уладзіміру Андрэевічу Калесніку), «Ля Белага возера» (Уладзіміру Васілевічу), «Ода дзівосна прыгожаму чалавеку» (Сымону), санет на рускай мове «Звезда» (А.Г. Епіфанаву), «Васілёк» (В.Ж.). Пра што гэтыя вершы? Пра долю чалавека («Праўду кажуць, што ўпоцемках доля брыдзе, // Бо не раз і не два спатыкаецца»), пра тое самаахвярнае святое ў чалавеку, у людзях, што гоіць сэрца і душу іншым людзям («Але вось ён, нябёсны ці дар ці заклён: // Покуль ляжаш грудочкам пад сосны — // Аддавайся жыццю светланосна!»), пра непаўторны дар сяброўства («Мой светлы друг!.. Вялікшае, што мне // З вялікшых радасцяў наканавана»), пра чалавечую прыгажосць, вонкавую і духоўную, гэтае боскае спалучэнне («Існуе ж харасство! Як на ікону, // Так і глядзела б на цябе да скону...») ды яшчэ пра нешта невымоўнае, таямнічае, што спрадвеку вабіць і хвалюе паэзію (А высокай радасці куток // Не абжыты... // Ходзіць хваляй, чыстай і крутой, // Поле жыта»).

2

Аднаго разу ў застоллі ў Ніны Мацяш знакаміты літаратурны даследчык і крытык, дасціпны чалавек і дужа цікавы сумоў-

ца Уладзімір Калеснік, абвяшчаючы тост за Ніну-гаспадыню, з прыязнаю ўсмешкаю назваў яе беларускай Сапфо. Характарыстыка па аналогіі была нечакана свежая, метафарычна-яркая і, што ні кажыце, афарыстычна-трапная. Як вядома, Сапфо, старажытнагрэцкая паэтка, жывучы ў горадзе Мітылене (востраў Лесбас), узначальвала таварыства дзяўчат, якія займаліся паэзіяй, музыкай, спевамі. Ніна Мацяш у сваім гарадку згуртавала сябрыну, з'яднала яе ў культурна-асветнае таварыства «Агмень», на імпрэзах якога, вядома, гучала паэзія, ды не апошняе месца займалі і спевы. І якраз тут, у згаданым застоллі, Уладзімір Калеснік, з замілаваннем слухаючы, як зладжана Ніна пяяла беларускія народныя песні, напоўніцу ацаніў яшчэ адну грань таленту паэткі, ён шкадаваў, што не можа запісаць на стужку песні ў выкананні белаазёрскае сябрыны інтэлігентаў на чале з Нінай Мацяш. Але, думаецца, некаторае падабенства Мацяш з Сапфо Уладзімір Андрэевіч, імправізатар-віртуоз, дапускаў не без уліку інтымнае лірыкі. Каханне і гаркота разлукі — тое, што хвалявала на працягу тысячагоддзяў людскія сэрцы, хвалюе і Ніну Мацяш. З першых яе кніжак яно паўстае як яшчэ няўстойлівае, зменлівае, выпадковае, што выяўлена ў вершах: «Якая табе справа да мяне...», «Ты душу мне толькі растрывожыў...», «Ты прыходзіш ка мне, як на споведзь прад богам...», «Вы ёсць», «А можа, так яно і трэба...» З тых вершаў можна меркаваць, што першыя дзявочыя захапленні не выклікалі поўнае ўзаемнасці: «На дзве адну дарогу падзяліў...», «Вы — нібы гарызонт, які здаля // Са мной жартуе блізкасцю сваёю», «З адным не прымірыцца мне: // Што я кахаю Вас, Вы — не...»

Сталае каханне лірычная гераіня паэзіі Ніны Мацяш усё ж напаткала, пра што з гранічнаю шчырасцю распавядаецца ў раздзеле «За спатканае шчасце...» кнігі «Прыручэнне вясны» (1979). Свайго апагею найсветлае пачуццё дасягнула ці не падчас выхаду ў свет кнігі лірыкі «Шчаслівай долю назаві» (1990). Пасля кульмінацыі (няўжо, як і па законах драмы?!) наступіла, падобна, развязка. У «Палёце над жытам» пра свята і шчасце двух сэрцаў гаворыцца ў мінулым часе:

Была каханая табою —
Свяціўся шчасцем кожны рух,
Святочнай сцежкаю абое
Крылялі за будзённы круг.
Была табою мілавана —
Быў небадарным кожны міг
І далеч промнямі праткана
Для абаіх, для абаіх.
Праменне сцьмела за імглою.
П’ю будняў выгарклы напой.
Была каханаю табою.
Не канавана быць з табой.

Пытанне «Куды тая жарсць змаявала?..», відаць, не паддаецца адказу (а можа, яна і не змаявала?!):

Бачыць Бог, ты напраўду рады,
Калі я сама да цябе азавуся,
Ты напраўду рады
І гэтаму, бачыць Бог, рады няма.
Адхварэлі?
Закаяліся?
Трапятліва малюся...

Туга па блізкай душы вярнулася — як наканаванне?

3

А як жа шчасце яднання з людзьмі? Ці не прыйшло і тут расчараванне праз пэўныя грамадскія перамены, жыццёвыя метамарфозы, дыялектыку жыцця? Як кажуць, не без таго:

Што мінецца хмараў навісь — // Суцяшэннейка слабое. // ...Накідаюць мне нянавісць. // Сэрца плача па любові.

Плача па любові, ды не перастае выдорваць любоў. Загартаванае сваёй грамадзянскаю мужнасцю, добра разумее, у якім стане апынуліся: Не ўпершыню «спагадае» сусед, // Хочучы ў сплату // Нашы — за свой дабрачынны абед — // Спрадвечныя мову і хату.

У вершы «Пра перамогу», больш паэтычным і не менш выразным ды эмацыйна-праніклівым, паказваецца не толькі небяспечны стан нацыі, але і адзіна перспектыўны арыенцір:

Мы падаем і стогнем у знямозе, — // Але мы ёсць. І мы яшчэ ў дарозе. // Дасужы цемры князь, дасужы й дужы, — // Але палаюць ранаў нашых ружы. // Усё шчыльней сціскаецца аблога, // І паратунак — толькі перамога!

Ды перамога не падае з неба. У шчырай любові беларусаў да Бацькаўшыны бачыць паэтка панацэю ад самай небяспечнай бяды і перадумову жаданай перамогі. Толькі высокапатрыятычныя пачуцці, якія паэтка не стамляецца абуджаць у людзях, могуць азарыць іх свядомасць разуменнем таго, што народ наш не страціць волю, пакуль будзе заставацца жывая, не дашчэнту абкрадзеная яго душа, пакуль будзе ў душы заставацца найвялікшы скарб — родная мова. Моцная духам Ніна Мацяш стаіць на варце маральнага і духоўнага здароўя суайчыннікаў і папярэджвае:

Гасподзь схіляецца да ўсіх,
Ды духам ніцых
Ён не чуе.

Цвёрдая грамадзянская пазіцыя творцы ніколі не замінала яе паэтычнаму бачанню свету, пяшчотнаму стану душы. «Лілейкай гойдаецца сэрца ў затоцы пяшчоты невытлумачальнай» — знаходзім у «Палёце над жытам». А вось яшчэ адна метафарычная пярлінка:

Воблака душы з улады тлуму
Вынесці пад воблака бярозаў,

Хай пагоіцца зялёным шумам,
Крыльцамі стракозак.

4

Напрыканцы гэтай гаворкі пра паэзію Ніны Мацяш, яе ўнікальную асобу хачу прывесці Нініны словы з аднаго ліста. Яны красамоўныя і сведчаць пра тое, што яе любоў да людзей — узаемная. Вось як зямлячка падзялілася сваёй радасцю: «...адбыўся ў нашым Палацы культуры мой паэтычна-музычны бенефіс «Я вас люблю». Я гаманіла з людзьмі, чытала вершы, а белаазёрскія артысты спявалі песні на мае тэксты. Усё зладзілася вельмі хвайна. Завод і станцыя падарылі мне пятлічны мікрафон (я ім карысталася на вечарыне — цуд!). Люду сышлося багата, зала на 600 месцаў, дык вольных амаль не было. Я вельмі рада, што душы белаазёрцаў яшчэ прагнуць узнёслага, добрага, гарманічнага, і што ім было добра з намі ўсімі, хто зладзіў дзеля іх гэтую вечарыну».

Падумалася пра тое, што няўрымслівая і апантаная Ніна Мацяш подзвігам сваім выхоўвае паломніцтва. Запоўненая вялізная зала ў маленькім гарадку, калі людзей прывабіла творчая асоба, адмысловая песня, наша родная мова, — гэта не што іншае як паломніцтва: духоўная Мекка не заўсёды за тысячы вёрстаў, яна ў дадзеным выпадку — побач. Мекка прыгожага пісьменства, нязломнага беларускага духу, чалавекалюбства.

..............................................

*Зміцер Ярашэўскі — сябра Н.Мацяш, у якога яна з М. Новік і Г. Скарынай гасцявала ў Цюрынгіі ў 1991 годзе.

1999

## НІНА МАЦЯШ — ГОНАР НАШ

*Роздум пра асобу выбітнай паэткі*
*і ўвекавечанне яе памяці*

1

Ніны Мацяш, знакамітай паэткі і перакладчыцы, заслужанай дзяячкі мастацтваў Беларусі, асветніцы, лаўрэаткі міжнароднай прэміі імя Рыгора Скаварады, на вялікі жаль, ужо няма з намі. Але ў сямідзясяты дзень яе нараджэння, так хораша адзначаны ў Белаазёрску, прамоўцы (а гэта — вядомыя творцы, выкладчыкі, культработнікі) звярталіся да яе як да жывой. Не толькі ва ўтульнай і прасторнай зале Палаца культуры, дзе адбываліся паэтычныя чытанні, прысвечаныя прасветлай юбілейнай даце, а й пад дажджом на могілках, ля адметнага помніка.

Сталася добрай традыцыяй — у дзень нараджэння выдатнай паэткі ў родным яе Белаазёрску ладзіць паэтычнае свята (сёлета прайшло чацвёртае па ліку). У гэтым высакародным клопаце галоўная роля належыць блізкім Нініным сяброўкам — Тамары Кузняцовай, загадчыцы гарадской бібліятэкі імя Ніны Мацяш, настаўніцы Галіне Скарыне, выкладчыцам Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна Марыі Новік і Святлане Варонік. Шчыра зацікаўленыя ў такім фэсце і пісьменнікі Берасцейшчыны на чале з Іванам Мельнічуком, кіраўнікі абласной бібліятэкі, інтэлігенцыя раёна і вобласці. Пры ўжо адладжанай праграме дня ўшанавання памяці Ніны Язэпаўны (ад наведвання кватэры, дзе жыла і шчыравала паэтка, сядзібы, дзе ўбачыла свет і расла будучая знакамітасць, царквы, адкуль адпраўлялася на вечны спачын, могілак, дзе родная зямля прыняла яе спаку-

таванае цела, і да вялікае залы ПК, месца ўрачыстае вечарыны) у цудоўнае белаазёрскае свята штогод прыўносіцца штосьці новае, адметнае. Сёлета, напрыклад, пашырылася геаграфія яго прыхільнікаў: з абодвух універсітэтаў г. Брэста прыехалі выкладчыкі і студэнты, з шэрагу школ Бярозаўшчыны — настаўнікі і вучні. Упершыню ў горад энергетыкаў завітала знаная хормайстарка Інэса Вінаградава, што ў свой час паклала на музыку прачулы верш Ніны Мацяш «Калыханка маме»; тут, на сцэне, яна і зачаравала ўдзячную публіку пранікнёным выкананнем пад свой акампанемент гэтага надзвычай арыгінальнага твору. Духоўна-матэрыяльным падарункам гарадской бібліятэцы з’явіўся жывапісны твор мастака-паэта Лявона Валасюка «Бацькоўская хата Ніны Мацяш». Напрыканцы вечарыны школьнікі прапанавалі слухачам цікавую кампазіцыю — багата прадэкламавалі вершаў Мацяшоўны, адрасаваных дзецям. Дзякуючы летапісцу літаратурнага жыцця на Берасцейшчыне паэту Міколу Пракаповічу ўвесь час дэманстраваліся кадры з выявай Ніны Мацяш, раз-пораз гучаў яе мілагучны голас, прагучалі таксама словы глыбокай пашаны і любові народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча, звернутыя да асобы ўсімі любімай творцы, што надало святу асаблівую танальнасць і цеплыню. Зноў і зноў гучалі песні.

2

У духоўны вобраз Ніны Мацяш немагчыма ўглядацца без захаплення. Кідаецца ў вочы і радуе сэрца тое, што сялянская дачка вырасла сапраўднаю інтэлігенткаю. А з юных гадоў страціўшы здароўе, не страціла сялянскай працавітасці. Без гэтай каштоўнай якасці яе творчая дзейнасць не сталася б такой плённай: падараваная Бацькаўшчыне спадчына налічвае амаль сорак выданняў — арыгінальных, перакладных і кніжак для дзяцей.

Вядома, справа не ў колькасці. «Большое видится на расстояньи» — словы Сяргея Ясеніна праўдзівыя і мудрыя. Відавочным стала тое, што створаная Нінай Мацяш лірыка і пераклады з цэлага шэрагу еўрапейскіх моваў, адпавядаюць сусветнаму ўзроўню.

Глыбока ўражвае душа паэткі, пяшчотная і мужная, яна размаўляе з намі і размаўляцьме з нашчадкамі кожным творам і ўзрушацьме сваёй гранічнай шчырасцю, сардэчнасцю і моцным духам. Калі б яна была не мужная, то як бы пранесла неверагодна цяжкі крыж пакутаў, фізічных і — непазбежна — маральных! І хіба стварыла б вершы высокага грамадзянскага гучання?

Суровы лёс не даў ёй сям'і, не падараваў дзіцяці. Але пяшчотная дачка матулі, нарадзіўшай васьмёра дзяцей, прысвячае ёй праніклівыя вершы і складае ўнікальную «Калыханку маме».

Па-сапраўднаму закаханая, яна стварае хвалюючую інтымную лірыку, прасякнутую радасцю і тугою, напоўненую трывогамі і прагаю нетрывожнага шчасця. І ўсё гэта ўзбагачае беларускую паэзію высокамастацкімі творамі.

3

Ніна Мацяш — гонар наш. Айчыннай літаратуры і цывілізаванага грамадства. Гэта абавязвае аддаць належнае — увекавечыць яе памяць. Першы крок быў зроблены раднёй па крыві. Пляменнік Руслан і яго жонка Наталля сабралі больш за пяць тысячаў даляраў і ўзвялі надмагільны помнік. Ён атрымаўся як сапраўдны твор мастацтва. Другі крок быў з боку дзяржавы. Аблвыканкам падтрымаў ініцыятыву белаазёрцаў надаць імя Ніны Мацяш мясцовай бібліятэцы. Павінна і адна з вуліц займець яе святое імя. Яшчэ напачатку 2010 года паверылася ў рэальную магчымасць:

Я не зракуся мроі дзёрзкай:
Аб іншых не кажу краях,

А жыхарам Белаазёрска
Засвеціць вуліца твая;
Хай сціплая, ды гаманкая,
Канешне, й поўная святла,
Адкрытая — якраз такая,
Якой ты на зямлі была.

І пра помнік ужо час падумаць. Дзе яму найбольш адпаведнае месца — у Белаазёрску, ці ў Бярозе, ці ў Берасці — пытанне адкрытае. Пытанне дзяржаўнай важнасці таксама пра адкрыццё музея. Самы аптымальны варыянт: дзяржава знаходзіць сродкі — выкупляе пад музей кватэру, дзе апошнія гады жыла і працавала знакамітая наша Зямлячка (тое жытло дагэтуль ніхто з родзічаў не займае, і гэтая іхняя далікатнасць не можа нас не кранаць!). Ёсць падставы спадзявацца на смелае рашэнне Брэсцкага аблвыканкама і кіраўнікоў Бярозаўскага раёна. Хай нехта скажа ці падумае, што зараз не час для ўвекавечання памяці. Маўляў, эканоміку прыўзняць бы! Але ж не хлебам адзіным жыве чалавек. Клопат пра духоўнае — справа святая. Гэта трэба не мёртвым, а ўсім нам, жывым.

Пакуль недастаткова праявіла сябе «радня па духу». Дзякуй Богу і чалавечай увазе Алеся Карлюкевіча (а не СБП) за пяць гадоў выйшлі дзве кнігі паэткі: «У прыгаршчах ветру» (арыгінальныя вершы) і «Гарнуся душою да слова» (зборнік перакладаў). Нініны выданні ніколі не залежваліся на паліцах. І выдаваць ёсць што. Думаецца, як мінімум трэба выдаць тры тамы выбраных вершаў, перакладаў і вершаў для дзяцей, а магчыма і поўны збор твораў. Спадчына — яе духоўны помнік, які належыць узняць. Доўг пісьменніцкай суполкі — не забыцца ў зямной мітусні пра госцю нябёсаў — сапраўдную паэзію.

2013

## ПОРУЧ

### 1. Вяртанне

Іван Мельнічук — постаць неардынарная ў нашай літаратуры, з адметным, не падобным да іншых, шляхам. Помніцца, даволі актыўна ён, беларускамоўны аўтар, выступаў у друку яшчэ ў свае школьныя і студэнцкія гады. Ужо тады выявіліся два накірункі яго творчасці, два арыенціры — лірыка і гумар.

Ды неяк адзін літаратар у сваім аглядзе маладой паэзіі зачапіў крытычным пяром яго прозвішча, і юны творца ад крыўды змоўк. «Песні ўсе прапеты...» — так яму падалося тады.

А жыццё працягвала вабіць усімі сваімі колерамі, усімі гранямі, і ўражлівая, улюбёная ў белы свет душа пачала шукаць новую магчымасць выказваць сябе ў слове. Паспрыялі радасныя перамены ў Іванавым лёсе: ён стаў сем'янінам — уважлівым мужам і чуйным бацькам. Малыя дзеці, дачка і сын, падрастаючы, падказвалі паэту мноства цікавых сюжэтаў — і ён пачаў ствараць вершы пра дзяцей, праўда, на рускай мове. І столькі цеплыні, столькі радасці, усмешак дарыў дзецям дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту, што прыемна здзіўляла і дзяцей, і матуляў, і настаўніц. Невыпадкова яго першая кніга «Кто разбудил солнце» (1982), выдадзеная стотысячным(!) накладам, разышлася імгненна. Яскравы талент Івана Мельнічука быў заўважаны выбітным паэтам Анатолем Грачанікавым у рэцэнзіі на рукапіс тады яшчэ не так вядомага аўтара. «Мне падабаецца, — сцвярджаў ён, — уменне Івана Мельнічука весці гаворку з юным чытачом на роўных, без сюсюкання, і ў той жа час праблемна: амаль кожны верш, апрача пазнавальнай, нясе маральна-этычную нагрузку». З захапленнем адзначыла талент дабраты і любові паэта доктар філалогіі Зоя Мельнікава ў прад-

мове да яго чацвёртага зборніка «Как муравьишка Ишка себя наказал» (2003). Яна падкрэсліла жанравую і тэматычную разнастайнасць твораў запатрабаванага пісьменніка, адзначыла, што яны вясёлыя і забаўныя па сюжэце, сур'ёзныя па мыслі.

Магу дадаць да сказанага: ягоныя вершы эстэтычна прывабныя, у мастацкіх адносінах дасканалыя і неназойліва павучальныя.

Усе лепшыя якасці мастацкай палітры Івана Мельнічука, праяўленыя ў кнігах для дзяцей, не ў меншай меры дзейнічаюць у зборніку для дарослых «Хлеб насущный» (2009), выдадзеным ім да свайго 70-годдзя.

Шмат гадоў паэта не пакідала пакутлівая думка пра тое, што ён, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, а перадусім – сын аратага і сейбіта-беларуса, сее ўсё ж не тым зернем: піша не на сваёй роднай мове. А пачынаў жа менавіта на ёй. І вось радасць вяртання да вытокаў адбылася: да друку рыхтаваліся паралельна дзве кнігі. Не засталіся без увагі найперш беларускія дзеці, ім творца адрасаваў зборнік «Добрыя падказкі» (2015).

Нарэшце, шаноўны чытач, у тваіх руках і зборнік «Гасцінец» (вершы, байкі, гумарэскі) — яшчэ адзін дарунак нетаропкага, ды шчодрага таленту, тое, што створана сэрцам і розумам добрага і мудрага чалавека. Аддай, дарагі, належнае таму, хто вярнуўся да роднае мовы не ў лепшы для яе час, калі ёй, занядбанай і эшалонам улады, і насельніцтвам (не кажу: народам), пагражае лёс лацінскай... Пачытаеш кнігу — зразумееш не толькі тое, што Івану Мельнічуку ўдаюцца творы рознага характару — ад лірычных да іранічных, а і тое, што багацце роднай нашай мовы дазваляе прыгожа і ярка выказаць самыя вытанчаныя пачуцці, самыя запаветныя думы. Што ж да гумару, то без мовы беларускай ён быў бы — як птушка без крылаў, а кветка — без водару.

Не магу не звярнуцца да самога аўтара. Дарагі дружа і зямляк Іван Міхайлавіч! Сардэчна віншую цябе з вяртаннем да роднай беларускай мовы, адной з самых мілагучных у свеце!.. Яркіх табе паэтычных знаходак у творчасці, высокіх дасягненняў дзеля развіцця нацыянальнай літаратуры!

## 2. Сяброўства

Невыпадкова ў маім першым паэтычным зборніку «Паклон» ёсць верш-прысвячэнне Івану Мельнічуку пад найменнем «Журналіст», а ў першай празаічнай кнізе «Як адна вясна...» у кагорце самых светлых герояў дзейнічае ягоны правобраз — Алесь Міляйчук. Усё таму, што лёс падараваў мне з юных гадоў шчырае сяброўства з такім неардынарным чалавекам — паэтам, празаікам, перакладчыкам і журналістам Іванам Мельнічуком.

Аднаго разу ў школе, дзе вучыўся, я нечакана атрымаў пасведчанне аб тым, што з'яўляюся ўжо сябрам суполкі пачынаючых паэтаў Берасцейшчыны. Цяпер з таго факта я светла пасміхаюся, а тады мая душа расла ад радасці. Такой бяды, што пасведчаннем стаўся звычайны аркушык паперы ў клетачкі з вучнёўскага сшытка і што словы былі напісаныя ад рукі, — там стаялі мае імя і прозвішча! Простая паперка для мяне з'явілася акрыляючым дакументам прызнання. Тое нечаканае паведамленне заверылі сваімі подпісамі Іван Мельнічук, старшыня Саюза пачынаючых паэтаў Брэсцкае вобласці, і Андрэй Юдчыц, сакратар таго ж саюза...

Цяпер, калі Іван Міхайлавіч Мельнічук вядомы ў колах інтэлігенцыі і як творца, і як нядаўні кіраўнік Брэсцкага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў, хачу падкрэсліць ягонае ранняе імкненне да грамадскай дзейнасці. ...Маладзенькі літаратар сам яшчэ толькі пачаў друкавацца, а ўжо й стварыў (няхай толькі на паперы) рэгіянальны саюз пачынаючых паэтаў. А гэта азначае, што ён не толькі сам пісаў і друкаваў свае вершы, але і сачыў за літаратурным працэсам на Берасцейшчыне, каб аб'яднаць творчыя сілы.

Упершыню сустрэўся я з Іванам Мельнічуком у педінстытуце ў Берасці, куды ён паступіў вучыцца на год раней за мяне. Вонкава ўразіў Ваня вогненна-яркай шавялюрай. Падобных валасоў ні ў кога раней не даводзілася бачыць (калі б падобны колер сустрэў у наш час, то падумаў бы, што валасы пафарбаваныя). Іван Мельнічук не падобны да каго-небудзь ні сваім

лёсам, ні талентам. Вырас ён у сям'і з адзінаццаці чалавек, напоўніцу зведаў нястачу і бясконцую сялянскую чорную працу і не ачарсцвеў душою, застаўся чалавекам, уважлівым да бліжняга. Калі ў мяне памерла маці, Ваня знайшоў момант і падараваў мне кашулю, якая, вядома ж, не была лішняю для яго самога. А як толькі быў прыняты ён у штат рэдакцыі «Зари над Бугом», там мяне так разрэкламаваў, што запрасілі туды на працу і мяне, студэнта. Адмовіцца я не мог. Не толькі таму, што слабенькая была стыпендыя (даводзілася пасля заняткаў разгружаць вагоны), а найперш таму, што любіў журналісцкую справу.

Мы абодва шчыравалі ў аддзеле сельскае гаспадаркі. А гэта азначае, што сваімі публікацыямі павінны былі займаць стабільна трэцюю паласу і амаль усю першую. А да нарадаў перадавікоў сельскай гаспадаркі займалі тры паласы. Даводзілася, як кажуць, варушыцца. Часам выганялі па 5000 радкоў за месяц. Выступалі і пад псеўданімамі, часцей за ўсё прымянялі не мудрагелістыя, а відавочныя: ЖУК і ЧУК, асабліва калі друкавалі сумесныя матэрыялы.

Пры ўсёй напружанасці журналісцкай працы было нямала вясёлых і пацешных момантаў. Калі Мікіта Хрушчоў, тадышні лідар СССР, з усёй уласцівай яму напорыстасцю валюнтарыста прапагандаваў кукурузу, мы, перш чым абнародаваць вопыт звеннявой, разам з фотакарэспандэнтам Васілём Долькіным лазілі ўзімку на гарышча, заваленае кукурузнымі пачаткамі, — якраз там тая звеннявая знайшла прытулак для тагачаснае «каралевы палёў»... Павінен патлумачыць цяперашнім чытачам: тады даспелыя пачаткі ў нашых кліматычных умовах зяўляліся дзівам. Што да нашага рабочага графіку, то пастаянна — праз дзень — мы з Іванам выязджалі ў калгасы і саўгасы. Пакуль у рэдакцыі не было машыны, карысталіся (вядома, не ў самыя дальнія паездкі) Іванавым роварам. А калі ў яго той веласіпед скралі, рэдакцыя атрымала новенькі «Масквіч». На гэтай машыне наш кіроўца Валодзя Дзямчук аднаго разу, як было дамоўлена, вёз нас у адсталую гаспадарку. Мы супыніліся на жывёлагадоўчай ферме, зайшлі ў чырвоны куток. Там на сцяне красаваліся па-

казчыкі па выніках спаборніцтва за чарговы квартал, яны былі дужа прыстойныя для нашага Берасцейскага раёна. Прыемна ўражаны Іван дастаў з кішэні блакнот і хуценька пачаў сёе-тое занатоўваць. Неўзабаве ў чырвоны кут зайшлі жывёлаводы, у гутарцы з якімі высветлілася, што мы апынуліся на тэрыторыі суседняга Камянецкага раёна...

У калектыве рэдакцыі прыжыліся жарты. Упрыгожаннем нашага неспакойнага жыцця з’яўляліся розыгрышы, асноўным героем якіх выступаў Марк Ільіч, чалавек празмерна інтэлігентны, які слабавата арыентаваўся ў побытавых рэчах ды ў вясковым жыцці. Ён аднойчы моцна распаленым прасам пагладзіў нейлонавую кашулю... А то яшчэ ў адным сяле заміж чаромхі абламаў вішаньку, у выніку чаго ў рэдакцыю нашай раённай газеты літаральна на наступны дзень прыйшла скарга, багатая дакладнымі дэталямі: указваліся колер і нумар нашае рэдакцыйнае машыны, хоць яе там, на ўскрайку сяла, ніхто не бачыў, распавядалася, як з машыны вылез нейкі тып у акулярах і ўчыніў недаравальную шкоду. «Сяльчане» прасілі знайсці і пакараць вінаватага... Пакуль Марку не рассакрэцілі таямніцу, ён хадзіў змрочны, як хмара. Неяк у красавіку нашага героя пад’юдзілі напісаць заметку пра жніво і добры ўмалот на ўчастку ранняе пшаніцы. З прапановаю паспяхова чалавек справіўся, але ж, калі выйшаў чарговы нумар газеты, там ягонае інфармацыі не аказалася. Вядома, аўтар пачаў дапытвацца, чаму не надрукавалі. Тады сакратар падаў яму буйным шрыфтам набраную ў друкарні заметку з кароткім каментаром: «Тэкст і адкрыццё зрабіў Марк Ільіч...»

Вяртаюся да постаці Івана Мельнічука. Успамінаецца многае. Радуюся, што нашыя сцяжыны і дарогі перапляліся і што ў мяне ёсць такі надзейны сябра, а ў літаратуры таленавіты паэт, якому ўсе жанры падуладныя. Асабліва цешыць мяне ягоны гумар, які ідзе ад багатае і добрае душы. Творца памагае чытачам усміхацца і ўволю пасмяяцца, каб лягчэй жылося.

2017

## ПАКЛІКАНАЯ БУДУЧЫНЯЙ

1

Не думалася, што некалі пісаць буду ўспаміны пра Валянціну Коўтун. Не толькі ў далёкім 1967 годзе на рэспубліканскім творчым семінары, скліканым Анатолем Вярцінскім, калі ўпершыню ўбачыў яе, дзяўчыну маладую і энергічную. Не думалася пра такое і нашмат пазней, калі наш творчы саюз панёс невымоўную страту — пакінула белы свет Жэня Янішчыц, і тады, як мы разам з Валянцінай завіталі на Жэніну радзіму ў лістападзе 1998 адзначаць 50-я ўгодкі з дня нарадзінаў выбітнае паэткі. Не прыходзіла сумная думка і значна пазней, ужо ўвосені 2010, калі Валянціна Міхайлаўна брала ўдзел у маёй вечарыне ў музеі Якуба Коласа, хоць я ўжо ведаў, што ў яе ёсць праблемы са здароўем. Не думалася пра сумнае хоць бы таму, што яна была маладзейшая за мяне, а душу апаноўвала такая напружаная духоўная праца, якая, здавалася, не магла адпусціць яе заўчасна ў вечны вырай.

На юбілейнай вечарыне Валянціны Коўтун у красавіку 2011 года, якая праходзіла ў Музеі гісторыі беларускай літаратуры ў Менску, мне далі слова напрыканцы ўрачыстасці. Надта шмат ужо выступіла прамоўцаў. Вечарына забуксавала. Я мусіў быць лаканічным. Насупраць сядзеў Уладзімір Конан, і мне падумалася пра тое, з кім КОЎТУН суседнічае ў нашым пісьменніцкім даведніку. Суседзі цудоўныя: Колас, Конан (а яшчэ — Корбан, Корзун, Коршак). Паколькі яе імя па бацьку — Міхайлаўна, то мне было прыемна пачаць гаворку з таго, што Валянціна Коўтун у кагорце Канстанціна Міхайлавіча Міцкевіча (Коласа) і Уладзіміра Міхайлавіча Конана. Тады было весела. А калі

неўзабаве не стала Уладзіміра Конана, падумалася: «Засталася толькі Валянціна Міхайлаўна». На вялікі жаль, праз лічаныя дні смерць забрала і Валянціну. Журба-скруха поўніла маё сэрца.

У памяці пачалі паўставаць эпізоды сустрэч з таленавітаю творцай на семінарах, на сходах, з'ездах і вечарах нашае пісьменніцкае суполкі, у літаратурных музеях, на лецішчах (там нашыя хаты — побач), дзе яна бывала вельмі рэдка. Вядома ж, не забылася супрацоўніцтва ў часопісе «Полымя», дзе мы два гады шчыравалі ў адным кабінеце.

Калі гаварыць пра чалавечыя якасці выдатнай творцы, то павінен сказаць: яна была вельмі **надзейная,** пунктуальная — якасць рэдкасная, калі ўлічыць вечную занятасць творчае асобы, — мела бясспрэчныя арганізатарскія здольнасці. Інакш ці змагла б паспяхова шмат гадоў ачольваць аддзел крытыкі і літаратуразнаўства ў рэдакцыі часопіса «Полымя», які з'яўляўся эпіцэнтрам літаратурнага жыцця краіны. Там яна пачувалася як рыбка ў вадзе. Заказвала артыкулы самым вядомым пісьменнікам, дапамагала менш вядомым аўтарам давесці да ладу іх развагі пра нацыянальную літаратуру; не раз гадзіну і больш ахвяроўвала на гутаркі з аўтарамі будучых публікацыяў ці ўзгадняла з імі прапанаваныя праўкі. Размаўляла ціха (бо ў кабінеце нас, супрацоўнікаў рэдакцыі, было шасцёра), але пераканаўча.

Яе дасведчанасці і красамоўству можна было пазайздросціць. Я любіў яе высокадухоўныя гутаркі з Галінай Шаблінскай па радыё ў вядомай праграме «Гаспода».

Валянціна добра арыентавалася не толькі ў айчыннай літаратуры, а й у многіх літаратурах свету, да прыкладу — ва ўкраінскай (пэўна, глыбокія філалагічныя веды набыла ў часе вучобы ва Украіне, у Львоўскім універсітэце). Невыпадкова яе з задавальненнем запрашалі ў Дом дружбы на імпрэзы, прысвечаныя ўкраінскім геніям.

Фэсты з яе ўдзелам запаміналіся, як, напрыклад, вечарына ў Парэцкай школе, дзе ў адпаведную дату ўшаноўвалася памяць непараўнальнай Янішчыц. Валянціна Міхайлаўна па-

клікала туды, разам з Жэнінай матуляй Марыяй Андрэеўнай і сынам Андрэем, людзей, якія шчыра любілі выдатную паэтку (сярод іх была народная артыстка краіны Марыя Захарэвіч), забяспечыла нас камфартабельным транспартам, а там, у школе, хораша выступіла перад поўнаю залаю.

Пазней, праз дванаццаць гадоў, калі даведалася, што ў Белаазёрску ладзяцца паэтычныя чытанні, свята памяці Ніны Мацяш, вельмі хацела паехаць на радзіму Ніны Язэпаўны, ды месца ў машыне ёй, на жаль, не знайшлося. Але няўрымслівая Валянціна прывітала «Бабіна лета ў Белаазёрску» тэлеграмаю. І яшчэ такі факт: яна, як засведчыў Генрых Далідовіч, даставіла яму з Амерыкі неацэнныя для стварэння рамана матэрыялы, датычныя БНР. Скеміла ўкласці іх у вокладкі ад падручніка «Гісторыя БССР». Зрабіла гэта ўмела, чым даволі лёгка ўсыпіла пільнасць савецкіх мытнікаў.

Усё сказанае наводзіць на думку, што радкі Валянціны Коўтун пра духоўную постаць Цёткі: «Здаецца, ўсё душой бы абняла...» і «Кветку белую — Беларусь прытуліла да сэрца жанчына» ў поўнай меры можна аднесці да яе самой, таленавітай, памяткой, заклапочанай лёсам Бацькаўшчыны.

2

Успаміны, успаміны... Мы з Валянцінай не былі надта блізкія сябры, але як творцы «стартавалі» ў адной прасторы і ў адным часе. Зрэдку, натуральна, абменьваліся, аўтографамі. На тытульнай старонцы яе паэтычнае кнігі «На зломе маланкі» (1981) чытаю: «Васілю Жуковічу, — аднаму са слаўных, шчырых паэтаў нашага пакалення — з даўняй сімпатыяй.

В. Коўтун
28.02.1982 год»

Тады яе талент набіраў вышыню, прыкметныя творчыя дасягненні былі наперадзе. Што да названага зборніка, то ў ім вылучалася паэма, прысвечаная духоўнай постаці Элаізы Пашкевіч (Цёткі). Гэтая наскрозь вобразная паэма засведчыла выразнае ўсведамленне аўтаркі, што шлях нашага краю, які стагнаў «пад арлом двухгаловым», да свабоды — пакручасты. Не забыты Кастусь Каліноўскі. Яго трагічны подзвіг узрушае жывыя душы беларусаў і абнадзейвае:

Унук паўстання, дай жа мне руку;
Ідзе за Цёткай хлопчык несмяротны,
І страшна так жалезнаму ваўку —
«Мужыцкай праўды» коцяцца палотны.
……………………………………
Ідзі, унук бялявы, праз лясы,
Купалля кветка блісне сярод ночы...

Які ж нечаканы і цікавы вобраз — «унук паўстання»!..

Узброеныя да зубоў улады баяліся не толькі паўстання Каліноўскага, не толькі яго геніяльна-бескампраміснай «Мужыцкае праўды»:

Б’юць указам, нянавісцю, плёткай,
Каб хоць гэтак свой страх суняць
Перад словам, што скажа ім Цётка...
Суд ідзе...
Грамадзяне, устаць!

Так, самаўладдзе страшылася праўдзівага і мужнага слова Пашкевічанкі.

Пазней В. Коўтун гэты твор трансфармуе ў драматычную паэму «Суд Алаізы», якую наблізіць да XXI стагоддзя:

**Народ, як лес. Ды колькі дрэў струхлелых!**
**…………………………………………….**
**Ёсць пацукі. Ёсць геніі радзімы…**
**Каго ты, будучыня, станеш зваць сваімі?**

Яна была мэтанакіраваная і апантаная беларушчынай. А пра эпічныя палотны мроіла, магчыма, пад уплывам Івана Мележа. Ёй карцела распавесці свету пра Еўфрасінню Полацкую. Але для рэалізацыі запаветнае мроі спатрэбілася перайсці мяжу між XX і XXI стагоддзямі. Мне здаецца, яна была паклікана будучыняй для стварэння менавіта жаночых светлазорных вобразаў. Не ведаю, хто стаяў на чарзе. Магчыма, Геніюш? Мяркуючы па тым, як у 2009 годзе ў яе з'явілася «Малітва да Калымы» пад імём Лесі Беларускі, яе дужа хвалявалі лёсы «тысяч і тысяч ні ў чым невінаватых пакутніц-лагерніц, для якіх страшней за самую лютую смерць была страта ўласнага гонару і чалавечай годнасці». Вобраз гулагаўскай гераіні і ў прозе ёй быў па сіле. Ейны таропкі почырк гаворыць мне пра многае... Адно што свой духоўны зрок яна моцна сканцэнтравала на Еўфрасінні.

3

Калі мне знакамітая кампазітарка Алена Атрашкевіч прапанавала стварыць лібрэта для оперы пра Еўфрасінню Полацкую, мне інтуіцыя падказала звярнуцца да Валянціны Коўтун з пытаннем, ці не занятая такім клопатам яна. І неўзабаве, калі стрэў Валю на лецішчы, высветлілася, што праца над лібрэта ёю завяршаецца. Я пацікавіўся, хто ж кампазітар. Яна назвала Алега Залётнева.

«Яна паспела паставіць кропку» — сказаў мне Алег Барысавіч пра лібрэта, названае паэткай «Шлях палачанкі».

Але опера, на вялікі жаль, не пішацца. Вядомы кампазітар пачаў як бы апраўдвацца, што гэта занадта буйны жанр, каб пісаць у стол. Аказваецца, ні оперны тэатр, ні тэатр музкамедыі,

ні міністэрства культуры не блаславілі яго на стварэнне першай і ўнікальнай беларускай хрысціянскай оперы. Цяпер, калі мной прачытана лібрэта ў «Выбраным», апошняй кнізе Валянціны Коўтун, складзенай ёю, я пераканаўся: не паэтка вінаватая ў тым, што твор пра знакамітую асобу Беларусі аказаўся незапатрабаваны. Вінаваты нізкі духоўна-маральны стан грамадства краіны, дзе пануе страх браць на сябе адказнасць. Страх у дадзеным выпадку няцяжка ўявіць: а раптам наверсе хтосьці нездаволена зморшчыцца! А раптам пойдзе дакор: «Вы што, «Шляхам палачанкі» заклікаеце моладзь у манастыры, у манахі пры нашым дэмаграфічным тупіку?!..» Гора нам, як кажуць азіяты. Зрэшты, там, у вечнасці, дзе пачаўся новы адлік часу Валянціны Коўтун, невялікі зямны перыяд, з яго недарэчнасцямі і амаральнымі вывіхамі, страхамі і брыдкай прыстасаванасцю, неістотны... Яна паклікана будучыняй!

2011

## ГЕНРЫХ ДАЛІДОВІЧ

Генрых Далідовіч блізкі мне. Ды не таму, што ў адным — 1974-м — мы дэбютавалі ў літаратуры: ён кнігай апавяданняў, я кніжкаю вершаў. І не таму, што абодва мы — заходнікі: ён — з-пад Налібоцкае пушчы, я — з-пад Белавежскае. І не таму, што ходзім часта аднымі сцежкамі, непадалёк ад старажытнага Заслаўя, на нашых лецішчах, вольным часам гамонім пра літаратуру, культуру, нацыянальную ідэю, пра жыццё-быццё. Блізкі мне ён найперш таму, што ў ім, у сыне вясковага каваля, найлепшым чынам спалучылася сялянская любоў да зямлі, да працы на ёй з нічым непараўнальнай інтэлігенцкай любоўю да літаратурнага поля, да бясконцае катаржнае творчае працы на гэтым неабсяжным полі. Каб незнаёмы чалавек паназіраў, як Генрых Вацлававіч шчыруе на дачных сотках, сее і даглядае расліны, а пасля акуратна збірае ўраджай, то, пэўна, падумаў бы, што гэта яго асноўны занятак. А калі б ён уведаў, **што і як** стварыў знакаміты пісьменнік, **што** пасеяў для сучаснікаў і нашчадкаў на старонках сваіх шматлікіх апавяданняў, аповесцяў і раманаў і **як** дагледзеў кожную старонку, то не паверыў бы, што такі творца яшчэ на нешта знаходзіць час. Усё Генрых робіць грунтоўна. І як не ўбачыш, каб ішоў ён задраўшы галаў (нясе яе трохі нахілена, падобна, нешта ўсё абдумвае), так не знойдзеш у яго твора, хутка збытага з рук, змайстраванага па прынцыпе цяп-ляп. Невыпадкова ад першага апублікаванага апавядання Генрыха Далідовіча да першага яго зборніка «Дажджы над вёскай» прайшло восем гадоў. Затое так прыхільна яго сустрэла літаратурная крытыка!

Ва ўсіх вядучых часопісах і ў «ЛіМе» з’явіліся рэцэнзіі. Выключна станоўчыя, нягледзячы на дробныя часам заўвагі. Самі загалоўкі сведчаць пра змест. «Па-маладому і стала» — так про-

зу маладога творцы аценіў С. Андраюк у «Полымі». «Свежы подых дажджоў» — з артыкулам у «Маладосці» выступіў Я. Лецка. «Вобразна і лаканічна» — такую характарыстыку апавяданням дэбютанта даў М. Сталяроў у «Беларусі». «Актыўнае сведчанне часу» — па-філасофску глянуў на літаратурную навінку У. Юрэвіч. А блаславіў кнігу ў свет знаны В. Адамчык. Ён на супервокладцы першы назваў Далідовіча таленавітым празаікам, заўважыў: «Мова яго апавяданняў пераліваецца ўсімі адценнямі гутаркі налібоцкага краю... Але ў творчасці Далідовіча яшчэ больш падкупляе праўдзівая прастата сюжэту, лагічнасць фабулы... У прозе Далідовіча, рэалістычна-праўдзівай, як сёння прывыклі вызначаць, — чорнаўскай, ёсць шчырасць да чалавека, надзеленага талентам працы, справядлівасці і дабрыні».

Героі пісьменніка — людзі простыя, як правіла — вясковыя, яны ўзятыя з той самай найраднейшае стыхіі, у якой ён сам нарадзіўся і рос. Пры ўсёй прастаце сюжэту яго проза прывабная, ад яе цяжка адарвацца, як пачнеш чытаць. Да прыкладу, «Ліст да Олі» — апавяданне інтымнага характару. Аўтар не пабаяўся традыцыйнага трохкутніка, пабудаваў свой, непаўторны: Янак–Оля–Раман. Адметна тое, што няшчырае вяселле Олі з Раманам і шчырае каханне з Янакам адбываецца на вачах малога Пеці, якога Раман стараўся зрабіць даносчыкам. Расповед ідзе ад імя дарослага Пеці. І цешыць тое, што маладзіца праяўляе характар і вяртае нядаўна страчанае шчасце. У апавяданні «Ласяня» Варлен-паляўнічы напаткаў у гушчары мужчыну, здаровага, нахабнага, з вачыма халоднымі і рашучымі, які свежаваў ласяня. Спачатку ён прапануе сведку злачынства ладны кавалак мяса, пасля папярэджвае непадкупнага хлопца: «Толькі ж ты будзь разумны: ні я цябе, ні ты мяне не бачыў...» Удала аўтар паказвае сапсаваны настрой Варлена: «Няўтульна, адзінока стала ў гэтым лесе...» Ён уявіў ласяня і «аж стаў: у яго перавярнулася нутро...» Выходзіў з лесу. «І хацеў, каб яго цяпер ніхто не ўбачыў і не распытваў, як яму палявалася». Як бачым, празаік цікава закранае пытанні маральна-этычнага характару.

Да выхаду першае кнігі малады творца скончыў філфак БДУ (1968), настаўнічаў на Барысаўшчыне, служыў у арміі. У 1973 годзе яго запрасілі на працу ў рэдакцыю часопіса «Полымя», у аддзел прозы, якім кіраваў шматвопытны І. Пташнікаў. Тут Генрых хутка набываў не толькі рэдактарскі досвед. У эпіцэнтры літаратурнага жыцця, чытаючы штодня чужыя рукапісы, у тым ліку і масцітых, імкліва рос як пісьменнік. Рэгулярна, часам два гады запар, выходзілі з друку апавяданні і аповесці: «Цяпло на першацвет» (1976), «Маладыя гады» (1979), «Міланькі» (1980), «На новы парог» (1983), «Станаўленне» (1985).

Вядомасць, асабліва ў асяроддзі школьнай інтэлігенцыі, прынеслі аўтару аповесці пра вясковую школу, настаўнікаў: «Усё яшчэ наперадзе», «Завуч», «Дырэктар». Паспрыяў уласны вопыт працы ў школе. Суроваю праўдай жыцця прасякнуты ўсе творы пісьменніка. Вось малады настаўнік («Усё яшчэ наперадзе») прыязджае ў чужую вёску працаваць. Яму думалася: «Буду даваць добрыя ўрокі, зацікаўлю дзяцей, арганізую літаратурны гурток, і мае паэты будуць друкаваць вершы не толькі ў раёнцы... Заўважаць і маю работу, маё старанне, раскажуць па радыё, тэлебачанні. Фотакарэспандэнты, інтэрв'ю...» І вось ён прызнаецца, як яго «спусцілі з неба на зямлю дзеці: няўважліва слухалі, уцякалі з урокаў, а шасцікласнік Саша смела заявіў, што на трактарыста вывучыцца і без маёй мовы і літаратуры». Настаўнік разумее: інстытут не ўсё яму даў, сапраўдная школа жыцця пачынаецца тут, у вёсцы... «Адзін дыплом вы ўжо абаранілі. У інстытуце... Але трэба абараніць яшчэ дыплом на смеласць, сумленнасць, цярплівасць, настойлівасць. Яго людзі абараняюць усё жыццё...» — кажа яму вопытны педагог Алесь Трахімавіч.

З усіх рэцэнзій на кнігі Генрыха Далідовіча мяне найлепш уразіла мудрае і зычлівае слова В.Тараса «Апазнавальныя знакі таленту» («Маладосць». 1976. №10), чалавечая і грамадзянская пазіцыя рэцэнзента: «...апазнавальныя знакі таленту адразу былі ў наяўнасці ў Генрыха Далідовіча: добрая, жывая , вобразная мова, адчуванне чалавека, характару, свая інтанацыя, свая

канцэпцыя жыцця. Але ёсць яшчэ адзін апазнавальны знак таленту, які сам па сабе не даецца, як кажуць, Богам, а здабываецца. Гэты знак — грамадзянская смеласць пісьменніка, яго імкненне не абыходзіць вострыя вуглы жыцця. Хацелася б, каб гэты знак больш выразна быў накрэслены на крылах таленту Генрыха Далідовіча».

Дасведчаны чытач цяпер, пэўна, ведае, што без такой смеласці пісьменнік не стварыў бы раманы «Гаспадар-камень» (1986), «Пабуджаныя» (1988), «Свой дом» (1992), якія склалі трылогію, прысвечаную аднаму з найскладаных і драматычных момантаў нашай нядаўняй гісторыі — станаўленню беларускае дзяржаўнасці ў 1917–1919 гадах. У аснове трылогіі — ідэя пабудовы свайго беларускага дома і паказ абуджэння і гартавання нацыянальнае свядомасці. Вялікую ролю аўтар надаў стварэнню вобразаў рэальных дзеячаў тагачаснага грамадскага і культурнага руху — Зміцера Жылуновіча (Цішкі Гартнага), Аляксандра Чарвякова, Язэпа Дылы. Пераканаўча паказаны і ворагі беларушчыны — Сталін, Мяснікоў, Ландар, Кнорын...

Раман «Заходнікі» (1994) з гістарычным ухілам, за гэты твор аўтар уганараваны Дзяржаўнай прэміяй імя Якуба Коласа за 1996 год. У ім адлюстравана заходнебеларуская рэчаіснасць першых пасляваенных гадоў. Час гэты быў поўны чалавечых драм. Цяпер бальшавікі дабраліся як след і да былой Заходняй Беларусі, і тут яны жорстка ўсталёўваюць свае сталінскія парадкі, пазбаўляюць людзей права быць гаспадарамі на зямлі, сваёй зямлі, гвалтоўна разбураюць уклад спаконвечнага сялянскага жыцця, а разам і сістэму чалавечых каштоўнасцяў. Пісьменнік смела стварае злавесны вобраз камуніста-падонка, старшыні сельсавета Кураглядава, надзеленага рэальнаю ўладай, які варожа ставіцца да людзей. Ён упэўнены, што ўсе тут супраць лініі партыі, «тут зона неспакойная», маўляў, заходнікі, бандыты... «Душагуб, людаед, нелюдзь» — так гаворыць пра старшыню Сцяпан Грыгарцэвіч. Яго Кураглядаў забівае па-бандыцку ў лесе. І да гэтага ў старшыні былі ўжо рукі ў крыві: яго-наю ахвяраю стаў Сцяпанаў дзядзька Францішак. На прыкладзе

сям'і Грыгарцэвічаў аўтар рамана паказвае, як злачынная ўлада рассяляньвала беларускую вёску, не давала вольна дыхаць руплівым гаспадарам, іх зневажалі, запалохвалі і нават беспакарана маглі знішчыць.

Генрых Далідовіч разгарнуў свой яскравы талент пісьменніка гісторыка-эпічнага мыслення. Напрыканцы ХХ стагоддзя ён капнуў глыбокія пласты старажытнае нашай гісторыі — звярнуўся да Х111 стагоддзя і стварыў раман «Кліч роднага звона» (1997), у якім паказаў лёсавызначальны перыяд нашае мінуўшчыны, калі зараджалася ВКЛ са сталіцаю ў Наваградку, які тады называўся Навагародак. Уладарыў у той час князь Міндоўг. Да гонару раманіста, постаць слыннага князя атрымалася жывая. Неспрыяльныя тагачасныя палітычныя варункі падштурхоўвалі нашую старажытную бацькаўшчыну да магутнага дзяржаўнага ўтварэння з мэтаю незалежнага існавання ў свеце.

Шырокія мастацкія палотны даюцца-ўдаюцца далёка не кожнаму творцу. Тут, на гэтай шчодра-ўрадлівай глебе, Генрых Далідовіч пацалаваны Богам. А што дзеецца з яго малым жанрам, з якога ён пачынаў сваю няўрымслівую творчую дарогу? Пісьменнік не толькі не занядбаў апавяданне, а й развіў, значна паглыбіў і, значыць, узбагаціў яго, што засведчыла арыгінальная кніга «Жар кахання» (1996). Падкрэсліваю, не зборнік, а кніга. У ёй чатыры раздзелы: «Двое маладых», «Паводка пачуццяў», «І з'явілася ты...», «Хваласпеў сям'і». Хачу назваць гэтую прозу і вытанчанай, і гарачай. Вытанчанай — па майстэрству падачы самых далікатных пачуццяў, а гарачаю — па напалу жарсцяў.

Адна з найбольш узрушальных у кнізе «Жар кахання» — гісторыя з 30-х гадоў мінулага стагоддзя пад найменнем «Іста». Іста — дзявочае імя, яно расшыфроўваецца: «Іосіф Сталін», што высвятляецца, калі малады паэт Алесь знаёміцца з юнаю прыгажуняю. Цікавая адзнака часу: многія людзі, адурманеныя камуністычнай ідэалогіяй і тадышнімі правадырамі, нярэдка давалі сваім дзецям падобныя імёны. Спакваля разгортваецца інтрыгуючы сюжэт. Двух маладых даволі хутка збліжае каханне.

Іх другое спатканне адбываецца ў кіназалі. Ідзе фільм. Фанатычна ўлюбёная ў актрысу Арлову Іста хвалюецца да самазабыцця ў той момант, калі Арлова-гераіня наракае на сваю цяжкую долю і залівaецца слязьмі. Паэт, ад чыйго імя вядзецца расказ, распавядае: «Узрушаная Іста спачатку ціха заплакала, а пасля схапіла маю руку і сціснула яе сваёй невялічкай далонькай». Алесь думае пра незвычайнасць юнай асобы, пра яе шчырасць і маральную чысціню і пра тое, што яе зусім лёгка пакрыўдзіць, а то і параніць. Нават зневажальнай усмешкаю альбо жорсткім словам. І яшчэ ён зразумеў: «...яе далоньцы добра ў маёй дужай руцэ...» Інтымныя адносіны толькі-толькі зараджаюцца, пра што — так хораша далей: «Толькі пазней, калі **адмысловай гульнёй рук мы міжволі прызналіся, што падабаемся адно аднаму** (падкрэслена мною. — В.Ж.) і жадаем большага, яна папрасіла: — Мне пара быць дома. Якое трывожнае было іх шчасце і як урэшце ўсё ў іх зладзілася, чытач, спадзяюся, пацікавіцца сам. Адно скажу: у шчаслівую сям'ю зусім нечакана ўварваўся рэпрэсіўны ўраган, у выніку Іста гіне на лесапавале, бацьку, камдыва, як «саўдзельніка банды Тухачэўскага» расстрэльваюць. Алесь каля дваццаці гадоў пакутуе ў таежным лагеры. Потым упершыню сустракаецца з дарослым сваім сынам, народжаным Істай.

Шматкроць пераканаўся, наколькі неабыякавы Далідовіч да таго, што адбывалася на нашай зямлі. У другім нумары «Полымя» за 2008 год  я прачытаў яго старонкі пра некаторых сыноў Расіі, найперш пра Мураўёва-вешальніка, «усмирителя» паўстанняў 1830–1831, 1863–1864, аўтара праектаў па русіфікацыі Беларусі. Мне даспадобы, як выбітны празаік называе ката дзікаярасным натхніцелем знішчэння беларускай мовы і культуры, нашай гістарычнай памяці. Цытую аўтара: «Асабіста ён загадвае за ўдзел у паўстанні 1863-1864 гадоў многія бунтоўныя беларускія вёскі знішчыць артылерыяй і агнём, 128 маладых і светлых розумам, шчырых сэрцам людзей пакараць смерцю, 12483 — саслаць у Сібір на катаргу..., узвысіць праваслаўе («что недоделал штык, то должен доделать поп»)». У Вільні яму быў узведзены грандыёзны помнік. «Праўда, свавольная віленская

моладзь па-свойму, але з народных каранёў помсціла вешальніку: вымазвала помнік воўчым тлушчам, дык уночы з усёй Вільні збягаліся сабакі і ярасна абрэхвалі пастамент...» Няхай з гэтага сюжэту я няшмат уведаў новага, затое ўспомніў мужны ўчынак калектыву «Маладосці» у 1988 годзе: часопіс змясціў «Лісты з-пад шыбеніцы» Кастуся Каліноўскага. Генрых тады ў рэдакцыі быў намеснікам галоўнага рэдактара і ад яго пазіцыі ды ініцыятывы шмат залежала. Тады былі надрукаваныя і такія выдатныя творы: «Старажытная Беларусь» Міколы Ермаловіча і «Споведзь» Ларысы Геніюш.

На вокладцы кніжкі Далідовіча «Сярод лесу, сярод поля» (2007) я прачытаў як анонс словы з яго новага рамана «Заняволены Дом»: «Калі не можаш рабіць тое, што трэба, і не хочаш хлусіць, дык і замаўчы на час, навучыся не аглумляцца ліхам. Здолей вылечвацца горам, прагай новага, ажыўляй засмучанае сэрца, сам ніколі (!) не абмельвай душу, каб яна не была галечная, напаўняй яе годнасцю. Найперш у цяжкую хвіліну вытрымкай і працай можна стаць самім сабой, Асобаю...»

А нехта, не дужа дасведчаны ў творчасці Генрыха Далідовіча, можа залічыць яго ў шэрагі ціхіх пісьменнікаў. Цікава, як у сваёй «Аўтабіяграфічнай нататцы» Іван Бунін выказваўся адносна крытычнай думкі пра яго творчую асобу: «...жыццёвы шлях мой быў даволі незвычайны, і пра яго і ўвогуле пра мяне доўга існавала даволі скажонае ўяўленне... І атрымлівалася так, што няма пісьменніка больш ціхага («пясняр восені», смутку, дваранскіх гнёздаў і да т. п.)..., чым я. А між тым чалавек жа я быў зусім не ціхенькі...»

Што да нашага Далідовіча, то дадам: ён ніколі ні ў літаратуры, ні ў жыцці не быў крыклівы, што аніяк не падпадае пад характарыстыку: «ціхі». Не ціхі ён, а ўдумлівы, глыбокі.

2011

## КНІГА — НАЙЛЕПШЫ СКАРБ

У мяне ў руках — унікальнае выданне Міхася Казлоўскага з такім далікатным найменнем «Да кніжных скарбаў дакрануся». У свет яно выйшла ў 2011 годзе накладам 1100 асобнікаў, а ўжо сталася бібліяграфічнаю рэдкасцю. Кніга пра кнігі — так можна коратка сказаць пра яго, але ў такім азначэнні не будзе нічога сутнаснага. Унікальнасць і прывабнасць кнігі тлумачыцца канкрэтнымі фактарамі. Па-першае, там гаворка ідзе пра рэдкасныя і таму, натуральна, каштоўныя выданні, па-другое, распавядае пра іх творца, захоплены збіральніцтвам якраз такой літаратуры і да самазабыцця ўлюбёны ў мастацкае слова, творца, апантаны жаданнем вярнуць гісторыі літаратуры нямала забытых імёнаў, распавесці пра горкія лёсы больш і менш вядомых пісьменнікаў. Асоба Міхася Казлоўскага прывабная; пра многае можна меркаваць, ведаючы такі факт: у яго хатняй бібліятэцы налічваецца звыш шасці тысячаў асобнікаў **беларускіх** кніг пераважна, скажам так, сталага ўзросту. Дарэчы, на вокладцы выдання, пра якое ідзе гаворка, ёсць падзагаловак «нататкі бібліяфіла» як добрая падказка чытачу, што яго чакае сустрэча не з чымсьці звыклым, а з неардынарным, адметным. Інтэлігентнага чытача не можа не прывабіць і цудоўны вонкавы выгляд зграбнага томіка, гожы пераплёт, густоўны малюнак на вокладцы, спалучэнне некрыклівых колераў, шрыфтоў, суладных з агульным фонам вокладкі. Так хораша аздобіў кнігу мастак А.Г. Званароў; пашчыраваў і мастацкі рэдактар Я.К. Вашчанка, пра што сведчаць хоць бы хораша размешчаныя рэпрадукцыі фатаграфій вядомых дзеячаў, а таксама экслібрысаў, малюнкаў і г. д. Адным словам, і афармленне здейснена з вялікай любоўю. Зрэшты, як у чалавека галоўнае — душа, а не вопратка, так у кнізе галоўнае — змест.

Зместам выданне акурат і бярэ, як кажуць, за жывое, уражвае, хвалюе, узрушае. Скразной лініяй тут ідзе захапленне старой кнігай, якая «набліжае эпоху любімага пісьменніка, робіць аўтара больш блізкім, родным і зразумелым». Міхась Казлоўскі любіць паэтычна паразважаць пра тое, чым ён усё сваё свядомае жыццё заняты. «Нешта ёсць у такіх выданнях **магічнае і чароўнае** (падкрэслена мной. — В.Ж.), — піша ён, — глыбіннае і цяжка вытлумачальнае з пункту гледжання звычайнай чалавечай логікі». Ці трэба здзіўляцца, што для яго, зачараванага бібліяфіла, ні спёка, ні сцюжа, ні гразь дарожная, ні доўгія шляхі-дарогі не ствараюць дыскамфорту ў пошуках каштоўнае кнігі!

Натуральна, запамінаюцца апісаныя ім вандроўкі: і ў далёкую Нямеччыну, у госці да пляменніцы Якуба Коласа Надзеі Міцкевіч-Касмовіч, што пражывае ў горадзе Штутгарце, і ў вядомае Вішнева — да знанага святара Уладзіслава Чарняўскага, і ў вёску Вётхава, што на Смаргоншчыне, адтуль — на хутар стрыечнае цёткі Марыі і ейнае мужа, які з’яўляецца пляменнікам Пётры Зяновіча, беларускага патрыёта, ды многія іншыя. Зразумела, што чалавек, гатовы ў любы час змяніць хатні камфорт на дарожныя клопаты, непераборлівы ў транспартных сродках: і электрычка, і аўтобус, і ровар — усё прыдатнае для перамяшчэння. Даводзілася і ў зімовую непагадзь, нягледзячы на шалёную завіруху, вёрстаў шэсць-сем адмераць пехатою ад чыгункі да запаветнае вёсачкі. Для неардынарнага бібліяфіла галоўнае тое, што з кожнае вандроўкі ён прывозіў духоўныя скарбы. А мне, чытачу, цікава даведацца не толькі аб тым, **якія** скарбы яму дасталіся, а й пра тое, **як** яны аказаліся ў яго руках. А якраз тут Міхась Казлоўскі асабліва раскошны апавядальнік.

Прыемна ўражвае адна з яго гераіняў — Надзея Міцкевіч-Касмовіч не толькі таму, што дазволіла з уласнае бібліятэкі яму набраць торбу падвойных асобнікаў, а найперш таму, што надзвычай цёпла сустрэла госця з Бацькаўшчыны, спачатку словамі ў адказ на ягонае тэлефанаванне: «Дык ты беларус і з Беларусі? А Божачка мой, давай прыязджай хутчэй... А можа, ты не адзін, то

забірай з сабой і сваіх сяброў, усім месца хопіць». (Вось яна, чыста беларуская шчодрая душа, якую аніякае замежжа не вытруціць!). Вядома ж, адбылося хвалюючае спатканне з ёю, гаспадыняй кватэры ў шматпаверхавым доме, а пасля пачосткі пайшла шчырая гамонка пра апошнія падзеі, стан культуры, эканомікі і асабліва — мовы. (Адзначу, ішоў 1993 год). «Як вы дапусцілі, што з мовай такое робіцца?» — з роспаччу пыталася яна.

Нехта з няўважлівых чытачоў можа падумаць, маўляў, ці варта з эміграцыі задаваць такое пытанне. Сябе няўважлівым не назаву. Справа ў тым, што ў асобе гэтае эмігранткі — патрыётка Беларусі. Як тут не прыслухацца да аўтара! «Першае, што кінулася ў вочы, калі дзверы адчыніліся, гэта вялікая павага і любоў да ўсяго беларускага. Яна проста перапаўняла ўсю кватэру, была скрозь і ўсюды. Карціны з беларускімі краявідамі, партрэты Янкі Купалы і Якуба Коласа ў абрамленні вышываных ручнікоў, вялікая этнаграфічная мапа Беларусі, фотаздымкі дзеячаў беларускай культуры, сямейныя фатаграфіі, сурвэткі з нацыянальным арнаментам на журнальных століках, а поруч з імі вырабы з саломкі, гліны... Цэнтральнае месца ў гэтым жытле займалі вялікі беларускі бел-чырвона-белы сцяг і герб Пагоня. А на стэлажах размясціліся кружэлкі і касеты з песенным нацыянальным рэпертуарам... А тут яшчэ прысутнасць гаспадыні з яе бездакорнай беларускай мовай, з тымі адметнымі фанетычнымі асаблівасцямі, якія даўно згубленыя ў самой Беларусі».

У Штутгарце, у Коласавай пляменніцы Надзеі шаноўны наш Міхась Міхасевіч пазнаёміўся з шэрагам часопісаў, якія на радзіме былі недаступныя, і з кнігамі цудоўных творцаў: Н. Арсенневай, А. Гаруна, Ю. Віцьбіча, М. Кавыля, Л. Калюгі, Р. Крушыны, А. Мрыя, А. Салаўя ды іншых. Шмат што і займеў там, прывёз на радзіму. Гэта былі сенсацыйныя па тым часе літаратурныя скарбы.

Не такія шчодрыя дары яго чакалі ў іншых мясцінах, да прыкладу, на Смаргоншчыне, у хаце роднае цёткі Марыі. З яе хутарскога гарышча сёе-тое з каштоўнай літаратуры трапіла ў рукі суседа, адукаванага чалавека, які, між іншым, і няблага за-

плаціў ёй. Прайшло нямала гадоў, і цётка Марыя падумала, што тыя кнігі больш нікому непатрэбныя: «Я даўно збіралася злазіць туды і ўсё спаліць, але ўсё рукі не даходзяць» — прызналася яна. Ды разведка яе дапытлівага госця-кніжніка, узброенага ліхтарыкам, двухгадзіннае капанне ў запыленых кніжных і папяровых курганках на тым жа глухім, усімі забытым гарышчы далі вынік, пра што нястомны шукальнік заяўляе жыва, эмацыйна: «Бяру ў рукі важкі пакунак, разразаю вяроўку, пачынаю перабіраць. І вось яно, маленькае бібліяфільскае шчасце! Зборнік вершаў Леапольда Родзевіча «Беларусь», выдадзены ў Вільні ў 1922 годзе...» І гэта была не адзіная знаходка.

Не дзіва, што ў зборніку Міхася Казлоўскага «Да кніжных скарбаў дакрануся» ужо з першых старонак фігуруюць імёны не толькі слынных творцаў: Кузьмы Чорнага, Янкі Купалы, Вацлава Ластоўскага, Змітрака Бядулі, крыху пазней — Якуба Коласа, Пятра Глебкі, Уладзіміра Дубоўкі, а й многіх малавядомых літаратараў. Дарэчы, ёсць тут грунтоўны артыкул: «Кнігі і лёсы забытых пісьменнікаў». Аўтар называе больш за сорак літаратараў, якіх няма ні ў даведніках, ні ў энцыклапедыях, ні ў шасцітомным бібліяграфічным слоўніку «Беларускія пісьменнікі». «Пра адных банальна забыліся, іншых прапусцілі па няўважных прычынах рэдактары і аўтары тэкстаў, пра існаванне трэціх — элементарна не ведалі» — піша ён. Міхась Казлоўскі мае права на такі горкі дакор. Сам ён падае багата цікавых фактаў з жыцця і творчасці шэрагу пісьменнікаў, забытых айчынным літаратуразнаўствам. На жаль, час, у якім развіваліся іх таленты, стаўся не толькі неспрыяльным, а й драматычным: то былі 20-я, 30-я ды 40-я гады мінулага стагоддзя. Знанага бібліяфіла хвалюе пытанне, дзе можна, прыкладам, прачытаць пра жыццёвы і творчы шлях тых, што «на ўзлёце былі падсечаны сталінскай інквізіцыяй». З ім пагаджаешся, што «пачыналі ж яны таленавіта, цікава, шматабяцальна», калі прачытаеш хоць бы надрукаваны ім верш «Над вазёрамі» Ганны Брэскай, якая была, па словах Максіма Гарэцкага, адным з найлепшых лірыкаў літаб’яднання «Маладняк».

Вынікае думка: трэба выдаць калектыўны зборнік выбраных твораў пісьменнікаў 20-х–40-х гадоў. За ўзор можна ўзяць кнігу «Расстраляная літаратура» (Мінск, «Кнігазбор», 2008). Пад узорам ажыццёўленага выдання разумеецца кампетэнтнасць і выключны мастацкі густ укладальнікаў, аўтараў прадмовы, артыкулаў пра кожнага літаратара і каментароў. Яго рабочае найменне можа быць такое: «Маладняк. Узвышша. Полымя». Вядома, укладанне такога тома не абыйдзецца без Міхася Казлоўскага.

Як бібліяфіл ён глыбока ўражвае сваёй дасведчанасцю. Шмат пазнавальнага дораць нам яго расповеды пра пісьменнікаў, іх творы, пра мастакоў. Вельмі дарэчы гэтае багацце дапоўнена рэдкаснымі назіраннямі і развагамі пра аўтографы, экслібрысы ды іншае. З пільнай увагай прасочваецца гісторыя і стан айчыннага бібліяфільства. Таленавіта, запамінальна выказваецца незвычайная, не пераможаная ніякімі павевамі часу любоў да яе вялікасці КНІГІ і яе апантаных творцаў, незалежна ад іх славы і лёсу.

Сустракаюцца і вясёлыя старонкі ў гэтым, паўтаруся, унікальным выданні. Да прыкладу, выклікае ўсмешку пытанне польскіх дзяцей, якія абмылі беларускі вандроўны аўтобус і з якімі разлічыліся «зайчыкамі» (бо не было аніякай валюты): «Пан, а цо то за пенёндзэ?».

Радасна адзначыць добрую мову Міхася Казлоўскага. Яна то цурчыць ціхай ручаінаю, то ліецца імклівай ракою, то дыхае неспакойным морам і, як правіла, гучыць мілагучна. Тут сустракаецца нямала сучасных слоў, прыемных чыста беларускаму слыху, прыкладам: аповед, кружэлка, слухаўка, вынятак, мапа, філія... Тым болш крыўдна бачыць нават нязначныя агрэхі. На самым пачатку кнігі ўжытыя словы *адрэстаўрыраваць* і *знешні,* хоць не сакрэт, што лепш выглядаюць яны на беларускі лад: *адрэстаўраваць* і *вонкавы.* Чамусьці па-руску падаецца абрывіятура НКУС–НКВД. Не аднойчы ўжываецца знявечанае слова *тычыцца* (гэтая хвароба ўвогуле ўжо вельмі пашыраная ў друку). На старонцы 11 адзін сказ завяршаецца так: «гу-

чыць рытм даўно *адышоўшага* жыцця». Добра было б заміж непрыгожага слова «адышоўшага» ўжыць натуральнае для нашае мовы: «прамінулага». На старонцы 340 аўтар не лепшым чынам скланяе найменне рэчкі *Вілля:* замест натуральнага «Віллю» тут з’явілася слова «Вілію». Нарэшце, яшчэ без адной заўвагі я не абыйдуся. На старонцы 7 гаворка ідзе пра цудоўны зборнік «Пачуцці» знакамітага Кузьмы Чорнага пачынаецца так: «Літаральна некалькі месяцаў таму...». Аўтар не ўцяміў, як не ўцямілі і рэдактары, што, паколькі артыкул публікуецца не ў газеце, а ў кнізе (і пад артыкулам няма даты), чытач можа ламаць галаву над пытаннем, калі ж тая падзея адбылася. У кнізе, як і ў скульптуры, нічога не павінна быць лішняга.

2012

## АДКРЫТЫ. УДУМЛІВЫ. ПЯШЧОТНЫ

1

Ёсць паэты пладавітыя, задзірыстыя, папулярныя... Мяне цікавяць **таленавітыя**. Талент якраз можа быць і не пладавіты, і не задзірысты, і нават не папулярны. Затое ён заўсёды ўдумлівы і патрабавальны да сябе. Так падумалася пра Васіля Андрыеўскага, з кім я пазнаёміўся ў Менску ў 2005 годзе. Адна з трох рэкамендацыяў, дадзеных яму сталымі творцамі для ўступлення ў Саюз беларускіх пісьменнікаў, была мая. Невыпадкова! У яго першым паэтычным зборнічку (усяго 45 вершаў!) **«Пад літасцю нябёс»** (2001), які выйшаў у свет праз 14 гадоў пасля з'яўлення і апублікавання ў мазырскай раёнцы першага верша «Родны край», я ўгледзеў нямала адметных твораў. Парадавала трывалая духоўная аснова творчасці Васіля Андрыеўскага. Заўсёды прыемна сустракаць боскае ў тым ці іншым творы, а яно ў паэта арганічна спалучаецца з ідэаламі любові, праўды, дабра. У вершы «І знікнеш знічкаю апоўначы...» аўтар разважае пра непазбежнасць пытання «на развітальным рубяжы»: «Да сатаны, // Ці ўсё ж да Бога // Вяла жыццёвая дарога».

Сапраўднага паэта, якім лічу Васіля Андрыеўскага, хвалюе не толькі ўзровень і стан сваёй душы, а й тое, што адбываецца з планетай людзей, а найперш з Бацькаўшчынай, яе культурай, мовай.

Адкрыты, удумлівы, пяшчотны, а перадусім — ранімы Васіль Андрыеўскі, ураджэнец Гомельшчыны, не мог прайсці міма чарнобыльскай бяды. Знайшліся паэтычныя сродкі, якія падкрэслілі яе маштабнасць. Глыбіня трагедыі, яе глабальны ха-

рактар адчуваюцца ў нечаканым вобразе: «Хаўтурным колерам гарыць за плотам бэз, // Бы на магілу селішча вянок усклалі». Так, здаецца, проста і так узрушальна! А вось яшчэ не менш нечаканае адкрыццё: «Здзічэў дашчэнту // Яблыневы сад... // О краю любы, // Хто цябе сурочыў?!».

Мінорным настроем блізкія да «чарнобыльскіх» вершы «Думкі каля паміраючага дуба», «Над старою буслянкай...», «Трапятанне пажоўклай лістоты...» ды іншыя.

Чытаючы першую кніжку Васіля Андрыеўскага, пераконваешся: яго грамадзянская пазіцыя не толькі актыўная, а й нацыянальна арыентаваная. «За цябе, мая мова, малюся» — паэт звяртаецца да роднае беларускае мовы, параўноўвае з маці, хвалюецца за ейную будучыню, не без гонару ўсведамляючы, што яе «Лёс не знішчыў і продак не страціў // У віхуры часін палыновых».

Бацькаўшчыну цяжка ўявіць бязлюдную. Радзіма Андрыеўскага заселена дзейнымі і высакароднымі людзьмі — такімі як хірург Уладзімір Хоха, які «Ад удзячнасці — багаты, // Ад любві — шчаслівы». Аўтар не клянецца ў любові да чалавека, затое добра бачыць бліжняга, цэніць сваіх землякоў, шануе памяць тых, што заўчасна адышлі: Анатоля Грачанікава, Уладзіміра Верамейчыка.

Грамадзянскія матывы ў творчасці В. Андрыеўскага ўдала чаргуюцца з інтымнымі. З тым жа майстэрствам ён выказвае арыгінальныя думкі, ужывае неардынарныя метафары: «Надзей маіх цяжкая поўня, // А шчасця — сціплы маладзік». А вось як хораша аўтар паэтызуе пагляд жаночых вачэй: «У бляску дзён і цемрадзі начэй // Яго гаючы адчуваю дотык»! Пасля такіх далікатна-вытанчаных слоўцаў на адрас каханай не здзіўляе сутнаснае абагаўленне: «Я зноў і зноў шаптаў: багіня, // Табой асветлены мой лёс».

Другая кніжка паэта «Вербніца» засведчыла яго далейшы рост і тое, што ён застаецца самім сабой. Узмацняецца духоўны пачатак: «Не ашчаслівіць звон манетаў, // Падараваных сатаною!.. // І покуль разважаю гэтак, — // Жыве спадзеў: Гасподзь

са мною». Відавочная выдатная якасць **асобы** — непадкупнасць, якая ў любы час з'яўляецца незвычайным багаццем, з якім не можа параўнацца самай высокай пробы золата. Не дзіва, што маральна чыстая душа не можа змірыцца з праявамі амаральнага: «Учора тут былі клады, // А сёння — скокі, карагоды... // Даюць бяспамяцтва плады // Свае вар'яцкія усходы!» У адным з вершаў паэта ёсць дакладнае найменне такой з'явы: «бездухоўнасці цунамі». Не справа паэта даваць рэцэпты, каб перамагчы тую ці іншую хваробу, што развіваецца ў грамадстве, — даволі назваць яе, што мы якраз і знаходзім у творах Васіля Андрыеўскага. Варта падкрэсліць: у нешматслоўных творах! Адметная рыса яго таленту — ашчаднае стаўленне да мастацкага слова. Скрозь адчуваецца як бы прысутнасць класічнага правіла ці, лепш сказаць, дэвізу, якога прытрымліваецца аўтар: словам цесна, думкам прасторна! Гэтак жа — лаканічна — выказана па сутнасці крэда хрысціяніна:

Надзеяй, любоўю ды верай лагоджу
Я сэрца ад рання да рання.
І ў гэтым святым трыадзінстве знаходжу
І радасць, і сэнс існавання.

Душа, якая прагне дасканаласці, і жыве па хрысціянскіх запаветах, здатная не сумнявацца ў высокім сэнсе зямнога быцця і даць адказ на пытанне, якое хвалюе мноства людзей:

Душа не стамляецца верыць у гэта
Праз боль і пакуты зямнога жыцця:
Усё, што дабром і любоўю сагрэта,
На небе калісьці свой знойдзе працяг.

Вось і ўвесь твор. А хіба тут нешта можна дадаць, як, зрэшты, і адкінуць?..

Паэта на зямлі радуе прыгажосць прыроды і ўчынкаў-спраў людскіх. Вераю ў родны край прасякнуты верш «Багдановіч...

Максім...», цалкам аптымістычны. (Адна канцоўка чаго вартая: «У любві, дабраце // І нязломнасці жыцьмем!»). Чаму аўтар звярнуўся да М. Багдановіча? Бо ён, Максім, стаўся нашаю агульнанацыянальнаю святыняю, у неверагодна складаных варунках лёсу здзейсніў творчы подзвіг: будучы амаль усё сваё кароткае жыццё адарваны ад Бацькаўшчыны, пакінуў ёй багатую спадчыну душы і сэрца. Іншы раз В. Андрыеўскаму даволі і двух радкоў, каб уславіць чалавека: «Бяроз палескіх восеньскае зарава, // Нібы на палатне Пятра Захарава». Хараство, створанае талентам мастака, паэт як бы прыўзняў нават над хараством тварэнняў самой матухны ПРЫРОДЫ ці — прынамсі — узняў да яго.

Паэзія Васіля Андрыеўскага багатая на трапныя метафары, параўнанні і, галоўнае, на глыбокія пачуцці, таму яна пранікнёная. Красой вясновай пары, музыкай світання, вераю, надзеяй напоўнены верш «Вербніца». І гэта натуральна, бо перадвелікодная нядзеля — пярэдадзень свята магутнага духу, свята ўваскрэсення.

Васіль Андрыеўскі ўмее асабістае ўзняць да агульначалавечага, што найчасцей, дарэчы, яму забяспечвае поспех. Аказваецца, пра тое, як моцна яго лірычны герой кахае і як чакае ўзаемнага пачуцця, можна сказаць маштабна, з падтэкстам, прытым звычайнымі, вельмі даступнымі чытачу словамі.

Каханне прыносіць вялікую і найвялікшую радасць чалавеку, колькі б ні было звязаных з ім хваляванняў, трывог і нават пакут, з'яўляецца найтрывалым апірышчам у жыццёвых выпрабаваннях і нягодах. Якраз гэта пераканаўча сцвярджае аўтар «Вербніцы».

Удумлівы паэт ад першай сваёй кніжкі «Пад літасцю нябёс» ішоў да «Вербніцы» шэсць гадоў. Гэты час стаўся для яго ўраджайным на публікацыі ў рэспубліканскай перыёдыцы («Полымя», «Маладосць», «Вясёлка», «ЛіМ», «Вожык»), на сустрэчы з чытачамі (Васіль Андрыеўскі часты і пашанотны госць у сістэме адукацыі і культуры Мазыра). Яшчэ ён з'явіўся актыўным складальнікам, рэдактарам шэрагу калектыўных паэтычных збор-

нікаў: «Ты, Мазыр, — мой Парнас» (2001), «Прыпяцкія хвалі» (2002), «Спелы ранак» (2002), кніжкі вершаў для дзяцей «Сонца над буслянкай» (2001).

Усё гэта характарызуе Васіля Андрыеўскага як асобу дзейную і дзейсную ў паэзіі, у жыцці.

2007

## УЛАДЗІМІР СОДАЛЬ

У маёй памяці Уладзімір Содаль — не пладавіты і не галасісты творца, але з адметным, не запазычаным голасам, почыркам і з пачуццём глыбокае пашаны да роднае мовы як да найпершае святыні. Надзвычай памяткі і дапытлівы. Як мне здаецца, яго творчае крэда адпавядала вядомай прыказцы: «Менш гавары, а болей слухай». Любіў распытваць у бывалых людзей пра жыццё-быццё, назапашваў каштоўныя матэрыялы: нешта скарыстоўваў у артыкулах, якія змяшчаў часцей у газетах («Нашым слове», «Народнай волі», «Новым часе», «ЛіМе»), радзей у часопісах, а штосьці прытрымліваў для будучых кніжак. Незабыўнае ўражанне пра яго — апантаны нацыянальнаю ідэяй. Ён клапаціўся-дбаў пра адраджэнне гістарычнай памяці і нацыянальнае свядомасці бязбожна абруселых беларусаў, пра вяртанне добрых традыцыяў.

Нават не прыгадаю, калі мы з ім пазнаёміліся. Здаецца, быццам ведаў яго заўсёды. Сустракаліся мы найчасцей там, дзе трымаецца дух беларушчыны, — на літаратурных вечарынах, на выставах, у музеях, у сядзібе ТБМ, на сходах БНФ і мітынгах, у журботных Курапатах, словам, на ўсіх вастраўках нашага культурнага і грамадскага жыцця ды ў мясціне шчымлівай памяці. І заўсёды пры сустрэчах-развітаннях перамаўляліся з ім, дужа прыязным і камунікабельным чалавекам. Іншы раз напярэдадні той ці іншае падзеі ён паведамляў мне, дзе і калі яна мае адбыцца. Да прыкладу, ад яго я пачуў, што ў сядзібе ТБМ плануюцца літаратурныя чытанні Максіма Гарэцкага з удзелам акадэміка Радзіма Гарэцкага. Тэлефанаваў ён гэтаксама напярэдадні юбілейных угодкаў знанае Зінаіды Бандарэнкі. У красавіку 2014 года я пачуў канкрэтнае: «Дваццаць восьмага

Зінаідзе Бандарэнцы — 75». Гэта было за год да ягонага скону, калі ўсё мацней даймалі яго цяжкія хваробы.

Непасрэдны такі, звычайна, калі сустракаўся, пачынаў гамонку пра тое, што перажыў у той дзень ці апошнім часам. Шырокавядомае захапленне Уладзіміра Содаля класікамі, а найбольш — Францішкам Багушэвічам і Янкам Купалам. Да знакамітых у яго была цікавасць двухадзіная — як да іх творчасці, так і да жыцця, да біяграфічных фактаў. Дык вось неяк у многіх знаёмых ён пытаўся, ці ведаюць пра Купалаўскія Бараўцы. І ніхто, на жаль, не парадаваў яго. Пасля таго паскардзіўся мне і дадаў: «А Купала ў Бараўцах, паміж іншага, стварыў «Адвечную песню»!.. Адтуль пехатою дабіраўся да Астрашыцкага гарадка... Павінна быць там вуліца Янкі Купалы...».

Прыязныя стасункі з Уладзімірам Содалем у мяне ўсталяваліся яшчэ падчас ломкі таталітарнае сістэмы, тады ён шчыраваў на тэлевізіі, вёў праграму «Роднае слова». Тую дзялянку дагледаў старанна і паспяхова: ставала і ведаў, і досведу ў пытаннях літаратуры і — шырэй — культуры.

Як толькі з’явіліся ў перыёдыцы мае выбраныя пераклады вершаў Адама Міцкевіча і эсэ «Беларусь — калыска генія», Уладзімір Ільіч знайшоў мяне і запрасіў на чарговую праграму «Роднага слова», прысвечаную цудоўнаму польскамоўнаму паэту. А калі ўведаў, што мая дачка Аўгіня — студэнтка Менскага ўніверсітэта культуры, прапанаваў ёй дэкламаваць у той самай перадачы вершы Міцкевіча.

З тае пары ў памяці дачкі, як і ў маёй памяці, назаўсёды захаваўся вобраз клапатлівага і далікатнага інтэлігента, сялянскага сына Уладзіміра Содаля.

І яшчэ раз ён адарыў нас сваёй чыста содалеўскаю ўвагаю: 10 красавіка 2013 года ў «Народнай волі» абнародаваў артыкул пра нас, змясціў і фотаздымак, на якім мы поруч, і падборку маіх вершаў з кнігі «Золата лістападу» (2012). Вельмі спадзяюся, чытачы зразумеюць мяне: цытаваць буду яго не дзеля самарэкламы, а дзеля паказу гожага стылю аўтара і яго сардэчнае цеплыні. «Траецкае прадмесце, гасцёўня Галубка, — піша

ён. — Колькі год таму было, а помніцца: знаныя ў літаратуры і мастацтве творцы сабраліся ўшанаваць талент і мужнасць былога гулагаўца, паэта Сяргея Новіка-Пяюна. Напаткаў тут і малодшага калегу Васіля Жуковіча. Не заўважыць яго было нельга. Адзіны сярод нас ён быў у вышыванцы». Далей Уладзімір дае слова мне, каб назваць маімі вуснамі Веру Казлову, якая вышывала мне кашулі.

«У маёй фотакалекцыі некалькі здымкаў паэта, — працягвае Уладзімір Содаль сваю тэму. — На адным з іх ён з дачушкай Аўгінькай. Яна таксама ў народным строі з густоўным узорам. Дзяўчына згадвае, што ў свой час танчыла ў дзіцячым ансамблі… Цяпер адораная Аўгінька — артыстка аднаго са сталічных драматычных тэатраў».

А завяршаючы артыкул, пісьменнік апавядае, што ў маіх кніжках «ёсць хоць які штрышок ці згадка пра нашы вышыванкі, неад'емную частку і ўпрыгожанне колішняй мужчынскай апраткі», змяшчае два радкі з «Золата лістападу»:

Сцежкі слядоў галубіных на снезе
Нагадалі маю вышыванку.

Звяртае ўвагу і на тое, што зборнік «распачынаецца фотаздымкам аўтара ў ягонай узорыстай белай кашулі... Апратка вельмі пасуе ягонаму абліччу. Цікава, што і на афіцыйнай пашпартнай фатаграфіі на ім таксама кашуля з дарагім сэрцу арнаментам».

Уладзіміра Содаля, адзінага з многіх пісьменніцкіх сотняў, цікавілі людзі ў вышыванках. Спярша, натуральна, прыгледзеўся ён да славутых папярэднікаў, да нашых класікаў, скажам, да Янкі Купалы і Якуба Коласа, якія любілі народныя строі. Пасля пачаў знаходзіць сучаснікаў у вышыванках і распавядаць пра запаветнае. Камусьці гэта можа падацца неістотным. А мне сведчыць якраз пра істотнае.

Я пішу пра Содаля-грамадзяніна, улюбёнага ў Бацькаўшчыну, яе мову, культуру, гісторыю, блізкіх сэрцу людзей. І ведаю:

калі б ніхто ні слова не сказаў мне пра тое, які ён быў выдатны сем'янін, я гэта зразумеў бы і без таго, бо добра памятаю, як ён ганарыўся унукам Сержыкам, чуйным да беларускага мастацкага слова, а пазней радаваўся з'яўленнем праўнука Дамініка.

Усім, каго любіў Уладзімір Содаль і хто любіў яго дый працягвае любіць ягоныя добыя справы, зычу дажыць да поўнае незалежнасці Беларусі, пра якую, дарэчы, марыў геніяльны Янка Купала, адзін з самых улюбёных творцаў Содаля.

2016

## ДУША ВІДУШЧАЯ

Выхад кнігі Фелікса Баторына «На вуліцы Багдановіча» (Мінск 2007) пры ўсім яе драматычна-сціплым накладзе (100 асобнікаў), бо выдадзена не за дзяржаўныя грошы, — з'ява адметная. Больш як на чатырох сотнях старонак размясціліся творы паэта — вершы, паэмы, пераклады — з прадмоваю Леаніда Дранько-Майсюка «Аднаўленне спакою», у якой, натуральна, прапанавана чытачу знаёмства з неардынарнаю асобаю аўтара.

Я пазнаёміўся з Феліксам Баторыным 41 год таму: мы як маладыя літаратары аказаліся тады аднаго — каралішчавіцкага — прызыву: трапілі на семінар, ініцыятарам і арганізатарам якога быў тадышні сакратар адзінай у Беларусі пісьменніцкай суполкі Анатоль Вярцінскі. Цяпер, чытаючы прыгожую кнігу, на зялёнай вокладцы якой густоўна, белымі літарамі выдрукаваны імя паэта, назоў аднатомніка, а яшчэ — «цвяток радзімы васілька», я парадаваўся, таму што ў гэтым томе кожны чытач знойдзе сабе, абавязкова знойдзе любімыя творы, бо тут раскошны выбар: ад лірыкі — да іроніі, ад мініятуры — да паэмы; можна пацікавіцца і тым, як гучаць па-беларуску, скажам, нямецкая і сусветная знакамітасць габрэйскага паходжання Генрых Гайнэ і Зыгмунт Красіньскі, Аўсей Дрыз і Мэндаль Ліфшыц, Барыс Пастарнак ды Булат Акуджава.

Мяне, чытача, найперш уразіла лірыка рознага характару: інтымная, грамадзянская, пейзажная і г. д.

Сярод многіх іншых вершаў маю ўвагу прывабіў і гэты, прысвечаны Л. Дранько-Майсюку:

Скразнячок заблытаўся ў гардзіне.
Пацалунак сонца на сцяне.

Павучок на ценькай павуціне
З поштаю спяшае да мяне.
Выдумляе песеньку гадзіннік,
Адбівае такт. І, нібы ў сне,
У рухомым мроіве гардзінным
Нешта светла трызніцца і мне.
Сярод дзён будзённых, спраў руцінных
Часам незнарок душу кране
Павучок на ценькай павуціне,
Пацалунак сонца на сцяне.

Нічога тут няма ашаламляльнага. Узор сатканы з вельмі звычайнага, будзённага матэрыялу. Але ідылічны **настрой** перададзены настолькі ўдала, ажно цяжка паверыць, што ў аўтара гэтага празрыстага малюнка не філалагічная адукацыя, а медыцынская: Фелікс — лекар. Калі не памыляюся, хірург.

Вершы Фелікса Баторына вобразныя. Пачатак аднаго з іх сведчыць, наколькі нязмушаныя ў яго метафары:

Знічкі росаў радуюцца поўні.
Кроплі знічак сеюцца ў траву.

Калі мы цэнім золата высокай пробы, то як не цаніць падобную лірыку! А менавіта:

Былі падзення боль і грук
Уранні ў момант абуджэння.
Але салодкага кружэння
Не забываюць крылы рук.
(З верша «Зноў сёння лётаў я у сне...»)

Крышталёвая чысціня ёсць у малюнку зімовай пары ці, магчыма, прадвесня:

Падтопіць сонца ледзяшы,
Мароз наросціць іх.
І толькі тонкі звон цішы
Улоўлівае слых.
І толькі зыбкі цень смугі
Улоўлівае зрок.
І толькі снегу рып тугі
У цішу ўцісне крок...

Далёкія ад прымітыву інтымныя радкі. Каханне завязваецца на маштабным фоне прыроды:

Капалі зоркі ў бязмежную цемру.
Дыхалі грудзі зямлі.
Грані зламалі і межы мы сцерлі,
Вусны і душы злілі.

Ад твораў Ф. Баторына вее-павявае аптымізмам, часта — супакоем. Але нічым не засмучанае і нічым не абцяжаранае існаванне — не яго стыхія. Сама прафесія ў яго такая, што не можа абяцаць лёгкае жыццё:

І якое жуды мае вочы не бачылі —
У апёках душа, у рубцах міякард.

Але варта заснуць — сняцца сны мне юначыя:
Зноў і зноў благаслаўляе мяне Гіпакрат.

Бачылі паэтавы вочы шмат самых розных бедаў на планеце людзей, бо душа ў яго відушчая, сэрца чуйнае. У вершы «Зона» адлюстравана не лакальная бяда, а глабальная, хоць у паэтычным аб'ектыве — толькі вёсачка, чарнобыльская гаротніца:

Сумёты сядзібаў з пустымі дамамі,
Ля студні — сцяжынкі палоска.

Сваімі трыма ледзь жывымі дымамі
З сутоннем зліваецца вёска.

Які дакладны і шчымлівы вобраз: «З сутоннем зліваецца вёска», толькі «трыма ледзь жывымі дымамі»!

Міжволі падумалася пра тое, як зацята, па даўняй завядзёнцы, што існавала ў таталітарнай сістэме, утойвалі ўлады ад народа праўду пра чарнобыльскую бяду. У кнізе невыпадковы верш «Настальгія па 60-х», ахвяраваны Рыгору Барадуліну:

Тады насуперак мане
У гмах без вокнаў, дзе жылі мы,
Праз трэшчыну ў глухой сцяне
Струмень агністай праўды лінуў.
……………………………………..
І кожны ўніжаны ў сабе
Раптоўна чалавека ўспомніў.

Верш «Эпітафія на сцяне Калізея» дае магчымасць на фоне падзей, фактаў сусветнае гісторыі больш выразна ўразумець, асэнсаваць трагічныя з’явы, маштабы праблем нацыянальнага жыцця:

Часы дыктуюць жорсткія законы:
Пара настала — і магутны Рым,
Забыўшыся на славу Цыцэрона,
На мове варвараў загаварыў.

Згубіўшы мову і забыўшы славу,
Сям’я не згіне, не звядзецца род,
А толькі ў друз рассыплецца дзяржава
І перастане быць сабой народ.

Першая частка трыпціха «Самадзержцы» — пра цяжкія выпрабаванні вядомай нашае суседкі:

Народ расейскі! Многа вынесці
Тваім плячам і галаве...
Твой лепшы цар касцямі вымасціў
Сваю Еўропу на Няве.

Па-сапраўднаму хвалююць вершы праблемныя, калі яны не назойліва- павучальныя, да таго ж і нешматслоўныя. Сярод іх — і «Развод»:

Разышліся. Падзялілі дом.
Падзялілі келіхі і лыжкі.
Падзялілі грошы з ашчадкніжкі,
Нават з фотакарткамі альбом.
А ў кутку між кухняю і ваннай,
Сцяўшыся, сядзеў зусім адзін
Востраю пакутай раздзіраны
Непадзельны трохгадовы сын.

Як жа аўтар умее звярнуць позірк душы сучасніка на такую распаўсюджаную і балючую сацыяльную бяду!

Уражвае «Сустрэча», для ўспрымання куды больш лёгкая, чым «Развод», аднак адлюстраваная тут з'ява — пікантная:

Начэла. У вулічнай плыні
У шуме ды тлуме няўзнак
Юнацтва й кахання багіню
Сустрэла мая сівізна.

Гэта — пачатак. Дзеля дынамічнасці апускаю некалькі строфаў, хоць і шкада: там — паэзія, што па-за канстатацыяй факта. Вось ён, фінал:

Спустошаны, зніякавелы,
Урос я нібы ў тратуар,

І здзіўлена жонка глядзела
У мужаў збянтэжаны твар.

Нават у тых выпадках, калі паэт як бы іранізуе з сябе, ён такі ж цікавы і мудры:

Я жыву на дачы мірна —
Земляроб заўзяты.
Муза носіць мне не ліру —
Граблі і лапату.
Клапачуся пра ўраджаі,
У садку шчырую.
Дзякуй, Божа, што не знаю
Дня, калі памру я.

2008

## ДАРЫЎ ЛЮДЗЯМ ЛЮБОЎ

На адну яскравую зямную зорку збяднеў свет мастацтва, бо яго пакінуў Андрэй Фёдаравіч Андросік, галоўны рэжысёр Рэспубліканскага тэатра юнага гледача. Інсульт ударыў па-здрадніцку зусім нечакана і моцна. Больніца хуткай дапамогі ўратаваць не змагла. Творца ініцыятыўны, эмацыйны, ён жыў вялікімі высакароднымі мэтамі, перагружаў сябе, сваё ранімае сэрца мноствам перспектыўных справаў і штодзённых клопатаў. Інтэлекту А. Ф. Андросіка, яго строгага мастацкага густу, яго стваральнай энергіі, чалавечай дабрыні будзе вельмі не ставаць. Ён быў з кагорты тых сапраўдных інтэлігентаў, у каго да апошніх дзён жыла прага дасканаласці. Меў дзве адукацыі — акцёрскую і рэжысёрскую; яму пашанцавала вучыцца ў знакамітага, сусветна вядомага свяцілы Г. А. Таўстаногава. Не адзін дзесятак гадоў Андрэй Андросік плённа працаваў на галоўнай беларускай сцэне — у Купалаўскім тэатры, паставіў дзясяткі спектакляў па творах айчыннай і замежных літаратур — для дарослага гледача. Але першай рэжысёрскай спробай быў спектакль для дзяцей — «Беласнежка і сем гномаў» у 1971 годзе. Святая любоў да асобы дзіцяці прывяла яго ў ТЮГ, дзе асабліва яркімі гранямі заззяў яго жыццядайны талент.

А. Ф. Андросік жыў мараю — узняць узровень ТЮГа на такую вышыню, каб набыў ён статус акадэмічнага. Настойліва ішоў да такой запаветнай мэты: каб ТЮГ стаўся культурным асяродкам сям'і, каб сюды дзеці імкнуліся разам з бацькамі і каб цікава тут было не толькі дзецям, а й дарослым. Яго бліскучы, па сутнасці рыцарскі, спектакль «Маленькі лорд Фаўнтлярой» па аповесці Ф. Бернет якраз і стаўся вынікам гэтай неардынарнай ідэі. На сцэне адбываецца вялікае цуда: малы хлопчык

разрывае працяглую варажнечу старога лорда ў адносінах да нявесткі, такім чынам мірыць дзядулю з мамай. А. Ф. Анросік пры ўсёй традыцыйнасці яго школы — наватар.

Да прыкладу, ён рашуча адмовіўся ад травесці: у ролі маленькага лорда пачалі выступаць дзеці. Сам працаваў з адоранымі школьнікамі, і глядач мог пераканацца ў бясспрэчна выйгрышным варыянце галоўнага рэжысёра і мастацкага кіраўніка тэатра.

Апошнім часам творца працаваў над новым спектаклем «Паліанна» — пра тое, як трэба пераадольваць нягоды і заўсёды знаходзіць нагоду для радасці ў жыцці. І дзеля новай пастаноўкі шмат працаваў з малымі, чужымі дзецьмі, чужымі ўнукамі, выхоўваў іх, арыентаваў на справы добрыя, на мову родную. Вядома ж, дбаў ён і пра сваіх родных, крэўных. Адзін прыклад. Усім сэрцам любячы адзінага ўнука Алёшу, улетку вазіў яго колькі гадоў запар да Чорнага мора, у Балаклаву, браў з сабой у паходы, у горы. Не раз начавалі пад адкрытым небам, пад зоркамі. У спартанскіх умовах загартоўваў волю хлопчыка. Андрэй Фёдаравіч быў чалавек сардэчны, чуйны, далікатны. Ніхто не чуў, каб на чыйсьці адрас адпускаў незычлівыя словы. Да самазабыцця любіў паэзію. У кампаніі сяброў натхнёна і арыгінальна дэкламаваў урыўкі з «Яўгенія Анегіна». А ў творах драматургіі настойліва шукаў і знаходзіў праявы чалавечнасці. «Удумлівы. Працавіты. Сціплы. Майстар. Глыбокі мастак» — так характарызуюць яго людзі, што яго ведалі і ведаюць толк у тэатральнай справе. Змоўкла муза А.Ф. Андросіка. Але здзейсненае застаецца. І вобраз майстра-чарадзея застанецца ў сэрцах людзей, якія адчулі праз ягоныя спектаклі невынішчальную любоў да чалавека, да жыцця.

2003

## АПАНТАНЫ ФІНБЕРГ

***

Як бы ні часта ўжывалася звыклае для бальшыні дзеячаў мастацтва і журналістаў: *Міхаіл* Фінберг, у маёй свядомасці замацавалася ягонае імя на беларускі лад: *Міхась.* Яго радзіма — Беларусь, чароўная Мазыршчына. Галоўнае ж, вызначальнае ў гэтай неардынарнай постаці — тое, што ён, Міхась Фінберг, кіруючы вось ужо больш як тры дзесяцігоддзі выбітным канцэртным аркестрам, верай і праўдай служыць беларускай культуры, дзеля яе незавядання, і ягоны ўнёсак у нашую нацыянальную культуру, прынамсі ў яе музычна-спеўны залаты фонд, у сучасную эстрадную скарбніцу, даволі прыкметны.

Неяк пачуў, быццам Уладзімір Някляеў аднаго разу ў вузкім коле назваў Фінберга беларускім нацыяналістам нумар адзін. Я не ўдакладняў у Някляева, было так ці не, мая інтуіцыя падказвае: так магло быць. Знакаміты паэт мог так назваць таленавітага маэстра па-прыяцельску, з гонарам за яго, за тое, што і ў час дэбеларусізацыі кіраўнік вядомага канцэртнага аркестра, афіцыйна прызнанага Нацыянальным, быў і застаўся верны роднай мове і песні, пра што красамоўна сведчыць традыцыйны фестываль беларускай песні і паэзіі ў Маладзечне. Зрэшты, мог і з добрай усмешкай сказаць такое, маючы на ўвазе, напрыклад, неславянскае паходжанне яго рэдкаснага прозвішча.

Між іншым у прыватных гутарках, у тэлефонных размовах народны артыст краіны, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь не прытрымліваецца прынцыповага беларускамоўнага арыенціру, а па інерцыі карыстаецца і моцна ўкаранёнаю ў краіне рускаю моваю, так што на званне вышэйпамянёнага *на-*

*цыяналіста* не прэтэндуе. А што да афіцыйных званняў, то іх мае багата. Заўважу: славу М.Фінберг пажынаў і пажынае якраз у дзяржаўным аркестры. Невыпадкова звестак пра яго няма ні ў «Беларускай савецкай энцыклапедыі», ні ў «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі». Тое, чым быў ён заняты раней, да аркестра (скажам, работай у цырку), не патрабавала ад дырыжора такой ініцыятывы, працаздольнасці, адказнасці і — адпаведна — не давала такой грамадскай вагі, аўтарытэту, папулярнасці.

Мабыць, наўрад ці і мае з ім інтарэсы калі-небудзь перакрыжаваліся б, ды і ці былі б мы ўвогуле знаёмыя, каб не гэтая шматклопатная служба ягоная, што ўцягвае ў сваю арбіту вельмі многіх людзей.

***

Першыя ўражанні ад маэстра Фінберга ў мяне складваліся падчас сустрэч, калі ён, рыхтуючыся да чарговых маладзечанскіх фестываляў, традыцыйна склікаў у сваім офісе патрэбны яму актыў дзеля абмеркавання наспелых і набалелых пытанняў. На фоне ўсеагульнай дэмакратызацыі такі дзелавы, канструктыўны абмен думкамі выглядаў натуральным, бо па сутнасці быў нормаю жыцця на новай магутнай хвалі дэбюракратызацыі: людзі прывыкалі радзіцца. (Такія ў сваёй бальшыні былі тыя 90-я гады мінулага стагоддзя.) У памянёным офісе збіралася, як правіла, да трыццаці чалавек. Пераважалі таленавітыя творцы — кампазітары, паэты, вядомыя аўтары песняў, артысты аркестра. Словам, збіраўся цвет інтэлігенцыі, улюбёнай у музыку, паэзію, песню. Прыкметнымі былі тут кампазітары Эдуард Зарыцкі і Леанід Захлеўны, Алег Елісеенкаў і Валера Іваноў, Васіль Раінчык і Валянціна Сярых, паэты Алесь Бадак, Леанід Дранько-Майсюк, ажно тры Уладзіміры — Пецюкевіч, Някляеў і Мазго, Віктар Шніп. Гаспадары офіса, можна сказаць, дарылі запрошаным свята. На сталах з’яўляліся салодкія прысмакі, садавіна, добрыя напоі. Ды не таму ў прысутных быў прыўзняты настрой, а таму што кожны пачуваўся запатрабаваным, далучаным да культурнай дзеі, вы-

сакароднай справы, і таму, што панавала тут атмасфера даверу і нязмушанасці.

Міхась Фінберг на такіх сустрэчах, што ладзіліся ўзімку або ў пачатку вясны, задоўга да старту ў Маладзечне, дзяліўся сваімі планамі правядзення чарговага фестывалю, уважліва прыслухоўваўся да прапановаў, але ўзважваў іх крытычна, быў засяроджаны і нешматслоўны. Таму і ствараў уражанне дзелавога, мэтанакіраванага, апантанага фестывальнага лідара і кампанейскага чалавека. Да яго, натуральна, хінуліся і грамадскія лідары. Некалькі разоў на вечарыне культурнае эліты прысутнічаў, да прыкладу, Генадзь Карпенка. У той час ён з'яўляўся мэрам Маладзечна. Не сумняваюся, што дапамагаў у правядзенні ў горадзе фестывалю, спрыяў яго прэстыжу.

***

Пікам фестывальнай дзейнасці Міхася Фінберга бачацца мне 90-я гады мінулага стагоддзя і самы пачатак дваццаць першага. Не дзіва што якраз тады ён прыдбаў і славу дзяржаўнага лаўрэата ды народнага артыста, а калектыву аркестра здабыў званне заслужанага. Куды б ні пралягалі дарогі слаўных музыкаў і артыстаў пад кіраўніцтвам Майстра — у Віцебск на «Славянскі базар», у Магілёў на «Залаты шлягер», у блізкае ці далёкае замежжа, заўсёды запаветнаю заставалася дарога ў Маладзечна, бо клікала святая справа — чыста беларускі (беларускамоўны) фестываль песні і паэзіі. Глыбока ўражваў яго размах, дыяпазон, калі вяршыняй музычна-спеўнага фэсту быў конкурс маладых выканаўцаў. Маладзечна прыцягвала ўвагу ўсёй краіны. Правінцыйны горад станавіўся знаным культурным цэнтрам. У 1998–2001 гадах акурат Фінберг энергічна займаўся і арганізацыяй, падрыхтоўкай ды правядзеннем дзіцячага фестывалю «Спяваем з аркестрам». Кожную вясну, чатыры гады запар нёс крыж новых клопатаў. Уяўляю, колькі нервовай энергіі даводзілася спальваць ініцыятару-арганізатару дзіцячага фэсту на агні (дакладней — на пажары) яго падрыхтоўкі! Новае музычна-спеўнае свята, як бы прыгожа яно

ні выглядала, ладзілася цаною мноства будняў, прыносячы ў сваім зародку адным радасць, другім слёзы: не ўсім жа ўдавалася ўзняцца на прэстыжную сцэну. На сталіцу з розных рэгіёнаў рэспублікі каціўся дзевяты вал фестывальных прэтэндэнтаў, вядома, у суправаджэнні мастацкіх кіраўнікоў. І ўсе яны спадзяваліся на поспех. Адным словам, ішоў пакутлівы адбор — выбар удзельнікаў, будучых «зорачак» фэсту. А патрабаванне юным выканаўцам і іх мастацкім «апекунам» прад'яўлялася такое ж, як і тым вядомым артыстам, што не раз праслаўлялі сябе, свой творчы калектыў і краіну на фестывальнай сцэне Маладзечна, — беларускамоўныя вершы, аснова песняў. Некаторыя да гэткай умовы былі гатовыя, яны акурат і падрыхтавалі песні на беларускай мове. Напрыклад, Насця Жук і Саша Салаўёў (абое з Маладзечна), Юля Крот (са Слоніма) звярнуліся да творчасці кампазітаркі Алены Атрашкевіч і выбралі яе песні на мае вершы — «Жураўліная чарада», «Маці», «Божы дар». Але для многіх, тых, што выкарысталі песні на рускай мове, непахіснае фінбергаўскае правіла стварала праблему: мяняць песню ўжо не было калі, таму патрабаваўся кваліфікаваны пераклад. Звычайна мастацкія кіраўнікі ансамбляў, асабліва перыферыйных, самі для сваіх выхаванцаў, што з поспехам прайшлі працэдуру адбору, браліся за пераклад з рускай мовы, хоць Міхась Якаўлевіч раіў звяртацца па дапамогу да мяне (мне як перакладчыку ён давяраў: я ўжо сёе-тое рабіў для маладзечанскіх фестываляў). Пэўна, у варунках цэйтноту якасць тэкстаў не абмяркоўвалася, у выніку чаго ў сталічнай філармоніі, дзе праходзіў фэст, героямі якога разам з ДЫРЫЖОРАМ і музыкамі-віртуозамі слыннага аркестра былі дзеці-спевакі, гучалі ў выкананні галасістых і няблага падрыхтаваных спевакоў не заўсёды дасканалыя ў моўным сэнсе песні. На жаль, акрамя таго, сёй-той з юных выканаўцаў грашыў, спяваючы песню з рэпертуару дарослых спевакоў. Прычына такой хваробы зразумелая: нашыя кампазітары амаль не пішуць для падлеткаў!

На жаль, падобныя недахопы паўтараліся ці не на кожным фестывалі. Нарэшце маэстра вызваліўся ад дадатковага кло-

пату, які быў так рашуча ўзваліў на свае, няхай сабе і моцныя, плечы. Праз нейкі час ініцыятыва правядзення дзіцячых конкурсаў перайшла да Алены Атрашкевіч, якая піша многа твораў для дзяцей усіх узростаў, да таго ж кіруе ў Маладзечне узорнай эстраднай студыяй «Спяваем разам». Як кажуць, ёй і карты ў рукі. Дарэчы, у прэсе ўжо адзначаўся яе бясспрэчны поспех у правядзенні ў Маладзечне адкрытых міжнародных дзіцячых конкурсаў «Маладзічок»... Але час вярнуцца да гаворкі пра Міхася Якаўлевіча Фінберга і мае з ім стасункі.

***

У 1998 годзе мне пашанцавала стаць сааўтарам даволі буйнога праекту. Усё пачалося даволі нечакана. Напрадвесні ў Доме дружбы, дзе я выступаў у ролі вядучага на вечарыне, прысвечанай 100-годдзю ўкраінскага паэта Валадзіміра Сасюры, да мяне ў перапынку падышоў кампазітар Эдуард Зарыцкі. У 1986–88 гадах мы з ім бралі ўдзел у канцэртах Яраслава Еўдакімава. Тут Эдуард Барысавіч пацікавіўся, ці перакладаў я што-небудзь з Адама Міцкевіча і дадаў: «Міша (Міхась Фінберг. — В. Ж.) будзе адзначаць яго 200-годдзе. Хоча, каб я напісаў музыку на твае пераклады».

Прапанова была наколькі нечаканая, настолькі і радасная. Я ведаў: творы нашага славутага земляка, польскамоўнага генія, перакладалі многія нашы паэты, але заўважаны чамусьці я. Справа чакала адказная. Хоць мною і былі перакладзены паасобныя вершы і санеты, але для цэльнага цыклу спатрэбіліся творы кантрастныя па характары, настроі.

На пошукі патрэбнага матэрыялу часу пайшло небагата. У мяне ёсць  цудоўны зборнік вершаў Адама Міцкевіча, некалі падораны выдатнаю паэткаю, клапатлівай зямлячкаю Нінай Мацяш. Цяпер для ажыццяўлення праекта мяне цікавіла не столькі форма таго ці іншага верша, колькі змест. Пастулова складваўся цыкл, у якім добра бачыўся лёс творцы — ад маладога, шчасліва закаханага чалавека і да самотнага пілігрыма, у якога адабраныя і каханая, і Айчына, а засталіся ўспаміны, на-

стальгія, слёзы... Эдуард Зарыцкі, які плённа працаваў, ствараючы музыку, усе творчыя пытанні ўзгадняў з аўтарам праекта. За некалькі месяцаў і ён завяршыў сваю частку працы. Высакакласную аранжыроўку ўсіх дзесяці песняў цыклу здзейсніў незабыўны Ігар Палівода. «Адкажы, родны Нёман...» — так назвалі мы гэтую праграму, што прагучала ў вялікай зале філармоніі зімой 1998 года. Яна мела добры рэзананс. Асабіста я атрымаў нямала ўхвальных водгукаў, яшчэ болей — Эдуард Зарыцкі, а найбольш, напэўна, аўтар ідэі.

***

Што да ідэй, то ў Фінберга іх мноства, яны ў яго з'яўляюцца ўвесь час. У пастаянным полі зроку — беларуская класічная паэзія. Нямала быў здзіўлены маэстра, калі заўважыў, што на вершы Якуба Коласа доўгі час існавала ўсяго некалькі песняў. Прабел у эстраднай скарбніцы неадкладна давялося ліквідаваць Эдуарду Зарыцкаму (ён жа да нядаўняга часу) працаваў у штаце аркестра!) — ім створаны цыкл песняў на вершы слыннага класіка беларускай літаратуры.

Набліжаліся 75-я ўгодкі з дня нараджэння аднаго з самых любімых класікаў нацыі Уладзіміра Караткевіча. Адзначыць гэты юбілей было для М. Фінберга справай гонару. Што заставалася рабіць, калі кампазітары ўвогуле абыходзілі паэзію Караткевіча, як бы праспалі такую з'яву? Існавала і гучала зрэдку ці не адна толькі песня Ларысы Мурашка на Караткевічаў верш «Бацькаўшчына». Маэстра абудзіў соннае кампазітарскае царства. Да справы падключыліся самыя неабыякавыя, самыя актыўныя творцы, якія ў спадчыне паэта знайшлі нямала чароўнага і ўзрушальнага. З'явіліся новыя песні. Кіраўніку Нацыянальнага канцэртнага аркестра засталося прафесійна запісаць унікальную праграму «Быў. Ёсць. Буду» і парадаваць ёю публіку на чарговым, восьмым па ліку, Нацыянальным фестывалі беларускай песні і паэзіі ў Маладзечне, што і было здзейснена. Толькі не мог абысціся гэты фестываль і без праграмы, прысвечанай 60-годдзю Вялікай Перамогі, што я асабліва востра адчуў зімой

і ранняй вясной 2005 года. Да мяне ад імя Міхася Якаўлевіча пачала звяртацца з прапановамі і просьбамі рэдактар Тамара Васільеўна Даніловіч, маўляў, трэба зрабіць шэраг перакладаў. Я даў згоду, але мяне хвалявала пытанне: што мне будзе прапанавана ў якасці арыгіналаў і наколькі тыя песні закрануць маю душу, і наколькі яны будуць адпавядаць маёй эстэтыцы? Мая трывога была небеспадстаўная. Па-першае, мне прапаноўвалася некалькі песняў нашых аўтараў, якія валодаюць абедзвюма дзяржаўнымі мовамі. Як, скажам, я мог пагадзіцца перакладаць з рускай мовы Уладзіміра Някляева?! Аргумент, што яго цяжка знайсці, мяне мала хваляваў. Падобным чынам я вярнуў яшчэ парачку твораў. Мнагавата ў прапанаваных тэкстах было салютаў, набатаў, ордэнаў, зашмат грукату. Я сказаў Тамары Васільеўне пра гэта, але яна ад імя шэфа, як магла, пераконвала, што ўсе песні дужа патрэбныя. Я пагадзіўся «наступіць на горла» свайму уяўленню пра антываенную праграму, тым больш што яна, добрая і цярплівая «сувязная», дадала некалькі выдатных вершаў.

Сярод іх я знайшоў верш Андрэя Дзяменцьева «Расскажи мне, отец...», першыя радкі якога былі такія:

Отец, расскажи мне о прошлой войне,
Прости, что прошу тебя снова и снова.

Рускае «отец» гучыць па-беларуску — «бацька». Зусім іншы рытм! Што рабіць?.. А слоўка гэтае, як на зло, паўтараецца ў кожнай страфе, значыць, яно патрэбнае ў кожным куплеце песні... І тут з'явілася выратавальная думка: ці трэба цяпер, калі прамінула столькі дзесяцігоддзяў пасля перамогі, з такой просьбай звяртацца да бацькі? Ужо той сын даўно стаў бацькам і нават дзедам. Пераклад пайшоў, нібыта мне дыктавалася з космасу:

Мой дзед, раскажы мне яшчэ пра вайну,
Душой успрымаць буду кожнае слова.

Перакладаць стала цікава, падумалася нават пра тое, што нехта мог бы зрабіць горш... Давялося адсунуць усе свае іншыя справы. Няпроста перакладаліся бязлітасна-праўдзівыя вершы, якія сталі песнямі, Сямёна Гудзэнкі, Міхаіла Кульчыцкага. Проста ў душу глядзелі мне шчымліва-ўзрушальныя і жыццесцвярджальныя вершы Валянціна Тараса (да яго з офіса Міхася Якаўлевіча не дазваніліся), іх я пераствараў з асаблівым пачуццём і натхненнем. Спадзяюся, Валянцін Яфімавіч не расчараваўся, калі пачуў беларускамоўны варыянт сваіх пранікнёных песняў. Давялося перакласці два вершы Аляксандра Лягчылава, які ўжо, на вялікі жаль, цяжка хварэў. Творы менш вядомых аўтараў для перакладу даліся даволі лёгка.

У якім бы цэйтноце ні рыхтавалася праграма «Ішла вайна народная», яна дзякуючы ўмеламу і вопытнаму арганізатару і дырыжору ўражвала людзей і з маладзечанскай сцэны, і з экранаў тэлевізараў.

***

У знаёмых артыстаў і музыкаў аркестра я сяды-тады пытаюся, якімі праектамі заняты М. Фінберг, цікаўлюся, што думаюць яны пра свайго куміра, яго душэўныя якасці. «Кіраўнік ад Бога! — кажуць адны, — гаспадарлівы, клапоціцца пра калектыў. Строгі, але кампанейскі, з ім цікава і весела, любіць жартаваць. Эрудыт». «З ім цяжка працаваць, — скардзяцца другія, — амбіцыйны, можа прынізіць, пакрыўдзіць, таму некаторыя маладыя не вытрымліваюць, хутка звальняюцца. Чалавек настрою. Часам зойдзеш параіцца — дасць перцу без прычыны, пасля апомніцца».

Відаць, вялікая доля праўды ў гэтых выказваннях. Дрэнны і негаспадарлівы кіраўнік не змог бы так паспяхова працаваць з вялікім калектывам. А што ён чалавек настрою, магу пацвердзіць і я. Памятаю, неяк у кабінет Фінберга завітаў я з адным прыстойным артыстам, каб Міхась Якаўлевіч паслухаў яго і, магчыма, запрасіў на фестываль у Маладзечна.

— Вы ўсе здрадзілі беларускай песні!.. Я люблю паэтаў. — Так нечакана маэстра сустрэў госця, у якога, дарэчы, была касета з дзвюма беларускімі песнямі. Пасля гэтага ён да канца не стаў слухаць песні — забракаваў... А перад чарговым фестывалем у Маладзечне, ведаючы яго паважлівыя адносіны да мяне і добрыя словы на мой адрас на пасяджэнні арганізацыйнага камітэта ў тадышняга намесніка прэм'ер-міністра У.Н. Дражына, я звярнуўся да яго па тэлефоне з пытаннем, чаму я не запрошаны на фестываль.

«Нечего тебе там делать! — выпаліў ён і, не паспеў я пакрыўдзіцца, як дадаў: — Прости, я очень занят».

Цікава і тое, што адзін раз пасля свайго канцэрта ён можа з радасцю сказаць, што слухачы плакалі ад радасці, а другі раз так расчаравана: «Кому это надо?! Никому!»

Я не люблю панегірыкі, не люблю рэтушаваць — люблю праўду, а дзеля яе скажу: штосьці адмоўнае ці супярэчлівае ў характары гэтага таленавітага і самабытнага чалавека не зацямняе яго светлы вобраз. Адна артыстка з захапленнем распавядае, як ён выхоўвае моладзь, патрабуе сачыць за модаю, прыгожа апранацца, насіць чысты абутак і г. д. Усе службы канцэртнага аркестра ведаюць, які ён патрабавальны да ўсіх і да самога сябе. Для ўсіх служыць сам прыкладам: па яго віне ні разу не зрываўся канцэрт. Здаралася, не раз працаваў хворы, з тэмпературай. Не спазняецца на працу. Не заўсёды знаходзіць час на абедзенны перапынак. Аднаго разу я аказаўся сведкам, калі ён быў дужа прывязаны да тэлефонных размоў, і яму ў кабінет прынеслі штосьці накшталт абеду: кавалак каўбасы, хлеб, памідорыну і гарбату. Нездарма ўсе, хто з ім працуе, называюць яго працаголікам, які нават з адпачынку выходзіць раней тэрміну. Затое дзіву даешся: колькі можа здзейсніць адзін калектыў пад кіраўніцтвам неардынарнай асобы! Фестывалі, пастаянныя канцэрты на розных пляцоўках сталіцы, у Маскве і Санкт-Пецярбургу, у вялікіх і малых гарадах Беларусі, у Польшчы, Літве, Германіі, Італіі, іншых краінах планеты.

***

У кнізе «Владимир Мулявин. Нота судьбы» (Мінск, «Мастацкая літаратура», 2004) змешчаны артыкул М. Фінберга «Художник, обращенный в будущее». Аўтар называе Мулявіна вялікім Мастаком (Художником), гаворыць пра яго поспехі, перамогі на конкурсах і адкрыцці ў мастацтве, у прыватнасці пра новы жанр — песенны спектакль на эстрадзе, пра тое, як ён, рускі, адчуваў не толькі беларускі нацыянальны мелас, а й беларускае слова, называе не толькі яркімі — глыбінна беларускімі яго «Слуцкія ткачыхі» М.Багдановіча, «Завушніцы» М.Танка, «Александрыну» П. Броўкі. Адзін маэстра піша пра другога, пра людскую любоў да яго, а праз ягоную творчасць — да беларускае мовы і нашай краіны далёка за яе межамі, пра тое, што «ўсенародная любоў падтрымлівала Валодзю ў дні выпрабаванняў, горкіх расчараванняў, здрад і нагавораў былых паплечнікаў...» Яшчэ там гаворыцца пра цвёрдасць і бескампраміснасць чалавека добрага, нават сарамлівага і мяккага, калі трэба было пастаяць за свае прынцыпы ў мастацтве, пра тое, што ён быў «патрабавальны да сябе і да артыстаў. А гэта не ўсе вытрымлівалі. Хтосьці пакідаў ансамбль...» Чытаеш такія праўдзівыя словы пра Мулявіна і міжволі ловіш сябе на думцы, што многае тут можна аднесці да самога Фінберга. Вядома, Фінберг — не Мулявін: не піша музыку, нічога не аранжыруе, не валодае драматычным тэнарам і не грае віртуозна на гітары, ён толькі дырыжор і кіраўнік. Але чым дырыжуе і дзеля чаго кіруе!.. Тут ён гэтаксама непаўторны і скіраваны ў будучыню. Перш за ўсё сваёю апантанасцю беларускімі ідэямі і праграмамі, развіццём нацыянальнай музыкі, песні, культуры.

Калі я завяршаў гэтыя нататкі, да мяне з Берасця ў госці завіталі сястра Марыя і пляменніца Людміла. І вось Людміла Чалей нечакана парадавала мяне адным успамінам. Калі яна была студэнткаю, у Берасце ў падінстытут прыязджаў маладзенькі Фінберг з асветніцкай місіяй — ён распавядаў пра вялікіх кампазітараў — Моцарта, Бетховена, Баха, расказваў пра іх творчасць. Уражанне засталося дужа яркае.

Так што ўсё добрае людзі памятаюць. І ў прынцыпе ўсё добрае застаецца людзям.

***

Здавалася б, пастаўлена лагічная кропка майго расповеду пра ўнікальную асобу ў беларускай культуры. Але напрошваецца яшчэ адзін штрых да партрэта гэтае самабытнае асобы. Прэамбула такая: да 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў на свой электронны адрас я атрымаў ад «Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі» новы заказ — шэраг вядомых рускамоўных песняў, у тым ліку і шырокавядомую «Катюшу» для перакладу на беларускую мову. За працу ўзяўся я неадкладна, але шчыра скажу: без гарантыі, што спраўлюся. Святочная праграма М. Я. Фінберга склалася і прагучала належным чынам. Свой унёсак у справу я лічыў даволі сціплым. І раптам атрымліваю афіцыйны ліст за 18.06.2014 г. №01-25/327:

«Паважаны Васіль Аляксеевіч!

Пад уражаннем Вашай высакароднай працы па перакладзе на нашу родную мову песень, якія ўвайшлі ў канцэртную праграму да 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, не магу не выказаць словы глыбокай пашаны за Вашу асабістую здольнасць т***а́***к насычаць лірычнасцю і прыгажосцю беларускага слова перакладзеныя творы, што яны становяцца нацыянальнымі, адпавядаючымі патрабаванням часу, зразумелымі для выканаўцаў і слухачоў.

Шчыра паважаю Ваш талент выбітнага беларускага паэта, сумленнага грамадзяніна, адданага Беларусі чалавека. Прыміце, шаноўны, ад сэрца падзяку за наша шматгадовае сяброўства, за садзейнічанне Нацыянальнаму акадэмічнаму аркестру Беларусі ў ажыццяўленні яго пастаяннай мэты — распаўсюджванні нацыянальнага музычнага мастацтва сярод насельніцтва, далучэнні сучаснікаў да багацця беларускай культуры.

Народны артыст Беларусі Міхаіл Фінберг»

І — размашыстым почыркам — добра знаёмы каларытны подпіс.

Такая ўвага з боку кіраўніка вялікага творчага калектыву, што ў пастаянным руху, гаворыць пра многае, для мяне асабіста і найперш — пра яго чалавечнае сэрца.

2007, 2017

## УМЕННЕ ЗАХАПЛЯЦЦА

Эсэ «Апантаны Фінберг», надрукаванае ў «Народнай волі» 22 снежня 2017 года, выклікала надзвычай шырокі розгалас. Першыя водгукі былі вусныя і тэлефонныя. Найбольш іх атрымаў герой публікацыі — М.Я. Фінберг, дырэктар-мастацкі кіраўнік заслужанага калектыву «Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі», народны артыст краіны, кавалер ордэна Францыска Скарыны, прафесар. Гэта натуральна, як, зрэшты, і тое, што нямала віншаванняў дасталася і аўтару. Апрача сваякоў, адгукнуліся сябры, пісьменнікі, шахматысты, землякі, суседзі, знаёмыя. Не скупіліся на тэлефонныя гамонкі каля трыццаці чалавек іншагародніх. Аднакурсніца Ірына Буханенка (Каралевіч) з Пінска і паэтка Галіна Дашкевіч з Мазыра дагэтуль чыталі нешта з маіх вершаў, апавяданняў, і раптам — такая для іх неспадзяванка!.. З газетнае паласы яны ўведалі, які цікавы чалавек М.Я. Фінберг; прачыталі — і сваімі ўражаннямі падзяліліся з сябрамі. Ірына патурбавала яшчэ трох аднакурсніц, найперш — Ліду Касачук (г. Брэст), якая не менш за яе любіць музыку, песні, паэзію. Усім быў наказ — дастаць газету і прачытаць... А дырэктар мінскае гімназіі № 22 Ларыса Аляксандраўна Адашкевіч усцешыла мяне тым, што не толькі сама прачытала маё эсэ пра М.Я. Фінберга ( і крыху раней — пра А.С. Васілевіч), а й паказала сваёй маме, каб і яна прачытала. Суседка Надзея Васільеўна Богдан, уражаная прачытаным, перадала газету дачцэ Алёне і сыну Дзмітрыю (у іх — свае сем'і). Шахматыст, кандыдат у майстры спорту Аляксандр Імбро сказаў мне: «Пра Фінберга чыталі ўсёй сям'ёй». І падумалася мне: «Народная воля» апраўдвае сваё найменне, гэта — сапраўды народная газета.

Алене Сямёнаўне Васілевіч, выдатнай пісьменніцы, няўрымслівай і ў свае 95, у якой, на жаль, праблема са зрокам, чытаў газету сын Валодзя, вядомы навукоўца. Яны ўхвалілі надрукаваны мой опус, і заключны сказ Алены Сямёнаўны быў такі: «Я не знаёмая з Фінбергам, але перадайце яму: «Я ганаруся, што ў Беларусі ёсць Фінберг!».

Водгук Міхася Фінберга хачу падкрэсліць асабліва. Тэлефанаваў ён каля васьмі раніцы. Я не здзівіўся, бо ведаю: дзень у яго пачынаецца вельмі рана. Ён сардэчна дзякаваў мне «за кожнае слова» і неяк па-сяброўску заўважыў, што ніхто гэтак грунтоўна і зычліва не распавядаў пра яго. І сказаў як звязаў:

— Гэта не я, а ты апантаны!

А зараз самы час распавесці пра адзін пераднавагодні званок у рэдакцыю. Тэлефанаваў хтосьці з рускамоўных чытачоў. Сябе не назваў. Час быў ужо нерабочы. Слухаўку ўзяла Ніна Міхайлаўна Лявончык, супрацоўніца рэдакцыі. Яна павіталася і канстатавала, што, апроч яе, ужо нікога няма. Чытач настойліва прасіў-умаляў толькі аб адным — адказаць яму, што азначае слова **апантаны.** Калі ж пачуў рускі адпаведнік — одержимый, то надта ўзрадаваўся.

У беларускай мове ёсць словы, даволі блізкія па значэнні слову, вынесенаму ў той загаловак. Скажам, руплівы, дбайны. Так называюць чалавека, які імкнецца зрабіць як мага больш і лепш. Якраз такі і ёсць М.Я. Фінберг. Але названыя эпітэты для характарыстыкі тэмпераментнага Фінберга ўсё ж недастатковыя. Таму спатрэбілася больш энергічнае азначэнне, якое падкрэслівае здольнасць чалавека неабыякавага, душэўна ўзрушанага, захапляцца ідэямі, планамі і адольваць перашкоды, якія замінаюць ісці да мэты. Цяпер у модзе словы харызматычны, крэатыўны. Ды я не ўсякую моду пераймаю. Так і ўспомнілася ды ўжылося слова апантаны, хоць яно далёка не ўсім зразумелае.

З лістоў у рэдакцыю найбольш уразілі эмацыйны водгук вышэйзгаданае пісьменніцы-лаўрэаткі А.С. Васілевіч і, зразумела, ліст самога М.Я. Фінберга. «З вялікай цікавасцю і ўдзячнасцю пазнаёміўся з артыкулам, прысвечаным маёй дзейнас-

ці, — піша ён. — Я быў здзіўлены, што ў энцыклапедычных выданнях не змешчаны звесткі пра мяне. Сапраўды, у галоўным даведніку пра мастацкую культуру Беларусі («Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі») за 1987 год няма адпаведных матэрыялаў. Гэта можна патлумачыць той акалічнасцю, што ў адзначаны перыяд я асабіста плённа працаваў у Белдзяржцырку, а з мая 1987 года наш аркестр яшчэ толькі пачынаў сваю дзейнасць».

Тут жа даецца карысная інфармацыя — называецца даведнік «250 асоб з Беларусі ў дыялогах культур. — Мінск: Экаперспектыва, 2008», дзе ёсць звесткі пра яго. Вядома, што пра бліскучы Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі і ягонага шаноўнага кіраўніка гаворка ідзе і ў «Вікіпедыі» ды ў інтэрнэт-рэсурсах. Няма сумнення, што і ва ўсіх новых культурных сродках інфармацыі будзе адлюстроўвацца плённая дзейнасць унікальнага калектыву і яго кіраўніка. Прыемна здзіўляе іх інтэнсіўная праца. «Намі праведзены 52 асветніцкія імпрэзы — гістарычныя канцэрты ў старажытных цэнтрах Беларусі, — піша М.Я. Фінберг, — а таксама шмат здзейснена мерапрыемстваў у гарадах: Нясвіж, Узда, Маладзечна, Мсціслаў, Любань, Заслаўе, Тураў, Хойнікі, Чачэрск, Вілейка, Мядзел, Мір, Навагрудак, Залессе, Орша, Горкі...»

Вядома, і колькасць уражвае, але галоўнае — якасць. Напэўна, у названых і неназваных цэнтрах адбываліся ўдалыя канцэрты, ды я там не прысутнічаў. Затое мною не могуць забыцца канцэрты з аншлагам у вялікай зале філармоніі з удзелам народных паэтаў Беларусі — з Рыгорам Барадуліным, Нілам Гілевічам, а яшчэ — з Генадзем Бураўкіным, у Маладзечне — з Уладзімірам Някляевым. Гучала мноства песняў на іх вершы, адбывалася яднанне публікі з героямі сцэны — майстрамі слова, музыкамі, вакалістамі і нязменным дырыжорам, які ніколі не быў мітуслівым, выглядаў самавіта, трымаўся проста і годна. Няспешным паклонам, прыязнаю ўсмешкаю вітаў ён публіку. Доўга не сціхалі авацыі, на фоне якіх маланкаю прабівалася імклівае: «Брава!»

А якія ладзіліся аўтарскія вечары кампазітараў: Ігара Лучанка, Уладзіміра Будніка, Леаніда Захлеўнага, Валерыя Іванова, паэта-песенніка Міхася Ясеня!

Не забывае маэстра юбілейныя даты вядомых кампазітараў, якіх ужо з намі няма: Мікалая Аладава, Уладзіміра Алоўнікава, Анатоля Багатырова, Яўгена Глебава, Ісака Любана, Рыгора Пукста ды іншых, ладзіць вечары іх памяці.

У сакавіку 1987 года не стала Адама Русака. А песні на яго-ныя крылатыя вершы падхопліваюць новыя пакаленні выканаўцаў. Таму цудоўна прайшлі канцэрты, прысвечаныя памяці выдатнага творцы, як у сталіцы, так і ў роднай вёсцы Адама Герасімавіча Пясочнае, што на Капыльшчыне.

У распараджэнні М.Я. Фінберга ніколі не бракавала талентаў, каб справіцца з любым заданнем. У розныя гады з ім, у яго-ным калектыве шчыравалі папулярныя артысты: В.Дайнека і Я.Навуменка, А.Ціхановіч і Я.Паплаўская, І.Дарафеева і М.Скорыкаў, І.Афанасьева і А.Саладуха, Л.Грыбалёва і А.Яфімік (Саша Нэма), Ю.Вашчук (Тэа). Можна сказаць, цвет нацыянальнай эстрады. Дваццаць чатыры гады верай і праўдай служыў у штаце адзін з самых знаных кампазітараў Беларусі Э.Зарыцкі. Ладны стаж займеў тут аранжыроўшчык і піяніст А. Шпянёў. Педагогамі па вакалу натхнёна папрацавалі Тамара Раеўская і Нэлі Багуслаўская.

Кіраўнік прэстыжнага аркестра і цяперашнімі кадрамі ганарыцца. У яго заслужанымі артыстамі сталі Н.Тамела і У.Ткачэнка, С.Анцішын і А.Каліноўскі, В.Ксёнц і В.Чайкоў. І «радавыя», як Г.Грамовіч, Т.Глазунова, Д.Качароўскі, Р.Мусвідас, А.Салаўёў, І. Мельнікаў, канцэртмайстар (піяніст-акампаніятар), карыстаюцца аўтарытэтам. Прайшлі «школу Фінберга» і не каюцца, як не каюцца і маладзейшыя, да прыкладу — В.Грыбусава, уладальніца першай прэміі фестывалю «Славянскі базар — 2015» і гран-пры «Маладзечна — 2013», і Я.Шаранкоў, уладальнік другой прэміі «Славянскі базар — 2017». Н.Тамела, Д.Качароўскі і А.Салаўёў гэтаксама, кожны ў свой час, атрымлівалі высокія ўзнагароды, хто ў Віцебску, хто ў Маладзечне. Сло-

вам, увесь калектыў не фармальна называецца **заслужаным.** Тут усе шчыруюць, як пчолы у вуллі, выконваючы свае абавязкі. Высокая працаздольнасць — сястра строгае дысцыпліны і высокае культуры. Такое ўражанне складваецца не толькі ў гарачую пару таго ці іншага канцэрта, а і ў любы час, як толькі пераступаеш парог знаёмага сціплага офіса, які асабіста я называю штабам. Па-першае, на ганку не даводзіцца доўга стаяць — дзверы адразу адчыняюцца, як толькі націснеш патрэбную кнопку сувязі, бо там не дрэмле дзяжурная спадарыня Бялова. Яна сустракае наведвальнікаў прыязным позіркам, незалежна ад надвор'я і нават ад настрою. А па-другое, «пагоду ў доме» (словы з песні) ствараюць усе службы. Я тут найчасцей кантактаваў з вядучым рэдактарам Елізаветай Шпакоўскай. Яна дасканала валодае кампутарам, аператыўна знаходзіць неабходныя дакументы і дадзеныя. І на стале ў яе ідэальны парадак.

Знаходзіцца «штаб» у «зямлянцы» (так я называю цокальнае памяшканне), затое ў цэнтры горада. За шмат гадоў людзі звыкліся з гэтым куточкам, як прывыкаюць і да не вельмі зручнай рэпетыцыйнае залы. Духоўныя каштоўнасці для іх заўсёды вышэй за матэрыяльныя інтарэсы.

2018, студзень

**НЕЗАБЫЎНАЕ**

У красавіку 2010 года ў мяне выдалася прыватная вандроўка ў Нямеччыну — у госці да славутага вучонага-беларуса Барыса Кіта. Адрас выдатнага земляка даў мне светлай памяці пісьменнік Васіль Якавенка. На жаль, своечасова не ўдалося аформіць візу, каб патрапіць да стогадовага юбілею нашае знакамітасці. Затое завітаў да вучонага не адзін, а з жонкаю, пляменніцай Людмілай і яе нямецкім сябрам садоўнікам Карлам Пфаншцілем.

З'явіліся мы ў Франкфурце-на-Майне ў другой дэкадзе красавіка. Тут ва-ўсю ўжо цвілі не толькі кветнікі, экзатычныя кусты, а й садовыя дрэвы. Патрэбны дом на завулку (гатэль у Sachsenhausen) знайшлі не адразу, кружылі спярша на машыне, пасля пехатою. На наш дамафонавы званок стогадовы прафесар і старэйшы жыхар Франкфурта-на-Майне адгукнуўся вельмі хутка; даволі зычным голасам папрасіў пачакаць яго ўнізе.

Неўзабаве спусціўся да нас ён з шостага паверху. Самае дакладнае і жывое найпершае ўражанне пра гэтага праслаўленага чалавека мною зафіксаванае ў вершы, створаным, як гаворыцца ў такіх выпадках, па гарачых слядах і змешчаным у свой час у зборніку «Няўжо?» (2011): «На міг пакінуў гмах — // Сваіх спаткаць гасцей, // Спусціўся, нібы птах, — // Ад радасці цвіце. // Прыязны, быццам брат, — // Гарыць вачэй святло...» І яшчэ: «Прыветлівы дзядок, // Рухавы, як юнак».

У сваю сціплую аднапакаёўку нас прывёў шаноўны гаспадар з натуральнаю радасцю, што яго не забываюць беларусы. Пакой працягваў захоўваць урачыстасць святочнае падзеі: на сцяне нават заставалася вісець вышыванка з выразнымі чырвонымі літарамі і адметнаю лічбаю: «БАРЫС КІТ 100». Мы ўручылі Земляку падарункі. Ён з гонарам распавядаў, што з юбілеем

прыязджаў віншаваць яго Іосіф Сярэдзіч і што з прыемнасцю рэгулярна чытае «Народную волю». «Чаму я так доўга жыву? — усміхнуўся Барыс Уладзіміравіч. — Бо маю чыстае сумленне, не чыніў людзям шкоды».

З сусветна вядомым вучоным было лёгка гаманіць, настолькі выхаваны, неганарлівы то быў чалавек. Распавядаў нам пра абодвух сваіх сыноў, пра другую жонку Тамару Казевіч, вядома ж, і пра навуковую дзейнасць і кантакты з вучонымі планеты. «Чаму я апынуўся на Захадзе? — сказаў прафесар. — Шукаў дарогу да дэмакратыі».

Нас, незнаёмых гасцей сваіх, ён прымаў як родных. Быў выключна пазітыўны. У гамонцы закранаў многія аспекты сучаснага жыцця. Цікавіўся пераменамі на Бацькаўшчыне. Не было зусім гаворкі пра хваробы, а быў расповед пра яго любоў да Моцарта і Шапэна. Усіх нас уразіла тое, што спадар Кіт і ў свае сто гадоў любіць спускацца ў атэльны бар, каб з каханай Тамарай патанчыць. Быў ён з намі ўсмешлівы, вясёлы, ахвотна фатаграфаваўся на памяць. А на развітанне перадаваў прывітанне ўсім, хто ведае яго на Беларусі.

Нашую кампанію, у тым ліку і немца Карла, асабліва ўсцешыла тое, што Барыс Кіт, жывучы доўга-доўга не ў сваёй краіне, так прыгожа размаўляе на роднай мове. Цяпер, як і тады, думаецца пра ягоную жыццёвую дарогу і чалавечую сутнасць: «Праз крывавае стагоддзе, // Як ні вёў суровы лёс, // Да радзімай Беларусі // Чалавек любоў пранёс. // Бог яго узнагародзіў — // Шлях адкрыў, і волю даў, // І гадоў яму, гадочкаў // Больш як сто падараваў».

І вось не стала Барыса Кіта. Развітваючыся ў думках з праслаўленым вучоным і прыязным чалавекам, жадаю чыстага неба яго добрай душы!

2017

## ПЕРШАЯ І АПОШНЯЯ КНІГА ЗЕМЛЯКА

1

У Берасці выйшла кніга вершаў на беларускай і рускай мовах Аляксандра Кавальчука «Всё, что осталось за кадром». Так сталася, што гэтае выданне аўтару не давялося ўзяць у рукі: яно аказалася пасмяротным. Жаль! Алесь, як мы, літаратары, усе яго называлі, безумоўна, парадаваўся б і, пэўна, з новым, прыўзнятым настроем натхнёна ўзяўся б за пяро.

Зборнік шчодра аздоблены ілюстрацыямі знакамітага берасцейскага мастака Аляксандра Алонцава. Душой відушчы майстар стварыў каларытны блакітна-сіні колер для вокладкі, намаляваўшы ўнізе якар з неадрыўнымі ад яго літарамі імя і прозвішча — А.К. З якарам адмыслова скрыжаваў высокае гусінае пяро... Усё вельмі дарэчы, бо аўтар кнігі распачаў сваю творчасць якраз на флоце, дзе ажно пяць гадоў адслужыў мараком-падводнікам. А якар свайго жыцця ён кінуў на радзіме. Помніцца, Алесь, калі вярнуўся з войска, чытаў у рэдакцыі «Зари над Бугом» свае вершы, у якіх чулася дыханне мора і супрацьстаянне грознай марской стыхіі з боку смелых і моцных духам людзей. Завяршаючы гаворку пра вонкавы выгляд кнігі, скажу: мастак не паскупіўся на фантазію і колеры, фарбы, каб арыгінальна аформіць усе яе адзінаццаць раздзелаў.

Зборнік А. Кавальчука рыхтавала да друку яго дачка Галіна. Яна коратка і выразна, па сутнасці таленавіта распавяла пра тое, які быў у яе вачах бацька як творца і як сем’янін, пра яго глыбокае пачуццё любові і павагі да вернае спадарожніцы і памочніцы — жонкі Таццяны. Галіна сцвярджае:

«У тым, што кніга ўбачыла свет, немалая заслуга мамы». Яна вельмі ахоўна ставілася да паэтычнай справы Алеся. Не раз выпадкова знаходзіла ў ягоных закінутых журналісцкіх нататніках, а часам і перад мыццём бялізны ў кішэнях кашуляў і нагавіцаў складзеныя ў некалькі разоў аркушыкі з вершамі. «Ну вось, ледзь не памыла!..» — усміхалася яна і акуратна разгортвала адзін-другі лісток, разгладжваючы іх цёплай далоняю. Хочацца сказаць: «Дзякуй, Галіна, за такую светлую памяць!».

Выданне гэтае абагрэта яшчэ адным шчырым сэрцам — сэрцам выдатнага паэта і нястомнага тэлежурналіста Міколы Пракаповіча, які стаўся рэдактарам першай і апошняе кнігі А. Кавальчука і аўтарам прадмовы да яе. Шматвопытны творца яскрава піша пра жыццё, працу калегі, доказна абгрунтоўвае яго двухмоўнасць, выказвае сваё ўражанне пра творчасць прыбужскага літаратара, прасочвае ў ёй натуральны паварот да беларускасці.

Поруч з Міколам не адно дзесяцігоддзе Алесь працаваў на тэлестудыі. Як трапна выказваецца аўтар прадмовы, «Рамантык-авантурыст, Алесь замахваўся, здавалася б, на нерэальныя па тым часе праекты і нейкім незразумелым чынам ажыццяўляў іх. Ён мог неаднойчы наведаць у Зорным гарадку касманаўта-земляка Пятра Клімука, сустрэцца з землякамі на будаўніцтве Байкала-Амурскай магістралі». Так, гэта быў ініцыятыўны журналіст. І акурат яго некароткія дарогі, нярэдкія тэлевандроўкі спрыялі напісанню вершаў, па змесце і настроі рамантычных.

Дзякуючы Міколу Пракаповічу я даведаўся, што Алесь Кавальчук у 1999 годзе развітаўся з тэлебачаннем, набыў хутар з ладным кавалкам зямлі і «сваё апошняе дзесяцігоддзе правёў самотнікам. Араў і сеяў, шчыра радаваўся ўраджаю». Як сапраўдны лірык, ён заявіў і пра гэтую жыццёвую перамену:

Пакуль жыву — я не шкадую,
Што сам араты і касец.

У прадмове Міколы Пракаповіча ёсць такая думка: «Менавіта там, на вясковым хутары за некалькі дзясяткаў кіламетраў ад Брэста, як мне падаецца, да Алеся напоўніцу вярнуўся ягоны спадчынны *Пачатак:* разам з бэзавай тутэйшасцю, валошкамі на ўзмежку жытнёвага поля... У суладдзі з прыродай натура набывала цэласнасць, а душа — гармонію». Мне імпануе, што да Алеся Кавальчука прыйшло паўнакроўнае адчуванне непаўторнай Бацькаўшчыны кожнай тканкаю сэрца і разуменне безумоўнай прыналежнасці да яе:

Палі Радзімы!
Перазвон гаёў,
Імшары пушчаў у барвовым золку.
Усё маё. Да кропелькі маё,
Да верасінкі, лісціка, да зоркі.

Адлюстраванае тут цэльнае, трывалае пачуццё падмацоўваецца яшчэ шэрагам твораў, да прыкладу, такімі: «Я захварэў табою, восень...», «Старыя гнёзды ў верхавінах дрэў...», «Прылашчыцца да ног Беразіна...».

2

Алесь Кавальчук у маёй памяці — аптыміст. Памятаю яго адчуванне гумару, вясёлы і азартны смех, прыгожае аблічча, упартую шавялюру. Сустракаліся мы з ім пераважна на тэлестудыі, нашай агульнай працоўнай тэрыторыі напачатку сямідзясятых, на літаратурных вечарынах, на паседжаннях літаб’яднання ў рэдакцыі газеты «Заря». Аднаго разу быў у яго ў гасцях дома, нават гуляў у шахматы з ім і з Таццянай, ягонай жонкаю. Застаюцца ўспаміны і падораны яго дачкою, з якою мы ніколі не сустракаліся, вось гэты паэтычны зборнік «Всё, что осталось за кадром». Тут ёсць творы, якія прачытаеш — і хочацца перачытаць. Такі, напрыклад, верш «Багацця вялікага не маю...»

Што ж чалавек называе ў якасці багацця? Мо які каштоўны метал? Модную машыну? Нейкія экзатычныя сувеніры? Ды не! Ён называе рэчы простыя: «Хату, што засталася ад бацькоў, старую студню з крынічнаю вадою, садок з антонаўкай пахкою...» Але затое да яго заходзіць сусед, якому вадаправод ужо выеў душу. «А тут вада, што зубы ломіць, а кубак вып’еш — сэрца зашчыміць». Добрым суседзям заўсёды ёсць пра што пагаманіць. Прадметам гаворкі могуць быць любыя рэчы і з’явы. Як кажа паэт, «Ад дзедаўскай рыдлёўкі да вышынь касмічных...» А на старой антонаўцы можна праверыць закон, што некалі адкрыў Ньютан... Цікавы сваёй нечаканасцю фінал верша:

Галінку ўскалыхну —
і яблыкі ляцяць у росны ранак —
Бяры кашы і падбірай —
Ну чым не рай?!

У раздзеле «Гэта ўсё пра цябе» звяртае на сябе ўвагу верш «У Каляды шчодрыя», тут ёсць такія радкі: «Я і прыгалублю, // Я і абагрэю, // У студзень наш халодны / Расцвіцеш лілеяй». Завяршаецца раздзел шчымлівымі творамі — «Ты пакліч мяне...» і «Я іду да цябе праз гады і вёрсты».

3

Трэба аддаць належнае рускамоўным вершам А. Кавальчука, якія занялі крыху больш чым палову зборніка. Тут самы аб’ёмны раздзел, так сказаць, — марскі, напісаны маладым паэтам, калі ён праходзіў вайсковую службу на Паўночным флоце. 22 творы, як правіла, нешматслоўныя і яскравыя, як вось гэты васьмірадковік, дзе цэлы каскад паэтычных вобразаў:

Спит залив дождливой ночью,
Спят немые берега.

Тучи разорвав на клочья,
Месяц высунул рога.
Опустив ресницы-шторы,
Окна в городе уснули.
Лишь тревожно дремлют штормы,
Как уснувший шумный улей.

Ёсць у названым раздзеле і ўзрушальны верш — «Не буди меня, мама...» Сын — марак-падводнік, які не вярнуўся дамоў і які ў сваім вечным сне бачыць затанулую лодку, сваіх аднагодкаў, просіць матулю супакоіцца і не трывожыць яго:

Не ходи по погостам, не ищи ты мой холмик,
Ты ведь знаешь, могила не там.
..............................
Мой последний причал далеко в Заполярье,
Глубоко, глубоко под водой.

У іншых рускамоўных раздзелах уражваюць вершы: «В подражание С. Есенину», «Оставить след свой на земле...», «Всё начинал ты с чистого листа...»

4

Пасля пераезду ў Мінск я доўгі час Алеся не бачыў, а сустрэў неяк зусім састарэлага і запаволенага. Гэтак ён змарнеў пасля таго як страціў Таццяну.

І вось чытаю ў кнізе:

Небо задождило, задождило.
Нет начала и конца слезам.
Постою я над твоей могилой,
Скорбным поклонюсь крестам.

Ты не спросишь, что хожу так редко,
Ты не спросишь и не упрекнёшь.
А с венка, с еловой тонкой ветки,
Чистою слезою плачет дождь.

Гэты верш стаіць напрыканцы кнігі. Відаць, пасля цяжкай страты змаўкала ліра паэта. Але нельга не заўважыць наступнага твору. Ён такі дасканалы і незвычайны, што хачу прывесці амаль цалкам:

Не приходи, костлявая, с косой.
Приди, мой Ангел, в белоснежном платье.
И улыбнись, и за руку возьми,
И поведи на суд — не на распятье.
Я, не жалея, крест свой понесу
До той черты, что называем краем.
Суди, мой Боже,
праведный твой суд.
Каким он будет? Я — не знаю...

Так, ніхто не ведае, што — т а м. Думаецца, аднак, што людзей, якія набліжаюцца да сваёй апошняе мяжы, бярэ не толькі смутак, а й трывога, адчай, страх. Нічога падобнага мы не бачым на духоўным абліччы паэта, бо фінальныя словы верша — такія:

Пошлі, мой Ангел...
Он ответил: — С Богом!

Такім чынам, Алесь Кавальчук быў і застаўся да апошняга радка лірыкам-рамантыкам.

2017

## КАХАННЕ ТВОРЦУ АКРЫЛЯЕ

Тое, што Случчына багатая на таленты, напэўна, ведаюць вельмі многія чытачы. Гэты слаўны край падараваў беларускай літаратуры і нацыянальнай культуры шэраг знакамітых творцаў. З маладзейшых тут народжаны Алесь Пашкевіч, з старэйшых —Алена Васілевіч. Абое з названых, як і многія з неназваных, подаўна жывуць у Менску. А ў малалюднай і выміраючай вёсачцы Краснае Сяло пражывае Сяргей Пятроў. Піша вершы і прозу, а з нядаўняга часу — драматургію і кінасцэнары.

2017 год для Сяргея Пятровіча — юбілейны: 30 красавіка яму споўнілася 80 гадоў. І яшчэ адна ў яго круглая дата — дзесяцігоддзе з выхаду першае кнігі. Не ведаю, калі быў апублікаваны першы верш Сяргея Пятрова, а першы паэтычны зборнік «Свет воспоминаний» з'явіўся ў 2007 годзе.

Узнікае пытанне: што паспеў здзейсніць творца за такі непрацяглы час? На здзіўленне, зроблена нямала. За адзін толькі 2016 год выйшла пяць кніжак: два зборнікі вершаў — «У горящей свечи вдохновения» і «Со светлой грустью и улыбкой», гумарыстычная аповесць «А не махнуть ли нам на юг?», аповесць «Потерянное счастье» і зборнік апавяданняў ды аповесцяў «Саксафон с бабочкой». Увогуле прыкметнае ажыўленне ў творчасці С. Пятрова, разгарненне яго творчага патэнцыялу пайшло пасля ягонага ўступлення ў Саюз беларускіх пісьменнікаў у 2011 годзе. Дарэчы, ён, рускамоўны аўтар, быў прыняты адзінагалосна (пры тайным, вядома, галасаванні) як прыёмнай камісіяй, так і Радай СБП, дзе ўсе выключна беларускамоўныя пісьменнікі.

Названыя вышэй зборнікі С. Пятрова сведчаць пра тое, што ў яго паэзія чаргуецца з прозаю. Гэтак было і з самага пачатку ягонае творчае дзейнасці. Так, у 2008 годзе ён выпусціў

у свет зборнік вершаў «Подснежник», а ўжо ў 2009-м стартаваў з першай кнігаю гумарыстычнай аповесці ў чатырох кнігах «Мейлах в октябре». Наступнай кнігаю стаўся зборнік мініяцюр «С улыбкой между делом» (2013). Следам за ёю чытачоў парадаваў раман «Безотцовщина наша».

***

Першыя дзве кнігі — «Свет воспоминаний» і «Подснежник» — Сяргея Пятрова мне ўручыла кампазітарка Алена Атрашкевіч: ён прасіў Алену Віктараўну пазнаёміць такім чынам яго з беларускім паэтам...

У адным з вершаў «Подснежника» мяне прыемна ўразілі словы:

Войду в обитель добрых снов,
Войду, как в стены рая,
Меня всегда здесь ждёт любовь,
Дверей не запирая.

Твор завяршаўся на такой жа лірычнай ноце:

З годами ты, моя любовь,
Нежнее и желанней.

Пазней даволі часта чуў і чую дагэтуль, як пранікнёна гучаць словы гэтага верша ў выкананні выдатнага эстраднага артыста Алега Сямёнава, ім жа ўдала пакладзеныя на музыку.

Цяпер інтымная лірыка Сяргея Пятрова — у стадыі росквіту. Нельга не звярнуць увагу на тое, з якім захапленнем і цеплынёю і якой філіграннa-вобразнаю моваю піша паэт пра жанчыну:

Стоишь ты, словно вишенка, нарядная во всём,
И блики, словно вышивка, на платьице твоём.

Далей жаночы вобраз абмалёўваецца яшчэ з большаю пяшчотаю і замілаваннем, бо гаворка тут ідзе пра самую жаданую:

Красивая, приглядная, проворна, как ручей.
Бьют искорки лукавые из ласковых очей.

Літаральна некалькі радкоў, а моц у іх такая, што яны ствараюць прывабны партрэт.

Зачараванасць і бязмежная радасць ад спаткання выказваецца ўсё ў новых і новых творах:

Я к тебе с любовью нежной
От душевного тепла,
Ты безбрежна, как надежда,
И желанна, и светла.
.................................
В тебе я встретил идеал,
В слиянье душ нашёл отраду –
Мне больше ничего не надо,
Я получил, что очень ждал!

Суровы лёс Сяргея Пятровіча, нечакана забраўшы ў яго жонку, аднойчы праявіў да яго неверагодную спагаду і літасць — адарыў яго новым высокім пачуццём у адносінах да жанчыны, якая таксама перажыла драму расстання з любімым: смерць забрала мужа.

Сяргей і Людміла сустрэліся як быццам выпадкова, але, як паказаў час, іхняе спатканне зусім невыпадковае.

Яны спаткаліся на беларускай зямлі, на Берасцейшчыне. І неўзабаве раз’ехаліся: яна — у свой Санкт-Пецярбург, ён — на Случчыну. Так пачыналася паэма іх немінучага і высокага кахання, што адлюстроўвалася ў нястомных радках паэта:

Не грусти, наша встреча с тобой обязательно будет,
Тёплым солнцем сквозь холод разлуки лучами пробьётся.

.........................................

Всё придёт в наше завтра, оно непременно случится,
Нотки радости россыпью в нашей мелодии будут,
Мы на крыльях любви воспарим до небес, словно птицы,
И бесшумно войдёт в нашу жизнь долгожданное чудо!

Цуд сапраўднага кахання і гранічнага ўзаемапаразумення трывала ўвайшоў у іх жыццё. Вясной і летам Людміла з Сяргеем у яго амаль курортнай вясковай стыхіі, а зімою — ён з Людмілаю ў яе ў чароўным Піцеры. Пакуль вось гэтак. Хвалюючая паэма спатканняў і расстанняў працягваецца.

Да сказанага хачу дадаць: самая багатая інтымнымі творамі кніга — «У горящей свечи вдохновения» (Минск, «Ковчег», 2016).

***

Паэзія Сяргея Пятрова моцная праўдаю жыцця:

Деревенька моя — одна улица,
Вдоль неё — лишь десяток дворов,
Где берёзы порою сутулятся
От объятий залётных ветров.

Возле дома искрит многоцветие,
Где душистой травы аромат,
Здесь дорога глядит сквозь столетия,
А глаза стариков — на закат.
Так пустынны дворы дома каждого,
Не заметишь людей на пути...

Як бачым, боль лірычнага героя і тут адчуваецца, бо аўтар неабыякавы да таго, што адбываецца побач з ім і ў свеце.

Добрае ўражанне і ад многіх іншых вершаў паэта. Яны, як і папярэдні твор, уяўляюць сабою не чорна-белыя фотаздымкі, а жывыя вобразамі і колерамі карціны:

Осенние остуженные дни…
Утихли пчёлы, птицы улетели.
А впереди зима, с собакой мы одни,
Да у порога — ветры и метели.

Мне асабліва імпануе тое, што аўтар у сітуацыі, далёкай ад аптымізму, знаходзіць для сваіх твораў аптымістычныя ноткі:

Тихонько ветер напевает.
Собачка трётся возле ног,
Своею лаской утверждает:
«Хозяин! Ты не одинок!»

***

Сяргей Пятроў — асоба ўнікальная. Па-першае, ён, тэхнар па адукацыі, інжынер па прафесіі (працаваў на розных прадпрыемствах Слуцка), стаўся пісьменнікам. Па-другое, пасля позняга старту ў літаратуры, паспеў ужо сказаць сваё адметнае слова, стварыўшы за 10 гадоў трынаццаць кніжак. Па-трэцяе, у яго — залатыя рукі: ён — і цясляр, і муляр, і бетоншчык, і тынкоўшчык, а яшчэ й пчаляр, што дапамагае здабыць нялішнюю капейчыну для выдання кніг у прыватных выдавецтвах. І, нарэшце, яшчэ адна адметнасць: ён у сталым узросце аказаўся закаханым і каханым! Як тут не ўзгадаць Пушкіна-прарока: «Любви все возрасты покорны».

Не магу не адзначыць любоў Сяргея Пятровіча да жыцця. У адным з вершаў паэт упершыню не толькі ад свайго імя — і ад імя каханай дзякуе лёсу і Усявышняму:

Благодарим судьбу, благодарим
За нас, что в этой жизни повстречались…
………………………………………..
Благодарим, что нам Господь дарил,
Подкладывая мысль у изголовья…

Он не оставил нас и не забыл,
Раз наделил возвышенной любовью.
……………………………………….
За всё тебя, Господь, благодарим!

Хочацца задаць пытанне самым дапытлівым чытачам. Як вы думаеце, да каго звяртаецца паэт наступнымі пранікліва-пяшчотнымі словамі: «Как яблоневый цвет, чиста душа твоя»? Уявіце сабе, гэтыя словы — пра нашую Беларусь, яе С. Пятроў называе любімаю краінай, Айчынай. Гэта натуральна, бо тут праходзіць усё яго свядомае жыццё, сюды дзесяцігадовым хлопчыкам ён, ураджэнец Пецяргофа, прыехаў з аўдавелаю з ваеннага ліхалецця матуляй і з айчымам-афіцэрам М.В. Ісаенка ў 1947 годзе. Так што сёлета ў Сяргея Пятровіча — сямідзесятыя ўгодкі параднення з Беларуссю.

А вось як хораша гучаць чатыры заключныя радкі верша «О стране, в которой я вырос»:

Печаль и скорбь не замутят твой лик,
По всем векам сложна твоя дорога,
Но путь твой будет светел и велик
С благословения людей и Бога.

***

Я бегла распавёў пра Пятрова-паэта. А ў творчую суполку — Саюз беларускіх пісьменнікаў — яго прымалі як празаіка. На той час на ягоным рахунку была адзіная выдадзеная кніга прозы «Мейлах в октябре» — пра поўнае нечаканасцяў і прыгодаў жыццё савецкага габрэя Мейлаха Каца. Тады аўтар, магчыма, яшчэ не ўяўляў, у якія нетры і лабірынты чалавечых адносінаў пранікне яго вынаходлівы розум у наступных кнігах гумарыстычнай аповесці. Уступленне ў суполку пісьменнікаў-прафесіяналаў так натхніла ўражлівую асобу, што неўзабаве з’явіліся другая і трэцяя кнігі маштабнага палатна, а праз год — і фінальная чацвёртая кніга.

Як бы па інерцыі следам ішла яшчэ адна гумарыстычная кніга «С улыбкой между делом». А пасля, у 2013 годзе ў выдавецтве «Ковчег» выйшаў раман «Безотцовщина наша». Гэты твор выклікаў у мяне самае добрае ўражанне. Найперш — гранічнаю жыццёвай праўдаю. Надта па-мастацку яскрава і псіхалагічна пераканаўча паказаны людзі сумленныя і людзі-драпежнікі — як увасабленне дабра і зла. Ды гаворка тут не пра фашыстаў (іхняе зло агульнавядомае). У рамане мы не сустракаем ніводнага гітлераўца. Усе падзеі разгортваюцца не на фронце і не ў атрадзе партызанскім, а ў Маскве, яшчэ ў расійскім сяле Цёплаўка, якое сталася месцам эвакуацыі Сярожы і яго мамы, галоўных герояў рамана, якіх прынялі Сярожавы дзядуля і бабуля (па бацькоўскай лініі), і ў сібірскай вёсцы Лебядзёўка, дзе пражывала «маміна мама», як ласкава называў бабулю ўнучак. У творы поруч з прыстойнымі людзьмі дзейнічаюць злодзеі, гвалтаўнікі, нахабныя начальнікі, неяк увільнуўшыя ад фронту, ды іншыя мярзотнікі. Усе яны, кожны па-свойму, карыстаюцца выпадкам для дасягнення брудных мэтаў і задавальнення ганебна-нізкіх патрэбаў нягледзячы на нягоды і гора бліжніх.

Вайна абвастрае пачуцці людзей, агаляе душы, паскарае ўчынкі, бо памнажае страты, ламаючы лёсы, прыносячы пакуты і сеючы журбу ды адчай. Кантрастны паказ і падзеяў, і герояў, і людскіх настрояў дадае жывасці маштабнай прозе і нязмушанасці ўспрыняцця яе. Самыя спрактыкаваныя злодзеі, што дзейнічаюць у рамане, — камендант Коля і яго хаўруснік Грыша (па мянушцы Рыжы), якому ён памог ухіліцца ад фронту. Яны столькі прысвоілі рэчаў масквічоў-бежанцаў, што завялі таямнічы склад. Рыжы «засвяціўся» як зладзюга, а камендант яшчэ і як бабнік, які загубіў жонку афіцэра-франтавіка толькі за тое, што яна не запляміла з ім, падонкам, свой гонар, аказаўшы яму, узброенаму, самы рашучы супраціў. Злачынцы ўрэшце рэшт атрымалі па заслугах, а вывесці іх на чыстую ваду дапамаглі дзеці — Сярожа і яго сябры, выпадковыя сведкі злачынстваў.

Жыццёвая праўда ў рамане натуральная, як узыход сонца, што прыносіць на зямлю гаючае святло і цяпло. Яна поўная, як

вясновая рака, і глыбокая, як мора. Ад праўды С. Пятрова не схаваецца ніякае зло. Па-майстэрску, нешматлікімі, але яркімі фактамі, а часам штрыхамі, добра зразумелымі, адлюстраваны суровы час вядомай сталінскай дыктатуры. Рэпрэсіўная машына не спынялася нават тады, як народ быў змардаваны пакутамі і стратамі. Ды найпаўней пісьменнікам паказана зло вайны. Нават у далёкім тыле вельмі адчувальнае гарачае дыханне фронту. Вайна забрала многіх герояў рамана, многіх пакалечыла. Прапаў без весткі Сярожаў бацька. Пакончыў з сабой знявечаны Саша, з якім Сярожка пасябраваў. З пяці юных навабранцаў, якіх сагрэла сваімі клопатамі і любоўю сардэчная дваццаціпяцігадовая ўдава Надзя, застаўся жывы адзін толькі Ціма, але вярнуўся інвалідам. Калі ўлічыць, што памёр Сярожкаў брат і нешчаслівы выпадак забраў жыццё неразлучнага Сярожавага сябра, то, натуральна, мінорных настрояў у рамане больш, чым мажорных. Але аўтар валодае яшчэ адным выдатным дарам — уменнем чаргаваць сумнае з вясёлым і нават трагічнае з камічным, дапамагаючы чытачу перавесці дыханне і ўсміхнуцца, а то і ўдосталь пасмяяцца пасля якіх-небудзь цяжкіх эпізодаў. Кнігу «Безотцовщина наша» я лічу пакуль што галоўнай у творчасці Сяргея Пятрова, яна — мужная і пяшчотная, балючая і гаючая, чалавечная і дасціпная, а яшчэ — у пэўнай меры спавядальная, гэта — памяць сэрца, здольнага саграваць людзей, дапамагаць ім асільваць беды і памнажаць радасць у шчаслівыя дні.

***

Поспех кожнага творцы пачынаецца з нейкага спрыяльнага моманту, з чыёйсьці падтрымкі. Некалі Сяргей Пятроў паказваў свае творы вядомаму пісьменніку Паўлу Місько, ураджэнцу Случчыны, які з беларускай сталіцы вярнуўся пенсіянерам у родную вёску. Дарэчы, у Менску Павел Андрэевіч шмат гадоў працаваў галоўным рэдактарам выдавецтва «Мастацкая літаратура», дзе займеў неверагодна багаты досвед ацэнкі твораў і сталых аўтараў, і навічкоў. Паколькі наш юбіляр цікавы суразмоўца, хачу перадаць ягоны ўспамін пра гамонку з вопытным

празаікам і рэдактарам пасля таго як з вуснаў аўтара прагучала апавяданне «Баня». «Он меня внимательно, не перебивая, слушал, а потом спросил:

— Колькі дзён ты пісаў гэты твор?

— Часа два.

— Ды над ім тыдзень трэба сядзець, ды і то ці адолееш, а ён настрачыў за дзве гадзіны! Трэба нейкую совесць мець! Ладна, прыходзь да мяне часцей, прынось новыя творы. Вельмі цікава ты пішаш, і вобразы ў цябе жывыя, і гумар выразны. Трэба друкавацца, трэба друкавацца.

Через три недели я принёс рукопись первой книги «Мейлах в октябре», вставив туда рассказ «Баня». Мисько прочитал несколько страниц, улыбнулся и сказал:

— За табой трэба хадзіць з алоўкам ды з паперай і запісваць усё, што ты гаворыш... Што ні слова, то ў дзясятку! Ты неардынарны чалавек.

После мы сидели в его дачном доме, я включил магнитофон с песнями на мои стихи в исполнении братьев Льва и Бориса Коноплянииков, на их же музыку. Павел Андреевич молча слушал. И когда песни были проиграны, он продолжал сидеть неподвижно, склонившись, глядя на магнитофон, не поднимая глаз и не проронив ни слова. Пауза затянулась. Я обеспокоенно обратился к нему:

— Павел Андреевич, тебе плохо?

— Не, даражэнькі, мне добра, мне вельмі добра! Я ўражаны! Я настолькі здзіўлены, што не магу зараз як трэба сабрацца з мыслямі, але скажу: ты не ведаеш, які ты таленавіты чалавек. Колькі табе гадоў? Семдзесят! Як слухаеш, не гледзячы на цябе, то трыццаць трэба скінуць. Дзе ты быў раней? Дзе ты быў?

— Я строил светлое будущее, которое не удалось не по моей вине.

— Вось зараз, лепшым часам, трэба навёрстваць...

Он поднялся и обнял меня.

Я знал, что Павел Андреевич, имея великолепное чувство юмора, долгие годы работал в сатирическом журнале «Вожык», и его слова расценил как близкие к розыгрышу.

— Знаю я вас, юмористов... — сказал я, на что он ответил мне так:

— Я табе казаў свае словы са шчырым сэрцам. Баламут ты гэтакі! Кінь усё і займайся толькі творамі, пішы, пішы больш, пра цябе яшчэ пачуюць!

Пятроў застаўся на ўсё жыццё ўдзячны Паўлу Місько за тое, што прыкмеціў талент і блаславіў на творчыя пошукі. Што ж да працавітасці і веры ў поспех, то такіх якасцяў Сяргею Пятрову не пазычаць!

Аднаго разу я прачытаў у яго такі кароткі абзац: «Слишком много у нас забот и огорчений в повседневности. Но жизнь прекрасна в любом отрезке времени. Как сказал великий Альберт Энштейн, есть два способа жить: вы можете жить так, как будто чудес не бывает, и можете жить так, как будто всё в этом мире является чудом».

Без любви, восторженности, удивления, улыбки, без восприятия Мира великим чудом — жизнь скучна и неинтересна, но так не должно бать, а посему УЛЫБАЙТЕСЬ, ГОСПОДА, продлевая этим свою жизнь!»

Вясна 2017

## ТРЫВАЛАЕ ТРЫАДЗІНСТВА

1

Вадзіму Вітальевічу Жылко дадзена многае (відаць, не толькі яе вялікасцю матухнай прыродай, а й заўсёднаю працаю, нястомнымі крокамі да самаўдасканалення): ён — таленавіты паэт, адораны журналіст, паспяховы шахматыст. «А шахматны кампазітар?» — скажа дасведчаны чытач. Так і ёсць, ён вядомы складальнік шахматных кампазіцыяў, іх на яго творчым рахунку пакуль сто восемдзесят чатыры, апублікаваных як у айчынным, так і ў замежным друку. З іх дваццаць адна адзначана на конкурсах ганаровымі і пахвальнымі водгукамі ды прызамі. Тут дарэчы дадаць: Вадзім Жылко з'яўляецца і актыўным рашальнікам, ён, арганізатар штогадовага міжнароднага турніру па рашэнні задач і эцюдаў, сам удзельнічае ў гэтым даволі складаным першынстве, займаючы, як правіла, прыстойныя месцы пры вельмі моцным складзе ўдзельнікаў. Аддаючы належнае дасягненням і заслугам В.Жылко ў справе складання і рашэння кампазіцыяў, скажу, аднак: калі б не быў ён шахматыстам, то, натуральна, не змог бы выступаць у конкурсах рашальнікаў і, тым больш, не стаўся б шахматным праблемістам. Але хачу падкрэсліць: шахматыстаў процьма, а вось складальнікаў і рашальнікаў задач і эцюдаў няшмат. І што цікава: тыя, што захапіліся складаннем кампазіцыяў, звычайна перастаюць гуляць у шахматы. А ў асобе Вадзіма Жылко адбылося ўдалае спалучэнне паспяховага гульца і складальніка. І радуе тое, што шахматы не замінаюць, а, пэўна, спрыяюць Вадзіму Вітальевічу плённа працаваць і ў літаратуры, і ў журналістыцы. Падагульняю ска-

занае: літаратура, журналістыка і шахматы — творчыя стыхіі, якія зрабілі неспакойным, але неардынарным жыццё сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, сябра Беларускай асацыяцыі журналістаў і чатырохразовага чэмпіёна СБП па шахматах Вадзіма Вітальевіча Жылко. І ў гэтых ягоных захапленнях мне бачыцца трывалае трыадзінства.

2

З творамі В.Жылко я пазнаёміўся ў 2006 годзе. Прачытаў адразу тры выданні: «Две музы» (1996), «Ассорти» (1995), «Оборванную нить» (2006). Менавіта ў такім парадку я іх чытаў. Нечакана прыемна быў уражаны першым з іх: яно з'явілася незвычайным, бо там змясціліся не толькі вершы, а й выбраныя шахматныя кампазіцыі (нічога падобнага раней, здаецца, не выходзіла ў нашай краіне). І знайшоў я там нямала арыгінальных ды змястоўных вершаў і ўдалых задач на розныя тэмы. Добрыя вершы і дасціпныя пародыі прачыталіся ў зборнічку «Ассорти», а ў «Оборванной нити» — вершы і апавяданні. Мо таму што я ўваходзіў у Прыёмную камісію СБП, адразу падумалася пра тое, чаму таленавіты аўтар не ў пісьменніцкай суполцы. І сказаў я Вадзіму Жылко па сутнасці тое ж самае, што мне калісьці казаў Рыгор Барадулін: «Бярыце дзве рэкамендацыі, а я сваю, лічыце, ужо даў». Падобна на тое, што ён не чакаў такой прапановы ці, хутчэй, не паверыў у перспектыву, бо рэкамендацыі для ўступлення ў СБП прасіць не спяшаўся. Мне ж карцела, каб такі «нестандартны» творца хутчэй увайшоў у нашыя пісьменніцкія шэрагі, таму сваім уражаннем аб ягоных кніжках падзяліўся з Нінай Мацяш, яна акурат ачольвала Берасцейскую абласную філію СБП і была зацікаўленая не ў колькасным, а ў якасным яе росце. На той час яна ўжо і сама пазнаёмілася з Вадзімам Жылко падчас сустрэчы ў Белаазёрску, прачытала яго творы і прыйшла да аналагічнай высновы, патэлефанаваўшы Вадзіму Вітальевічу ды прапанаваўшы і сваю рэкамендацыю. Думаю, аўтарытэт-

ная Ніна Язэпаўна належным чынам паўплывала на земляка, паспрыяла таму, каб ён сабраў і падаў дакументы ў Прыёмную камісію СБП. У выніку ў траўні 2007 года мы з Нінаю віншавалі калегу з уступленнем у Саюз беларускіх пісьменнікаў.

З той пары шмат што змянілася. Паступова падрасталі шэрагі літаратараў Берасцейшчыны, павялічвалася ўся нашая творчая грамадская арганізацыя, ды не абыходзілася без стратаў. На вялікі жаль, не стала і Ніны (19 снежня 2008 года). А яна не раз парадавалася б за поспехі Вадзіма Жылко, асабліва цёпла вітала б яго беларускамоўныя вершы, як, дарэчы, і я вітаў гэтую падзею: сёлета, у чэрвені месяцы, ён апублікаваў пяць твораў, арыгінальных і глыбокіх, у газеце «Новы час», дзе «Літаратурную Беларусь» апякуе Алесь Пашкевіч. Адбыўся якасна новы паварот у творчасці В.Жылко.

3

Вадзіма Жылко як журналіста я ўведаў неўзабаве пасля таго, як прачытаў яго паэтычныя і празаічныя творы ды пазнаёміўся з ягонымі шахматнымі кампазіцыямі. Працуючы ў лунінецкай газеце «Информ-прогулка», ён прысылаў мне поштаю і дагэтуль прысылае свежыя нумары гэтага незалежнага прагрэсіўнага выдання. Піша многа ў кожны нумар, таму друкуецца і пад сваім імём, і пад псеўданімам. Што да псеўданіма, то пра яго даведаўся я не адразу. Тут узгадаўся вясёлы эпізод. Спадабаліся мне публікацыі пад незнаёмым прозвішчам, і я сказаў Вадзіму Вітальевічу па тэлефоне:

— Адкуль гэта ў вас такі моцны аўтар? Перадайце яму, калі ласка, маё прывітанне.

— Лічыце, што перадаў, — адчуваю, усміхнуўся мой сумоўца.

У штотыднёвіку ў яго заўсёды цэлая паласа — «У фокусе ўвагі». Шматвопытны газетчык па-гаспадарску выкарыстоўвае плошчу з максімальнай карысцю для чытачоў: пад рубрыкай

«Пасрэднік» падае асноўныя падзеі замежжа і Беларусі. А тры калонкі займае асноўным артыкулам.

Мне вельмі падабаецца ў Жылко-журналіста яго пазіцыя. Піша пра тое, што не можа не хваляваць людзей. Прытым падзеі, што адбываюцца ў Беларусі, факты нашага жыцця паказвае не ізалявана ад свету, ад суседніх краінаў. Умела валодаючы вострым пяром і апіраючыся на выказванні выдатных палітыкаў, прафесійных палітолагаў, айчынных і замежных, смела закранае самыя надзённыя, гарачыя праблемы сучаснасці. Развенчвае рабалепную палітыку, сістэму выбараў без выбару, выкрывае правалы ўбогае эканомікі, фантазіі вярхоў па яе рэанімацыі і ажыўленні ў надзеі на працягнутую руку... Не praмінаюцца і тэмы галавацяпных рашэнняў у вярхах, карупцыі ва ўладных эшалонах, жульніцтва ў жыллёва-камунальнай гаспадарцы, хамства ў сілавых структурах... Важна тое, што аўтар скрозь праяўляе грамадзянскую мужнасць — застаецца на баку зняважаных, падманутых, без віны пакараных... У полі яго зроку і міжнародная арэна. Ён няўхільна асуджае навязаную Расіяй вайну Украіне, як і забойства Барыса Нямцова, лідара апазіцыі, па азначэнні расійскага вучонага Георгія Мірскага — барацьбіта за свабоду мыслі і слова, за правы чалавека, барацьбіта супраць аўтарытарна-паліцэйскай сістэмы... Як сцвярджае пісьменнік Уладзімір Букоўскі, «Крэмль вырашыў прыбраць Барыса Нямцова напярэдадні антываеннага, антыкрызіснага маршу».

Вадзім Жылко заўважыў, што невыпадкова з забойствам Барыса Нямцова ставяць ў адзін шэраг забойства Паўла Шарамета. У газеце №30 за 2016 год прыводзяцца праніклівыя словы расійскага журналіста Аркадзя Бабчанкі і расійскага палітыка Ільі Яшына. Адзін з іх назваў забойцаў пачварамі, другі, паводле галоўнай версіі, аднёс іх да расійскіх спецслужбаў. А я падумаў пра тое, якое гэта бліскучае ўменне абгрунтоўваць сваю пазіцыю довадамі кампетэнтных дзеячаў, выказваць іх вуснамі сваю думку!

У такога журналіста не грэх павучыцца. Дарэчы, мне ўспомнілася, як два гады таму Вадзім Вітальевіч прывозіў у Менск

групу падлеткаў і як у цэнтры горада мы сустрэліся. Я здзівіўся, калі даведаўся, што ён у ролі настаўніка юных карэспандэнтаў. Нядаўна мы з ім закранулі гэтую тэму, і вось што ён сказаў: «Пры шэрагу недзяржаўных газет, у тым ліку і пры нашай, час ад часу працуе «Школа маладога журналіста». Я такую школу вёў у 2015 годзе. Займаліся мы тэорыяй і практыкай газетнай справы паўгода. Сустракаліся і з выкладчыкамі іншых выданняў. Мае вучні па ўзросце пераважна былі школьнікамі. Нехта ўжо ў ВНУ паступіў, нехта яшчэ вучыцца ў школе. Некаторыя пішуць нам як пазаштатныя аўтары».

Пашанцавала дзецям атрымаць творчы зарад ад шматвопытнага журналіста. Такая энергія не знікне бясследна.

4

Пра Вадзіма-шахматыста можна распавядаць і распавядаць. Як толькі ён быў прыняты ў СБП, мы з ім пачалі шукаць магчымасць ладзіць чэмпіянаты ў асяроддзі пісьменнікаў. Да нашага кіраўніцтва па дапамогу працяглы час не звярталіся. Пару гадоў памагаў знайсці памяшканне В.Рубінчык. Ён і сам браў удзел у спаборніцтве, але па-за конкурсам, бо яшчэ не быў сябрам СБП. Пасля самастойна ўдавалася адшукаць больш-менш зручны куток — у ПЭН-цэнтры ці ў рэдакцыі «Нашае нівы». Натуральна, арганізацыйна-каардынацыйныя клопаты я ўзяў на сябе. Самым складаным пытаннем штогод было склікаць мацнейшых шахматыстаў, сяброў СБП, якія хацелі б апрабаваць свае сілы ў першынстве. Некаторым заміналі неадкладныя справы. Хтосьці з'язджаў у вёску ці яшчэ куды. Камусьці не дазвалялі высокія амбіцыі. Многія скардзіліся, што даўно не гулялі, таму знаходзяцца «не ў форме». Памятаю, адзін пісьменнік аднойчы заявіў так: «Прыеду, калі толькі перагуляю кампутар»... Некаторыя вагаліся, таму даводзілася шмат разоў тэлефанаваць, угаворваць, дакляраваць, што будзе цікава. Ёсць і такія, што абяцаюць, ды не з'яўляюцца. А вось Вадзім Жылко

ні разу не прапускаў спаборніцтва, хоць дарога ад Лунінца, дзе ён пражывае, да сталіцы — няблізкая, і спраў неадкладных у яго процьма.

Аднаго разу ў памяшканне рэдакцыі «Нашай нівы», дзе я чакаў удзельнікаў чэмпіянату, з'явіўся адзін толькі Вадзім Вітальевіч. Тады мы з ім вырашылі правесці між сабою матч з чатырох партыяў. Але, паколькі лік атрымаўся нічыйны (2:2), дамовіліся гуляць да першае перамогі. Толькі восьмая партыя выявіла пераможцу. Той чэмпіянат мне запамятаўся лепш чым усе папярэднія і наступныя. Не таму што тады зусім трошкі больш пашанцавала мне, а таму што надзвычай цікава было змагацца з роўным па сіле і не менш азартным шахматыстам.

Не можа не радаваць Вадзімава вытрымка. Наўрад ці хто чуў ад яго скаргі кшталту: «Не выспаўся, здарожыўся, баліць галава...» ці нешта да таго падобнае. Між тым дабірацца начным цягніком да Менска, каб раніцаю быць у прызначаным месцы і ў прызначаны час, — гэта патрабуе самадысцыпліны. Невыпадкова я неаднойчы прысвячаў Вадзіму Жылко свае вершы. Адзін з такіх вершаў, дзе я звяртаюся да шахматаў, завяршаецца, як мне падаецца, нечакана: «Бедны той чалавек, // Што не выхоўваўся вамі». Відаць па ўсім, Вадзім Жылко выхоўваўся не толькі шахматамі, а й добрымі кнігамі, а перадусім — клапатліваю сям'ёй. Пэўна не памылюся, калі скажу, што ўсе добрыя чалавечыя якасці закладзеныя ў ягонай душы пераважна матуляю, Галінай Пятроўнай. Яна шмат працавала ўсё сваё жыццё, і цяпер, у сталым узросце, не цураецца працы, шчыруе на градах...

Завяршаючы гаворку пра Вадзіма-шахматыста, з радасцю адзначу: ужо некалькі гадоў запар прыхільнікі шахматнай гульні, якія з'яўляюцца сябрамі Саюза беларускіх пісьменнікаў, адчуваюць падтрымку з боку СБП і ГА «Бацькаўшчына». У офісе СБП штовосень праходзіць бліц-турнір па шахматах, а кожную вясну, перад Днём волі, — асноўны чэмпіянат, дзе выяўляюцца пераможцы. Думаецца, Вадзім Жылко, які амаль ні разу не выходзіў з прызавой тройкі і, паўтаруся, чатыры разы быў пераможцам, зведае яшчэ не раз смак перамогі.

5

Ёсць у Вадзіма Вітальевіча нямала справаў, у якіх спалучаюцца выдатныя здольнасці пісьменніка, журналіста і шахматыста, а яшчэ укладальніка і рэдактара-выдаўца. Цягам многіх гадоў, пачынаючы з 2002-га, ён збірае, рэдагуе і выдае бюлетэнь «Выток», дзе распавядаецца пра жыццядзейнасць Брэсцкай абласной філіі СБП, пра кнігі пісьменнікаў, юбілеі, літаратурныя падзеі; тут жа час ад часу змяшчаецца хроніка творчага жыцця лунінецкага клуба «Муза» альбо даецца слова камусьці з лунінецкіх творцаў. Хачу пацвердзіць сказанае прыкладам. «Тэма нумару: Янка Брыль і Уладзімір Калеснік» — гаворыцца на густоўна аформленай вокладцы аднаго з «Вытокаў». Насамрэч абсалютная бальшыня старонак гэтага выпуску прысвечана ім, выбітным асобам нашага прыгожага пісьменства. Не паскупіліся на пранікнёныя словы беларускія паэты. А Кузьма Чорны ці мала каго здзівіў адзіным радком пра Янку Брыля: «Гэты хлопец — Брыль-Ян-т беларускай літаратуры». Штосьці падобнае да афарызму знайшлося і ў Мікалая Улашчыка: «Бачыце, які чалавек — адзін, а колькі Беларусі на сабе трымае. Талент!» Гэта — пра Уладзіміра Калесніка. Трэба ж знайсці, адкапаць такія залацінкі! Вадзім Жылко для гэтага ж нумара падабраў і актуальныя выказванні таленавітага лунінчаніна Віктара Філатава (на жаль, памерлага ўжо): «Скажы мне, у чым твой кайф, і я скажу табе, хто ты», «Колькі свабоднага журналіста ні кармі і ні паі, ён усё роўна напіша праўду», «Не шукай лёгкіх шляхоў. Шукай свой шлях», «Час — не толькі лепшы лекар, але і суддзя», апроч таго, ягоную балючую нататку «Мары і рэаліі».

Розгалас той ці іншае падзеі пачынаецца з першай старонкі «Вытоку». Скажам, сталася Нобелеўскай лаўрэаткай Святлана Алексіевіч — і ў бліжэйшым нумары разам з віншаваннем змяшчаюцца фотаздымкі, на якіх яна поруч з сябрамі СБП. Адбыўся ў кастрычніку 2016 года ў Лунінцы сёмы штогадовы рэгіянальны круглы стол літаратараў і журналістаў — і ў бюлетэні №37 за 2016 год на тытульнай старонцы бачым адпаведнае фота з паве-

дамленнем: удзельнікі круглага стала абмяркоўвалі стаўленне да мовы ў сучасным грамадстве... Атрымаў пінскі пісьменнік Павел Ляхновіч «Мядовую прэмію-2015» ад яе заснавальніка паэта Міколы Папекі — і чарговы «Выток» упрыгожыла фота: на фоне кніжных стэлажоў інтэлігентна ўсміхаецца шчаслівы лаўрэат з высока паднятым поўным вядром мёду.

Выходзяць у свет бюлетэні накладам 100 асобнікаў. У адказнага за іх выпуск яшчэ і клопат — рассылка.

Думаю, што ўдзячных Вадзіму Жылко людзей багата. Узяць хоць бы аўтараў альманаха «Лунінецкая муза». Некаторыя ў гэтай серыі, ім распачатай і дагледжанай, выпусцілі не адну кніжку, а некалькі. Напрыклад, у №36 за 2016 год надрукаваная ўжо восьмая кніга Сцяпана Нефідовіча, яе назва — «Цесцеў кажушок». Першае ў Беларусі выданне для прыхільнікаў шахматнае кампазіцыі, колькасць якога даўно пераваліла за сотню і набліжаецца да ста дваццаці! Яго рэдагуе Вадзім Жылко. Менавіта ён абвяшчае ў гэтым бюлетэні конкурсы па складанні задач і эцюдаў, іх умовы, а пасля, натуральна, публікуе вынікі; рэгулярна змяшчае задачы-лаўрэаты. Шырока тут асвятляецца і штогадовы восеньскі конкурс мацнейшых рашальнікаў — Кубак «Альбино», заснаваны ў 2008 годзе.

Ёсць яшчэ і дадатак да бюлетэня «Альбино» — «Альбино плюс», адрасаваны прыхільнікам не толькі шахматаў, а й літаратуры і мастацтва. І тут нязменны рэдактар — той самы. Наклад кожнага выдання — сто асобнікаў. Рэдактар сам сябе абавязаў рассылаць іх апантаным шахматным жрацам.

Нярэдка ў бюлетэні друкуюцца розныя хронікі, у чым надзвычай працаздольны, напрыклад, знаны шахматны кампазітар Віктар Жук. Тут ён, своеасаблівы летапісец, часта знаёміць чытачоў з таленавітымі землякамі-берасцейцамі, з іх задачамі, эцюдамі ды цікавымі партыямі. Такім чынам стварaецца своеасаблівая рэгіянальная шахматная «энцыклапедыя». Калі набіраецца аб'ёмны матэрыял, тады ідзе спецвыпуск. Так было і ў чэрвені 2017 года. Тады на дваццаці чатырох старонках В.Жук

распавёў пра віднага майстра з Берасця, сяміразовага чэмпіёна Беларусі Уладзіміра Сайгіна.

Вадзім Жылко і сам апантаны. Ці не таму пагадзіўся весці і паспяхова вядзе шахматныя аддзелы ў «Звяздзе» і ў «Народнай волі».

Колькі словаў пра Вадзіма-арганізатара. Сумесна з мясцоваю бібліятэкаю і музеем (у якім калісьці адпрацаваў 13 гадоў) ладзіць краязнаўчыя чытанні, літаратурныя вечарыны. Як гісторык (якім, дарэчы, ён і ёсць па адукацыі) і краязнавец удзельнічаў амаль у двух дзясятках разнастайных канферэнцый: рэгіянальных, рэспубліканскіх, міжнародных... Выступаў з дакладамі і паведамленнямі як асобна, так і разам з калегам Васілём Туміловічам. З'яўляецца частым госцем і ўдзельнікам літаратурных сустрэчаў у Мікашэвіцкай гімназіі імя Уладзіслава Нядзведскага, дзе выступаюць паэты і празаікі з Менска, Берасця ды з іншых гарадоў. Шмат гадоў праводзіў паэтычныя турніры юных паэтаў Лунінеччыны, чэмпіянаты шахматныя і па інтэлектуальных гульнях, па рашэнні крыжаванак, віктарыны, КВЗ «Гумарына». І гэтак далей...

— Як ён так усюды паспявае? — здзіўляецца мая жонка, якая ў свой час, настаўнічаючы, таксама шмат у чым паспявала.

— Такі чалавек, — кажу. — Апроч таго, што адораны, — ініцыятыўны, клапатлівы, чалавечны.

Пра яго чалавечыя якасці добра распавядаюць ягоныя лісты. Працытую два. Адзін з іх датаваны 23 красавіка 2013 года: «Добры дзень, шаноўны Васіль Аляксеевіч! Апошнім часам лісты нашы «сустракаюцца» ў дарозе, але галоўнае, каб усё даходзіла. Я наўздагон за «Альбино плюс» №59 выслаў Вам «Альбино» №105. Выпусціў іх за пару дзён, а яшчэ амаль адначасова — спецвыпуск «Лунінецкага сшытка» з гістарычным нарысам А.Ільіна (пінскі гісторык, муж паэткі Алены Ігнацюк). Пацiху рыхтую і чарговы «Л.С.» №13 — набраў два артыкулы мінскага краязнаўца Льва Коласава, адсканаваў ілюстрацыі да іх і г.д. У траўні мяркую выпусціць «А+» №60, які, вядома ж, Вам дашлю.

Апрача «выдавецкіх спраў» — больш-менш па-ранейшаму. 19.04 быў у Мікашэвічах з М.Ільючыкам, Вольгай Грыдзюшка і Віктарам Філатавым на сустрэчы ў гарадской бібліятэцы. Народу было няшмат, але сустрэлі прыязна. На 26 красавіка запрасіў мяне Аляксей Філатаў у Берасце на прэзентацыю сваёй новай кнігі, але дадаў, што хоча прыехаць трохі пазней з кнігай у Лунінец і Ганцавічы. У Берасце я не паеду, а тут буду рады вітаць яго.

Шахматамі не займаўся пасля першынства СБП (не лічачы выпуску «Альбино»).

На гародзе каля хаты пасадзілі бульбу і частку градаў з гароднінай».

І яшчэ адной навіной падзяліўся: днямі перачытаў мой «Цудадзейны вітамін». «Гэтым разам больш увагі звярнуў на дасціпнасць пародый». Прачытаеш ліст — і ўражанне такое, быццам не існуе ў яго ў рэдакцыі бясконцага канвеера напружанай журналісцкае працы.

Перачытваю электронны ліст за 30 кастрычніка 2016 года. У ім Вадзім Вітальевіч паведаміў, што ён пасля бліц-турніру ў СБП хутка даехаў дамоў. Тут я павінен апярэдзіць далейшы эпісталярны расповед, каб сказаць, што перад турнірам, як толькі мы сустрэліся, шаноўны госць падараваў мне элегантны блакітны шалік і прыгожы белы кубачак. Я на дарогу яму перадаў шакаладку і грушы, а з дому паслаў на яго электронны адрас штрыхпункцірны лісток, у якім яшчэ раз падзякаваў за падарункі і запытаўся, дзе вырабляюць такія прыгожыя шалікі, ды выказаў намер пару дзён пабыць на лецішчы. Цяпер — працяг і заканчэнне ліста: «Сувеніры (кубкі, шалікі, майкі, яшчэ розную драбязу) вырабіла наша газета, маё дачыненне ўскоснае. Насіце на здароўе шалік! Добра, што хоць трохі адпачнеце на лецішчы. Сёння ў нас быў сельгаскірмаш. Купілі морквы, капусты, потым я яшчэ купіў яблыкаў, кавуна. Чытаю «Дзеясловы», новую кнігу М.Скоблы. Прачытаў Вашу падборку вершаў у «Дзеяслове», а таксама паэму Дранько-Майсюка пра Г. Выліваху. Трэба мне яшчэ напісаць у газету «сваю старонку» за сёння. Ад суботы ў

мяне добрыя ўражанні... Дзякуй Вам і Вашым родным ад нас з мамай за шакалад і грушы! З павагай — В.Жылко».

З дарогі Вадзіма Жылко чакала тэрміновая работа. А ён яшчэ праверыў пошту, бо стасункі з людзьмі — неад'емная частка яго шматграннай дзейнасці.

24 ліпеня – 24 жніўня 2017

## МІКОЛАВЫ СВЯТЫНІ

### Пра шахматы, мову, радзіму

Пра тое, што ў Барысаве пражывае знакаміты шахматны кампазітар, майстар спорту Мікола Іванавіч Бельчыкаў, мне распавёў сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў Вадзім Жылко. Было гэта дзесяць гадоў таму.

Мне закарцела пазнаёміцца з такім цудоўным творцам, тым больш што шахматы ў шэрагу маіх захапленняў займаюць не апошняе месца.

Спярша было завочнае знаёмства, ліставанне. З цягам часу мы з ім склалі і апублікавалі не адну двуххадоўку-мініятуру (нечакана для мяне, дагэтуль не было ў мяне аніводнае калектыўнае кампазіцыі — складаў і публікаваў толькі самастойныя). А Мікола Іванавіч найбольш праславіўся якраз у складанні двуххадовак. У 2000 годзе стаўся пераможцам шостага каманднага першынства свету ў раздзеле двуххадовых задач.

Пра нашую эпізадычную супольную творчасць я згадваю не так з гонарам, як з удзячнасцю: прафесіянал узяў аматара на буксір!..

«Камунікабельны» — падумалася мне пра майстра, калі ўведаў, што ў ліку сотняў чыста ўласных кампазіцый на яго рахунку набіраюцца дзясяткі складзеных з іншымі аўтарамі і што кнігу «Паэзія шахмат Беларусі» (2004) стварыў сумесна з Віктарам Волчакам, гэтаксама адораным шахматным праблемістам. Зрэшты, ягоную камунікабельнасць, шчырасць я ўсё больш адчуваў у шчодрасці яго лістоў. Размашыстым таропкім почыркам мой завочны сумоўца займаў тры-чатыры старонкі, а іншы раз і пяць-шэсць.

Мяне не магло не ўражваць, як спадар Мікола цікава закранае любую тэму нашае, так бы мовіць, эпісталярнае гамонкі. Мне даспадобы прыйшлася яго нават відавочная кансерватыўнасць у пытаннях тэхнічнага прагрэсу: «Асабіста я адношуся да сучасных дасягненняў неяк генетычна (!) з насцярогай». Пісьмовая гаворка ў нас ішла ў жніўні 2015 года пра мабільныя тэлефоны, і ён працягваў: «Несумненна, для тых, хто займаецца, напрыклад, бізнесам, аператыўная сувязь патрэбная. Але часта ўсё даходзіць да смешнага...» Не аднойчы ён, едучы ў электрычцы, назіраў, як дзяўчына амаль праз дзесяць–пятнаццаць хвілінаў тэлефанавала бацькам і дакладвала, на якой яна станцыі... «Уся мая істота супрацьстаіць  сучасным усюдыісным «сэрвісам» — прачытаў я ў тым жа лісце.

Тады я ўжо ведаў: праслаўлены майстар мае цудоўны кампутар, з дапамогай якога правярае дасланыя яму кампазіцыі, ці няма ў іх пабочных рашэнняў. Паведамляў мне ён таксама пра спадарожнікавую антэну, якая забяспечвае якасныя перадачы па тэлевізіі. Натуральна, падумалася, чаму чалавек траціць сродкі на сучасныя тэхнічныя дасягненні, да якіх ставіцца з насцярогаю. Нібы адчуваючы маё пытанне, Мікола Іванавіч піша: «Сотавы тэлефон, спадарожнікавая антэна і кампутар мне дасталіся ў падарунак. Напэўна, сам бы я і дагэтуль не набыў гэта, і справа не ў грашах». Разумею. Мне гэтаксама падаравалі і кампутар, і мабільнік.

Чым далей ішло нашае ліставанне, тым больш пранікаўся я сімпатыяй да славутага творцы. «Дзякуючы Вам хоць трохі пішу па-беларуску, — так Мікола Бельчыкаў завяршаў адзін з лістоў сваіх. — Слухаю радыё «Свабода», гляджу «Белсат». На жаль, размаўляю па-беларуску вельмі дрэнна — няма практыкі». Ён згадвае, што яго аднавяскоўцы даволі чыста размаўлялі роднай моваю, усіх дзяцей вучылі толькі па-беларуску, і шкадуе, што яму ў Жлобіне з 1954 года давялося вучыцца па-руску. Ведаю: абсалютная большасць нашых шахматных кампазітараў — рускамоўная і яе гэтая акалічнасць, падобна, не бянтэжыць, не хвалюе, таму нацыянальная арыентацыя, глыбінная інтэлігентнасць Бельчыкава мяне асабліва прыемна ўражвае і ўзрушае. Як

толькі я зразумеў, што яго цікавіць мая літаратурная творчасць, натуральна, пачаў пасылаць яму свае свежыя выданні з аўтографамі. І неўзабаве зразумеў, што ў асобе Міколы Бельчыкава займеў чытача не проста ўважлівага і ўдумлівага, а яшчэ і таленавітага. Аднойчы ён прапанаваў мне выступіць у друку з роздумам, у якім бы я зрабіў параўнанне творчасці ў шахматах і ў паэзіі, пры гэтым адлюстраваць свае адчуванні, што мяне вельмі зацікавіла. А перачытаўшы адзін з маіх зборнікаў, адкрыўся мне яшчэ адной рысаю кемлівага чалавека, у якога ў душы ёсць эстэтычны і мастацкі компас, што дазваляе добра арыентавацца, ацэньваючы кожны канкрэтны твор і кнігу. «Цалкам згодны з думкай «Не завіце радзіму малой...», — перадаў ён сваё меркаванне ў лісце за восьмага студзеня 2015 года. — Радзіма не можа быць ні малой, ні вялікай, яна адна, адзіная».

Мне такое выказванне прыйшлося, як кажуць, мёдам па сэрцы. Успомніў адразу ўсіх, салідарных са мною, а мо лепш сказаць — з кім салідарны я: мясціну, дзе нарадзіўся чалавек, бязглузда называць малою радзімай, бо такая мясціна для яго — не што іншае як святыня, якую ніяк не выпадае аднесці да шэрагу памераў. Успомніў многіх, а назаву хоць бы некалькі такіх асобаў. Мяне здавён радуе, што доктар філалогіі, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў Аляксей Рагуля, ураджэнец Наваградчыны, і дацэнт Мазырскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта Тамара Нуждзіна цягам доўгіх гадоў унушаюць студэнтам, па сутнасці, тое, што й выказаў некалі я і настойліва паўтараю ў сваіх кнігах:

Малая радзіма? Правал паміж слоў,
Хоць нехта у сэнс іх паверыў,
Назваў недарэчна святыню малой,
Аднёс яе ў шэраг памераў...
.........................................
Радзіма... У ёй да сканчэння вякоў
Прастору душа набывае.
Магчыма, бывае малая любоў,
Святыні малой не бывае.

Пісьменнік Алесь Барскі, які нарадзіўся і вырас у вёсцы Бандары (Беласточчына), знаны вучоны і выкладчык Варшаўскага ўніверсітэта, сцвярджае: «Радзіма, якую называюць малою, для мяне — самая вялікая». Адчуваю ў ягоным задзірыстым выразе пратэст супраць даволі распаўсюджанае бязглуздзіцы: «малая радзіма».

Але вяртаюся да галоўнага героя свайго расповеду.

**Цудадзейнасць вады**

«У апошнія гады я часта звяртаюся да дзяцінства, да сваёй памяці, — распавёў Мікола Бельчыкаў у лісце за 24–25 жніўня 2015 года. — Кожны год наведваю месца свайго нараджэння — вёску Шапарня, там адчуваю  выключную каштоўнасць і патрэбу гэтай мясціны і сувязь часу».

Усё гэта натуральна. Ніякага тут дзіва дзіўнага няма. У кожнага нармальнага чалавека рана ці позна абуджаюцца падобныя пачуцці. Але ў распачатай гісторыі дзіва ўсё ж будзе. «Там цяпер ужо нічога няма, толькі старая груша і студня» — працягвае пісьмовую гамонку шаноўны сумоўца.

З радзімы ён, як правіла, улетку, прывозіць у Барысаў дватры літры вады і п’е па глытку, па два. «Вада гэтая стаіць у ладоўні месяцамі, як святая, — піша бывалы чалавек. — Вада мае памяць, адчувае адносіны да яе. Таму і карысць яна дае найвялікшую, калі мы дзякуем ёй за наша жыццё. Вось і я дзякую сваёй шапарнянскай вадзе: яе пілі мае продкі, піла маці, калі мяне насіла пад сэрцам. Усё ў маім маленстве звязана з гэтай вадой».

Мікола Бельчыкаў ведае пра «Блакітную крыніцу» пад Слаўгарадам, вада якой, як сведчаць газетныя публікацыі, багатая кальцыем і ўтрымлівае вокіс срэбра і круглы год захоўвае аднолькавую тэмпературу — чатыры-пяць градусаў цяпла, тую крыніцу, якая не пацярпела нават ад радыяцыі. Яе наведваюць тысячы турыстаў і паломнікаў. А ён там не быў, бо лічыць не

менш цудадзейнай сваю шапарнянскую ваду. І яшчэ мяркуе, што й на Хрышчэнне вада робіцца гаючаю дзякуючы добрым адносінам да яе, а «царква, малітвы, срэбныя крыжы граюць дадатковую ролю, яны толькі накіроўваюць нас у патрэбныя паводзіны і ў тонус».

Што да хрышчэнскае вады, то хачу заўважыць: у святочную ноч вада паўсюль робіцца чыстаю, незалежна ад людскіх паводзінаў. Я цягам многіх гадоў набіраў яе тою ноччу з крана ў трохлітровікі, і цэлы год яна не давала аніякага асадку.

У беларусаў ёсць нямала песняў, у якіх апяваецца крыніца, крынічанька. Гэта, вядома ж, невыпадкова!

У свой час казаў мне народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч, што яму з роднае Лагойшчыны прывозяць родзічы крынічную ваду і што яна дапамагае падтрымліваць здароўе. Ён выпіваў яе па шклянцы штораніцы. Варта дадаць: пражыў Ніл Сымонавіч амаль 85 гадоў.

На маёй радзіме — у Забалацці (Камянеччына), побач з хутарам, таксама струменіла крыніца. Над ёю цёплымі днямі я любіў нахіліцца, каб зачарпнуць срабрыстай прахалоды. Пазней, калі закінула жыццё ў гарады, я набіраў тут у пляшачку вады сабе ў дарогу... Але калгасна-саўгасная сістэма маю крыніцу спаганіла, знявечыла і дабіла, зрабіўшы вадапой для буйной рагатай жывёлы... Тая ж сістэма прайшлася бульдозерам па вянку дрэваў, у якім стаяла некалі хата. Міколу Бельчыкаву, дзякаваць Богу, пашанцавала: захавалася не толькі студня, а й тая ігруша, якую ў 1947 годзе ў гонар яго нараджэння пасадзіў ягоны дзядуля Мірон.

«Мая грушка-равесніца ўжо старая, палова галля ўжо засохла, але яна ўсё яшчэ плодзіць, — усцешаны, чытаў я чарговы Міколаў ліст. — Напэўна, мы абое адчуваем падтрымку адно аднаго».

## Дзядуля Мірон, ігруша і разбураны храм

Мы з Міколам Іванавічам нарэшце спатkаліся. Увосень 2015 года ён завітаў у сталіцу на міжнародны кокурс рашальнікаў шахматных задач, які ладзіўся ў Рэспубліканскім цэнтры алімпійскай падрыхтоўкі... Прывёз ладныя кіпы шахматнай літаратуры, каб падараваць рэдкасныя асобнікі ўсім, у чыіх вачах блісне агоньчык радасці ад убачаных скарбаў, ім назапашаных.

«Такі прыгожы чалавек!» — галоўнае і незабыўнае ўражанне ад той сустрэчы. Зрэшты, як мне шанцавала заўважаць, людзі, прыгожыя душою, абавязкова і вонкава гожыя. Мікола Бельчыкаў — рослы, з прыязнаю ўсмешкаю і здаровым колерам твару; на галаве — багата пасівелых валасоў. Ён ветлівы і сціплы. Паміж іншага, я даўно прыйшоў да высновы: таленавітыя людзі, як правіла, сціплыя.

Так сталася, што ў дзень нашага вочнага знаёмства я спяшаўся на турнір, таму пагаманіць удалося малавата. Але пра тое, што мяне найбольш тады цікавіла, мы пагутарылі. А зацікавіў мяне, канешне, Міколаў дзядуля Мірон. Мой шаноўны сумоўца распавёў багата, а пасля і даслаў такія грунтоўныя ўспаміны пра адметнага чалавека, яго сям'ю, што магла б атрымацца аповесць. Я ж узяў самае яскравае і цікавае для мяне з яго жыццёвага шляху, чым спяшаюся падзяліцца з чытачамі.

Мірон Фёдаравіч Раманчыкаў умеў чытаць і пісаць, што для беларускіх сялянаў таго часу было з'яваю рэдкаснай. Чытаў жа ён не абы-што, а Евангелле — кнігу, якая стала ў яго настольнаю. Ды лёс не песціў адукаванага верніка. У 1914 годзе яго забралі на першую сусветную вайну. Дома засталася жонка Варвара з маленькаю дачкою Настачкай і пяцігадовым Нічыпарам. Мірон трапіў у палон. Аж да 1918 года працаваў у баўэраў, добра пазнаў нямецкую мову, што вельмі спатрэбілася яму пазней...

У дваццатыя гады займаўся гаспадаркай у агульнай сям'і Раманчыкавых, якая хутка расла: старэйшы Міронаў брат Ігнат меў ужо сямёра дзяцей, яшчэ дзве дачкі нарадзіліся ў Мірона, адной з іх, Лідзіі (1924–2007) было наканавана стаць матуляю Міколы Бельчыкава.

Праца на зямлі Раманчыкавым давала плён. Браты шмат гадавалі коней, кароў, авечак, мелі сад, лясок, сажалку. Каб добра апрацоўваць і паляпшаць глебу, яны паступова набывалі тэхніку. Так жылі многія сяляне, суседзі, сябры, родзічы. Раённыя цэнтры Жлобін, Рагачоў сяляне забяспечвалі хлебам, мясам, жытам, кажухамі, іншымі неабходнымі і каштоўнымі таварамі. Але пачалася калектывізацыя, і на руплівых гаспадароў абрынуліся ганенні, актывізаваліся пошукі «ворагаў народа». Мірон цудам пазбег рэпрэсій. Нехта са Жлобіна яго папярэдзіў: хутка па яго прыедуць, ён у «плане»... Гаспадар мігам сабраўся і з'ехаў кудысьці на захад Беларусі.

Меў ён залатыя рукі. Выдатны цясляр, разам з сябрам Прохарам абрабляў лес і ўзводзіў зрубы як у вёсках, так і ў горадзе, добра зарабляў, што ратавала сям'ю ў той час, калі ў калгасе за цяжкую працу нічога не плацілі. А цяслярыў сельскі волат аж да сямідесяці сямі гадоў, зрубіў не адзін тузін хатаў. Успамінае Мікола Бельчыкаў:

— Дзесьці напачатку пяцідзесятых гадоў, калі мы з дзедам ішлі па Жлобіне, ён гаварыў: «Глядзі, унучак, — вось гэты дом я будаваў, і той, што з-за яго выглядвае, і вунь той, крайні, на працілеглым баку вуліцы»...

У суровым 1941-м на вайну яго не ўзялі (бралі толькі да пяцідзесяці гадоў). Немцы яго і сямейнікаў выселілі, а добрую хату выкарысталі пад свае мэты. А ў 1942 годзе яны знайшлі ў жыце стрэльбу. Сагналі ўсю вёску, панаставілі кулямёты. За мяркуемую сувязь вёскі з партызанамі збіраліся ўчыніць расправу. Але выйшаў Мірон і пагутарыў па-нямецку з кіраўніком карнікаў. Гэта так уразіла афіцэра, што ён адразу ўсіх адпусціў дадому.

Што казаў Мірон таму афіцэру, невядома: сведкаў няма. Адно бясспрэчна: дзед скарыў ворага. Можа, заваражыў яго добрым валоданнем мовы ці сваёй прыроднаю мудрасцю. А мо пераканаў нейкімі незвычайнымі фактамі пра сваіх землякоў, пра Шапарню ці проста растлумачыў, што стрэльба ў жыце — яшчэ не факт сувязі вёскі з партызанамі. Як бы ні было, тая перамога

аднаго селяніна над атрадам узброеных да зубоў карнікаў падобная на моцнае гіпнатычнае ўздзеянне.

Аднаго разу Мікола Бельчыкаў заўважыў: «Мірон, мабыць, валодаў нейкай магіяй». Ён пры гэтым распавёў пра ўнікальны факт: калі кароў і коней на пашы джалілі гадзюкі, ад чаго жывёлы хварэлі-пакутавалі, то людзі па дапамогу ішлі не да ветэрынара, а якраз да Мірона, чые вочы, рукі і словы тварылі цуды — жывёле адразу рабілася лепей.

Сам ён меў выдатны фізічны стан, магутны імунітэт, нічым не хварэў, да апошніх дзён у яго захоўваліся ўсе зубы. Яшчэ валодаў ён моцным голасам. Кожную нядзелю хадзіў у суседнюю вёску Кірава (да 1939 года — Святое), дзе спяваў у царкоўным хоры. Дарэчы, там, у Свята-Пакроўскім храме, Мірон павянчаўся з любаю Варварай. Пазней у той царкве хрысціліся і вянчаліся Іван Бельчыкаў і Ліда Раманчыкава, там жа ахрышчаны і іх сын Мікалай.

Мікола Іванавіч свята захоўвае рэлiквію — абраз Міколы Цудатворца, якім бласлаўляліся на шлюб і Мірон з Варварай, і маці з бацькам. Гэта — сямейны рарытэт; іконе больш як сто гадоў.

Сумуе ён па Свята-Пакроўскім храме, які выстаяў не адну вайну, але рухнуў у часе разгулу хрушчоўскага бязбожжа. Драматычным стаўся 1964 год. Калі каманда зверху прыйшла мясцовым кіраўнікам-атэістам зруйнаваць святыню, яны не марудзілі — да царквы пачалі падцягваць бульдозер, трактар, іншую тэхніку. Замінала супрацьстаянне соцень вернікаў, гатовых класціся пад гусеніцы і колы, каб толькі суняць вераломства. Аднак глухою халоднаю ноччу напрыканцы кастрычніка 1964 года храм разбурылі. Надоўга змоўклі званы, якія мілагучнаю мелодыяй суцяшалі і яднalі людзей.

Спадар Мікола прыслаў мне рэпрадукцыю фотаздымка царквы, зробленага П.Я. Кірычэнкам незадоўга да яе знішчэння. Храм вельмі прыгожы і прасторны, а пабудаваны быў без адзінага цвіка ў пачатку XX стагоддзя.

**Уздзеянне роднай зямлі**

Пасля нашай сустрэчы ў Менску я атрымаў ад Міколы Бельчыкава ліст. Яму тады пайшоў шэсцьдзясят дзявяты год, і ён дапоўніў ранейшы ўспамін пра дзядулю Мірона, пра тое, які ён быў у далёкім 1954 годзе, калі споўнілася шэсцьдзесят дзевяць гадоў. «Дзед быў тады яшчэ «ого-ого»! — засведчыў Мікола Іванавіч. — Моцны, будаваў хаты, глядзеў за гаспадаркаю, касіў». Мне асабліва спадабалася ў лісце тое, што гаворыцца далей: «І гэта цяпер для мяне выдатны станоўчы прыклад і наказ — унук павінен быць у гэтым жа ўзросце не горшы. Такое адчуванне, разуменне мяне натхняе, дае розум, сілы надалей».

Да ўсёй гісторыі пра Мірона дадам: пражыў ён восемдзясят тры гады. Жыў бы, напэўна, нашмат даўжэй, але выпадак скараціў яму жыццё. Здарылася такая аказія: злы сабака моцна ўкусіў брата за нагу, і Мірон забіў таго сабаку. Тое з'явілася пачаткам цяжкае хваробы эпілепсіі, якая хутка даканала нядаўняга асілка.

***

У вышэйзгаданым лісце Мікола Іванавіч расказаў таксама пра дабрадзейнае на яго ўздзеянне Шапарні (як ён кажа, кропкі нараджэння). Неяк гадоў восем таму, як звычайна ўлетку, наведаў ён куточак, дзе нарадзіўся і рос. У прыўзнятым настроі прыхапіў з сабою паўлітра якаснага віна. «Я ніколі гэта не рабіў раней і не раблю зараз, — як бы апраўдваючыся, прызнаецца бывалы чалавек і дадае: — там трэба быць абсалютна чыстым!» А тады ён даволі хутка асушыў цэлую пляшку. «І самае цікавае — амаль ніякай рэакцыі! — працягвае мой сумоўца і разважае пра сапраўдны цуд: магутная доза адрыналіну, якая ўлілася ў кроў ад спаткання з радзімаю, нейтралізавала алкаголь!» А я сказаў бы, што менавіта адрыналін прыдаў і бадзёрасці, а не толькі нейтралізаваў лішнія градусы ўжытага напою, бо пасля той выпіўкі Мікола Бельчыкаў даволі лёгка прайшоў сем вёрстаў.

Міжволі ўзгадваецца штосьці высокае, чыстае і вечнае, тое, да чаго вяртаюся пасля гамонак з бліскучым шахматным кампазітарам, мудрым і сардэчным чалавекам. Чамусьці ўспамінаецца, хоць лепш сказаць — не забываецца ўнікальнае апавяданне выбітнага нашага Андрэя Федарэнкі «Пеля» — гісторыя пра тое, як зусім нечакана і самым дзівосным чынам роднае балота выратавала юнака ад катастрофы... Твор гэты лёгка знайсці ў яго кнізе «Смута» (1994).

Я назваў сучаснага празаіка, якога, можна не сумнявацца, выхавала класіка.

Колькі пакаленняў не стамляецца чытаць і перачытваць геніяльную «Новую зямлю» Якуба Коласа і паўтараць пры нагодзе: «Мой родны кут, як ты мне мілы!.. Забыць цябе не маю сілы!» Не менш хвалюе і радуе філасофія Адама Міцкевіча: «Litwo! Ojczyzno moja! ty jesteś jak zdrowie...» Вядома, вядома, аб тым, як трэба цаніць здароўе, той толькі ведае, хто яго страціў...

А вось яшчэ незавядаючае суквецце думкі і пачуцця — у Афанасія Фёта (так, так — не ў Фета, а ў Фёта, бо ён — чыстакроўны немец, аднак жа чароўны расійскі лірык!):

Так долго скитаться наскуча
Над ширью полей и морей,
На родину тянется туча,
Чтоб только поплакать над ней!

І гэта ў часе зусім побач з хрэстаматыйным лермантаўскім: «Нет у вас родины, нет вам изгнания!»

Я ўсцешаны: столькі светлых думак і пачуццяў, радасных і шчымлівых успамінаў выклікалі інтэлектуальныя кантакты з Міколам Бельчыкавым!

***

Цяпер я не здзіўлюся, калі знаны майстар распавядзе мне аднойчы пра тое, як родны кут, сказаць больш дакладна — калодзеж, з цудадзейнаю вадою, і старэнькая ігруша на сядзібе

ягонага дзяцінства дапамаглі яму за непрацяглы час наведання Шапарні скласці задачу, над якою безвынікова біўся цягам некалькіх месяцаў, а то і гадоў. Я ўжо нават чакаю такую навіну.

Ліпень, жнівень – 5 верасня 2016

## ІНТЭЛІГЕНТНЫ ГРОСМАЙСТАР

Вельмі сумна стала без Віктара Купрэйчыка. Прашу не здзіўляцца, калі скажу, што ён, мабыць, мяне і не ведаў, бо нідзе нашыя сцежкі не перасякаліся.

Я не так і рэдка бачыў яго, нашага найпершага і найбліскучага міжнароднага гросмайстра, чые заслугі дазволілі ўнесці яго імя ў Сусветную залу шахматнай славы; найчасцей бачыўся з ім у Рэспубліканскім цэнтры алімпійскай падрыхтоўкі па шахматах і шашках, калі там ладзіліся турніры. Самавіты і спакойны, неяк па-асабліваму задуменны-засяроджаны, ён міжволі вылучаўся сярод усіх, у тым ліку і самых паспяховых тутэйшых гросмайстраў, і выклікаў натуральную сімпатыю. Звычайна перад масавым турнірам, калі ў вялікай залі зашмат мітусні і гаманы, ён займаў далёкае ад натоўпу месца і ў адзіноце чакаў пачатку шахматных баталіяў. Падысці б, павітацца ды распавесці пра штосьці яму блізкае, прыкладам, пра тое, як прыемна ўражаны я сталічнаю школай №45, дзе ён вучыўся, як там шануюць яго і якія там інтэлігентныя настаўнікі і вучні!.. (У тым я пераканаўся, калі мы з Людмілай Несцяровіч, тагачаснай супрацоўніцай рэдакцыі часопіса «Бібліятэка прапануе», завіталі туды, запрошаныя школьнаю бібліятэкаю на сустрэчу з вучнямі). Ды лезці ў душу чалавека, не ведаючы, які ў яго настрой, — гэта не па маіх правілах. Я спадзяваўся, што калі-небудзь пашчасціць згуляць з ім партыю ў тым жа РЦАПе, магчыма, у адным з ветэранскіх турніраў, тады не баяўся б выглядаць назойлівым, распачынаючы гамонку...

Цяпер ведаю: Віктар Купрэйчык быў чалавек адкрыты і кампанейскі. І сапраўдныя сябры ў яго былі не толькі з ліку шахматыстаў, пра што сведчаць і журналіст Іосіф Калюта, і сябры СБП

Уладзімір Някляеў ды Іван Клімянкоў, які знаўся з Віктарам з далёкіх студэнцкіх гадоў. З тэлефоннай размовы з Някляевым я зразумеў: лёс падараваў яму паўстагоддзя сяброўскіх стасункаў з легендарным Купрэйчыкам. Ад яго ж я пачуў пра любоў слыннага гросмайстра да музыкі і літаратуры і пра тое, што за грошы, выйграныя на адным з ветэранскіх турніраў, Віктар выдаў беларускай мовою кнігу Івана Буніна, «каб любілі нобелеўскага лаўрэата па-беларуску», і што частку грошай перадаў на помнік Рыгору Барадуліну, чые творы, як і Васіля Быкава і Уладзіміра Някляева, ён рэгулярна чытаў.

Я пацікавіўся, ці падтрымаў Віктар Давыдавіч Уладзіміра Някляева ў цяжкі для яго час пасля Плошчы–2010.

— Гэта факт, — адказаў Уладзімір Пракопавіч.

Фактаў, якія сведчаць пра высакароднасць Віктара Купрэйчыка, — мноства. Перад намі вырысоўваецца постаць дабрадзейнага сына Беларусі.

Шырокую вядомасць, добрую славу і шчырую людскую любоў яму прынеслі, безумоўна, ШАХМАТЫ. Менавіта яны з'яўляліся ягоным жыццём, пра што ён не раз заяўляў, адказваючы на пытанні журналістаў. Я шкадую, што позна адкрыў для сябе геніяльна адоранага Віктара Купрэйчыка з яго яскравай камбінацыйнай гульнёй. Яго творчасць, як правіла, прыгожая і вельмі павучальная, чым павінны напоўніцу карыстацца юныя. Не без прыемнага здзіўлення і захаплення аналізую гульню Купрэйчыка-падлетка з Малісавым у 1963 годзе. Партыя завяршылася ўжо на трынаццатым ходзе. У галандскай абароне Віктар так умела пакараў свайго партнёра за флангавую атаку пры неразвітых фігурах! Яшчэ карацейшаю аказалася партыя «Разуваеў–Купрэйчык» (1970): у выніку дасціпнай камбінацыйнай гульні нашага спартсмена пасля дзевяці хадоў высветлілася, што пазіцыя Разуваева безнадзейная. Падобных узораў на рахунку Віктара Купрэйчыка — процьма. Ён даволі часта дзеля паспяховай атакі ахвяраваў і пешкі, і моцныя фігуры, іншы раз у адной партыі ішоў цэлы каскад ахвяраванняў. Гэтак, у востракамбінацыйным стылі, ён мог сабе дазволіць згуляць і, скажам,

з выбітным Шортам, і з самім экс-чэмпіёнам свету Міхаілам Талем, бо па сваёй прыродзе быў «непапраўным рамантыкам» (словы Элы Харавец, бліскучага майстра спорту і выдатнай журналісткі).

У ім жыла непераможная любоў да шахматаў. Таму не раз, рызыкуючы здароўем (меў групу інваліднасці з прычыны цяжкай хваробы нырак), ездзіў і лётаў у далёкія краіны на турніры. Яго запрашалі. Бо цанілі і любілі.

Ён ладзіў шахматныя конкурсы ў газеце «Знамя юности». Вядома, дзеля росту юных талентаў. І займаўся з перспектыўнымі хлопцамі ў Спартыўнай дзіцяча-юнацкай школе №11. Прыемна ўведаць, што, напрыклад, міжнародны майстар Міхась Нікіценка — з ягоных вучняў.

Любоў, якую нёс у белы свет да людзей у сваім сэрцы наш легендарны гросмайстар, двухразовы чэмпіён Беларусі, не канула ў Лету, калі яго не стала. Яе энергія несмяротная. Таму журба мая глыбокая з прычыны горкай страты ўраўнаважваецца радасцю ўсведамлення ролі той цудоўнай спадчыны і тых выдатных спраў, высакародных учынкаў, якімі Віктар Купрэйчык праклаў свой ЗОРНЫ ШЛЯХ на нашай зямлі.

2017

## ЭДУАРД ЗАРЫЦКІ

Таленавітым, высакародным, дасціпным застаўся ў памяці кампазітар, народны артыст Беларусі Эдуард Зарыцкі, з кім добры лёс падараваў мне нямала сустрэч, творчых кантактаў, сумесных паездак. Зрэшты, з іх, шматлікіх, так бы мовіць, дзелавых, вандровак і пачыналіся нашыя, па сутнасці сяброўскія, стасункі. У 1986 годзе Эдуард, каго ў колах творчай інтэлігенцыі проста і сардэчна называлі Эдзікам, знайшоў мяне і прапанаваў разам з ім і Яраславам Еўдакімавым выступаць па лініі кнігалюбаў (была такая арганізацыя) з канцэртамі. Тады ён з сям'ёю жыў у Зялёным Лузе, недалёка ад мяне. Якая мне адводзілася роля ў нашай тройцы? Чытаць вершы. Якраз быў час гарбачоўскай перабудовы, як мне тады здавалася, «пара выгнання з кабінетаў усіх дзялкоў і прайдзісветаў, пара высакароднай мэты і непадкупнага пяра!» Я падзякаваў Зарыцкаму і даў згоду выступаць, разумеючы, вядома, сваю адказнасць запявалы: я павінен быў распачынаць канцэрты.

З Эдуардам было зручна і камфортна ў любой дарозе, у любым гатэлі і перад любой публікай. Паўсюль ён быў дужа надзейны — і за рулём сваёй легкавой (мы за два гады аб'ездзілі амаль усю Беларусь), і на сцэнах перад перапоўненымі заламі. У палацах культуры збіралася па 500–700 чалавек. Людзі за маленькую плату (уваход каштаваў адзін савецкі рубель) ахвотна ішлі развеяцца ад палітычнае неразбярыхі, хоць на нейкія імгненні адысці ад змрочных падзеяў — афганскае бойні, дзе калечыліся і гінулі нашы хлопцы, паслячарнобыльскае смуты, рассакрэчанае трагедыі Курапатаў...

Праграма Зарыцкага ўсякі раз папярэднічала выступленню Еўдакімава. Ужо тады шырокавядомы кампазітар знаёміў слу-

хачоў-гледачоў з залацінкамі сваёй творчасці, акампанаваў і напяваў (дарэчы, у яго быў добра пастаўлены голас) па куплеце і прыпеве з шэрагу песняў на вершы Ніла Гілевіча, Уладзіміра Някляева, Сяргея Грахоўскага, Уладзіміра Карызны ды іншых беларускіх паэтаў, распавядаў цікавыя гісторыі з жыцця і шматграннай дзейнасці кампазітара.

Я нярэдка бываў дома ў Эдуарда, любаваўся ідэальнай атмасферай у яго сям'і, чуў ласкавы голас ягонае жонкі Таццяны, і, калі б не ведаў, ніколі не падумаў бы, што яна пакутавала ад высокага артэрыяльнага ціску; бачыў, як захапляецца музыкай і спевамі дачушка Ліначка, тады яна паступіла ў музычную вучэльню.

Пазней, калі не стала Тяццяны, а Ліна выйшла замуж, Эдуард пераехаў у бацькоўскую кватэру (раён плошчы Перамогі). Тут ён даглядаў свайго бацьку Барыса Артамонавіча, выдатнага майстра па рамонце гадзіннікаў. Гэта быў рослы, хударлявы, сімпатычны чалавек, які, як быў маладзейшы, любіў граць на трамбоне і скрыпцы. Дарэчы, у дзяцінстве, невыпадкова будучага кампазітара прымушалі граць на скрыпцы; пасля хлопчык прафесійна асвойваў баян і раяль. Увогуле ўся сям'я Зарыцкіх не абыходзілася без музыкі. Мама Эдуарда, Ала Навумаўна, добра грала на фартэпіяна і спявала, а працавала ў дзіцячым садку, праводзіла заняткі музыкі і спеваў. Сястра Эдуарда, Яўгенія, выхавала ў сабе дзіцячага кампазітара. Яна пражывае ў Санкт-Пецярбургу. Добрым спецыялістам, займеўшы беларускую музычна-педагагічную адукацыю, стала Ліна, дачка Эдуарда і Таццяны Зарыцкіх. Яна цяпер жыве ў Германіі (зямля Спаарланд). Там прадаўжальніца вядомай дынастыі музыкаў працуе з харамі і салістамі, дае канцэрты. Ганарыцца бацькам. Аказваецца, ён пералажыў для фартэпіяна сусветныя хіты, перадаў дачцэ неацэнныя рукапісныя ноты.

А сваю музыку ствараў Эдуард натуральна, як дыхаў. Што да нашых творчых кантактаў, то яны пачаліся з 1998 года, калі ён зацікавіўся асобаю Адама Міцкевіча. Папрасіў паказаць мае пераклады вершаў і санетаў нашага польскамоўнага генія. Я

прынёс усё, што на той час меў. І неўзабаве Эдуард мяне знаёміў з мелодыямі ладнага цыклу песняў «Адкажы, родны Нёман». Гэты цыкл прагучаў у вялікай зале філармоніі нашай сталіцы да двухсотгоддзя з дня нараджэння Міцкевіча. Зладзіў праграму Міхась Фінберг са сваім цудоўным калектывам музыкаў і артыстаў-спевакоў.

Пазней Эдуард Зарыцкі прыглядзеўся да маіх вершаў, у выніку ў нас з ім з'явіўся шэраг песняў: «Трэлі салаўя», «Імклівая рака», «Любімы мой» ды іншыя. Іх пранікнёна выконвае Галіна Грамовіч. Апошні сумесны твор мы здзейснілі ў 2017 годзе, юбілейным для слынных песняроў зямлі беларускай, народных паэтаў Бацькаўшчыны — Коласа і Купалы.

Эдуард выдатна адчуваў красу роднае мовы, быў дужа патрабавальны творца, дамагаўся ад паэтаў якасных вершаў, якія станавіліся ці маглі стаць песнямі.

У апошнія гады знакаміты кампазітар усё часцей звяртаўся да твораў нашых класікаў — Янкі Купалы, Якуба Коласа, Уладзіміра Караткевіча, Рыгора Барадуліна. Як правіла, у мяне браў зборнікі неабходных яму вершаў. Шчымліва-ўзрушальна гучыць песня «Будзьма» (словы Рыгора Барадуліна) ў выкананні Якава Навуменкі. Яна ў нейкім сэнсе прарочая ў адносінах да лёсу ўсёй знанай тройцы. Не стала Навуменкі, пасля — Барадуліна. Няма ўжо з намі і Зарыцкага. А песня адбылася. Ёсць і будзе! Бо яна — з кагорты неўміручых твораў, якіх у спадчыне Эдуарда Барысавіча багата.

Я нярэдка бываю ў Доме дружбы, куды нас з Эдуардам некалі ласкава ўвяла Ніна Сямёнаўна Іванова, дырэктар гэтай дружалюбнае ўстановы: ён разам са мною шчыраваў у таварыстве «Беларусь–Украіна». Перад кожнаю вечарынай, якіх тут ладзіцца нямала, гучыць лагодная тэматычная песня на словы Сяргея Панізьніка, крылы якой даў ён жа, Эдуард Зарыцкі.

Сэрца знанага кампазітара адгукалася на самыя розныя праявы, падзеі, справы. У 2017 годзе мне пашанцавала з ім прыняць удзел у двух турах «Залатой калекцыі беларускай песні», якой шмат гадоў запар займаецца «Сталічнае тэлебачанне»

з нястомна ўлюбёнай у музычнае мастацтва Людмілай Палкоўнікавай. У жніўні мы пабывалі ў старажытным Полацку, а ў лістападзе — у Маладзечне. Гучалі нашыя песні, і мы выходзілі на паклон. На такія паездкі ён не шкадаваў ні часу, ні сілаў. І на дарогу ў два канцы ў яго ставала запасу добрых жартаў, анекдотаў, усмешак. «Таленавіты, высакародны, дасціпны» — так пра яго думаюць многія.

Цяпер мы ўсе, хто добра ведаў Эдуарда Зарыцкага, зразумелі ягоную мужнасць — сястрыцу вялікай любові да людзей. Як сказала мне спадарыня Ліна, анкалогія выявілася ў лютым. Ды нават самым блізкім сябрам ён не казаў пра гэта. Нават М.Я. Фінбергу, з кім штодня перамаўляўся, сказаў пра бяду ці не за тыдзень да зыходу... Дачка хацела прыехаць з замежжа, каб дапамагаць, ды ён забараніў, сказаў: «Я толькі больш буду перажываць!» Ён перанёс дзве хіміятэрапіі, праз тыдзень, 14 чэрвеня, збіраўся прайсці трэцюю. Але не вытрымала сэрца.

Успамінаецца такі факт: працяглы час даглядаў Эдуард нямоглага жончынага бацьку, які пасля доўга прабыў у коме. Нялёгкі гэты крыж пранёс кампазітар мужна да канца. Яго высакароднасці і самаахвярнасці не было мяжы. Пэўна, найперш таму музыка ЗАРЫЦКАГА дапамагае людзям жыць.

2018, ліпень

## ІГАР ЛУЧАНОК

Пра Ігара Лучанка створаны кнігі, ёсць даследчыкі яго генеалагіі, так бы мовіць, разведчыкі радаслоўнай. Ігар Міхайлавіч паходзіць з дваранскага роду; яго маці Аляксандра Герасімаўна Жук, настаўніца, — з таго роду, які вядомы яшчэ з сярэднявечча і які моцна стаяў на роднай зямлі. Так, матчын прапрадзед Людвіг Аляксандравіч Жук меў 81 дзесяціну зямлі. Іншыя родзічы гэтаксама былі землеўладальнікамі. У Ігаравага дзеда Лукаша Лучанка было ўсяго шэсць дзесяцінаў зямлі, але жыў заможна, бо з'яўляўся сапраўдным гаспадаром. У калгас не ўступаў. Спяваў у царкоўным хоры. Чытаў Біблію. Бацька Ігара — сялянскага паходжання, спраўна касіў, араў зямлю, сеяў жыта, але ў ягонай душы абудзілася любоў да мастацтва. Сам змайстраваў дудачку, на якой пераймаў птушыныя галасы і выводзіў народныя мелодыі. Лукаш падтрымаў Міхаську — купіў яму скрыпачку і папрасіў знаёмых хлопцаў з вёскі Заботы, каб навучылі яго граць на гэтым няпростым інструменце, прыручыць «царыцу музыкі». Вядома, што Міхаілам Лукічом Лучанком, музыкам-самавукам, зацікавіўся сам Галубок і ў 1926 годзе прыняў яго ў свой Беларускі дзяржаўны перасоўны тэатр. Такім чынам, спрыяльнае сямейнае асяроддзе (адораны ад прыроды бацька і маці-настаўніца) сталася для будучага кампазітара перадумовай выхаду на шлях культуры і мастацтва.

У сродках масавай інфармацыі нярэдка можна прачытаць-пачуць, быццам Ігар Лучанок нарадзіўся ў Мар'інай Горцы, а ён народжаны ў Менску. У Мар'інай Горцы, куды Ігараў бацька з вёскі Язоўка перавёз свайго бацькі хату, сям'я пражывала чатыры гады пасля вайны, па вяртанні з эвакуацыі. У той час, як, зрэшты і да вайны, сям'і Лучанкоў даводзілася часта пераязджаць з месца на месца.

Першыя ўрокі музычнае адукацыі Ігарок атрымаў дома — ад бацькі. А ў жніўні 1950 года маці прывезла сына ў Менск, у музычную школу-дзесяцігодку. Ішоў набор навучэнцаў. Пасля не дужа ўпэўненага музіцыравання на фартэпіяна хлопчык граў на акардэоне і на цымбалах. Выкладчыкі пашапталіся, праверылі ў яго слых і абвясцілі: «Прымаем цябе цымбалістам».

Праз год сям'я пераехала дзеля большае падтрымкі свайго падлетка ў сталіцу, дзе пашанцавала атрымць пакой у камуналцы поруч з паркам Горкага.

На другім годзе навучання юнага Лучанка залічылі артыстам аркестра народных інструментаў, якім кіраваў Іосіф Жыновіч. А неўзабаве ён пакінуў аркестр, бо да яго прыйшло захапленне фартэпіяна: падахвоціў піяніст Рыгор Шаршэўскі, ён адкрыў хлопцу чары вядомай класікі.

Выдатны журналіст і пісьменнік Зіновій Прыгодзіч у гутарцы з Ігарам Міхайлавічам задаў яму істотнае пытанне: «Што трэба для таго, каб творца максімальна рэалізаваў свой прыродны творчы патэнцыял?» Кампазітар адказаў пераканаўча: «Многае: не ленавацца, не распыляцца, не раскідвацца на дробязнае, другаснае. Але найперш — многа і сур'ёзна вучыцца. На шчасце, я гэта зразумеў дастаткова рана». Такая пазіцыя можа быць урокам і прынесці плён кожнаму вучню, студэнту, аспіранту, выкладчыку... Малады Лучанок настойліва набываў веды. Пасля музычнае школы пастуціў у кансерваторыю, дзе вучыўся адразу на двух факультэтах: у А.В. Багатырова праходзіў клас кампазіцыі, а ў Р. І. Шаршэўскага ўдасканальваў выканальніцкае майстэрства.

Ішоў час. Анатоля Багатырова на пасадзе рэктара змяніў Уладзімір Алоўнікаў. Ён у Ігара неяк запытаўся, ці не хацеў бы трапіць на стажыроўку ў Ленінградскую кансерваторыю. Экзамен там прымаў сам Шастаковіч. Можна ўявіць, што азначала падтрымка славутага творцы, які, пазнаёміўшыся з некаторымі творамі Лучанка, сказаў: «Вы — кампазітар!» Не дзіва, што, ацэньваючы вучобу ў горадзе на Няве, Ігар Міхайлавіч адзначае: «Я стаў бачыць далей, глыбей. Абвастрыўся слых, адкрылі-

ся новыя гарызонты». Але няўрымсліваму студэнту спатрэбілася трыадзінства вышэйшых навучальных установаў — ён яшчэ два гады павучыўся ў аспірантуры пры Маскоўскай кансерваторыі.

Грунтоўна адукаваны і таленавіты наш кампазітар рана пачаў пажынаць добрую славу. Ужо ў 28 гадоў адчуў радасць перамогі на Усесаюзным конкурсе савецкай песні — там першую прэмію атрымаў ягоны твор «Памяць сэрца» ў выкананні В. Вуячыча. Заслужаным дзеячам мастацтваў Лучанок стаў у 35 гадоў, у 44 — народным артыстам Беларусі, у 49 — народным артыстам СССР. У 38 гадоў атрымаў Дзяржаўную прэмію Беларусі. Прэміі ды званні — вынік вялікай стваральнай працы. У творы Алены Атрашкевіч «Напеў зямлі маёй» (2017) ёсць словы: «І з мілагучнай песняй Лучанка ты неразлучная, Радзіма!» Наша Бацькаўшчына не разлучыцца з Лучанковымі песнямі не толькі таму, што яны мілагучныя, меладычныя, а найперш таму, што ён выдатны нацыянальны кампазітар, няхай сабе чалавечнае яго сэрца адгукаецца на падзеі, драмы, болі ўсяго белага свету. Узгадваюцца прывітальныя словы Івана Мележа: «Дарагі Ігар, з адной толькі «Спадчынай» ты ўжо смела можаш крочыць у вечнасць». Сапраўды, спалучэнне Купалавай паэзіі з Лучанковай музыкаю — сімбіёз высокага мастацтва. А падобных па дасканаласці песняў у кампазітара багата. Да прыкладу, «Мой родны кут» (словы Якуба Коласа), «Вераніка» (словы Максіма Багдановіча), «Алеся» (словы Аркадзя Куляшова), «Авэ Марыя» (словы Зянона). Выразная беларуская арыентацыя чуецца, вядома, і ў песняў «Жураўлі на Палессе ляцяць», «Полька беларуская», «Трэба дома бываць часцей», «Зачараваная мая» ды мностве іншых.

Талент Ігара Лучанка яскравы, чалавечны. І дэмакратычны ў тым сэнсе, што побач з музыкай, створанай, скажам, на вершы выдатных майстроў паэзіі — Ніла Гілевіча, Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Уладзіміра Някляева, Леаніда Дранько-Майсюка, таго ж Зянона, а тым болей — вышэйназваных класікаў: Купалы, Коласа, Багдановіча ён не так і рэдка кладзе на музыку

малавядомых, як бы выпадковых аўтараў. Але гэта — яго выбар.

У абсалютнай бальшыні выпадкаў Ігар Лучанок — патрабавальны не толькі да сябе, а й да паэтаў: дамагаецца належнай якасці песенных слоў. Аднойчы мяне ўразіла яго пазіцыя адносна нават тэксту Дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь. Ён знайшоў там памылкі і выступіў у друку з адпаведнай крытыкай. Так што Лучанок бывае розны — і памяркоўны, і бескампрамісны...

***

З Ігарам Міхайлавічам апошні раз бачыўся на XVIII нацыянальным фестывалі беларускай песні і паэзіі ў Маладзечне. Галоўнай падзеяй фестывалю з’явіўся змястоўны канцэрт «Мелодыя лёсу» — да 80-годдзя з дня нараджэння І. М. Лучанка. Там прагучала нямала песняў славутага кампазітара. М. Я. Фінберг, кіраўнікі горада і вобласці аказвалі яму шчырую ўвагу. Шматлікая публіка вітала шчодрымі воплескамі, воклічамі: «Брава!» Да ўдзелу ў вечарыне Міхась Фінберг запрасіў паэта Леаніда Дранько-Майсюка і мяне. Перш чым прачытаць вершы, мы з Леанідам акцэнтавалі ўвагу на плённай творчасці Ігара Лучанка.

Пасля яркага і працяглага феерверку над паркам і над амфітэатрам, калі я падышоў да Ігара Міхайлавіча паціснуць яму руку, ён прыязна ўсміхнуўся і сказаў:

— Вось так і ствараецца культ асобы.

Такія словы кампазітара прагучалі для мяне прыемнаю неспадзяванкай.

— Гэта не грэх, калі ёсць асоба. Горш, калі культ ствараецца там, дзе няма асобы, — сказаў я. І міжволі ўспомніліся радкі з верша Жэні Янішчыц: «Узвядзём жа культуру ў культ, // Ачышчэнне душы непазбежна!».

2018

**ЗМЕСТ**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**ЖУКОВІЧ Васіль Аляксеевіч**

# БЯЗМЕЖЖА ПАМЯЦІ І ЛЮБОВІ

Эсэ
Партрэты
Роздумы

У аўтарскай рэдакцыі

Дызайн вокладкі, вёрстка: Марына Кражава

Падпісана ў друк: 20.07.2020.
Фармат 60x84$^{1/16}$. Папера афсетная. Друк лічбавы.
Умоўн. друк. арк. 20,3.
Наклад 99 асобн. Замова 620.

ТАА «Каўчэг»
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца,
вытворцы, распаўсюджвальніка
друкаваных выданняў
№ 1/381 ад 01.07.2014.
вул. Л. Бяды, 11/1-205, 220040 г. Мінск.
Тэл./факс: (017) 284 19 81
Instagram: kovcheg_info, Facebook: infoKOVCHEG